Аўтар *Алесь Бяляцкі*
Дызайн і вёрстка *Аўгіньня Багдановіч*
Карэктар *Натальля Лукашова*

*На вокладцы выкарыстаная паштоўка-малюнак, дасланая Алесю Бяляцкаму ў калонію нарвежскай праваабаронцай Анэ Бондэ*

У кнігу ўвайшлі тэксты, напісаныя ў бабруйскай калоніі, дзе ў 2012 – 2014 гадах знаходзіўся Алесь Бяляцкі. У гэты перыяд да яго прыйшлі тысячы лістоў падтрымкі зь Беларусі і ўсяго сьвету. Гэта была нябачаная дагэтуль сітуацыя. Былі дні, калі аднаму палітычнаму вязьню прыходзіла болей лістоў салідарнасьці, чым усім двум тысячам зьняволеным бабруйскай калоніі. Такая хваля падтрымкі выклікала нявольную павагу да палітычнага зьняволенага з боку турэмшчыкаў ды іншых вязьняў, моцна дапамагла яму псіхалагічна. Лісты салідарнасьці ў сваю чаргу абудзілі жаданьне Алеся Бяляцкага асэнсаваць гэтую нечаканую для яго зьяву. Кніга складаецца з эсэ, цыкла лістоў, напісаных у адказ на лістоўную кампанію падтрымкі галандзкага аддзяленьня Amnesty International, іншых лістоў, якія зьявіліся рэакцыяй на атрыманую карэспандэнцыю. У апошні разьдзел увайшлі некаторыя адкрытыя лісты ў падтрымку Алеся Бяляцкага.

Электронную версію выданьня глядзіце на сайце spring96.org

Праваабарончы цэнтр «Вясна» (Беларусь), Östgruppen (Швецыя), 2017

# I. ЛІСТЫ САЛІДАРНАСЬЦІ



*Фота Васіля Бялько*

Маё жыцьцё павярнулася так, што ў век, калі такі сродак кантактаваньня як ліст, напісаны ад рукі на паперы, і паштоўка адыходзяць у нябыт, саступаючы мейсца бяздушнай электроннай пошце ці тэлеграмападобнай смс, я, наадварот, пагрузіўся ў лістоўную плынь. Складана апісаць адчуваньні чалавека, які за два з паловай гады сам напісаў больш за тысячу лістоў і пісулек, але ж і атрымаў разоў у дваццаць болей! У асноўным — гэта лісты падтрымкі. Пад некаторымі зь іх, і на лістах, і на паштоўках, па некалькі, а то і па некалькі дзясяткаў подпісаў. Нязвыкла апынуцца ў фокусе такога лістападу. Я мяркую, што не заслужыў такой увагі. Але падобныя рэчы, мабыць, адбываюцца без твайго жаданьня-нежаданьня.

Я добрасумленна праглядаю ўсю сваю карэспандэнцыю, гэтыя лісты, паштоўкі, тэлеграмы. Часам яны коратка падпісаныя: толькі подпіс, адно-два словы ці адзін-два стандартныя, выпрабаваныя на іншых вязьнях, адпрацаваныя за дзесяцігоддзі сказы. Часам яны больш разгорнутыя, больш дэталізаваныя і экспрэсіўныя, напісаныя дзецьмі, падлеткамі, моладдзю, людзьмі сярэдняга веку і сталымі людзьмі. Яны прыходзяць з розных краінаў і кантынентаў, і кожны зь іх мае сваю асобную неперадавальную энэргетыку. У напісаных літарах і словах я атрымліваю цэлыя раі зараджаных часьцінак з чалавечых душаў.

Мяне ўражвае, што кожны з гэтых, пераважна незнаёмых людзей, у розных абставінах знаходзіў хвіліну часу, і, ці спыняўся, ідучы каля пікету, і ставіў подпіс, падпісваў стандартны сказ, ці ўдома пісаў ад рукі або набіраў на кампутары грунтоўны ліст, ці ў кампаніі, у класе ці ў групе маляваў нешта, ці выразаў і клеіў аплікацыю альбо выцінанку, ці падпісваў бясплатную паштоўку, выцягнутую з кішэнькі для посткросінгу ў бары.

Яны, усе гэтыя лісты і паштоўкі, вельмі дарагія мне. І ад вядомых людзей — пісьменьнікаў, палітыкаў, грамадзкіх дзеячоў, і ад сяброў і знаёмых, і ад зусім невядомых школьнікаў і пенсіянераў, шматдзетных маці, вернікаў і студэнтаў. Гэтыя разнастайныя часьцінкі людзкіх душаў складаюцца ў адну вялікую, яркую і стракатую мазаіку.

Калі-небудзь я зраблю выставу з гэтых лістоў і паштовак, як прыклад салідарнасьці. Будуць там вясёлыя дзіцячыя малюнкі зь сьнегам і канадзкімі хвоямі, зь італьянскім сонцам і морам, і змагарныя малюнкі з Польшчы з мурамі, якія разьлятаюцца ад выбуху ўшчэнт. Будуць рупна выштукаваныя аплікацыі з каляровай паперы, з наклеенымі шматкамі скуры, бліскучымі стразамі і пасыпаныя шкляной пудрай. Будуць адмыслова надрукаваныя ў Галандыі і Бельгіі, Аўстрыі і Нямеччыне паштоўкі. Будуць самаробныя пісулькі, зробленыя з фатаздымкаў, і шыкоўныя крамныя паштоўкі, выдрукаваныя на крэйдавым рэльефным кардоне.

Я заўсёды ўважліва разглядаю выявы на паштоўках. Яны надзвычай разнастайныя. Найбольш сюжэты выяваў датычаць жывёлаў і птушак, кветак і прыродных краявідаў, жывапісу і гарадзкіх відарысаў.

Паштоўкі ідуць з усяго сьвету, з Амерыкі і Канады, з Аўстраліі і розных куткоў Эўропы. Мне шчыра хацелася б адказаць на кожную зь іх, з удзячнасьцю вярнуць хоць крыху той станоўчай энэргіі, якая ахутала мяне з ног да галавы. Але гэта немагчыма: розныя мовы, невераголная колькасьць лістоў, абмежаваны час. У нас няма ўзаемнага кантакту. І хоць абсалютная большасьць з тых, хто піша, не чакае адказу, але немагчымасьць адказаць пакрыёма турбуе мяне. Я, як той акумулятар, чорная скрыня з уваходнымі клемамі, накопліваю станоўчыя флюіды. Ці хопіць ёмкасьці, памяці і глыбіні, каб захаваць усю гэтую пазітыўную энэргію людзей?

Я задумваюся, наколькі варты такой масавай людзкой падтрымкі. Звычайны чалавек, у якога хапае сваіх слабасьцяў і недахопаў, які наўрад ці хоча быць для каго-небудзь прыкладам у жыцьці. Ці, можа, я сапраўды чагосьці не разумею і недаацэньваю ўсёй шматзначнасьці і глыбіні абставінаў, у якіх апынуўся?

У сьвеце існуе безьліч іншых розных праблемаў: вайна, уціск, гвалт, жорсткасьць і нянавісьць. Ёсьць цэлыя краіны і рэгіёны, дзе чалавечае жыцьцё вартае кошту патрона ад аўтамата Калашнікава. Штосьці ўсё ж зьяўляецца прычынай і нагодай, каб маральна падтрымаць, няхай сабе ў такі бяскрыўдны спосаб, паштоўкай ці лістом, і мяне. Можа, такім чынам выяўляе сябе сусьветная салідарнасьць? Можа, праз гэтыя лісты падтрымкі высьвечваецца пратэст супраць агульнай несправядлівасьці? Можа, зь іх выпраменьвае ірацыянальная спагада, разьлітая ва ўсім сьвеце, да ўсіх пакрыўджаных і прыгнечаных?

Ня так даўно я чытаў успаміны адной інтэлігентнай жанчыны, масквічкі, якая бачыла і запомніла, як пасьля разгрому арміі Паўлюса пад Сталінградам палонных немцаў праганялі доўгай калонай па цэнтральных вуліцах Масквы. Сердабольныя жанчыны кідалі ў гэтую калону палоненых ворагаў хлеб.

Іншы пісьменьнік згадваў, як іх, «ворагаў народу», на сібірскіх станцыях падкормлівалі вакзальныя гандляркі. Яны прыходзілі да праходзячых цягнікоў, каб павыгодней прадаць свойскае малако, твораг, сьпечаныя булкі, каб карміць сваіх дзяцей, і аддавалі ўсё задарма вязьням.



Пэўна, што я стаў аб'ектам, які дае магчымасьць іншым людзям выказаць сваю грамадзянскую пазіцыю, праявіць чалавечую спагаду і чалавекалюбства.

Аб'ектыўна кажучы, мабыць, нічога дзіўнага ў гэтым няма. Калі людзі гадуюць, берагуць і заступаюцца, больш таго, часам рызыкуюць і ахвяруюць сабой дзеля жывёлаў, прыроды, навакольнага сьвету, дык чаму ж не рабіць тое самае, яшчэ і з большым імпэтам, у стасунках да братоў сабе падобных? Крыху незвычайнасьці дадае хіба тое, што ахвяраю стаўся праваабаронца, той, хто сам імкнуўся дапамагаць іншым людзям.

У пэўным сэнсе, часткова, праваабаронцу можна параўнаць з доктарам. Толькі лякуе ён не фізічныя раны і хваробы, а дапамагае ў тых праблемах, якія часта грамадзтва стварае само сабе.

Урэшце, і з хваробамі часта атрымліваецца такая самая гісторыя. Спачатку будуецца хімічны завод, бо патрэбныя месцы працы і прыймальны ўзровень жыцьця, а потым лякуецца рак, які накідваецца на чалавека з-за гэтай хіміі.

Жыцьцё людзей пабудаванае з супярэчнасьцяў, якія прыходзіцца пераадольваць увесь час. Няма ў гэтым сьвеце спакою. Праваабаронцы змагаюцца, рупяцца, ваююць за лепшае жыцьцё для грамадзтва, часта для нейкага канкрэтнага чалавека, які трапляе ў бяду. Бывае, што яны, як у вулічнай бойцы, кідаюцца разьняць і прымірыць варагуючыя бакі, і атрымліваюць каменем у галаву. Часта праваабаронцы імкнуцца заступіцца за слабейшага, абараніць ад моцных гэтага сьвету, і зноў ім дастаецца, бо яны ўлазяць «туды, куды ня трэба». Людзі зазвычай падтрымліваюць праваабаронцаў, спадзяюцца на іх, і мы мусім быць ня горшымі, чым пра нас думаюць.

І ўсё ж мне здаецца, што нябачная сувязь паміж мной і тымі, хто піша мне, не спадзеючыся на адказ, існуе.

У гэтых лістах і паштоўках ахвяра, якой я сябе не адчуваю, часта пераўтвараецца ў героя, якім я не зьяўляюся, але якога хацелі б бачыць ува мне. Ахвяра і герой у адной асобе насамрэч не зьяўляюцца ні ахвярай, ані героем.

Мне здаецца, што напісаўшы некалькі слоў у падтрымку, разам з апусканьнем ліста ў паштовую скрыню, падтрымальнікі ў гэтую ж секунду атрымліваюць і нябачны адказ. Гэта лёгка ўявіць, як у электроннай пошце, паслаў паведамленьне і адразу ж атрымаў сімвал: дайшло. І ты адразу супакойваесься.

Незнаёмыя і нябачныя сябры і прыяцелі падтрымліваюць мяне і самі напэўна, атрымліваюць, наўзамен пачуцьцё задавальненьня. Вось жа, чалавек, нягледзячы на мітусьлівасьць жыцьця, безьліч уласных праблемаў, знайшоў час і напісаў сваёй рукой ліст, ці, сама меней, надпісаў адрас і паставіў подпіс у падтрымку «ахвяры» ці «героя». Напісаў некаму, хто церпіць, уяўнаму ідэалу, герою, які здаецца ў нечым лепшым, дасканалейшым і больш незвычайным за астатніх. Ён жа — як у тых мульціках ці амерыканскіх коміксах, дзе герой трапляе часам у складаную, а то і безнадзейную сітуацыю, але заўсёды знаходзіць зь яе выйсьце.

Яму ня страшныя змрочныя муры цямніцы, ён разрывае жалезныя путы, вырываецца на волю, і ўрэшце дабро перамагае зло. І ня так істотна, ці зьяўляецца гэты ўяўны геройахвяра сапраўдным героем.

Назаўжды я запомніў цяжкае хрыплае дыханьне былога вязьня і дысідэнта, прэзідэнта Чэхіі Вацлава Гаўла. Пісьменьнік і драматург, тусовачнік-нефармал у гады маладосьці, чалавек, які розумам і словам намагаўся зламаць бетон камуністычнай дыктатуры, які ўпарта трымаўся сваіх перакананьняў, за што і адсядзеў амаль пяць гадоў, і якога лёс з сьмярдзючай турэмнай «хаты» перасадзіў у крэсла прэзідэнта. Чалавек-легенда, у маіх вачах, несумненна, — чалавек-герой, сядзеў насупраць мяне за маленькім столікам, з разуменьнем слухаў мой сумны аповяд пра Беларусь, а ягоная заўсёды запаленая трахея, з шумам, зь сіпам, як кавальскія мяхі ў вясковай кузьні, зь цяжкасьцю ганяла туды-сюды паветра.



На ўручэньні прэміі Homo Homini. Разам з Вацлавам Гавэлам. Прага, сакавік 2006 г.

*«Сьвятых заўсёды трэба лічыць вінаватымі, пакуль недаказаная іхняя невінаватасьць»* — пісаў Джордж Оруэл пра Гандзі. Ён крыху недалюбліваў Гандзі, і як брытанец, і як марксіст. Ён пярэчыў абагаўленьню Гандзі, кажучы, што масавы мірны супраціў, гэтак званая «цьвёрдасьць у праўдзе», якую прапаведваў Гандзі ў змаганьні з англійскім каланіялізмам, была выніковай толькі ў той сістэме законнасьці і правапарадку, свабоды прэсы, якой прытрымліваліся ангельцы ў Індыі. І што гэтая філасофія нягвалту бессэнсоўная і пагібельная пры такіх таталітарных рэжымах як фашызм і сталінізм. Таксама неразуменьне ў аўтара знакамітага раману «1984» выклікалі і такія «дзівацтвы» Гандзі як вегатарыянства, адмова ад сэксуальнага жыцьця і ад блізкага сяброўства дзеля агульнай любові да людзей.

І ўсё ж, калі Гандзі ня стала, Джордж Оруэл усклікае: *«які чысты пах пакінуў ён пасьля сябе!»*

Гэтая гісторыя падаецца мне важнай і павучальнай: няма бездакорных людзей, а нашыя пачуцьці і ўяўленьні бывае што падманваюць нас. Гэта як месячная поўня, якая ў небе выглядае большай за сонца. Мы памыляемся, мы расчароўваемся, мы губляем веру і надзею і ўсё роўна шукаем, ствараем і знаходзім новых герояў, новых «рыцараў без заганы і вады», якім хочацца давяраць і верыць. Для кожнага чалавека важна мець жыцьцёвыя, духоўныя, маральныя прыклады і ўзоры. Тады ён адчувае сябе ўпэўненей і трывалей стаіць на зямлі, дакладней уяўляе, куды яму далей ісьці.

Бацька маёй жонкі, мой цесьць Сяргей Міхайлавіч Пінчук пражыў 94 гады. Ёсьць здымак, дзе ён, забраны ў войска яшчэ да вайны, сядзіць у будзёнаўцы, гэтым дзіўным востраверхім шаломе чырвонаармейцаў. Усю вайну ён праваяваў на фроньце, неаднойчы быў паранены і ўзнагароджаны. Ён распавядаў, як аднаго разу ў Польшчы, пасьля пераправы праз Віслу яму з атрадам байцоў загадалі абысьці вёску, дзе заселі немцы, і падчас агульнай атакі ўдарыць у фланг абароны. Яны пайшлі і заблукалі, згубілі патрэбны накірунак. Яны не маглі выканаць загад, бо ісьці ўначы наўздагад азначала натыркнуцца на верную сьмерць. Яны затаіліся, дзе засьпела іх разгубленасьць.

*«Я вельмі баяўся»*, — распавядаў ён, бо невыкананьне загаду ў вайну лічылася злачынствам і каралася разжалаваньнем і штрафным батальёнам ці расстрэлам. *«Гэта была адная з самых безнадзейных і самотных начэй у маім жыцьці»*, — расказваў ён.

*«Але нам пашанцавала*, — працягваў ён, — *зранку, калі пачалася атака і завязаўся бой, аказалася, што мы знаходзімся амаль там, дзе і мусілі быць. Мы ўдала уступілі ў бой, і немцы адступілі, пакінулі вёску. Я нікому не распавёў пра нашае блуканьне і пра мае начныя страхі»*.

На падбароддзі ў цесьця быў заўважны невялікі, тонкі, крыж на крыж, шнар. У рукапашным боі пад Берлінам куля на зьлёце расьсекла ніжнюю губу, патрапіла яму ў рот і выбіла некалькі зубоў. Цесьць выплюнуў яе разам з зубамі на зямлю. І за бой на Вісьле, і за бой пад Берлінам ён быў узнагароджаны ордэнамі за храбрасьць і гераізм.

Ён перажыў пасьляваенную сталіншчыну, але цяга да справядлівасьці не спрыяла ягонай кар'еры і прывяла яго ўрэшце ў шэрагі апазіцыйнай партыі. А вось іншы франтавік капітан-артылерыст Аляксандр Салжаніцын за сумненьні ў геніі Сталіна, выказаныя ў лістах да сябра, проста з фронту паехаў у ГУЛАГ.

У рамане «У коле першым», асэнсоўваючы турэмны вопыт, Аляксандр Салжаніцын напіша: *«У апісаньні турмы заўсёды імкнуліся згушчаць жахі. А ці не жахлівей, калі жаху няма? Калі жах — у шэранькай метадычнасьці тыдняў? У тым, што забываесься: адзінае жыцьцё, дадзенае табе на зямлі, зламанае»*.

Чалавеку лягчэй аднойчы, у адну хвіліну, пайсьці на адважны ўчынак, гледзячы сьмерці ў вочы, чым вытрымліваць год за годам маральны, псіхалагічны ціск, гэтую «шэранькую метадычнасьць тыдняў».

У агульнай, працяглай дэпрэсіўнай сітуацыі, у якой дзесяцігоддзямі боўтаецца наш сьвет, напэўна, важна мець такія прыклады чалавечай годнасьці як Махатма Гандзі, як Аляксандр Салжаніцын і Вацлаў Гавэл. Іхны магутны імпульс ды заклік да справядлівасьці, да «цьвёрдасьці ў праўдзе», да імкненьня «жыць не па ілжы» захапляе і вядзе за сабой.

Турэмная ізаляванасьць навастрае пачуцьці. Зьдзіраецца скарынка раўнадушша і абыякавасьці, якая міжволі ўтвараецца ад штодзённай мітусьні на волі. Я перачытваю раман Льва Талстога «Вайна і мір». Калі ў рамане апісваецца маладзенькая Наташа Ростова, яе рухі, думкі, пачуцьці, у мяне міжволі пачынаюць ліцца сьлёзы. Я плачу над раманам, як бабруйскі бабёр, ня ведаючы, што ў гэты момант думаюць мае зэкі-суседзі па секцыі.

Гэтаксама больш выразна і эмацыйна я ўспрымаю лісты і паштоўкі, якія прыходзяць да мяне. Сярод масы пажаданьняў, добрых словаў, станоўчых пачуцьцяў ёсьць такія, якія запомняцца назаўжды. Такім быў ліст ад Вацлава Гавэла, які ён напісаў за некалькі дзён да таго, як адышоў у іншы сьвет. Моцна хворы, ён усё ж знайшоў у сабе сілы і жаданьне падтрымаць беларусаў у бядзе.

Такім быў і ліст ад беларускага дысідэнта савецкіх часоў Міхася Кукабакі, які прасядзеў у турме і псіхушцы, цяжка сабе ўявіць, 17 гадоў. Я ня ведаю, хоць і чытаў ягоныя тэксты з успамінамі, дзе ён браў сілы і натхненьне цьвёрда стаяць на сваім, не паддавацца, не апусьціць рукі. Дзядзька Міхась выйшаў з турмы апошнім палітзэкам у СССР, так і ня склаўшы просьбы аб памілаваньні.

Яшчэ адзін памятны ліст быў ад Набіла, праваабаронцы з Бахрэйну, які перапісала ў сваім лісьце да мяне мая каляжанка. Мы неаднойчы спатыкаліся з Набілам у бюро Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека ў Парыжы, размаўлялі, дыскутавалі, слухалі адзін аднаго. Ён добра размаўляў па-англійску, заўсёды быў акуратна і з густам апрануты, здаваўся вельмі сур'ёзным і стрыманым. Затым першага пасадзілі мяне, а неўзабаве і яго. Ніякі Парыж, ніякія круглыя сталы і француская багеты не маглі так зблізіць нас, як беларуская і бахрэйнская турма. Набіл напісаў, што рвецца са зьняволеньня дапамагаць іншым вязьням, у тым ліку і мне. Я разумею, што гэта немагчыма, але мне ўсё роўна цёпла на душы.


Міхась Кукабака, дысідэнт, вязень савецкіх лагероў і псіхбальніц, каля муроў бабруйскай калоніі ў знак салідарнасьці з Алесем Бяляцкім. Красавік 2014 г.

Побыт у турме аднаўляе бачаньне таго, чым займаўся на волі. Чысткай душы называў працэс самааналізу Леў Талстой. А яшчэ зьяўляецца вопыт і разуменьне таго, што немагчыма ўсьвядоміць стан зьняволенага, не пабыўшы ім.




*Набіл Раджаб, праваабаронца з Бахрэйну, намесьнік Генеральнага сакратара FIDH, палітычны зьняволены, з бахрэйнскай турмы напісаў ліст да Алеся Бяляцкага.*

Адзін зь беларускіх грамадзянскіх лідэраў, пасьля таго, як у 2011-м годзе выйшаў з Амерыканкі, дзе яго пратрымалі чатыры месяцы ды так і не прад'явілі абвінавачваньня, неяк сказаў, што добра было б, каб турэмнай баланды паспыталі і беларускія праваабаронцы. Маўляў, тады яны будуць лепей разумець — чым і як насамрэч трэба ім займацца. Я тады быў пакрыўдзіўся на яго, бо мы дужа багата рабілі тады, каб арганізаваць як мага больш шырокую і выніковую кампанію дапамогі палітычным зьняволеным. А зараз я дзесьці і згодны зь ім. Прынамсі мая ўнутраная матывацыя займацца праваабаронаю атрымала новы штуршок.

Турма вучыць больш уважліва ставіцца да самога сябе, да сваіх родных, знаёмых і сяброў. Я шкадую, што ў сваім ранейшым жыцьці мала часу ўдзяляў звычайным і простым чалавечым стасункам, размовам з блізкімі людзьмі. Анатоль Лябедзька пасьля ўсіх сваіх прыгодаў, як ён гаворыць, нават пачаў штораз хадзіць з жонкай у тэатр. Вось і я так хачу. Адзінае, што мяне бянтэжыць у маіх марах, дык гэта — дзе ўзяць гэты «вольны час».

Добра было б так збудаваць сваё жыцьцё, думаю я, каб на ўсё ставала часу. Але як гэтага дасягнуць? Мы захапляемся, хапаемся за адное і непазьбежна забываемся на іншае. Адная мая сяброўка, нарвежка, юрыстка, адданая праваабароне, а да ўсяго яшчэ маці трох дзяцей, распавядала, што яна, бывае, разрываецца паміж сям'ёй, дзецьмі і неадкладнай працай. Важнымі справамі, якія нельга кінуць-пакінуць нязробленымі, бо ад іх часта залежаць лёсы людзей у іншых краінах, дзе ня ўсё так ладна з правамі чалавека, як у яе Нарвегіі. І вось, распавядала яна, даходзіла да таго, што яна сядзела апоўначы за кампутарам у роспачы і плакала, бо нічога не пасьпявала. Калі ўжо педантычныя нарвежцы не пасьпяваюць усяго зрабіць, супакойваю я сябе, дык чаго ўжо мне, беларусу, пераймацца.

І яшчэ адзін кароткі допіс ад азербайджанскага праваабаронцы не выходзіць у мяне з галавы. Летась ён напісаў: *«Трымайся, Алесь! Я прасядзеў у турме чатыры гады, і ты прасядзіш!»* Мне было адначасова і сьмешна, і сумна. Сумна, бо чатыры ягоных гады ў турме — гэта не чатыры дні. А сьмешна, бо я ня верыў, што мне прыйдзецца адсядзець усе свае чатыры з палавай гады. Унутрана я не пагаджаўся з гэтым. Але зараз, праз два з палавай гады зьняволеньня, я ў думках адказваю яму: сапраўды, калі ты прасядзеў адмераныя табе гады, дык і я нікуды не падзенуся, прасяджу.

З чым я ніколі не пагаджуся, дык гэта са зьняволеньнем жанчынаў. Некалі Антон Чэхаў марыў, што прыйдзе такі час на зямлі, калі зьнікнуць турмы. Мінула ўжо больш за стагоддзе, а я працягваю за ім сьледам марыць, што наступіць гадзіна, калі хаця б ня будуць зьнявольваць жанчынаў.

Асабліва несправядлівым гэта бачыцца, калі жанчынаў перасьледуюць за грамадзкую дзейнасьць, за ўдзел у мірных акцыях нязгоды, за праваабарончую працу.

Згадваю, як на Кубе, куды мы езьдзілі, каб падтрымаць грамадзкіх актывістаў, мы сустракаліся з маладой дзяўчынай з упартым бляскам у вачох. Яна распавяла, як яе бацьку пасадзілі ў турму за іншадумства, а яна з маці наладзілі акцыю пратэсту. Яны жылі ў правінцыі, у некалькіх сотнях кіламетраў ад Гаваны. Начапіўшы на шыі самаробныя плакаты, яны ўдзьвюх пайшлі «маршам пратэсту» з свайго гарадка ў Гавану. Іх не арыштавалі адразу, дазволілі ісьці. Усю дарогу іх «цёпла» сустракалі падрыхтаваныя праўладныя актывісты. Маці і дачку зьневажалі, жанкі штурхалі іх, абплёўвалі, закідвалі гнілымі ападкамі, драпалі. Некалькі разоў на іх нападалі апранутыя ў цывільнае хлопцы і зьбівалі іх. Маці разьбілі галаву. Іхні марш адчаю ў падтрымку роднага чалавека зьмяніўся на сапраўднае пекла, на крыжовую праваабарончую дарогу. Але яны не здаваліся і ўпарта ішлі ў Гавану, пакуль ва ўладаў ня вытрымалі нервы. Урэшце іх затрымалі, падралі плакаты, завезьлі дадому і пасадзілі пад хатні арышт.

Амаль у той самы час, як я апынуўся ў турме, была зьняволеная і неўтаймаваная Юля. Я па-чалавечы спачуваў ёй. Бо тое, што церпяць зьняволеныя мужчыны, часта зьвязана з вызначаным жыцьцёвым выбарам. І ў гэтым ёсьць нейкая суровая логіка. Але саджаць кабету ў турму, якая б у іх там не была ўзаемная нянавісьць, не, трэба быць вялікім нягоднікам.

Чытаю, як у Егіпце паліцыянты разганяюць жаночую дэманстрацыю ў падтрымку скінутага прэзідэнта Мурсі. «Абаронцы народу» зьбіваюць жанчынаў прыкладамі аўтаматаў. Прыклады ў «калашнікавых» небясьпечныя, абкаваныя жалезам, памятаю са службы ў войску. Паліцыянты, не шкадуючы, лупяць жанчынаў, з размаху, толькі трашчаць зламаныя косткі. Затым дэманстрантак судзяць і даюць неверагодна вялікія тэрміны зьняволеньня.

Я часта згадваю яшчэ адную жанчыну, адвакатку з Ірану Насрын Сатудэх. Яна бараніла правы непаўнагадовых зьняволеных, асуджаных на сьмяротнае пакараньне. Насрын таксама абараняла ў судзе некалькі іранскіх вязьняў, арыштаваных за ўдзел у мірных дэманстрацыях. Так у вачох іранскіх уладаў яна пераўтварылася ў непакорлівую і небясьпечную праваабаронку.

Напачатку яе папярэдзілі: правялі вобшукі ўдома і на працы, арыштавалі рахунак. Яна не супынілася, надрукавала артыкул і абвінавацыла ўлады ў падтасоўцы закідаў да праваабаронцаў у Іране, абвінавачаных у падатках парушэньнях. Насрын уадкрытую прыгразілі арыштам. Яна працягвала публічна пратэставаць супраць казьняў непаўнагадовых. Урэшце яе арыштавалі і абвінавацілі ў «прапагандзе супраць дзяржавы» і ў «змове і сходах з мэтай зьдзяйсьненьня дзеяньняў супраць нацыянальнай бясьпекі». Рэвалюцыйны суд асудзіў Насрын Сатудэх на шэсьць гадоў зьняволеньня, якія яна адбывае ў турэмнай адзіночцы.

Галандзкае аддзяленьне «Эмнесьці» арганізавала ў канцы 2012-га году лістоўную кампанію ў падтрымку некалькіх




*Насрын Сатудэх – праваабаронца з Ірану, палітычная зьняволеная ў 2010–2013 гг.*

вязьняў сумленьня і ўключыла ў гэты шэраг Насрын Сатудэх і мяне. Шараговыя актывісты дасылалі лісты ва ўправу Эмнесьці ў Амстэрдам. Там іх зьбіралі, раздрукоўвалі, калі гэта былі электронныя лісты, разьбіралі каму які і адсылалі адрасатам. Я атрымаў тысячы «сваіх» лістоў і паштовак з Галандыі. Сярод іх мне трапляліся адасланыя па недагляду і лісты да Насрын. Мне падавалася, што нябачная сувязь праз Амстэрдам зьвязвала мяне з Насрын. Яна ня ведала пра гэта, а ў маіх ведах была бязьмерная спагада. Адважная маленькая жанчына.

Для мяне заўсёды было загадкай, чаму людзі так лёгка ламаюць лёсы і жыцьці іншых людзей. Адкуль гэтая жорсткая ўпэўненасьць у сваёй праваце. З гісторыі ўсяго людзтва? Зь ягоных горшых цёмных старонак і бакоў? З прагі да помсты? Ці магчыма зьмяніць людзкую натуру да лепшага? Я веру, што — так.

Багата з тых, хто хацеў зьмяніць жыцьцё людзей да лепшага, чамусьці самі апыналіся ў турме. І таксама часта траплялі ў няволю тыя, хто больш за ўсё на сьвеце цаніў свабоду. Гэта здаралася праз духоўныя пошукі, сумненьні і дзеі. Бясконцая каляя гэтых людзей. Часам здаецца, што турма найперш і стваралася для іншадумцаў. Рознае стаўленьне гэтых людзей да турмы. Так, пісьменьнік-вязень Аляксандр Салжаніцын лічыў турму выпрабаваньнем, якое можа загартаваць і адшліфаваць характар і душу чалавека. *«Турма, гэта ня толькі праклятцьце, а і дабраслаўленьне»* — гэтак казаў адзін з герояў ягонага раману "У коле першым».

Другі пісьменьнік-вязень Варлам Шаламаў быў перакананы, што турма — гэта гіблае месца, дзе міжволі запэцкваецца і апаганьваецца чалавечая душа, згаршаецца любы чалавек.

Нэльсан Мандэла, які адседзеў у турме 27 гадоў, казаў, што ён удзячны лёсу за гэты час, калі мог пабыць сам насам з сабой і спакойна падумаць.

Я ня бачу супярэчнасьці ў гэтых выказваньнях і жыцьцёвых пазіцыях вядомых вязьняў. Проста яны сядзелі ў розны час і ў розных умовах. Магаданскія лагеры, у якіх з голаду паміраў Варлам Шаламаў, і дзе блатныя маглі лёгка зарэзаць «контрыка» ці «мужыка» за пройгрыш у карты ці за шалік, не былі і блізка падобныя да падмаскоўнай пасьляваеннай «шаражкі», у якой трымалі тэхнічную інтэлігенцыю, і дзе адбываў першую палову свайго тэрміну Аляксандр Салжа-

ніцын. Там на стале падчас абеду ненармавана ляжаў хлеб! Еж — колькі зьясі.

І турма Нэльсана Мандэлы была зусім іншай. У ёй не паміралі ад пелагры і дыстрафіі і дажывалі да старасьці.

А вось у сталінскіх лагерах, як успамінае вязень і пісьменьніца, аўтар рамана «Круты маршрут», Яўгенія Гінзбург, старых не было. Яны не вытрымлівалі і адсыпаліся.

Урэшце, за 27 гадоў зьняволеньня, Нэльсан Мандэла зь лідэра ўзброенай барацьбы супраць каланіялізму зьмяніўся на прапаведніка негвалтоўнага супраціву за раўнапраўе. Стаўшы прэзідэнтам, ён ня ўпаў у помсту і датрымаў сваіх поглядаў.

Да ўсіх адрозьненьняў у турмах трэба дадаць яшчэ і асаблівасьці характараў зэкаў. Няма чалавека падобнага на іншага, і гэтак жа ж па-рознаму людзі ўспрымаюць і ацэньваюць турму. Лёсы вязьняў, іхнія ўражаньні не падобныя адзін на аднаго. Колькі чалавек — столькі і гісторыяў, столькі і ацэнак турмы. Вось для паэта Уладзіміра Някляева ягоная турма — навязьлівая каханка, ад якой няма куды падзецца. Асэнсаваньне прыходзіць ужо пасьля пройдзенага шляху.

Вяртаючыся да лістоў. Моц лістоў да зьняволеных — у іхняй відавочнасьці і адчувальнасьці. Гэтыя знакі ўвагі з волі можна ўзяць, патрымаць, памацаць, разгледзець і пачытаць не адзін раз. Лісты да вязьня — магутная псіхалагічная падтрымка.

Усе лісты і паштоўкі, якія прыходзяць да мяне, я чытаю, затым дзялю на тыя, на якія трэба адказаць і на якія адпісаць я не даю рады. Калі іх назьбіраецца дастаткова, я пакую іх у вялікія пластыкавыя канверты і адсылаю дадому. Жонка піша, што імі закладзена ўжо паўпакоя. Няхай, супакоена думаю я, гэта найдаражэйшая частка майго архіву.

Разнастайнасьць лістоў і паштовак, якія прыходзяць да мяне, не перастае зьдзіўляць. Яны напісаныя кірыліцай і лацінкай, іерогліфамі ды яўрэйскімі літарамі-крэскамі. Прыходзяць лісты з пяшчотным і дзіўнаватым тут, у турме, пахам духоў. Ад знаёмай прыйшоў ліст з брудными плямкамі ад лапак цікаўнага ката, які пасьпеў пахадзіць па ім. Другая ж знаёмая даслала ліст, упрыгожаны калякамі яе ўвішнай дачкі. Пакуль маці адыходзіла на хвілінку ад стала, двухгадовая дзяўчынка хуценька дамалявала яго. Іншая мая знаёмая даслала з Лісабону гнуткую паштоўку, зробленую з коркавага дрэва.

Часта лісты і паштоўкі ўпрыгожваюць рознымі каляровымі налепкамі і смайлікамі. Наборы такіх рэльефных гумовых, цэлулоідных і пластыкавых налепак даслалі мне. Я з задавальненьнем клею іх на свае лісты. Ёсьць у гэтым нешта бясклапотна-дзіцячае, нечаканае, што прымушае ўсьміхацца.

У перадкалядных лістах прыходзяць каляндарыкі на наступны год. Я звычайна раздаю іх, пакідаючы сабе адзін ці два. На тумбачцы ў казарме ў мяне стаіць перакідны трохкутны, хаткаю, каляндар. Летась, у 2013-м годзе, гэта быў каляндар «Вясны» з узорамі выцінанак і рознымі варыянтамі «далонькі», новага сусьветнага сімвалу праваабаронцаў. Сёлета стаіць «залаты» каляндар Дзяніса Раманюка. Асноўнае тло яго ў залатой фарбе, справа — чорна-чырвоныя даты, а зьлева — руды кот сядзіць на драўлянай сіняй прызьбе вясковай хаты, сакавіцкі здымак Дзяніса. Сакавік на двары, сакавік на календары, сакавік і ў мяне ў душы.

На Каляды прыходзяць лісты ад знаёмых каталікоў з аплаткамі. У каталіцкай традыцыі дзяліцца на Божае нараджэньне аплаткай-прасфіркай, тоненькай лустачкай прэснага сьпечанага цеста, звычайна з выціснутым на ёй рэлігійным сюжэтам. Я ламаю хрусткую аплатку і ў думках дзялюся ёй з роднымі і знаёмымі. Гэтае містычнае ламаньне і ўяўнае дзяленьне мацнейшае, чымсь гэта адбывалася б у рэчаіснасьці. Нішто не затлумляе ўнутраны спакой і ўдаецца аддаць і атрымаць наўзаем залатую ваблачынку духоўнай энэргіі, срэбраную крошку душы.

Часам, мае падтрымальнікі просяць адказаць на свае лісты. Я абмяжоўваюся і адказваю толькі суродзічам, каб канчаткова не патануць у перапісцы. Родных я люблю і шкадую і адпісваю хоць бы таму, што іхняе становішча не набагата лепшае за маё.

Часта мне пішуць людзі з «групы рызыкі», якія самі цярпелі за грамадзкую дзейнасьць. Мы ў думках падпіраем адзін аднаго і пацху рухаемся наперад па жыцьці. У гэтых лістах не чутно матываў жалю, спачуваньня і спагады. Там ёсьць разуменьне. Мы, як вопытныя байцы, дзе паўзком, дзе перабежкамі, перасоўваемся на паклычанай перадавой лініі жыцьця. Мы адступаем, упарта чапляючыся за апошні лапік нашай духоўнасьці, паглыбей закопваемся ў абароне, часам контратакуем, часам нас бяруць у палон, але мы не здаемся. Ноты ціхага рашучага супраціву, беларускай някідкай упартасьці гучаць у нашых душах.

Са здымкаў, якія даслалі мне, згадаю толькі два. Першы здымак — гэта фота Рыгора Барадуліна зь ягоным подпісам. Кароткі аўтограф-пажаданьне, подпіс — і ўсё. Гэты здымак гады паўтары таму даслаў мне Глеб Лабадзенка. Некалькі дзён таму вялікі беларускі паэт Рыгор Барадулін памёр, учора было разьвітаньне зь ім. Перакладаць паэзію на іншыя мовы амаль немагчыма, таму паэты застаюцца зазвычай дыямантамі ў сваіх нацыянальных культурах. Пераклады вершаў, як вырабленыя чучалы зьвяроў — падобныя, але




*Аўтограф на адваротным баку фатаздымка народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна: «Алесю Бяляцкаму. Свабода пераможа! Жыве Беларусь. 3.1.2012".*

не жывыя. Таму каштоўнасьць таленту дзядзькі Рыгора — чыста беларуская, і яна — для беларусаў. У гэтым і ягоная драма, якая разам са зьнікненьнем беларускай мовы паволі перацякае ў трагедыю.

Алесю Бяляцкаму на вольную волю ды шчасную долю, з усім найдобрым, што па-сяброўску можа пажадаць чалавек чалавеку — Ул. Някляеў 1.01.2012

А другі здымак — з кошкай Касяй, якая жыла ў нас у хаце ў Ракаве. Яна асірацела пасьля майго арышту, і яе пагадзіліся ўзяць суседзі. На здымку Кася сядзіць на руках у суседзкай дзяўчынкі і паглядае сваімі вузкімі бурштынавымі азіяцкімі вачыма проста мне ў душу. Я ведаю, як яна ня любіць, калі яе трымаюць, лапы ў яе тырчаць у розныя бакі, яна напружаная, але трывае. Гаспадар у турме, і выбіраць не прыходзіцца.

Прыходзілі мне ў канвертах замест лістоў кнігі з аўтографамі аўтараў і подпісамі. Прыгадаю зь іх толькі дзьве. Гэта кніжка вершаў і паэма выдатнага беларускага паэта Уладзіміра Някляева. Яна была напісаная ў зьняволеньні і моцна ўразіла мяне высокім узроўнем паэтычнага майстэрства і тым, што яна пахне, а дакладней, сьмярдзіць невытраўным духам турмы. Яна ўся, як адзіны вершаваны ліст.

Другая кніга прыйшла з далёкага Квэбэку, франкамоўнай правінцыі Канады. Даслаў яе паэт Норман дэ Бэльфлёй. Дзе тая Канада, а дзе Беларусь! Норман падпісаў яе: *«Алесю, сябру невядомаму, далёкаму і ўсё ж такому блізкаму»*, ад «сябра невядомага і ўсё ж зусім блізкага». Ён дакладна ўлавіў і перадаў нябачную сувязь салідарнасьці, якая ўзьнікае ў мяне пры чытаньні кожнай паштоўкі і ліста.

Ёсьць яшчэ адная паштоўка, якую я не магу не згадаць. Яна ад украінскага пісьменьніка Аляксандра Ірванца. Ён даслаў яе з кіеўскага Майдану. Ужо загінуў на Майдане беларус Міхась Жызьнеўскі, але яшчэ там не пралілася вялікая кроў. Аляксандр Ірванец быў напісаў выдатны раман-прадбачаньне «Рівне/Ровно», дзе апісаў падзел Украіны ды існа-

*Аўтограф на кніжцы "Лісты да Волі", дасланай аўтарам у жодзінскую турму, дзе тады знаходзіўся А.Бяляцкі.*

ваньне дзьвюх украінскіх дзяржаваў. Адной — постсавецкай, таталітарнай, зрусіфікаванай, другой жа — дэмакратычнай, еўрапейскай і ўкраінамоўнай. Гэты раман на беларускую мову пераклаў наш выдатны пісьменьнік Уладзімір Арлоў, і я чытаў яго яшчэ на волі. Утопія Аляксандра Ірванца зараз амаль адбылася. Украіна балансуе на краі падзелу.

Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека.
Артыкул 3.
Права на жыццё.

Дарагі Алесь!
Я тоже Алесь, і у Вашым веку — 53 гады. Я — український письменник Олександр Ірванець.
Вам, дорогий Алесю, бажаю сили, снаги і витривалості. Бути позбавленим волі важко. Але Ваша (і наша) боротьба недаремна.
Ми переможемо!
Мы пераможем!
Слава Україні!
Жыве Беларусь!
Ваш — О. Ірванець

Я трымаў гэтую паштоўку з Майдану і літаральна адчуваў, як яна праменіць хваляй высакароднай салідарнасьці. Як гэта няпроста, у крытычную хвіліну, калі вызначаецца лёс тваёй дзяржавы і твайго народу, не забывацца на іншых, памятаць, што дзесьці ў сьвеце, бліжэй ці далей, ёсьць людзі, якім не зашкодзіць твая ўвага і падтрымка.

Прыгожыя, стракатыя і разнастайныя познамкі-маркі на канвертах і паштоўках, якія прыходзяць да мяне з усяго сьвету. Некаторыя зьняволеныя ў зоне зьбіраюць познамкі. Да мяне ўжо ня раз падыходзілі і цікавіліся. Я ветліва адмаўляю, тлумачу, што адсылаю канверты і паштоўкі дадому і не хачу іх псаваць.

Зь незьлічонага рою матылькоў-познамак найболей мне падабаецца шведзкая серыя зь вязаным адзеньнем, упрыгожаным геаметрычным арнаментам. Арнамент падобны на наш, беларускі: востраканцовыя квадратныя зоркі, крыжы, ромбы і павукі на швэдрах, шапачках і шкарпэтках. Цёплыя вязаныя шкарпэткі з калянднымі востракутнымі крыжамі-зоркамі на шведзкіх познамках — мой любімы малюнак.

Лісты да зьняволенага — гэта як масток і ніткі сувязі зь сьветам. Праўда, часам, яна працуе як у той гісторыі пра Юрася Зарэцкага, якую я нядаўна пачуў. Жыў некалі адзін такі недарэка ў вёсцы пад Чачэрскам. Працуе Юрка месяц, забірае заробак у калгаснай касе і ідзе басанож у Чачэрск, боты купляць. Доўга выбірае, новыя, спраўныя, каб усё было на месцы, і набойкі і роўны шоў. Купляе Юрка боты, а потым закіне іх высока на тэлефонныя драты і клыпае назад дадому голымі нагамі. *«Юрась!* — пытаюцца цікаўныя хлопцы, —

*Паштоўка салідарнасьці ўкраінскага пісьменьніка Олэся Ірванца.*

*а дзе твае новыя боты?» «Па дратах перададуць»*, — адказвае бясклапотны і задаволены Юрка.

Ці дакладна я разумею і адчуваю тое, што мне дасылаюць знаёмыя і незнаёмыя сябры? Я сумняваюся. Тым ня менш, усе гэтыя «боты па дратах» выклікаюць у мяне моцныя станоўчыя эмоцыі. Яны, як тыя падпоркі для дрэва, якое стаіць на ветры, як каўток вады для засьмяглага. Яны ўмацоўваюць дух, яны адпрэчваюць роспач і паняверку, яны паляпшаюць настрой. Лісты — гэта духоўная ежа для зьняволенага, гэта віртуальныя вітаміны, якія падсілкоўваюць думку і мысьленьне.

Вялікай ластаўчынай гурмой ляцяць да мяне лісты з усяго сьвету. Сонечнымі зайцамі блішчаць і зіхацяць яны. Паштоўкі з наклееным птушыным пер'ем, запэцканыя ў дзявочую памаду, стэрыяскапічныя і такія, што раскладаюцца ў аб'ёмны сюжэт. Часам я ўяўляю вялізнае дрэва, мусібыць гэта клён, спрэс абвешанае лістамі і паштоўкамі, дасланымі мне, якія трапечуць на вятры. Радаснае дрэва спадзеву і аптымізму.

Яшчэ мне паведамляюць, што частка лістоў і амаль сто тысячаў подпісаў людзей паляцелі ў іншы дом. Цікава, а як там ставяцца да іх, абыякава, з прыхаваным разуменьнем ці варожасьцю? Ці прагладае хто іх, куды іх увогуле дзяюць? Чорныя дзіры космасу некаторых дамоў умеюць хаваць свае таямніцы. Яны багата чаго ўсмоктваюць, зацягваюць у сябе і нічога не аддаюць назад. У таямнічым маўчаньні адчуваецца пагрозьлівая небясьпека ці разгубленасьць.

Адчыненасьць, шчырасьць, дабрыня і спагада адных, і зашнураванасьць, зласьлівасьць і недавер іншых. Паміж гэтымі двума полюсамі прабягаюць дугі разрадаў чалавечай энэргіі, сыплюцца яркія іскры пачуцьцяў. Дзесьці там, у нейкай кропцы гэтай дугі, знаходжуся зараз і я.

*Сакавік 2014*
*Бабруйск, калонія №2.*












# II. ЛІСТЫ НАДЗЕІ

Беляцкі Алесь Віктаравіч
вул. Сікорскага, 1, ИК-1
г. Бабруйск
Магілёвская вобласць
Беларусь 213800

БІЛОРУСЬ




*Малюнак-паштоўка Анэ Бондэ, праваабаронкі з Нарвегіі*

10 траўня 2014

Бабруйск

*Міжнародны марафон салідарнасьці з палітычнымі зьняволенымі. Галандыя, сьнежань 2012 г.*









Галандзкае аддзяленьне Міжнароднаяй Амністыі ў мінулым годзе арганізавала шырокую кампанію ў падтрымку палітычных вязьняў. Адным з такіх бядотнікаў яны абралі і мяне. Кампанія гэтая цягнулася ўвесь год і нават перабралася ў 2014-ы. Адной з формаў падтрымкі быў збор лістоў шараговых сяброў Амністыі з усёй Галандыі. Аддзяленьне Амністыі ў Галандыі шматлікае, і сябры арганізацыі дасылалі свае лісты падтрымкі ў цэнтральную сядзібу ў Амстэрдам. Там яны раздрукоўваліся на загадзя падрыхтаваных паштоўках і дасылаліся пачкамі ў агульных канвэртах сюды, у калонію.

Апроч гэтага, з Галандыі прыходзіла багата асобных паштовак, але я хачу спыніцца вось на гэтых, сабраных і дасланых цэнтралізавана. Часта яны пісаліся не па шаблону, ад усяго сэрца, і я, вельмі ўражлівы і чулы тут да жывога слова, успрымаў гэтыя пажаданьні, выказваньні, зычэньні надзвычай рэльефна і ледзь не літаральна.

Чытаньне лістоў — гэта ці не найлепшыя хвіліны прабываньня ў турме. Яны далучаюць цябе да плыні цывільнага жыцьця, якое плешчыцца за плотам. Яны ажыўляюць у табе рэцэптары чалавека нармальнага. Яны хоць на час здымаюць зь цябе гэтае хваравітае адчуваньне несвабоды. І зьняволеная думка, якая безупынна бегае туды-сюды ў чарапной каробцы, разам зь лістамі вылятае на волю.

Адабраць усе цікавыя паштоўкі з тысячаў, дасланых мне, было цяжкавата. Ды і дадумаўся я да гэтага не адразу, напачатку проста чытаў іх усе падрад і затым адсылаў дадому. Таму выбар паштовак быў запозным, багата ў чым выпадковым ды хуткім. Але ў такім адсартаваньні ёсьць і пэўная вабнасьць. Таму я хачу падзяліцца, не трымаць у сабе тыя станоўчыя эмоцыі і ўражаньні, якія я атрымаў ад гэтай хвалі клопату, падтрымкі і салідарнасьці, якая заліла мяне з галавой. Я хачу выказацца і адкаментаваць гэтыя лісты так, як я іх успрымаў.

Я чытаў паштоўкі і складаў іх у адвольным парадку. Гэтак жа ж, як яны скларыся, я і прапаную іх, нічога не зьмяняючы, бо ў любой выпадковасьці можна вылічыць пэўную заканамернасьць і пячатку лёсу.

---

Вось жа, **Янэке** пытаецца:

> «Трэба спадзявацца, вашыя абставіны палепшыліся. Ці можа вашая сям'я наведваць вас? Ці магчымы кантакт з іншымі людзьмі?»

Гэтае пытаньне датычыцца ўмоваў майго прабываньня ў турме і на яго цяжка коратка адказаць. Бо і месца зьняволеньня, і ўмовы жыцьця зьмяніліся. Чатыры месяцы я правёў у Менскім СІЗА, у Пішчалаўскім замку, на Валадарцы, які стаіць у цэнтры двухмільённага гораду. І гул сталіцы быў чутны ў закратаваных і зарасьнічаных вокнах, а на выходных — сьмех і выгукі з рэстарану, які месьціцца ў суседнім доме. Ад Валадаркі да плошчы Перамогі, дзя я жыву — пятнаццаць хвілінаў хады пешшу.

Затым наступныя тры месяцы я сядзеў у Жодзінскім СІЗА, чакаў абскарджаньня прысуду. І там ужо былі іншыя ўмовы і ўражаньні. Калі мяне вадзілі з камеры на спатканьне з жонкай ці з адвакатам, каб дайсьці да пакою сустрэчаў, кантралёр адчыняў перада мной і захлопваў за мной сямнаццаць дзьвярэй! Я думаю, што вось толькі гэтая маўклівая праводка магла б быць сюжэтам для дакументальнага фільма. Рукі за сьпінай, ідзем удол, ляскат цяжкіх жалезных дзьвярэй, якія дзеляць на адсекі падземны бетонны калідор, зачыненыя бакавыя выхады ў іншыя карпусы гэтай імперыі зьняволеных, у падземныя дворыкі для выгулу, у адным з гэтых карпусоў сядзяць пэээшнікі (зьняволеныя, асуджаныя пажыцьцёва), затым убок, затым пад'ём угору, і лясь, лясь. Здаецца, што дзьверы ня толькі адразаюць прастору, яны ляскаюць па тваіх мазгах.

У вонкавай аднастайнасьці і аднолькавасьці жыцьця любога зьняволенага самае істотнае і галоўнае адбываецца ўсярэдзіне чалавека, унутры яго душы. А калі на гэта яшчэ накласьці рысы замкнутага характару беларуса, які звыкся хаваць свае пачуцьці і не пускаць у сваю душу абыкаго, можна ўявіць, наколькі зьнешняя карціна не адпавядае ўнутранай. Беларус звонку, напаказ, і беларус усярэдзіне — гэта два розныя сьветы.

Бабруйск ужо, мабыць, больш за паўтысячагоддзя стаіць на Беразіне. Людзі, выглядае, жылі тут спрадвек і тысячы гадоў перад гэтым. Тут пачынаецца беларускае Усходняе Палесьсе, лясы цягнуцца на паўтары сотні кіламетраў на поўдзень, аж да ўкраінскай мяжы. Непадалёк — малая радзіма майго бацькі, дзеда, прадзеда, а значыць, і мая бацькаўшчына. На Бабруйшчыне нарадзіліся Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Алесь Адамовіч, Міхась Кукабака і яшчэ багата хто з заслужаных перад Беларусьсю, ды і ня толькі, людзей. Урэшце, тут цяплей чым у Менску, і надвор'е, і клімат падобныя да Сьветлагорскага, дзе прайшлі мае дзіцячыя і юнацкія гады. Сьветлагорск таксама стаіць на Бярэзіне, ніжэй па плыні, у 80-ці кіламетрах ад Бабруйску.

Актыўны кантакт зь людзьмі на волі зьмяніўся ў мяне на кантакт віртуальны, які зараз адбываецца пераважна ў думках і развагах. Гэта ня меньш цікава, а часам і больш захапляльна, чым у рэчаіснасьці. Бо можна заўсёды спыніць размову, нікога не пакрыўдзіўшы, і, наадварот, бясконца доўжыць яе, не асьцерагаючыся быць нудным і навязьлівым.




**Кімберлі** піша:

«Няхай Бог бласлаўляе вас ва ўсіх Ягоных дзеях. Ён не забудзе вас. Вер у цуд».

Гэта важнае і добрае пажаданьне, якое ўмацоўвае мяне ў веры, што нічога не адбываецца проста так, і ва ўсіх падзеях сьвету, і на маіх рухах ляжыць рука Бога. Надзвычай істотная думка. Я расчытваю яе такім чынам: аддайся плыні жыцьця і плыві на хвалях свайго лёсу, але заставайся самім сабой! Няма сэнсу і ніякіх рэзонаў прыстасоўвацца, крывіць душой. Ня бойся, жыві і трымайся ў згодзе з сваёй душой, бо табой апякуецца сам Бог!

Няма сакрэту ў тым, што людзі, якія вераць у Бога, лягчэй пераносяць цяжкасьці зьняволеньня. І далёка за прыкладам ня трэба хадзіць. Хоць гэта, мабыць, і няслушна, выстаўляць цярпеньні за прыклад, але жыцьцё ў нас такое, калі даводзіцца вучыцца ня толькі радавацца ў перамогах, але й цярпець у выпрабаваньнях. Я — пра Паўла Севярынца. Ня буду пералічваць усе драматычныя эпізоды ягонага жыцьцяпісу. Але, відавочна, што ён годна мінае іх і выносіць штосьці карыснае і выніковае і для сябе, і для ўсяго беларускага грамадзтва. І таксама відавочна, як умацоўвае яго, надае спакою, упэўненасьці і трываласьці, як асьвячае ягоны шлях вера ў Бога.

У допісе Кімберлі ёсьць яшчэ адзін момант, які прыемны для мяне. І я адзначаю яго ў шматлікіх іншых паштоўках. Гэта натуральнае зьяднаньне ва ўяўленьні і ў перакананьнях людзей шчырай веры ў Бога і веры ў каштоўнасьць правоў чалавека. Бо даволі часта я чую і чытаю пра супрацьпастаўленьне ліберальнай ідэі правоў чалавека і кансерватыўных пастулатаў і ўяўленьняў, якія ляжаць у аснове рэлігіі. Але я таксама, як і людзі, якія пішуць да мяне і згадваюць пра Божы провід, пра Божую апеку, не адчуваю гэтых супярэчнасьцяў. Можа, таму, што асноўныя праваабарончыя ідэі прачытваюцца ў Біблії і разьвіваюцца ў філасофскіх, рэлігійных і сацыяльна-паліталагічных працах выбітных тэолагаў.






Вядома ж, часам відавочная прыкрая абмежаванасьць і недалёкасьць з аднаго ці з другога лагеру высокалобых. Але жывая вера і жывая праваабарончая дзейнасьць зусім не супярэчаць адно другому.

І я добра памятаю, што ідэі асьветніцтва, сярод якіх было і разуменьне, і агалошваньне каштоўнасьці правоў чалавека, у Беларусі ўпершыню агучылі, актыўна распрацоўвалі і прапагандавалі яшчэ ў 18-м стагоддзі нашыя каталіцкія сьвятары-філосафы і сьвятары-навукоўцы.

Мяне натхняе пастава сёньняшняга Папы Францішка, які бурыць рамкі закасьцянеласьці і кансерватызму, адмаўляецца ад пыхі і раскошы на карысьць жывой веры. Мяне моцна кранаў выпадак з абмываньнем Папам Францішкам ног малалетніх вязьняў. Ён і ў іх, у першую чаргу, убачыў не злачынцаў, а малалетніх падлеткаў, якія апынуліся ў няпростай жыцьцёвай сітуацыі.

Чалавечнасьць і правы чалавека — гэта рэчы ўзаемазьвязаныя, таму мяне так кранаюць вось гэтыя паштоўкі простых людзей з розных галандзкіх гарадоў і мястэчак. У іх сэрцах і ў іх перакананьнях згодна жывуць вера ў Бога і высокія ідэалы правоў чалавека.

Што ж тычыць пажаданьня Кемберлі «верыць у цуд», дык тут цяжэй. Мне б хацелася верыць у цуд, але, мабыць, у мяне яшчэ мала веры. Таму мала ёсьць такіх цудаў, у якія я веру.

Dear Ales
Hold on to your heart
and mind, it is yours.

*Аўтограф лаўрэаткі Еўрабачаньня сьлявачкі Ларын: «Дарагі Алесь! Слухайся свайго сэрца і розуму. Яны належаць толькі табе». Менск, ліпень 2012 г.*

**Вім і Шарлота** напісалі:

«Нам абодвум па 73 гады. Мы жадаем вам трываласьці».

У мяне заўсёды была прыроджаная павага да старэйшых людзей. А старэйшымі, якія не згубілі цікавасьці да жыцьця, якія не зачыніліся ў коле сваіх праблемаў, якія шырока глядзяць на сьвет і якіх хвалюе тое, што адбываецца навокал, я шчыра захапляюся і паважаю іх яшчэ болей.

Я ня ведаю дакладна, але мне здаецца, што Вім і Шарлота — звычайныя галандзкія пенсіянеры. Але гэта не замінае ім хваляваць і выказваць сваю салідарнасьць са мной, нейкім невядомым праваабаронцам зь Беларусі.

Старэйшыя людзі заўсёды былі мне прыкладам у жыцьці, хаця ад старэйшых савецкіх людзей, якія шчыра верылі ў праўдзівасьць камуністычнай ідэалогіі, мне прыходзілася адгароджвацца і адпіхваць абедзьвюма рукамі. Яны, народжаныя ў суровыя сталінскія часы, часам, самі таго ня ведаючы, яшчэ несьлі з сабою гэты атрутны для ўсяго жывога дух сталінізму, жорсткасьці, нянавісьці, боязі і халопства адначасова.

Але знаходзіліся сярод старэйшых тыя, якія плылі супраць плыні, хоць ім прыходзілася за гэта дорага плаціць. Зараз я шкадую, што мала размаўляў, не запісваў гэтыя трагічныя аповяды пра жыцьцёвы лёс.

Як мне забыцца на старога дзядзьку Васіля, каржакаватага мацака з курчавай сівой барадой, актывістафронтаўца, сябру нашай Рады Цэнтральнага раёну, які хварэў на задышку і на гіпертанію, але ў сярэдзіне і другой палове 90-х не прапусьціў аніводнага дэмакратычнага мітынгу. Ён быў за Беларусь, і адсядзеў адразу пасьля вайны чатыры гады ГУЛАГу. Пасьміхаючыся, ён так пракамэнтаваў мае першыя трое сутак арышту: *«Гэта ня тэрмін. Трое сутак можна, ня злазячы, і на талчку прасядзець»*. Зараз, калі мой адбыты тэрмін падыходзіць да трох гадоў, я з разуменьнем згадваю гэты ягоны сумны жарт. Няма ўжо дзядзькі Васіля на гэтым сьвеце, а я раўняюся на яго, думаю, як рабіць так, каб у маіх учынках і ў маім цярпеньні мне найперш не было сорамна перад ім.



І яшчэ я згадваю былога старшыню Вярхоўнага савета Рэспублікі Беларусь Мечыслава Грыба. Ён падпісаў першую беларускую канстытуцыю. Спадар Мечыслаў старэйшы за мяне роўна на 24 гады. Мы нарадзіліся ў адзін дзень, 25-га верасьня, і абодва зь ім «Тыгры», хоць я і ня веру ў гэтыя ўсходнія календары. Смеючыся, неяк ён сказаў мне: *«Хоць мы з табой у адзін дзень нарадзіліся, але я ўжо дасягнуў усяго, чаго мог, а табе яшчэ ёсьць куды расьці»*. *«Не,* — адказаў я яму, — *ніколі мне ня быць ні генералам, ні якім там старшынём. У мяне другая планіда»*. Але я не пра гэта. А пра тое, што вось жа ён не паддаўся, адмовіўся ад усіх паложаных яму па былой пасадзе прывілеяў, ці, больш слушна, яго адлучылі ад іх, і ўпарта называе рэчы сваімі імёнамі, не маўчыць. Хаця міліцэйскім генералам, наменклатурай ён стаў яшчэ ў савецкі час. Але калі зайшло пра прынцып, пасла ён усе ільготы, ласку кіраўнікоў і прывілеі куды падалей, і вышэй паставіў свае чалавечыя гонар і годнасьць.

Урэшце згадваю я свайго бацьку, які ніколі нікому не рабіў ніякіх брыдкасьцяў і ўсё жыцьцё трымаўся ад любой уладнай камуністычнай мішуры як падалей. Ён падтрымліваў мяне, мой стары бацька, і перад сьмерцю, калі я ўжо быў у турме.

Старэйшыя людзі вучаць нас, як нам жыць. Мне самому ўжо за 50, але я далей працягваю вучыцца і верыць старэйшым. Ня ўсім, вядома, ня ўсім, але многім і многім. Вось і Вім, і Шарлота — гэтаксама мае настаўнікі.

Зараз для мяне старэйшыя — гэта тыя, каму за 70. А пройдзе яшчэ гадоў дваццаць, і што, калі, дай Божа, я дажыву да гэтых гадоў, што тады? Тады, мабыць, буду я раўняцца на 80-ці і 90-гадовых. У жыцьці заўсёды ёсьць з каго браць прыклад.



17 траўня 2014

Бабруйск

**Ян** піша:

«Дарагі Алесь! Трымайся! Ты ды іншыя людзі, такія як ты, робіце рознае і дорыце нам спадзяваньне на будучае для нашых дзяцей. Мы дасылаем табе ў думках духоўнай моцы і падтрымкі».

Мне падабаецца гэты пазітыўны касмапалітызм, які выказвае Ян. Можна было б падумаць, ну якая справа яму, галандцу, які жыве ў пасьпяховай, дынамічнай і забясьпечанай краіне, да таго, што робіцца ў нейкай малавядомай Беларусі, якая ляжыць на ўсход ці не за дзьве тысячы кіламетраў ад квітнеючай краіны ветракоў і тульпанаў. Насамрэч, ёсьць у нас і адная вельмі істотная агульная рыса, пра якую Ян, мабыць, і ня ведае. І Беларусь, і Галандыя — балотныя краіны. Але Ян глядзіць у будучыню. Для яго як мінімум Еўропа, а то і ўвесь сьвет — гэта агульны дом для нашых дзяцей. І яму хацелася, каб гэты дом быў спакойным і бясьпечным, каб у ім было ўтульна і зручна жыць і нам, і наступнаму пакаленьню, «нашым дзецям».

Агульна гаворачы пра маю працу, у прынцыпе, Ян мае рацыю. У сваіх дзеяньнях я заўсёды ўлічваў, як гэта адаб'ецца на сёньняшнім жыцьці нашага народу, і на тых, хто зараз ходзіць яшчэ ў садок і школку, і на тых, хто прыйдзе пасьля нас. Больш за тое, гэта заўсёды было галоўнай мэтай нашай дзейнасьці. Мы, як тыя лекары ці настаўнікі, прамываем невідушчым вочы, перавязваем хворым раны, навучаем непісьменных, паказваем дарогу затлумленым. Мы і самі, не беззаганныя, удасканальваемся ў працы. І гэтую «народавольніцкую» работу не пераскочаш і не прамінеш.

Вядома, як і ўсе нармальныя людзі, мы хацелі б бачыць гэты сьвет больш бясьпечным, устойлівым, больш утульным для агульнага жыцьця. Ісканавньне бесканфліктнага грамадзтва — мабыць, недасягальная мара, але да яго трэба імкнуцца, прынамсі як мага далей адысьці ад відавочнай несправядлівасьці, беднасьці, жорсткасьці і гвалту.

Некалі гэтую маральную праблему ёмка сфармуляваў Фёдар Дастаеўскі, сказаўшы, што нішто ў сьвеце ня вартае адной сьлязінкі дзіцяці. І я некалі ў юнацтве думаў — пра што ён кажа, калі ў сьвеце столькі несправядлівасьці, злобы, гора і бяды. Але, урэшце, вяртаньню нашага грамадзтва да стану чалавечнасьці і актыўнага суперажываньня, ягонаму ажыўленьню, рэанімацыі і прысьвечаная наша духоўная праца.

А як гэта цяжка і няпроста рабіць пасьля цывілізацыйнай катастрофы, якая адбылася з нашым народам у мінулым стагодзьдзі, стагодзьдзі бязьлітасных ідэяў і поглядаў, калі чалавек уважаўся горш за быдла. Посьпехі чаргуюцца з паразамі, пасьля крокаў наперад ідуць крокі некуды ўбок і назад.




*Паштоўка зь серыі паштовак салідарнасьці галандзкага аддзяленьня AmnestyI nternational. Усяго ў калонію прыйшло больш за тысячу паштовак гэтай серыі.*

Мы ходзім-калабродзім у цемры. Адзаду засталося раскіданае гняздо, а пуцяводныя зоркі зацягнутыя хмарамі. Крычаць ільжэпрарокі, бурчаць мужчыны, енчаць жанчыны, плачуць дзеці. Дзе ж той Саламон, які вывядзе беларусаў з доўгага паходу па палескіх балотах.

Перманентная барацьба дабра і зла разгарнулася ледзь ня ў чыстым выглядзе. Халодная сьцюжа з Усходу сутыкнулася зь цяплом еўрапейскага рэнесансу, вялізныя масы паветра змагаюцца, бушуюць і ўзьлятаюць высока ўгору, раскідаючы маланкі, рассыпаючы сьнягі і расьсяваючы дажджы. Я веру, хваля непагадзі ўрэшце адсунецца, разьвеецца, зьнікне, і як былі ўпэўненыя нашыя папярэднікі, загляне сонца і ў нашае ваконца. Я веру, што чалавек у стане дамовіцца жыць у міры і ў згодзе, па справядлівасьці, на ўсёй зямлі, і ў нас таксама. І мы ізноў спадзяемся, як спадзяваліся і нашыя бацькі, што нашыя дзеці будуць жыць лепей за нас. Мы верым, што паціху-памалу, агульнымі намаганьнямі, гэтак і станецца.

**Яня** сумна заўважае:

«Несправядлівы гэты сьвет: мы будзем сьвяткаваць Новы Год зь сябрамі, калі вы будзеце безь сям'і і сяброў».

І гэта, сапраўды, так. Суцяшэньнем для мяне ёсьць тое, што гэта яшчэ ня самая вялікая несправядлівасьць у сьвеце. Урэшце, багата людзей адзінокіх, пакінутых і нікому не патрэбных, апроч, можа, саміх сябе.

Маё сьвяткаваньне Новага году, а перад ім і Калядаў, вось ужо трэці год адбываецца ў адзіноце.

2011-ы я сустракаў у жодзінскім СІЗА. Усю турму «адбілі», паклалі спаць у 22 гадзіны, па раскладзе выключылі сьвятло і электрычнасьць, так што сядзельцы не маглі запарыць і гарбаты. Я сядзеў у камеры на дзьве асобы. Ніякіх размоваў з нагоды Новага году ці ўспамінаў не было. Было толькі вострае адчуваньне адарванасьці ад ранейшага, цывільнага жыцьця. Мы моўчкі ляжалі ў цішыні, і я думаў, што вось цяжкі 2011-ы адышоў, і ў ім засталіся і нябачныя дагэтуль дзясяткі зьняволеных, і гэтая нярвовая тузаніна за іхні лёс, і маё спаўзаньне да турмы, і ўрэшце, арышт, а затым — суд, і ў самым канцы года — сьмерць бацькі.

Год, які пераламіў маё жыцьцё, які турботны і насычаны год. Выглядала, што б ні было наканавана мне ў 2012-м, ён мусіць быць спакайнейшым за мінулы.

Бліжэй да 12-ці пачуўся рытмічны грукат па ўсім паверсе. Забегалі па прадоле кантралёры, заляскалі «кармушкі», пачуліся воклічы: *«Спыніліся ляпаць! Ціха! А то ўсе зараз будзеце на прадоле!»* А гэта зэкі дружна, ва ўсіх хатах, ляпалі алюміневымі «зэчкамі»-кубкамі бяз ручак па бетонных сьценах і прыварaных да долу і сьценаў шконках. Гулстаяў як у рамонтна-механічным цаху. Затым ён сьціх. І яшчэ некалькі разоў пракатваліся па паверсе хвалі гэтага супольнага грукату. Так зьняволеныя адзначалі Новы год.

Затым я два разы сустракаў Новы год у поўнай адзіноце. Сам з сабой. Налівaў зялёнай гарбаты, выкладаў на тумбачку нейкія няхітрыя прысмакі і ў думках быў з тымі, каго не было побач, з роднымі і сябрамі. Без застольнага гармідару, бяз хмелю, без пасьпешліва налітага шампанскага пад ціканьне апошніх секундаў старога году. З поўным і важкім адчуваньнем, што адзін год сышоў, загорнутая яшчэ адная глава з кнігі жыцьця, яшчэ адзін жыцьцёвы камень перакочаны ад студзеня і да сьнежня. І прыйшоў новы год. І тэрмін твайго зьняволеньня вызначаны, але заўсёды застаецца інтрыга — як яно будзе. І, самае галоўнае, ці будзе гэты наступны новы, малады год годам свабоды? Урэшце, усе гэтыя гады я не адчуваю ні горачы, ні расчараваньня.

Чытаючы «У коле першым» Аляксандра Салжаніцына, я вычытаў там такое апісаньне душэўнага стану аднаго з герояў раману: *«Даўно ўжо было затаптанае ў бруд яго імя і яго будучае. Маёмасьць яго была — паношаныя ватныя штаны і брэзэнтавая працоўная куртка, якія зараз захоўваліся ў капцёрцы, у чаканьні горшых часоў. Грошай ён атрымліваў у месяц 30 рублёў — на тры кілаграмы цукру, і то не наяўнымі. Дыхаць сьвежым паветрам ён мог толькі ў пэўныя гадзіны, дазволеныя турэмным начальствам.*

*І быў непарушны спакой у ягонай душы».*

І хоць многае зьмянілася за гэтыя 60 гадоў у турме, але вось гэтае пачуцьцё «спакою душы» — найважнейшае. І калі яно ёсьць, то ўсё астатняе, сапраўды, ня мае істотнага значэньня.



20 траўня 2014

Бабруйск

**Эстэр** піша:

«У гэтай паштоўцы я хачу сказаць вам, што вы не засталіся адзін, і што людзі ва ўсім сьвеце змагаюцца і думаюць пра вашую справу».



Шаноўны Алесь,
З Новым Годам!

Шаноўны Алесь,

Шчыра віншуем Вас з Новым Годам.
Нашыя думкі з Вамі і Вашай сям'ёй.

Амбасадары і Прадстаўнікі
дыпламатычных місій

| | |
|---|---|
| Францыі | Румыніі |
| Венгрыі | Латвіі |
| Еўразвязу | Ірляндыі |
| Польшчы | Славакіі |
| Італіі | ЗША |
| Літвы | Балгарыі |
| Эстоніі | Чэхіі |
| Нідэрляндаў | Германіі |
| Фінляндыі | Вялікабрытаніі |

*Віншавальная паштоўка дыпламатычных місій у Беларусі. Сьнежань 2012 г.*

Я зь недаверам паставіўся б да зьместу гэтай паштоўкі і меркаваў бы, што ў ёй невядомая Эстэр проста хоча маральна падтрымаць мяне і перабольшвае. Але вялізная колькасьць паштовак, якая прыходзіць да мяне, разбурае мой недавер. А затым ён адбудоўваецца ізноў. Бо несувымерная мая асоба і гэтае змаганьне, якое, дзіўная рэч, сапраўды існуе.

Я тлумачу гэты казус тым, што мы самі не выбіраем свае шляхі. Вельмі часта нашыя дзеі прыводзяць да нечаканай ланцуговай рэакцыі і дзіўных вынікаў. І ты сам нявольны ў тым, што зрабілася, у тым, што твая справа набывае такі розгалас. Ты ня думаў пра гэта, калі займаўся сваімі справамі на волі, і тым больш не меркаваў, калі раптам тваё становішча зьмянілася. Можа, як чалавек, як асоба, ты і быў патрэбны і неабходны для сваіх родных і знаёмых, але й ня больш за тое. Ды штосьці мяняецца, і ты становішся амаль што сімвалам, нейкай міфічнай асобай, і змаганьне за А. пераўтвараецца са справы прыватнай у стратэгічную, а трагедыя перанітоўваецца ў нейкім сэнсе ў меладраму і фарс.

Адбываецца як пры пахаваньні. У думках, у жыцьці, чалавек бачыць яго для сябе ціхім і спакойным, у журботным разьвітаньні зь сьветам, з роднымі, у мяккіх вечаровых сьценах і зь лёгкім ветрыкам. А насамрэч, надышла гэтая хваля, і сваякі перасварыліся, галосяць разладжана трубы п'яных музыкаў, ня ў такт бухае барабан, яшчэ прыгналі нейкіх піянераў, якія жуюць жуйку і штурхаюцца, а ў дадатак замарасіў дробны дождж. І ніхто нічога ўжо ня можа зьмяніць.

Стратэгічныя справы жывуць сваім жыцьцём. Што па-чалавечы саграе мяне, дык гэта хваля салідарнасьці, якая ўсё ж дакочваецца і аблівае мяне клопатам і спагадай. Быць мокрым ад пырскаў хвалі салідарнасьці — ня самая кепская рэч.

---

**Жаклін** піша:

«Я думаю, што ты хутка зможаш жыць як свабодны чалавек».

Я адразу задаю сабе пытаньне: а як гэта — жыць, як свабодны чалавек?

Антон Чэхаў спрабуе разабрацца ў межах чалавечай свабоды і несвабоды. У ягоным вядомым апавяданьні «Палата №6» адзін з герояў разважае: *«У арыштце і ў турме, калі паглядзець на справу шырэй, па-сутнасьці, няма нічога страшнага — было б сумленьне спакойнае»*. Далей ён разьвівае думку: *«Калі існуюць турмы і вар'яťні, дык павінен жа хто-небудзь сядзець у іх. Ня вы, дык я, ня я — дык хтосьці трэці»*. Ён рухаецца ў сваіх роздумах далей: *«Вольнае і глыбокае мысьленьне, якое імкнецца да спазнаньня жыцьця і поўная зьнявага глупай мітусьні сьвету — вось дзьве даброці, вышэй за якія ніколі ня ведаў чалавек. І вы можаце валодаць імі, хаця б жылі за трыма кратамі»*. Урэшце ён сьцьвярджае: *«Спакой і задавальненьне чалавека не па-за ім, а ў ім самім»*.

Як лаканічна, пераканаўча і лагічна гэта гучыць!

А затым А.Чэхаў запірае свайго героя, здольнага да вось такіх філасофскіх развагаў і высноваў, у хату, дзе ўтрымліваюць вар'ятаў. Там іх зьбіваюць, трымаюць бяз вываду на паветра, не даюць ім ні чытаць, ні пісаць — нічога! І ранейшае філасофстваваньне гэтага чалавека, доктара, ад якога некалі залежыў лёс запёртых у гэтай хаце людзей і які зараз сам апынуўся там, сутыкнулася з жахлівай рэчаіснасьцю. Аказваецца, што і простае, тупое, але бестэрміновае зьняволеньне чалавечай асобы, зьнешняя няволя, гэта ня меньшы, а можа, і большы жах, чым унутраная несвабода.

Што горш, а што лепш — Антон Чэхаў не дае адказу на гэтае пытаньне.

Вось і я, прыслухоўваюся да сябе, і ня ведаю, што гэта такое — свабодны чалавек.

Свабода — як паветра, калі дыхаеш ім — не адчуваеш ягонага смаку. А вось калі яго не хапае, ці зьяўляецца смурод газу і дыму — вось тады згадваеш усёй істотай, якое яно бывае чыстае і салодкае. Мая знаёмая нядаўна напісала мне, што свабода — гэта ўсьвядомленая неабходнасьць. Гэтая ленінская фармулёўка мяне не задавальняла яшчэ падчас вучобы ва ўнівэрсітэце, адказаў я ёй. Яна ня ленінская, адказала яна і назвала прозьвішча аднаго старэйшага філёсафа, які дадумаўся да такога. Для мяне ўсё цалкам наадварот, адказаў я ёй, свабода для мяне — гэта адсутнасьць усялякай неабходнасьці, тым больш усьвядомленай.

Багата людзей пішуць мне, што яны турбуюцца за мяне і жадаюць мне хуткай свабоды. Я ім бясконца ўдзячны. Толькі ўсё больш і больш задумваюся, як той чэхаўскі герой, а ці дастаткова мне будзе пакінуць гэтыя краты, сьцены і дрот, каб стаць свабодным.




**Хэнк** піша:

«Я захоплены тваёй сілай і сьмеласьцю ў тваёй барацьбе за свабоду…»

Мне трохі дзіўна, што такім чынам успрымаецца мая, увогуле, даволі звычайная як для праваабаронцы дзейнасьць. Ніякай асаблівай сілы і сьмеласьці тут не назіраецца. Адзінае, што я адчуваў у сабе на волі, дык гэта ўпартая пасьлядоўнасьць у дзеяньнях ды ўнутраны вагеньчык, такое прыроджанае захапленьне тым, чым я займаўся.






*Паштоўка зь серы паштовак салідарнасьці галандзкага аддзяленьня Amnesty International.*

Мне заўсёды шанцавала з працай, і зь яе выбарам, і з самім працэсам. І тады, калі я працаваў дырэктарам музея Максіма Багдановіча, адрабіўшы там дзевяць гадоў. І тады, калі пакінуў музей і заняўся, адно, праваабаронай. Праца неверагодна падабалася мне, займала ўсе мае думкі, увесь час, без выходных і адпачынкаў. Пасьля таго, як я пакінуў музей, першыя некалькі гадоў я і ў адпачынкі не хадзіў, бо не было калі.

Зараз мае сябры зьдзіўляюцца, як багата ты пішаш у такі няпросты для цябе час. Пішу, адказваю я ім у думках, бо не загружаны так, як у ранейшыя гады, калі было зусім не да пісаньня. Ня тое, што не было зусім вольнага часу, не, я ж ня робат, але была нейкая вечная ліхаманкавая ўзбуджанасьць і ўстурбаванасьць: а як тое, а як гэта, а як зрабіць вось гэта, каб атрымалася так і гэтак. І такі стан зусім не спрыяў унутранаму спакою і засяроджанасьці, якія раптам ахапілі мяне тут. Адзін стан душы замяніўся на іншы, але й душа працягвае рабіць сваю патаемную работу.

Урэшце, за ўсімі цякучымі і найважнейшымі справамі, якімі я займаўся апошнія 25 гадоў, мяне заўсёды перасьледвала зерне ўнутранай незадаволенасьці: а ці тым я займаюся ў сваім жыцьці? Яно ж адное, і перапісаць яго ня ўдасца. А вучыўся ж я разумець беларускую літаратуру і пісаць пра яе. І гэтая мая першая сур'ёзная справа падабалася так, што аж захоплівала дух. І вось зараз я ліхаманкава адпісваюся, сплочваю доўг, як напісаў некалі Максім Багдановіч, запаўняю гэты прагал у сваім жыцьці, скарыстоўваю выпадак і магчымасьць, якую даў мне лёс. Не дагнаць упушчанае, не абхапіць неабхопнае, але сквапнасьць да жыцьця прымушае варушыцца.

«Бяжы, хлопец, бяжы!» — сьпявае сабе «Крама». Прыкладна гэтымі ж словамі падганяў я сябе па жыцьці, уяўляючы, як зямная куля круціцца пад маімі нагамі. Як вавёрка ў коле, як воўк у клетцы, як руды ліс перад стрэлам у вершы Акуліна, я бягу, падганяемы ветрам жыцьця. А сіла і сьмеласьць — дзе яны? Можа, яны і ёсьць у гэтым працэсе бегу.

**Кляас** піша:

«Мы гаворым: калі хтосьці згубіць сьмеласьць, ён згубіць усё. Не губляй яе».

Ды дзе ж тая сьмеласьць? Ці заўсёды адсутнасьць баязьлівасьці азначае прысутнасьць сьмеласьці? Часам самое жыцьцё ставіць чалавека ў такія варункі, што выбар застаецца невялікі. А чым меньш розных варыянтаў і варыяцыяў, тым прасьцей такі выбар рабіць. Тым больш, што, як паказвае ўсё тое ж жыцьцё, часам нічоганяробленьне больш эфектыўнае за актыўнае трапыханьне. Кітайскі філёсаф Лао Цзы выбудаваў на гэтым прынцыпе, зрабіўшы яго ўніверсальным, цэлую філасофію. Здаецца, вось я апынуўся ў такой сітуацыі.

Паштоўка зь серыі паштовак салідарнасьці галандзкага аддзяленьня Amnestyl nternational.

Уся мая сьмеласьць заключалася ў тым, што, маючы выбар зьехаць на чужыну ці застацца, я выбраў другое. Але ці быў бы я вольным у чужым асяродку, сярод чужых людзей? Ці не прыносіла б мне гэтая вольнасьць яшчэ больш маральных пакутаў і псіхалагічных нязручнасьцяў? Ці ня сьпіўся б я ў якім-небудзь сьмярдзючым бары ад гора і безвыходнасьці? Чужацкі хлеб — жабрацкі, а дзе нарадзіўся, там і прыгадзіўся. Можа быць, для іншых гэта па-іншаму, але для мяне гэта вось так.




Часта на эмацыйным і нават на інстыктыўным узроўні я баюся чужыны. Часам я з жахам думаю, а што было б, калі б мае бацькі ў 1965-м годзе вырашылі б не вяртацца ў Беларусь і засталіся з маім братам і са мной у Карэліі? І што цягнула бацьку, якога вывезьлі зь Беларусі ў 10 гадоў і які пражыў у Карэліі наступныя свае 25 гадоў, вярнуцца? І мне становіцца аж млосна. Адназначна, я быў бы нешчасьлівым чалавекам. Аднойчы, не па сваёй волі, я ледзь не згубіў Радзіму. Я проста ня меў бы яе. А набыўшы, баюся згубіць у другі раз. Хаця кожны сам для сябе вырашае гэтае пытаньне, і, бывае, жыцьцёвыя абставіны складаюцца такім чынам, што дзявацца няма куды. Таму лепей не заракацца ад усялякай бяды. А далей ужо — як каму пашанцуе.

23 траўня

Бабруйск

**Герда** спыніла сваю ўвагу на фатаздымку, які адбіты на другім баку паштоўкі, дасланай да мяне. На ім відаць баржу ці шхуну, на палубе якой сядзіць на посьцілцы маладая сям'я: чалавек, жонка і дзіцё. Крыху бліжэй да рубкі і далей ад аб'ектыву бачны бела-руды кот. Яму таксама цікава і ён паглядае на фатографа, распрастаўшы па палубе доўгі хвост. На заднім плане здымку віднеюцца пляскатыя цагляныя будынкі ці не Амстэрдаму. У адной руцэ малады мужчына трымае жоўтую картонку з надпісам: *«Дарагі сябра, мы дзякуем табе і жадаем як найхутчэй вызваліцца!»* Другой рукой ён прытрымлівае цёпла апранутага гадавалага малога. Жонка абняла яго, і яе рука хаваецца за шыльдай, так што незразумела, ці яна проста вольна зьвісае, ці таксама прытрымлівае гэтую жоўтую картонку з чорным выразным шрыфтом. Верагодна, што яны жывуць на гэтым караблі, на вадзе.

**Герда** піша:

«Гэтую картку я выбрала, бо я жыла на рачным караблі, калі я была малым дзіцём. Затым я пайшла ў школу-інтэрнат і стала жыць на зямлі. Але добрыя ўспаміны засталіся ў мяне на ўсё жыцьцё».

Цікавыя ўспаміны зь дзяцінства Герды. Мне гэта цяжка ўявіць. Я ніколі ня жыў на вадзе. Але затое я вырас у лесе. І Сьветлагорск, горад, у якім я рос, будаваўся проста ў лесе, і ў летнія вакацыі я ніколі не вылазіў зь лесу, дыхаючы ягоным водарам і зьбіраючы ягоныя дары.

Мне дарагі і прыемны гэтыя ўспамін Герды, бо, хоць мы і не знаёмыя асабіста, але яна дзеліцца са мной чымсьці вельмі прыватным, тым, што жыве ў яе памяці зь дзяцінства і таксама кранае і мяне.

**Анэ** піша:

«Трымай галаву высока, час мяняецца!»

Аптымістычны заклік Анэ грунтуецца на тым, што ня варта схіляць галаву, падаць духам тады, калі ідзе зьмена сітуацыі, і час мяняецца, зразумела, у лепшы бок.

А што рабіць, калі час не зьмяняецца? Вось жа нядаўна на прэзентацыі сваёй чарговай таленавітай кнігі беларуская рускамоўная пісьменьніца Сьвятлана Алексіевіч, якая доўгі час пражыла за мяжой, сказала, што кожны раз падчас прыезду на Радзіму ў яе ўзьнікала ўстойлівае адчуваньне таго, што час тут спыніўся, даўно-даўно. Такая нерухомая стабільнасьць. Вось што тады рабіць? Калі няма відавочных зьменаў і ясных перспектываў? Ці варта тады апусьціць галаву?

А што, калі час зьмяняецца ў горшы бок? У нашай гісторыі было колькі заўгодна такіх выпадкаў і цэлых чорных палосаў на доўгія гады. Так войны з тыранічнай Масковіяй у 16-м стагоддзі вымусілі нашых продкаў пайсьці на вунію з Польшчай, што ўратавала дзяржаву коштам страты беларускамоўнага пісьменства, літаратурнай мовы і значнай часткі самабытнай культуры.

А войны з расіянамі-рэваншыстамі ў 17-м стагоддзі, якія спустошылі краіну, калі загінуў штодругі, а заняпад ахапіў ужо і гаспадарку краіны. А затым, пры акупацыі Беларусі Расійскай імперыяй у 18-м стагоддзі страта еўрапейскага шляху разьвіцьця, калі адбылася сапраўдная цывілізацыйная катастрофа. І потым усе наступныя спробы вярнуцца ў Еўропу, паўстаньні і супраціў у 19-м стагоддзі, якія скончаліся разгромам і паразай.

Невялікі драматычны перыяд нацыянальнага разьвіцьця і сацыяльных спадзеваў пачатку 20-га стагоддзя затым перайшоў у жахлівы і безвыходны час, сімвалам якога сталі калгасы, ГУЛАГ і Курапаты, Катынь і Хатынь. Мільёны загубленых жыцьцяў, амаль поўная страта нацыянальных адметнасьцяў, мовы, культуры, русіфікацыя і асіміляцыя. Атрыманьне незалежнасьці і абвяшчэньне краіны дэмакратычнай рэспублікай запаволілі, але не спынілі гэтыя працэсы.

Гэта наша гісторыя. Гісторыя перамогаў і паразаў, гісторыя бясконцага ўставаньня з каленяў. І часта тым, хто імкнуўся высока трымаць галаву, сьціналі яе, зразалі, як жыта сярпом. Недарэмна ж Уладзімір Караткевіч свой раман пра беларускі супраціў назваў «Каласы пад сярпом тваім». Затым мінаў нейкі час, і высокае калосьсе разумных і годных беларускіх галоваў уздымалася зноў. Нягледзячы ні на што. А далей — як пашанцуе. Ёсьць у гэтым нейкая наканаванасьць.

Можна засумнявацца: калі ўсё так пагана і трагічна ў вашай гісторыі, дык адкуль у вас свая ўласная дзяржава і 10-мільённы народ? Багата народаў і гэтага ня маюць, ці ўжо зьніклі з мапы зямлі, як тыя ж скіфы ці фінікійцы, якія займалі немалое месца ў старажытнай гісторыі, напісанай Герадотам.

І я пагаджаюся. У гэтых довадах ёсьць рацыя. Хтосьці ўспрымае нашую гісторыю як чараду нешчасьлівых паразаў, нехта — як шэраг удалых перамогаў. Як падсумаваў наш вядомы зямляк, пінчук, польскі пісьменьнік Рычард Капусьцінскі: *«Мінулага няма. Ёсьць толькі ягоныя бясконцыя версіі»*. Але што мне падаецца бясспрэчным, дык гэта тое, што гісторыя не стаіць на месцы і рухаецца, хай па калдобінах, няхай па бітым шляху, тады, калі ёсьць людзі, якія высока трымаюць галаву.

28 траўня 2014

Бабруйск

Іншая **Анэ** піша:

«Зычым вам шмат сілаў на будучыню. Спадзяемся, што ў хуткім часе вас вызваляць.
Цяжка сабе ўявіць, што ў краіне такой блізкай да Еўропы людзі ня вольныя казаць,
што яны думаюць. Што правы чалавека ігнаруюцца. Не губляйце мужнасці.
Працягвайце барацьбу».

Што тут скажаш. Можа, гэта каму і цяжка ўявіць, але гэта сапраўды так. Здаецца, што «маўчаньне» ў нас у крыві. І нам усім прыходзіцца з гэтым жыць. Хаця не скажу, што мы самі не вінаватыя ў гэтым. Законы існавань-

Уладзімір Някляеў

Знакі прыпынку

Алесю Бяляцкаму

Дзесь Загор'е, Залессе
За гарамі, лясамі...
Штосьці ў свеце, Алесю,
Застанецца й за намі...
У. Някляеў
14.01.2014



Мінск
«Лімарыус»
2013

*Аўтограф на кніжцы У.Някляева "Знакі прыпынку", дасланай у бабруйскую калонію.*

ня грамадзтва ніхто не адмяняў. І для нейкіх пазітыўных зьменаў для ўласных правоў трэба хоць крыху прыкладаць намаганьняў.

Праблема ж у тым, што для значнай, не скажу што для большай, але значнай часткі грамадзтва, тыя ж правы чалавека не зьяўляюцца істотнай каштоўнасьцю. Такая спадчына нам засталася ад таталітарнага грамадзтва, ад СССР.

Хібы і недахопы ў сьвядомасьці грамадзтва выпраўляюцца і зьмяняюцца павольна. Часам яны адыходзяць толькі разам зь людзьмі. Патрэбны працяглы час і пастаянная праца. Неабходныя гэтыя легендарныя біблейскія «40 гадоў». Можа, нам і хацелася б хутчэй, але, выглядае, што нам наканавана прайсьці ўвесь доўгі-доўгі шлях «да Беларусі».

Часта можна пачуць, што нас не чакаюць у Эўропе. Ад гэтых словаў павявае закрытасьцю, недаверам, песімізмам, уяўнай крыўдай і слабасьцю. Пэўна, што не чакаюць тых, хто ня хоча ці ня здольны з тых ці іншых прычынаў ісьці ў патрэбным кірунку.

Нядаўна я прачытаў «Гісторыю Літвы», напісаную літоўскімі гісторыкамі і перакладзеную на беларускую мову маім сябрам і выдатным грамадзкім дзеячом Вінцуком Вячоркам. Мяне ўразіла тое тлумачэньне, якое літоўскія навукоўцы давалі дзеяньням князёў - валадароў нашай супольнай дзяржавы. У вялікай ступені яно было накіраванае на ўпісаньне нашых народаў і нашай зямлі ў агульнаеўрапейскі кантэкст. У гэтым кіроўная эліты бачылі заруку выжываньня і росквіту як дзяржавы, так і нашых народаў. Вось таму ўся нашая гісторыя — гісторыя Вялікага Княства Літоўскага, а затым і Рэчы Паспалітай — трактуецца як гісторыя часткі Еўропы.

Нам усім трэба ўсьвядоміць, што ніхто нідзе нікога не чакае. Краіна і народ самі мусяць клапаціцца пра сваё дабро, сучаснасьць і будучыню. Мы самі мусім дбаць пра «пачэсны пасад між народамі», як пісаў некалі Янка Купала.

Ці здатныя да гэтага беларусы? Без усялякага сумненьня — так. Нам трэба паднапружыцца і пераскочыць празь яму заняпаду даўжынёй у два стагоддзі. Нам неабходна вярнуцца туды, дзе мы былі і дзе займалі неблагія і прыкметныя пазіцыі. Там нашыя продкі маглі свабодна казаць тое, што яны думаюць. Толькі так мы зможам аднавіць сваю еўрапейскую тоеснасьць, і, як піша Анэ, «знайсьці сваё сэрца».

---

**Яна** піша:

«Я спадзяюся, што ты хутка будзеш вольны і зможаш жыць так, як ты хочаш».

Добрае і шчырае пажаданьне, якое, у пэўным сэньсе, ставіць мяне ў тупік. Бо, пражыўшы паўстагоддзя, я так і ня ведаю, як я хачу жыць. І бессэнсоўна марыць пра гэта, бо занадта шмат прыйшлося б зьмяняць у існуючым жыцьці. Таму, саркастычна пасьміхаючыся сам сабе, я ведаю, што так ня будзе. Бо чалавек у сваім жыцьці несвабодны па вызначэньні.

Некаторыя людзі, якія шукаюць свабоды, адгароджваюцца ад грамадзтва, зачыняюцца ў кватэрах, хатах, ці зьязджаюць жыць у бязьлюдныя мясьціны. Але і там яны ня вольныя да рэшты.

Нядаўна ў мяне адбыўся кароткі дыялог.

— Калі на волю? — спыталіся ў мяне.
— А я і так вольны, у душы, - адказаў я.
— Усе ў душы вольныя, - працягнуў гэты чалавек, намякаючы, што ён хацеў бы мець больш дакладны адказ.
— Далёка ня ўсе, - шчыра запярэчыў я, мяркуючы, што і мой адказ пра маю душэўную вольнасьць быў занадта аптымістычным. І дадаў, — праз два гады.

І тут я крыху зманіў. Бо заставалася мне турмы год, восем месяцаў і дзесяць дзён.

Чалавек пайшоў, задаволены маім адказам, пакінуўшы мяне зусім незадаволеным. Бо ў маім адказе не было аніводнага дакладнага слова. Усё вельмі ўмоўна і прыблізна.

Поўную волю, задумаўся я, дае толькі нябыт. Недарэмна паэты-рамантыкі ўяўлялі дасканалую свабоду ў выглядзе мяцежнага духу, які бясконца лётае ў халодным бязьмежжы сусьвету. Толькі там, дзе няма ніякіх пачуцьцяў, няма нічога жывога, уяўлялі яны, і можа быць, сапраўды, вольнай чалавечая душа. А тленнай чалавечай абалонцы, целу, наканаваны іншы, несвабодны лёс.



31 траўня 2014

Бабруйск

**Эліс** піша:

«Сёньня ў маім родным горадзе ў Галандыі ідзе дождж. Можа быць, ты ведаеш, што Галандыя — гэта краіна, дзе дождж льецца вельмі часта. Але гэта добра для расьлінаў (я спадзяюся на гэта). Багата віншаваньняў ад мяне. Эліс»

Вось так мне напісала Аліса з краіны цудаў.

Аднойчы я быў у Галандыі. На канферэнцыі, якую арганізавала і праводзіла жанчына, галандзкі міністр па правах чалавека. Падчас канферэнцыі ў нас была экскурсія ў гаагскі міжнародны суд. Звычайны шэры функцыянальны будынак, толькі што з узмоцненай аховай. Бо тут жа побач ці то разам з судом знаходзіцца і турма, дзе трымаюць злачынцаў, якія зьдзейсьнілі злачынствы супраць чалавечнасьці.



Затым я ехаў на цягніку ад Гаагі да Амстэрдаму, глядзеў у вакно і ведаю тое, пра што піша Эліс — колькі там багата вады. Зямля, здаецца, набрыняла ёй. Паўсюль ірагацыя, меліярацыя, ветракі, якія нястомна адкачваюць лішнюю ваду зь зялёных, у густой руні палёў, у поўныя, па берагі, канавы. Раней, мабыць, паўсюль там былі балоты, якія дбайна, ня так як у нас, да тарфяных віхураў, асушаліся, засяваліся травой.

Я глядзеў, як на аксамітных палях-паплавах гуляюць ледзь ня казачныя, букалістычныя авечкі і бараны, і пільна ўзіраўся ў густыя, такія як у нас, хмызы па берагах канаў, бо там, здаецца, мусіў хавацца, для паўнаты краявіду, і шэры воўк.

Вось, думаў я, трымаюць жа яны гэтых авечак, дбаюць пра свае вільготныя палі. Хаця маглі б, мабыць, лёгка купляць тую ж аўстралійскую ці новазеландзкую бараніну, якая, пэўна што, таньнейшая. Але тады зьнікла б душа гэтай зямлі.



*Малюнак Мікіты Дашкевіча (11 гадоў) "Перамога" з подпісам: "Дзядзька Алесь, віншую з днём народзінаў."*

Але мы пра гэта пакуль што ня думаем. Мы не адчуваем сябе гаспадарамі на сваёй зямлі, адпаведна так да яе і ставімся. Мы ня думаем пра душу народу, якая жыве ў беларускай мове і зьнікае разам зь ёй. Мы мала думаем і пра ўласную душу, ня толькі пра яе адносіны і зносіны з Богам, але і зь іншым чалавекам, урэшце, і з самім сабой. Нас адвучылі. Павольна тлее, мадзее беларускае жыцьцё.

На паштоўках, дасланых мне з Галандыі, апроч знакамітых перыстых галандзкіх кароў, ветракоў і каналаў, ёсьць і цэлыя загоны тульпанаў — тысячы, безьліч маленькіх сьвяточных гладышоў, цэлыя тульпанныя палі. Актыўны і жыцьцярадасны народ, галандцы. Варта павучыцца ў іх, як спалучаць прыемнае з карысным. А мы ж падобныя на іх. Мы ж таксама — людзі на балоце.

**Фарко** піша:

«Дарагі Алесь! Берлінскі мур упаў у 1989. Жалезная сьцяна танчэла і танчэла і аднойчы зьнікла. Ты заахвочваеш мяне падтрымліваць агонь і жывую праўду».

Я памятаю, добра памятаю, як танчэў берлінскі мур. Як дзясяткі тысячаў людзей высыпалі на яго і заўзята хісталі, калацілі кувалдамі ягоныя бетонныя пліты. Гэта было ўражвальна і здавался нечым неверагодным. Гэта быў цуд, які адбываўся на нашых вачах. Бо берлінскі мур трывала асацыяваўся з жалезнай куртынай, якая адгароджвала Захад ад Усходу. Еўропа была падзеленая напалам, і мы знаходзіліся ў яе здратаванай і занядбанай палове. Тагачасны сьвет не ўяўляўся па-іншаму. І вось проста на вачах гэты мур-сімвал падаў і зьнікаў. Тады здавалася, што назаўсёды.

Пабываўшы ў Берліне на пачатку 2000-х я ўжо бачыў, як кавалкі бетону з гэтага муру памерам з кулак, на падстаўцы і зь металічнай шыльдачкай, прадаваліся як сувеніры за некалькі марак. Вось так злавесны сімвал эпохі пераўтварыўся ў варты жалю безаблічны сувенір. Немцы пакінулі кавалак гэтай сьцяны на памяць.

Але, вось жа праўда — ніколі не кажы: ніколі. Прайшло яшчэ крыху часу, і зьявілася адчуваньне, што мур гэты вырас ізноў. Ён перанёсься на ўсход, і мы ізноў апынуліся, няхай не за суцэльным і бетонным мурам, але за драцяной загародкай. І зноў жа, ня зь лепшага яе боку.

Але я веру, сапраўды я веру, што і гэтую загародку некалі паваляць, расьпілуюць, прыгожа ўпакуюць і будуць прадаваць на памяць і перасьцярогу. Вось, дзеля гэтага, як піша Фарко, варта падтрымліваць і агонь веры, і жывую праўду.



Яшчэ я згадваю верш Максіма Багдановіча, які сто гадоў таму марыў пра сьвет бязь межаў. Тады, напярэдадні грандыёзных войнаў і вялізнай хвалі нянавісьці адных народаў да другіх — гэта здавалася неверагодным. Але чалавек ня можа ўвесь час жыць нянавісьцю. Ачмурэньне праходзіць, мінае чмута. І нават самыя моцныя муры развальваюцца, а што ўжо там драцяная загародка.



1 чэрвеня 2014

Бабруйск

**Міке** падтрымлівае мяне:

«Дарагі Алесь! Памятай, што твой дух вольны!»

Я пра гэта памятаю, а яшчэ выразьней — адчуваю. Нягледзячы на хвіліны песімізму і розныя дробныя непрыемнасьці, якія сыплюцца на мяне зь ніадкуль, мой вольны дух лунае па-над зонай, і над Бабруйскам, і над бліскучай стужкай Беразіны, і над кляновым лістом Беларусі. А часам ён узьлятае так высока, што можа абхапіць поглядам усю Еўропу. З галавы да ног, ад Осла і да Тунісу, і зьлева направа — ад Лісабону да Баку лётае мой незакілзаны дух. Гэта той зямны прасьцяг, дзе ён адчувае сябе як удома.

Часам я яшчэ лётаю ў сьне. Узьлятаю сама высока, да птушак, вышэй за дрэвы і дамы, але ж ня так высока і далёка, як мой дух, душа, душа — падарожніца, якая зусім ня любіць працаваць, а з задавальненьнем гойсае па-над Еўропай туды-сюды, туды-сюды. І няма для яго ні кратаў, ні межаў, ані лакатары ці радары яго не бяруць, мой дух, ані самалёты-перахопнікі. Ляціць ён метэорам, не пакідаючы за сабой ані сьледу, ані гуку. І здараецца гэта звычайна ўначы, у сьне, калі цела адпускае дух чалавека на волю. І толькі пільнае вока Анёла-ахоўніка з залатым мячом напагатове назірае за ім і аберагае гэты палёт.




*Аўтограф Валерыя Каліноўскага, аўтара кнігі "Справа Бяляцкага", дасланай у калонію А.Бяляцкаму. 2012 г.*

**Ёке** піша:

«Дарагі Алесь! Калі ласка, памятай: ты прайшоў праз 2012-ы год, пройдзеш і праз 2013-ы, і праз іншыя. Я ў гэтым перакананая. Я жадаю табе моцы зрабіць гэта».

Ёке ўжыла добры вобраз: «ісьці праз гады», які дакладна адбівае маё сёньняшняе адчуваньне часу.

Некалі малады юнак ляцеў над гадамі, ледзь дакранаючыся да іх, і падганяючы: хутчэй, хутчэй, бо самае цікавае — наперадзе! Дурны. А зараз ён ідзе, цярэбіцца праз зарасьці эмоцыяў і бураломы духоўных завалаў, часам увальваецца ў багну трывогі, калі-некалі выбіраецца ў сьветлыя бярозавыя гаі захапленьня ды на баравыя ўзгоркі радасьці.

Вось так ідзе-брыдзе ён праз гады, і кожны дзень для яго — падзея.

Не падбіўся яшчэ путнік, не здарожыўся, цягне і кліча яго наканаваная сьцяга, цікава яму — што за гэтым лесам і за тым полем, і за паваротկай ракі. Прыслухоўваецца ён і чуе вясёлы клёкат бусла, а ня клацаньне ножняў у руках бязьлітаснай паркі Атропы. Яшчэ цягнецца ягоная суворая нітка лёсу, і ён шыбуе, крочыць праз гады.

**Бэн** піша:

«Дарагі Алесь! Будзь упэўнены, як мае маленькія сябры Atreyu і Bastian у фільме «Бясконцая гісторыя» аўтара Michael Ende. Праз шматлікія перашкоды яны перамаглі і дасягнулі сваёй мары!»

Я не глядзеў гэтую «Бясконцую гісторыю», але, мабыць, недарэмна Міхаэль Эндэ здымаў яе, калі яна так уразіла Бэна і стала для яго прыкладам, як трэба ісьці па жыцьці. Празь перашкоды — да мэты, празь церні — да зорак!

А вось наш шлях зацягнуўся, і нябачныя яшчэ нашыя зоркі. Ды і ня толькі мы ходзім па колу. Паўднёвыя нашыя суседзі колькі ўжо разоў уздымаюцца на «дыбкі», спрабуюць дабіцца справядлівасьці, а так і не зразумела, куды кіруе іхні шлях, і ці ня зьявіцца замест чарговага забітага дракона іншы.

А як горка прагучалі словы Андрэя Макарэвіча, лідэра легендарнай «Машыны часу», пасьля таго, як двухгаловы драпежны арол адшчыкнуў Крым: *«Няўжо жыцьцё пражытае надарэмна?»* — спытаўся ўголас на ўсю Расію, найперш у самога сябе, рокер Андрэй, які 30 гадоў таму зараджаў нас сваёй энэргіяй:

От, новы паварот,
І матор раве,
Што ён нам нясе —
Прорву або брод,
Роспач або ўзьлёт,
І не разьбярэш,
Пакуль не павярнеш.

А як далёка да маёй мары, адсюль, з турмы? Міжволі згадка Бэнам свайго любімага фільму нагадала мне мультфільм па казцы Аркадзя Гайдара «Мальчыш-Кібальчыш». Некалі ў дзяцінстве я глядзеў яго багата разоў. Як там казаў Мальчыш-Кібальчыш сваім сябрам-дзецям: і бацькі пайшлі, і браты пайшлі ваяваць, нікога не засталося, а зараз нашая чарга прыйшла.

Мы ўжо далёка ня дзеці. Мы на гады і дзесяцігоддзі ўгрузьлі ў гэтай бойцы за Радзіму, і падаюць зьнясіленыя мае сябры. І ўжо наступнае пакаленьне, нашыя дзеці, становяцца поруч і замест нас. Зьзяюць мячы, грыміць і бліскае маланкай Пярун, сьвішча вецер і сячэ дождж. Праз залевы і завалы мы ідзем да нашай мэты. І мы дойдзем, галоўнае, каб яна дачакалася на нас. І скардзіцца нам не выпадае, бо і на поўдні трывожней, і на ўсходзе сумней. Ня можа такога быць, каб мы не выкараскаліся.

**Анаміка** піша:

«Алесь! Раскрый сваё сэрца, і я спадзяюся, ты адчуеш любоў усіх вакол цябе», а Фіэн працягвае: «Аднойчы, я спадзяюся, ты ўбачыш сонца і адчуеш вецер свабоды».

Гэтыя шчырыя, крыху наіўныя і добразычлівыя пажаданьні пабудаваныя на асацыяцыях і сімвалах. Вядома ж, сэрца маё раскрытае на лісты, і я адчуваю ўсе добрыя эмоцыі, якія сыходзяць ад іх. А вось для рэчаіснасьці яно прыхаванае, бо цяпершчына даволі суровая і вымагае паболей стрыманасьці і паменей пачуцьцяў. Таму амаль усе мае эмоцыі і пераліваюцца ў лісты. А частка гасіцца, што, як вядома, нядобра, бо, кажуць, што людзі, якія стрымліваюць эмоцыі ў сабе, меней жывуць. Праўда, і ня маючыя выйсьця эмоцыі можна ашчадна гасіць: праз размову і спрэчкі з самім сабой, праз самааналіз.

Апошнім часам я задумваюся, а наколькі зьмяніўся мой характар за гэтыя ўжо амаль тры гады. Ці ўсё ж стрыманасьць, зачыненасьць, непрысутнасьць накладуць на мяне адбітак, ці ўсё міне, усё сплыве, як дым, пасьля вызваленьня, там, на свабодзе?

Адзін зэк, адсядзеўшы шэсьць гадоў, вызваляўся і разважаў услых — чаму я тут навучыўся, пытаўся ён у самога сябе: быць больш хітрым і спрытным, маніць, не міргнуўшы вокам, выкручвацца і не давацца, каб цябе зьелі. Хіба і ўсё.

Самае важнае, што я імкнуўся захаваць, — гэта сваю індывідуальнасьць, сваё «я». А наколькі гэта атрымаецца, вынікі падводзіць яшчэ ранавата.

Сонца і вецер свабоды я бачу і адчуваю зараз, увесну. Сонца — яно для ўсіх, і для зэкаў таксама. І вецер свабоды завявае сюды. Вось учора, на вячэрняй праверцы, праляцеў над зонай, гучна гагочучы, ладны клін гусей. А сёньня ў вакне казармы я ўбачыў гурму срэбраных на сонцы, важкіх рачных чаек-кірляў. Відаць, яны ляцелі на беразінскія разлівы. А калі ішлі на вячэру, на дратах высакавольтнай лініі сядзелі, як чорныя ноты, і працягла і гучна сьвісьцелі шпакі. Прыляцелі з выраю птушкі і прынесьлі вецер свабоды.





Гэты вобраз выклікае ў мяне і крыху гаркавую ўсьмешку, бо адразу згадваю песьню «Скарпіёнаў» «Вецер зьменаў», якую часьценька круцяць па радыё, якое мы слухаем тут у зоне. У канцы 80-х гэтыя наіўныя, маладыя і кашлатыя балбесы прыехалі ў Маскву, сьцягаліся ў парк Горкага і ўчулі там «вецер зьменаў».

Урэшце, і я ў тыя гады адчуваў яго, так, мабыць, і было. Але мінула 25 гадоў, салодкі вецер свабоды зьмяніўся на сьцюдзёны сівер, і зараз ва ўсіх парках Горкага сьмярдзіць чымсьці іншым, дзе — вайной, а дзе — балотам.

Няўстойлівае надвор'е ў пасьляэсэсэсэраўскіх шыротах, падманлівыя гэтыя вятры зьменаў. Сёньня ёсьць, а заўтра ўжо і няма. Тым ня меньш, мы спадзяемся і верым, і нашая надзея будзе жыць доўга.

3 чэрвеня 2014

**Гарах** піша:

«Дарагі Алесь! Ты сімвал для многіх людзей у сьвеце»,

а **Ханс** удакладняе:

«Алесь, ты выдатны прыклад таксама для людзей з маёй краіны».

З аднаго боку я сам усё жыцьцё з падазронасьцю і недаверам стаўлюся да людзей-сімвалаў, каштую іх, так бы мовіць, на зуб, бо нярэдка так аказвалася, што гэтыя сімвалы былі фальшывыя. Як некалі пісаў Янка Купала: *«Ня веру ідалам паганым...»*, а ў нас гэтымі ідаламі мінулай эпохі пазаастаўлялі ўсе плошчы, а іхнімі прозьвішчамі паназывалі вуліцы. Некалі, на пачатку 90-х, адзін такі недарэчны для Менску сімвал савецкай




*Паштоўка зь серыі паштовак салідарнасьці галандзкага аддзяленьня Amnestyl nternational.*

і рускай літаратуры сацыялістычнага рэалізму, вуліцу імя Максіма Горкага, удалося пераназваць і з маёй дапамогай у сімвал беларускага адраджэньня — Максіма Багдановіча.

Што ж тычыцца непасрэдна мяне, дык, памятаю, як гадоў зь пяць таму ўпіраліся мы супраць крымінальнай адказнасьці за дзейнасьць у незарэгістраваных няўрадавых арганізацыях, і адкрыта, і галосна заявілі, што будзем дзейнічаць як праваабаронцы ў любым выпадку. Калі ў Магілёве я распавядаў пра гэтую нашую грамадзянскую кампанію на абласной асамблеі няўрадавых арганізацый, нехта з адценьнем зайздрасьці пажартаваў: *«Дык гэта ж ты, хто цябе пасадзіць?»*, параўнаў мяне з помнікам, перафразаваўшы вядомую рэпліку з камедыі «Джэнтэльмены ўдачы». Я гэта запомніў, распавядаў, як показку, сьмеючыся, але ж пасадзілі. Як кажуць асьцярожныя людзі: не ўзьлятай высока, ня будзе так балюча падаць.

Але гэты прынцып не для мяне. Галоўнае — ня вонкавы антураж, галоўнае — сэнс таго, чым ты займаесься. Таму, не зважаючы на сімвалізм, я ўвогуле рады, што мая жыцьцёвая пазіцыя, мае ўчынкі і праваабарончая дзейнасьць можа натхніць кагосьці на больш актыўныя дзеяньні ў абарону правоў чалавека, на больш шырокую грамадзкую дзейнасьць, хоць у Галандыі, хоць у нас. Сьвет, кантыненты, краіны зараз усё болей нагадваюць начыньне, сасуды, злучаныя паміж сабой тысячамі трубачак. Гэта і гандаль, і інфармацыя, і культура, і навучаньне, і людзкія кантакты. І як бы хто ні хацеў адгарадзіцца ад сьвету — не атрымаецца. І эканоміка, і грамадзтва будуць падточваць і бурыць сьцены і межы.

Лёс падараваў нам шанец, калі пакуль і ня быць у Эўрапейскім зьвязе, дык, прынамсі, суседзіць зь ЕС. Нашыя спрадвечныя суседзі, народы-саюзьнікі, зь якімі мы 500 гадоў жылі ў адной дзяржаве, літоўцы і палякі, ужо там. Яны вярнуліся ў Эўропу, нягледзячы на жорсткае супраціўленьне ўсходняга заклятага суседа. Прарываюцца туды зараз нашыя паўднёвыя браты — украінцы. І гэта дае вялікае спадзяваньне, што калі-небудзь там апынемся і мы. А праз нейкі час, спадзяюся, паказеліўшыся і паўпіраўшыся, пакінуць свой «адметны» шлях і расіяне. Усё ж такі, і мянтальна, і культурна яны — частка еўрапейскай цывілізацыі, а спроба ажаніць расіянаў з Кітаем вядзе ў нікуды. Хаця і Кітай — гэта нязгублены сьвет. Калі-небудзь і яны абтрусяцца ад хлуду камуністычных ілюзіяў.

Я спадзяюся, што, можа быць, мой «прыклад», маё жыцьцё, мае грамадзкія ідэалы хоць крыху паспрыяюць агульнаму паразуменьню, згодзе, грамадзкаму разьвіцьцю і народнай асьвеце. Можа быць, мой прыклад хоць крыху падмацуе жыцьцёвую пазіцыю ды ідэалы маіх старэйшых сяброў і духоўных настаўнікаў Вацлава Гавэла і Васіля Быкава. Абодва яны прайшлі праз вялікія жыцьцёвыя выпрабаваньні, абодва багата чаго зрабілі для сваіх народаў, для еўрапейскай культуры, абодва мелі выразную грамадзянскую пазіцыю, адстойвалі і змагаліся за дэмакратыю і правы чалавека да апошніх хвілінаў свайго жыцьця.

У сваю чаргу я быў бы рады перадаць частку гэтай станоўчай энэргіі, атрыманай ад іх, некаму іншаму, каб нехта іншы таксама нёс гэты ахвярны агонь далей. У гэтым, мабыць, самае істотнае апраўданьне майго жыцьця.

---

**Маргрэт** піша:

«Дарагі Алесь! Я распавядаю маім дзецям пра правы чалавека. Я спадзяюся, што мае дзеці будуць памятаць: правы чалавека зьяўляюцца найважнейшымі правамі. Прывітаньне ад галандзкай маці».

Чатыры кароткія сказы, але якія яны цікавыя для мяне! Маргрэт закранула вельмі глыбокую і аб'ёмную тэму. Наколькі гэта важна — выхоўваць дзяцей з разуменьнем сваіх правоў і правоў іншых людзей. Бо ў асноўным чалавека фармуюць бацькі і школа. Першапачатковыя ўяўленьні і разуменьне міжнацыянальных стасункаў, стаўленьне да дзяцей зь іншым колерам скуры, разьвіцьцё спачуваньня да іншых, жаданьня дапамагчы тым, хто мае патрэбу — усё гэта можна і трэба разьвіваць у дзяцей змалку.

Згадваю, у зьвязку з гэтым лістом, дзьве падзеі, якія першымі ўсплылі ў маёй галаве. Але яшчэ перад гэтым з удзячнасьцю думаю пра Маргрэт, якая не выказвала спачуваньне, не падтрымлівала наўпрост, а толькі па-

ведаміла, што яна сама робіць, і робіць, як на маю думку, найважнейшае, што могуць рабіць маткі. Яе ліст — сігнал для мяне, што я сапраўды не адзін, і нашыя справы — ня марныя. Я адчуў тое, што яна хацела перадаць мне праз гэты кароткі ліст, у якім галоўныя асобы — ні я, ні Маргрэт, а яе дзеці.

Вось жа мае гісторыі. Некалі гадоў зь пяць таму запрасілі мяне калегі з Нарвегіі да сябе, у Осла, на канферэнцыю. Канферэнцыя была цікавая тым, што там я пазнаёміўся зь легендарным савецкім дысідэнтам Уладзімірам Букоўскім. Старэйшыя людзі, можа, памятаюць гэтую прыпеўку:

Абмянялі хулігана
На Луіса Карвалана.
Дзе б знайсьці такую б…,
Каб на Лёньку абмяняць.

Лёнька ў ёй — гэта кіраўнік камуністычнай партыі і СССР — Леанід Брэжнеў, Луіс Карвалан — кіраўнік чылійскай кампартыі, якога Пiначэт пасадзіў у турму, а «хуліган», якога ўрэшце сапраўды абмянялі на Карвалана, і быў гэты самы Ўладзімір Букоўскі.

Але я не пра яго. На гэтую канферэнцыю прыпаў Дзень Незалежнасьці Нарвегіі, дзяржаўнае сьвята. На пачатку дваццатага стагоддзя шведы, якім належыла Нарвегія, пасьля дэбатаў пачынаць ці не вайну зь «сепаратыстамі», адпусьцілі нарвежцаў зь мірам.

За сваё жыцьцё я бачыў і вайсковыя парады, і сам пад прымусам хадзіў некалі і ў вучнёўскай, і ў студэнцкай калоне, з гвалтам усучанымі нам транспарантамі. Адразу пасьля такіх парадаў мы скідвалі гэтыя сьцягі-транспаранты нашай старасьце і ўцякалі, не зважаючы на яе жаласьлівыя енкі. А затым сам багата разоў і арганізоўваў, і ўдзельнічаў у незалежных дэмакратычных акцыях: пікетах, дэманстрацыях, мітынгах. Бачыў я, як у апошнія гады саветызуюцца афіцыйныя сьвяты, але былі ў іх і свае «разынкі», накшталт «пацешнай роты» ці калоны з камбайнаў, машынаў і трактароў.

Тое, што на Дзень Незалежнасьці я ўбачыў у Осла, не было ні на што падобнае і моцна ўразіла мяне. Тысячы нарвежцаў, апранутыя ў нацыянальныя строі, выйшлі на вуліцы. Строі былі разнастайныя, па рэгіёнах, і дзеці, і моладзь, і старэйшыя людзі — усе былі апранутыя ў сьвяточнае адзеньне. І гэта было так прыгожа! Жанчыны



ў капялюшыках і хустках, у расшытых гарсэтах і доўгіх сукнях ці андараках, у чаравічках, упрыгожаныя падвескамі, ніткамі караляў і жомчугу, з ажурнымі плеценымі паясамі зь металічнымі бляшкамі. Мужчыны ў шырокаполых капелюшах, у сурдутах, у панталонах ці скураных кароткіх нагавіцах і высокіх гетрах-панчохах, у скураных ботах ці чаравіках. Сваю нацыяльную годнасьць нарвежцы выказвалі праз народны строй.

Сотні і тысячы раптам пераўвасобленых людзей стаялі абапал вуліц і бэзавых прысадаў, якія вялі да каралеўскага палацу.

І вось пачаўся парад, які ўразіў мяне ня меней, бо ў ім бралі ўдзел толькі дзеці! Яны таксама былі апранутыя ў сьвяточныя строі і выступалі калонамі. Паперадзе з жэзлам ішоў ці не дырэктар, які энэргічна, пад гукі музыкі, махаў ім угору-ўдол. За ім ішлі настаўнікі з школьнай адметнай харугвай, затым школьны духавы аркестар. Потым — старэйшыя класы, сярэднія класы, а ў канцы цягнуліся зусім маленькія, пад доглядам настаўніц, шасьцігодкі. Яны, каб не пагубляліся, шэрагамі трымаліся за аборачкі. Здаецца, што яны нават былі зьвязаныя імі.

Публіка весела вітала дзяцей, падбадзёрвала іх выгукамі і пляскаsucceed. Аркестранты стараліся з усяе моцы, аркестры гралі адзін за другім, гулі і зьвінелі трубы, дзяўчын-

*Збор подпісаў у падтрымку палітычных вязьняў у г.Эшвеге, Германія:*

*«Паважаны Алесь Бяляцкі! Цягам некалькіх дзён мы ладзім у нашым горадзе музычны фэст, і мы б хацелі, каб вы былі разам з намі! У старажытныя часы вязьняў трымалі ў старой вежы, якую вы можаце пабачыць на далучаным фота. Верагодна, яны, як і вы цяпер, прагнулі волі. Найлепшыя вітаньні з Эшвеге».*


Dear Ales Bialiatski,
We are celebrating a music festival for several days in our town, and we should like to have you with us!
In ancient times, prisoners were kept in our old tower which you see on the attached picture. They probably yearned for freedom as you do now.
Best regards from Eschwege,

кі грукалі ў барабаны, дзеці выгуквалі час ад часу нейкія вершыкі, лёзунгі. Усе шукалі вачыма знамых і весела перамахваліся, калі знаходзілі. Гэты дзіцячы парад праходзіў без аніякага пафасу і апломбу, неяк па-людзку і для душы. І — аніводнага ўзброенага вайскоўца! Дзеці ішлі да каралеўскага палаца, квітнелі бэзавыя кусты абапал шляху, на гаўбцы іх вітала каралеўская сям’я. Вось такі міралюбны дзіцячы парад у Дзень Незалежнасьці. І мне стала зайздросна. Нам, беларусам, ня грэх павучыцца ў нарвежцаў шанаваць і сваю культуру, і сваю незалежнасьць, і выхоўваць дзяцей у духу міралюбнасьці і ўзаемапавагі.

Другі ж выпадак адбыўся са мной, калі мне было гадоў пяць. Гэта былі шасьцідзясятыя гады. Мой старэйшы брат аднойчы прыйшоў са школы і сказаў, што ўсім дзецям загадалі прынесьці па 25 капеек. На гэтыя грошы купяць драўляны пенал, драўляную асадку, некалькі сталёвых пёраў, аловак і гумку. І гэтыя падарункі яны будуць дасылаць дзецям ва Ўетнам. Тады там ішла вайна, поўдзень ваяваў з поўначчу, адным дапамагалі саветы, іншым — амерыканцы.

Маці ўдома ўзьняла гучны крык, выказваючы найперш бацьку і сабе самой, што яна думае пра гэтую ўладу, якая трымае людзей ледзь не ў хлявах, а само жыве ва ўтульных кватэрах, ды яшчэ выманьвае празь дзяцей зробленыя цяжкай працай капейкі. Мы сапраўды жылі тады ў самаробнай хаціне-ўрамянцы, зьбітай з дошак, пакрытай толем, бацькі працавалі на хімзаводзе, і мы чакалі ўжо некалькі гадоў у чарзе на кватэру. Маці, памятаю, таксама сумнявалася і падазравала, што гэтыя грошы ня дойдуць да бедных уетнамскіх дзяцей, а «дабраахвотную» дапамогу начальства прап’е.

Урэшце, выказаўшыся, грошы брату яна дала. Падчас гэтых сямейных дэбатаў мне стала неяк вельмі і вельмі шкода гэтых нябачаных мной дзяцей з Уетнаму, якія былі такімі беднымі, што ня мелі нават алоўка і пеналу. У параўнаньні зь імі я быў багатым, бо меў цэлы пук каляровых алоўкаў і малякаў імі ў тонкіх альбомах для маляваньня колькі хацеў.

Гэта было несправядліва. І я дастаў з скрыначкі з-пад запалак манету ў тры капейкі, якую я знайшоў, круцячы ў вядры з дробнай варанай бульбай, пасыпанай мукой, секачом. Бульбу я сёк для нашай сьвінкі, і выкруціў гэтыя тры капейкі, якія немаведама як патрапілі ў чыгун. Вось жа, я аддаў гэты латунны траячок, усе мае грошы, брату «на пенал», і быў моцна задаволены і горды. Гэта ж я дапамагаю нейкаму далёкаму ўетнамскаму хлопчыку.

Можа быць, маці, якая лепей за мяне ведала жыцьцё, і мела рацыю, але я не шкадую і зараз, што аддаў свае тры капейкі, за якія можна было папіць газіроўкі зь сіропам. Тады я адчуў упершыню і запомніў на ўсё жыцьцё гэтае высокае пачуцьцё, што ты можаш камусьці дапамагчы, таму, хто болей за цябе знаходзіцца ў патрэбе.



5 чэрвеня 2014

---

**Хелен** піша:

«Дарагі Алесь! Я запалю сьвечку для цябе, каб ты меў спадзяваньне, што тваё жыцьцё будзе сьвятлейшым». Наталі працягвае: «Алесь! Я прашу анёлаў ахоўваць цябе, даць твайму сэрцу спадзеў і веру ў лепшую будучыню».

У гэтых лаканічных лістах ёсьць вера ў тое, што калі моцна пра штосьці падумаць, ці зрабіць нейкае сімвалічнае дзеяньне і загадаць жаданьне, дык тады яно збудзецца. Гэта добрая і сьвятая вера.

Доўгі час, на працягу многіх гадоў, час ад часу я задаю сабе пытаньне: а ці маюць такія нябачныя інтэнцыі-просьбы станоўчы эфект? Ці сапраўды набліжаюць яны нашыя выказаныя жаданьні да мэты? І што атрымліваецца, калі складаюцца разам, у адно, багата такіх просьбаў і сімвалічных дзеяньняў, ці ўзмацняецца іхняя энэргія, ці гэта толькі нашая ўява? Ёсьць шмат прыкладаў, якія сьцвярджаюць: так. Духоўная энэргія існуе, і яна ўплывае на ходу падзеяў. Але існуе і ня меньш выпадкаў, якія кажуць: усё дарэмна. Хоць загадвай, хоць задумвай, хоць трэсьні, усё роўна ўсе твае думкі застануцца з табой.

Сам я адношуся да першых людзей. Я ў думках прашу і спадзяюся, што мае просьбы ўрэшце спраўдзяцца. І вось што бясспрэчна, чалавеку, які ўчыняе такое дзеяньне: ці моліцца за кагосьці, ці просіць пра нешта Ўся-

вышняга, засяроджваецца, канцэнтруе, зьбірае ў адно свае думкі і помыслы, пасылаючы іх у сьвет, становіцца лягчэй і лепей. Бо найперш для самога сябе ты прасьвятляеш сваю думку, складаеш яе проста і зразумела, каб выказаць яе. І гэта ўжо нямала, бо багата нашых думак — смутныя, расплывістыя, несфармаваныя, без пачатку і канца. У той час як паставу, разуменьне, дзеяньне чалавека, вызначаюць як раз сфармуляваныя, зразумелыя для сябе, прагавораныя перакананьні і думкі. Таму зварот, просьба ў думках, малітва важныя найперш для самога чалавека, які зьдзяйсьняе такую ўнутраную духоўную працу.

Ці будзе калі вынайдзены такі «электронны калайдэр», які здолее злавіць промнік духоўнай энэргіі? Духоўная, інтэлектуальная праца — гэта, мабыць, самая яркая рыса, якая адрозьнівае чалавека ад жывёльнага сьвету.

Апроч усяго, чалавек, які просіць, перажывае за іншага, сам становіцца лепшым. Чалавек, які дбае ня толькі пра сябе самога, духоўна і душэўна багацейшы. Ён — чалавечнейшы. Чалавечны чалавек, бесчалавечны чалавек, недачалавек, як у Алеся Адамовіча, нелюдзь, ці звышчалавек. Алесь Адамовіч, выдатнейшы беларускі пісьменьнік і мысьляр, у сваіх творах спрабаваў разабрацца ў гэтых панятках, бо ў сваім рэальным жыцьці ён бачыў і такіх і сякіх. Ягоныя дасьледваньні і высновы спадабаліся далёка ня ўсім.

Разважаючы пра духоўную энэргію, веручы ў яе існаваньне, мяркуеш, што ўсе нашыя просьбы, малітвы, жаданьні не губляюцца, яны дзесьці існуюць. І з гэтых прычынаў, калі гэта так, яны ўжо нямарныя і недарэмныя. Трэба, трэба прасіць за іншых, тады яно вернецца, і штосьці дасца і табе. Нашае жыцьцё, нашая будучыня і залежыць, і не залежыць ад нас. Вось у гэтым спалучэньні нечаканага і прадвызначанага і ёсьць самы цымус людзкога жыцьця.

---

**Анкэ-Флёрыя** піша:

«Алесь, думай пра птушак, пра усьмешку і дождж, і ўсе гэтыя дробныя моманты зробяць тваё жыцьцё лепшым. Ты не забыты!»

Ёост разьвівае гэтую думку: *«Дарагі Алесь! Надышоў Новы год. Кожны год прыходзіць новая вясна, распускаюцца кветкі, наступае новае лета. Кожны новы ўсход сонца прыносіць новы дзень, а новы дзень дае новую надзею. Усё*



*мяняецца і ніколі не спыняецца. Я спадзяюся, ты хутка будзеш вольны»*. І Эрыка ўторыць Анкэ-Флёрыі: *«Дарагі Алесь! Я жыву ў Галандыі, у нас была цёплая зіма. Некаторыя кветкі ўжо вылезьлі зь зямлі. Я люблю кветкі, і калі яны пачнуць квітнець, я буду думаць пра цябе»*.

Яны, мае падтрымальнікі, зьвяртаюць увагу на зьявы прыроды, на навакольную прыгажосьць і прапануюць мне рабіць тое ж самае. І я ўжо ў суполцы аматараў прыроднай прыгажосьці. Па-праўдзе, я апынуўся там даўно, яшчэ ў школьныя гады, калі езьдзіў з бацькам на матацыкле ў грыбы, і пазьней, у старэйшых класах, калі кожнае лета бавіў вакацыі ў вёсцы ў бабулі, і сыходзіў, бывала, на ўвесь дзень у бясконцыя нараўлянскія лясы, гэта на мяжы з Украінай, і ішоў да абеду наўздагад, куды вочы глядзяць, захмялелы ад лясного водару, а пасьля абеду ўжо шукаў, выглядаў дарогу дадому. Бывала, што заходзіў і ва Ўкраіну, а кашэль грыбоў, браў толькі белыя і лісічкі, назьбіраўся сам па сабе.

Перачытаўшы тут, на зоне, «Запіскі паляўнічага» Івана Тургенева, я зразумеў, што маю такія самыя пяшчотныя пачуцьці да прыроды, як і пісьменьнік, толькі паляваньне маё было ціхае.

Лес, поле, поплаў, балацянка, рэчка, возера — там адпачывае душа беларуса. Там у ім праяўляюцца найлепшыя пачуцьці і найлагодныя рысы характару, там ён становіцца самім сабой. І я — не выключэньне.

Тут жа прырода, каляндарны бег маюць асаблівую вагу. І хоць уласна прырода, здаецца, далёка, недзе там за плотам, але ты міжволі набліжаесься да яе і сквапна ловіш асобныя праявы яе, як быццам бы жывеш зь зямлі.

З календаром зьвязаны твой тэрмін — колькі ўжо мінула, і колькі яшчэ засталося. У размовах зэкаў час ляціць імгненна. Калі застаецца два гады, кажуць: *«Колькі там засталося, усяго нічога, зіма-лета, і зноў зіма-лета — і ты*




Паштоўка з Галандыі, на якой наклеена сьпецыяльна вырабленая марка зь серыі марак з выявамі палітычных зьняволеных.

*на волі*». Але гэта толькі на словах. Насамрэч, час у зоне цягнецца, як густы мёд, ён запавольваецца, як у тэорыі Энштэйна. Праца на прамзоне, нейкія заняткі — спорт, кнігі, тэлевізар, сон, прысьпешваюць яго. Таму некаторыя гатовы працаваць хоць дзень-ноч, бо праца хутка зьядае час. А мне шкода майго часу. І нават тут мне яго не хапае, я даражу ім.

Ад надвор'я залежаць і ўмовы твайго жыцьця, яго ўтульнасьць і камфортнасьць, такія рэчы, на якія на свабодзе зьвяртаеш, звычайна, значна менш увагі. І тут можна пачуць розныя думкі. Камусьці падабаецца холад і зіма, мне ж, як і большасьці — цёплая пара году. Менавіта ў гэтую пару, ад сярэдзіны сакавіка да лістападу, зьвяртаеш асаблівую ўвагу і на тое, як усходзіць і заходзіць сонца, і на розныя квадры месяца, і на хмары, і на дождж.

Тут я ўпершыню прыкмеціў, што маладзік выгнуты ўправа, а ветах — улева. Што дыск поўні большы за дыск сонца. І для мяне стала ясным і зразумелым, чаму нашыя продкі час вылічалі па поўні — так было значна прасьцей.

Тут вырошчаюць багата разнастайных кветак, якія пачынаюць квітнець ад раньняй вясны, тульпаны, нарцысы, і да позьняй восені — дробныя астры. Тут растуць карчы ружаў, шыпшына, язьмін, дэкаратыўныя кусты жываплоту і бэз. І нават ёсьць некалькі бярозаў, клёнаў, ліпаў, сасна і вішня.

Кветкі радуюць маё вока, і ў мяне час ад часу ўзьнікае жаданьне па выйсьці насадзіць іх у вёсцы як мага болей. І мне прыемна, што гэтая мара — адна са зьдзяйсьняльных.

З дрэваў вельмі падабаецца мне старая вішня, якая расьце ў лакалцы суседняга атраду. Яна высокая і разгалістая, улетку ўсыпаная чырвонымі, рубінавымі ягадамі, якія ядуць у асноўным птушкі.

Птушкі тут амаль гаспадары. Круглы год зьвініць у зоне птушынае каралеўства. Сапраўдны птушыны рай. Ужываюцца паміж сабой і галкі, і вераб'і, і вароны, і галубы. Зрэдку прылятае пастракатаць асьцярожная сарока, у сакавіку зьяўляюцца гаспадарлівыя шпакі, якія ходзяць па нейтральнай паласе, шукаюць у праграбленай зямлі чарвякоў і кузурак. У траўні прылятаюць няўтомныя ластаўкі, іхнія гнёзды — пад рэбрамі даху ў вялікім і высокім цаху. Пазьней зьяўляюцца сварлівыя «гумовакрылыя», як іх назваў паэт Адам Глобус, стрыжы. Яны селяцца пад бляшанымі падваконьнікамі на другім, трэцім, чацвертым паверхах казармы, выкідаючы адтуль адчайна галосячых вераб'ёў. Цэлымі днямі, як чорныя імклівыя карсары, матляюцца яны парамі над зонай.



Увесну пралятаюць над нашымі галовамі чароды гусей, рачныя чайкі, срэбныя ў промнях сонца, а сёньня, калі я пішу гэтыя радкі, зусім нізка-нізка, гагочучы, цяжка праплыла ў небе лебядзіная пара. Недзе побач, за пусташшу і новымі дамамі цячэ Беразіна, і яны, відаць, ляцяць на веснавыя рачныя разлівы.

З жамяры запамінальныя травеньскія мошкі. Гэтая дробная, нячутная, але кусучая заезьдзь пануе ў паветры тры-чатыры тыдні, а потым зьнікае да наступнага году. Цікава, што на нараўляншчыне, дзе іх удосталь, там іх называюць — «маскалікі». У траўні вечаровае паветра бзынькае ад хрушчоў, залятаюць яны і на швейку ў расчыненыя вокны, прываблены сьвятлом ад яркіх люмінісцэнтных лямпаў. Увечары ў цаху зьвіняць швейныя машынкі, ярка зьзяюць лямпы, бялеюць пластыкам столь і адзін доўгі прадольны стол, і лётаюць над намі хрушчы.

У жніўні, на сьвятло ліхтароў на двары зьлятаюцца дзіўныя багамолы, падобныя на вузкія зялёныя лісткі акацыяў, але пры больш пільным разглядзе, дасканалыя пачвары, машыны зьнішчэньня з фантастычных сноў. І характар у іх — ня мёд. Багамолы ў Беларусі зьявіліся нядаўна, прыляцелі — распаўзьліся з поўдня, з Украіны, вынік пацяпленьня клімату. Іх ловяць, садзяць у атрадах на кветкі, кормяць мухамі, часам страўліваюць, і тады яны метадычна і без усялякіх пачуцьцяў ядуць адзін другога. Кажуць, што самка заўсёды зьядае самца, такі іхні сумны канец за інстынкт размнажэньня.



У секцыях, дзе мы жывем, растуць хатнія кветкі, і некаторыя аматары кветак багата часу аддаюць догляду за сваімі зялёнымі сябрамі, абразаюць іх, падгадоўваць, выносяць на сонца, абпырскваюць, рыхляць зямлю.

Па прамзоне бегае некалькі незалежных кошак.



27/22

БЕЛТЭЛЕКАМ

БЕЛАРУСЬ 240912 17 БАБРУЙСК 27 МАГ. ВОБЛ. 6

--------ТЕЛЕГРАММА--------

МИНСК 50/519234 277 2
/9 1605=

БОБРУЙСК МОГИЛЕВСКОЙ СИКОРСКОГО 1 ИК-2 ОТРЯД 14 БЯЛЯЦКАМУ АЛЕСЮ
ВІКТАРАВІЧУ=

РЫМЦЕЛ
АЛЕСЮ БЯЛЯЦКАМУ
КАЛІ СЛУХАИЬ І СЛУХАЦЬ
ЯК ВЫЮЦЬ ЗА КРАТАМІ ВЕЦЕР СА СНЕГАМ
ЯК У ФОРТЦЫ ЗВІНІЦЬ І ЗВІНІЦЬ ЗЛЕДЗЯНЕЛАЕ ШКЛО
МОЖНА УСПОМНІЦЬ ВАРАГАУ З ХАЗАРАМІ І ПЕЧАНЕГАУ
ШМАТ ЧАГО ШТО МІНУЛА НІБЫ НЕ БЫЛО
МОЖНА УСПОМНІЦЬ АФІНЫ І РЫМ І ПАДУМАЦЬ ПРА РЫМЛЯНАК
ПРА ГЕТЭР-НЕ ХАПАЕ ЗА КРАТАМІ РЫМСКІХ ГЕТЭР
АЛЕ УСПОМНІУСЯ МНЕ ВОУК У ЛЕСЕ ЗІМОВЫМ ПАД РЫМЦЕЛЯМІ
ЯК УНЮХАУШЫ ПАХ ЧАЛАВЕЧЫ АШЧЭРЫУСЯ ЗВЕР
НЕ ТАМУ ШТО ГАЛОДНЫ Я БАЧЫУ ПА БРУХА НАЕТЫ
ЕН ДА ЛОГВІШЧА ЙШОУ І НЕ БЫУ Я Ў ПАТРЭБУ ЯМУ
АЛЕ ПАХ ЯКІ ВЫЧУУ ЕН БЫУ НЕ З ВАУЧЫНАГА СВЕТУ
ЗВЕР УЧУЯУ ТУРМУ МОЖНА УСПОМНІЦЬ КАЛІ ЗАЗВІНІЦЬ КАПЯЖАМІ АДЛІГА
І ЗА КРАТАМІ ЦЕНЬКНЕ ВЯСНОВА НАРАНІЦЫ ПТАХ
ЯК АШ
ЗРВАУСЯ СВЕТ НА ХРЫСТА І НА МАРЦІНА ЛЮТЕРА КІНГА
НА ЛЮБОГА І КОЖНАГА ХТО ЧАЛАВЕЧЫНАЙ ПАХ
МОЖНА УСПОМНІЦЬ АЛЕ У ВАУЧЫНЫХ ВАЧАХ НЕ ПРА ТОЕ
СКРОЗЬ ПРАПАХЛА ЗЯМЛЯ ПОТАМ СПЕРМАЙ МАЧОЮ КРЫВЕЮ
АД АФІНАУ І РЫМА І ДА КАЛЫМЫ
ДЫ НІШТО І НІХТО У ГЭТЫМ СВЕЦЕ НЕ ПАХ Е ТУРМОЮ
ТОЛЬКІ МЫ-

НННН 01482329 24.09.2012 16.32

*Тэлеграма зь вершам, дасланым Уладзімірам Някляевым з прысьвячэньнем А.Бяляцкаму з нагоды 50-годдзя.*

Усе гэтыя расьліны, дрэвы, жывёлы, птушкі, жамяра і нават вужыкі, якія часам запаўзаюць на асфальт «узьлёткі» ці бетон «лакалкі» зь нейтральнай паласы, усе яны ўпрыгожваюць і весяляць нашае аднастайнае жыцьцё. Сонца і месяц, зоркі і вецер — сьвецяць нам і абвяваюць нас. Я адчуваю праз іх, праз поры году, рытм сусьвету і дзіўны смак існаваньня. Аддаліўшыся ад прыроды, я наблізіўся да яе.



6 чэрвеня 2014

Працягваю мінулы ліст, бо хачу напісаць пра адную птушку. Зьяўленьне гэтай птушкі можна было ўбачыць ці адчуць па тым, як вераб'і, якія ад самага ранку і да цемры весела трашчалі каля сушылкі і лёталі, як кулі, паміж зэкаў, якія стаялі, палілі каля сьметніц ці праходжваліся ў «лакалцы», раптам замаўкалі і забіваліся пад страху сушылкі. Наступала нязвыклая цішыня, а ў небе праносіўся хуткі крылаты цень.

Затым мы ўбачылі яе на даху казармы, яна сядзела на жалезным прэнцы, які тырчаў з краю даху мо на метр у вышыню. Аб гэты прэнт за пару месяцаў перад гэтым разьбілася галка. Ляцела іх цэлая чародка, і вось адна ня ўгледзела прэнт, не пасьпела віхлянуць і ляснулася ў прэнт, а потым шмякнулася, аглушаная, на асфальт «узьлёткі». У нас была праверка, і мы ўсе стаялі і глядзелі на гэтую недарэчную галчыну пагібель. Праз некалькі хвілінаў падышоў чалавек, які ўбіраў «узьлётку», паварушыў цельца галкі дзеркачом — не, яна разьбілася.

Але я пішу пра іншую птушку. Аднойчы яна сплянавала з аблюбаванага ёй прэнту і заляцела ў сушылку. Сушылка стаіць у канцы «лакалкі», альтанка з цэглы, прыбудаваная да казармы, у якой мы сушым выпраную вопратку і бялізну.

Ізноў была праверка. Я стаяў непадалёк, меў магчымасьць і зрабіў пару крокаў наперад, каб паглядзець на гэтую птушку. На бетонным доле сядзела драпежная істота з шэра-брунатным пер'ем, з дзьвюма, здаецца, сьветлымі палосамі, якія пераходзілі зь пяра на пяро. У яе была маленькая, як у зьмяі, галава з загнутай дзюбай. Коршак, а гэта, мабыць, быў ён, быў памерам зь невялікага пеўня, толькі склад ягонага сухога цела, загнутая вострая дзюба, моцныя ногі з кіпцюрамі на іх — усё было іншае.

Ён палахліва шугануў па сушылцы з кута ў кут, растапырваючы вялікія крылы, мабыць, заманілі яго сюды вераб'і, і заўзятасьць драпежніка перадолела асьцярогу і страх перад людзьмі. І шухнуў ён крыламі, пусьціўшы хвалю паветра, і паляцеў.

А праз некалькі дзён зьявіўся гэты коршак у зонаўскай сталоўцы. Ядальня — вялізная стадола, у якой могуць есьці адначасова мо з тысячу чалавек. Яна складзеная зь бетонных плітаў і арак — сьцены і паўвыгнуты з рабрынамі ланжэронаў дах. Радамі стаяць сталы, абапал якіх — лаўкі. За імі мы і «вкушаем райскую пішчу».

У вялікія дзьверы-брамы заходзяць і выходзяць па чарзе атрады, а разам зь імі на зіму туды наляцела вераб'ёў. Яны таксама жывуць не бязладна. У кожнай чародкі — свая тэрыторыя. Вось і тут весела пырхала стайка сталоўскіх вераб'ёў.

Ім тут цёпла і ўежна. Яны скачуць па сталах, пералятаюць невялікімі групкамі з аднаго на другі, дзяўбуць і каштуюць астаткі ежы, пакрышаны хлеб, раскіданую вараную бульбу, шматкі пюрэ і ахлёпкі кашы. Вадкае пюрэ і каша смакуе ім яшчэ болей за хлеб.

Зэкаў вераб'і ня надта баяцца, але яны заўсёды насьцярожана і хутка пырхаюць угору, калі да іх набліжаюцца нарыхтоўшчыкі, ці падыходзіць брыгада ці атрад. Вераб'інае цвырканьне, шуршаньне і мітусьня — гэта

неад’емная музыка нашых абедаў. Малыя зьвяглівыя камячкі сядзяць і на дратах электраправодкі, і ў ямкахсотах бетоннага перакрыцьця-столі, і на трубах ацяпленьня. Ядальня вялікая, і вераб’іная чарада немалая.

І вось, мабыць, у пагоні за адным зь іх з вуліцы ў сталоўку і заляцеў ужо знаёмы мне коршак. І зьявіўся ён, як, мабыць, жахлівая ява кароткіх птушыных сноў, як божы біч упаў ён на сталовае вераб’інае племя.

У наступныя дні, прыходзячы на ежу, мы назіралі, як коршак, распусьціўшы паўмятровыя крылы, бясшумна пралятаў пад стольлю, і вераб’і пырскалі ад яго ў розныя бакі, хаваліся ў шчыліны, залятаалі пад ногі зэкаў, пад сталы. Але прыгожы коршак быў бязьлітасным і дакладным. Амаль кожны ягоны палёт з канца ў канец ядальні сканчаўся адчаяным піскам нясчаснай ахвяры, якая замаўкала ў ягоных сталёвых кіпцях. Часта гэтае пабіваньне, якое і паляваньнем нельга назваць, адбывалася на нашых вачах.

Вераб’іны гоман неўзабаве сьціх. У залі ядальні панавала ледзяная цішыня. Але выляцець зь ядальні навонкі, уцякчы ад гэтага жаху ў жывых яшчэ вераб’ёў не хапала ні розуму, ані інстынкту. Дабрадзейная ўтульная дзялянка жыцьцёвай прасторы ў сталоўцы, замацаваная за іхнім племем, пераўтварылася для іх у наканаваную пастку.

Злавіўшы верабейку і, здаецца, яшчэ не дачакаўшыся, пакуль той сьціхне ў ягонай лапе, важны і ганарлівы коршак сядаў у адным з кутоў пад стольлю на трубу і пачынаў дзюбаю абшчыпваць маленькае вераб’інае цельца. Пер’е і пух сыпаліся на дол.

У іншым куце сыты коршак складаў упаляваных вераб’ёў на жалезную бэльку, грудком, на запас.

Мінула некалькі дзён, вераб’ёў станавілася ўсё меней. Раней яны маглі лёгка крапнуць на цябе падчас абеду, сьняданку ці вячэры, як мы сьмяяліся — прыкмета на грошы, дык зараз ужо і не было каму крапаць. Зь дзірак і шчылінаў рэдка дзе тырчалі напалоханыя вераб’іныя дзюбы.

Аднойчы, калі мы чорнай калонай заходзілі ў ядальню, прыбіральшчыкі зь сёмага атраду, якія глядзелі за парадкам і чысьцінёй у сталовай, выносілі коршака, і бясьсільна зьвісалі ягоныя разгорнутыя веерам крылы. *«Што зрабілася?»* — спытаўся нехта зь зьняволеных. *«Забіўся, — адказаў прыбіральшчык, — кінуўся за вераб’ём, які сядзеў па другі бок шыбы, з вуліцы, ударыўся і здох, мабыць, ад перапуду».*



8 чэрвеня 2014

**Вера** піша:

«Сёньня ў Галандыі сьнег. Мы шчасьлівыя, бо мы можам катацца на лыжах. Вы зь Беларусі, мы мала ведаем пра Вашую краіну. Я ведаю, Вы прыкладаеце шмат намаганьняў, каб зрабіць гэтае месца лепшым для жыцьця людзей».

У лісьце Веры дзьве важныя думкі. Першае — гэта тое, што ў Галандыі мала ведаюць пра Беларусь. Але і ў Беларусі небагата ведаюць пра Галандыю. Шкада, бо нашыя краіны багата ў чым падобныя. Сувымерная колькасьць жыхароў Беларусі і Галандыі. У нас — каля 10-ці мільёнаў, у іх болей за 15 мільёнаў. У іх зямля — балоты і нізіны, у нас — таксама Палеская нізіна на трэць краіны. У іх мяжа зь вялікім нямецкамоўным сьветам, і ў нас зь яшчэ большым рускамоўным.

Беларусам ёсьць чаму павучыцца ў галандцаў. У Галандыі адна зь лепшых у сьвеце эканомік, высокі ўзровень жыцьця, узорныя стандарты правоў чалавека. Галандцы разьвіваюць сваю культуру, мову, у іх няма комплекса непаўнавартасьці, прысутнага некаторым невялікім народам. Яны ня енчаць, што ў іх няма карысных выкапняў, нафты і газу. Галандцы блісkуча даказваюць, як адносна невялікі народ, сярэдні, скажам так, па сусьветных мерках, можа выдатна існаваць дзякуючы розуму, узаемапавазе, дзелавітасьці і прадпрымальніцтву.

*«Дарагі Алесь! Мы ўжо даўно сочым за вашай справай, і мы заўжды побач з вамі. Вы ў нашых думках. Прыміце нашу падтрымку. Не здавайцеся!» Азопа, Італія.*

**Ales Bialiatsky**
213807, Magiliouskaya vobl.
g. Babruisk,
vul. Sikorskaga 1
I.K No. 2, atrya No. 14
(Bielorussia)

Osoppo (UD) – Italy
August 2013



Dear Alex,
we have been following your story for a long time and we are close to you.
You are in our thoughts. Receive our encouragement. Do not surrender!

Caro Ales,
da tempo seguiamo la tua vicenda e ti siamo vicini. Da tutti noi un pensiero affettuoso ed un incoraggiamento. Tieni duro!

Я кепска ведаю пра ранейшыя, гістарычныя сувязі паміж Галандыяй і Беларусьсю, Вялікім Княствам Літоўскім, адзінае, што бачыў на свае вочы, дык гэта срэбраныя талеры 17-га стагоддзя, бітыя ў Галандыі, якія хадзілі ў нас, у нашай фінансавай сістэме.

Для таго, каб мы лепей ведалі адзін аднаго, а наш, беларускі, інтарэс у гэтым спазнаньні, відавочна, большы, нам неабходна быць у адным геапалітычным і культурным кантэксьце, так як гэта было раней. Беларусам трэба вызначыцца - зь кім яны, з Усходам ці з Захадам, з развітай тэхналагічна эканомікай Захаду ці з сыравінна залежнай Расіяй, зь месіянствам і выключнасьцю ва ўласнай сьвядомасьці нашых усходніх суседзяў ці з мультыкультурным сьветам раўнапраўных народаў Захаду.

Нам трэба ясна адказаць самім сабе: мы зь Еўропай ці з Азіяй? Ці хочам мы захавацца як асобны славянскі народ, ці асіміляваўцца, зьліцца зь вялікім расійскім братам?

*Віншавальная калядная тэлеграма ад пісьменьніка Уладзіміра Арлова.*



БЕЛТЭЛЕКАМ

ТЕЛЕГРАММА

МИНСК 252620/02036 38 23/12 1846=

ЛЮКС МАГІЛЕУСКАЙ БАБРУЙСК ВУЛ СІКОРСКАГА 1 КАЛОНІЯ НУМАР 2 ОТРЯД 14
АЛЕСЮ БЯЛЯЦКАМУ=

ДАРАГІ АЛЕСЬ САРДЭЧНА ВІНШУЮ З НАРАДЖЭННЕМ ХРЫСТОВЫМ І УСІМ МАРОЗНЫМ БУКЕТАМ ЗІМОВЫХ СВЯТАУ ЗЫЧУ МУЖНАСЦІ МУДРАСЦТІ ЗДАРОУЯ ВЕРУ У ХУТКУЮ СУСТРЭЧУ НА ВОЛІ=УЛАДЗІМІР АРЛОУ-

НННН 01514801 24.12.2012 08.19



Захаваць нейтральную пазіцыю паміж Усходам і Захадам, свой культурны, палітычны, эканамічны нейтралітэт не атрымаецца. Гэта ілюзія, якую ніколі ня мелі нашыя продкі. Хаця такую перспектыву бачаць некаторыя беларускія грамадзкія дзеячы. Мне падаецца, што гэта сказваецца няведаньне гісторыі Беларусі і тых гістарычных працэсаў, якія адбываліся ў нашым рэгіёне апошнія паўтары тысячы гадоў. Паважаны мной былы старшыня Вярхоўнага Савету Беларусі Мечыслаў Грыб, першы падпісант Канстытуцыі Незалежнай Беларусі, нават сваю кніжку ўспамінаў і развагаў назваў «Беларускі мост». Ён меў на ўвазе тое, што Беларусь магла бы быць такім мастом паміж Усходам і Захадам.

Марныя думкі, мяркую я. Бо мост — гэта ня лепшае месца для жыцьця. А мы ж, сапраўды, як піша Вера, хочам зрабіць «гэтае месца лепшым для жыцьця людзей». Мы хочам уладкаваць нашае грамадзтва больш гарманічным, больш беларускім і еўрапейскім, больш справядлівым і спагадным. Мы марым, каб нашая Беларусь была больш зручнай, утульнай і прывабнай для жыцьця людзей. Мы прагнем дапамагчы ўсталявацца і загучаць гармоніі беларускага сьвету.



Гэтая ідэя высакародная, ідэя сугучная маім унутраным і агульным у сьвеце цывілізацыйным уяўленьням. Нічога неверагоднага і вар'яцкага, і нават арыгінальнага, у ёй няма. Вопыт жыцьця іншых, эканамічна і культурна разьвітых краінаў — гэта той скарб, зь якога для наследваньня і разьвіцьця свайго народу можна адбіраць прыдатнае і лепшае, тое, што нам пасуе.

Але гэтая ідэя і цяжка выканальная, бо адбудоўвацца нам прыходзіцца на разваліна і рэзруху, якія застаўся пасьля СССР. І сама болей у гэтай «імперыі зла» пацярпела душа чалавека. Відавочна, што працы па «выпраўленьні» душы хопіць і нам, і нашаму пакаленьню.

Няпростая, цяжкая, а часам і надрыўная гэта праца, але ж якая вартая і захапляльная — уладкоўваць лепшае месца для жыцьця, будаваць Беларускі Дом.

---

**Рэлаф** піша:

«Я жадаю табе моцы працягваць тваё змаганьне. Я спадзяюся, ты хута будзеш на волі. Тваёй краіне патрэбна болей такіх людзей, як ты».

Некалі яшчэ ў студэнцтве, на пачатку 80-х гадоў 20-га стагоддзя, я ўяўляў сваё далейшае жыцьцё і меркаваў, што мне прыйдзецца адстойваць і змагацца за беларушчыну да канца жыцьця. Вось, ёсьць гэты ненавісны Савецкі Саюз. Гэтая турма народаў. А ці дажыву я да яго развалу і да незалежнай Беларусі — невядома. І, натуральна, што незалежная Беларусь бачылася мне дэмакратычнай. А як жа інача? Аказалася, што калі вельмі хочаш і працуеш дзеля гэтага, мары ў жыцьці збываюцца, але не напоўніцу.

Узьняць сьвядомасьць «западлага» народу — гэта гіганцкая праца не на адное пакаленьне. Шлях грамадзкага і нацыянальнага ўсьведамленьня доўгі і цяжкі. Як казаў адзін з герояў Аляксандра Салжаніцына, зэк-інжынер

зь беларускім прозьвішчам Герасімовіч: *«Сапсаваць народ дастаткова было трыццаці гадоў. Наладзіць яго — ці атрымаецца за трыста».*

З часу напісаньня гэтых радкоў мінула 60 гадоў, і няма ўжо Савецкага Саюзу, кіраўніцтва якога іншы з герояў-зэкаў гэтага раману А. Салжаніцына гатовы быў у думках шандарахнуць хоць атамнай бомбай, ды на месцы ранейшых кіраўнікоў нарасьлі новыя. І мая мара ўбачыць беларусаў разьвітым народам, свабодным унутрана і незалежным фармальна, пакуль што і надалей застаецца залатой. А мы, беларусы, і далей знаходзімся ў паходзе.

Таму — трэба мець яснае разуменьне і ўнутранае пераканаьне, што ты займаесься недарэмнай справай. Трэба трымаць удары лёсу і ўпарта ісьці наперад у спадзяваньні, што твой шлях, твая пазіцыя мае сэнс.




Бясспрэчна тое, што маёй краіне патрэбна болей аднадумцаў, актыўных людзей з дэмакратычным сьветапоглядам. Бо які б ты ня быў таленавіты, шчасьлівы і ўдалы, аднаму табе ніколі не зрабіць таго, што зробяць дзесяць, сто, тысяча, мільён аднадумцаў. Таму мне, сапраўды, як вада, як паветра патрэбныя саратнікі-аднадумцы. Бо толькі агульнымі намаганьнямі, разам можна будзе незваротна зьмяніць сітуацыю да лепшага.

У пошуку і выхаваньні аднадумцаў праходзіла ўсё маё жыцьцё. Хтосьці прыходзіў на адное дзеяньне, далучаўся да адной акцыі, а затым зьнікаў. Хтосьці затрымліваўся на больш час, на тыдзень, на месяц, на год. На жаль, мала ёсьць такіх, якія цягнуць высакародную, але няўдзячную грамадзкую лямку пяць, дзесяць гадоў. І яшчэ меньш тых, хто не здаецца і не згінаецца дваццаць гадоў, чвэрць стагодздзя і болей. Але, дзякуй Богу, яны ёсьць. Як гэта важна, каб у беларускім грамадзкім жыцьці была часавая пераемнасьць, каб новым актывістам, іншаму пакаленьню не даводзілася пачынаць сваю дзейнасьць на пустым месцы!

«Ветэраны Адраджэньня» — раней з гумарам казалі мы пра сябе і сваіх нешматлікіх старэйшых сяброў. Але вось мінуў час, і гумар зьнік. Выглядае, што гэтая нашая праца па кшталтаваньні беларускага грамадзтва — да канца жыцьця. Вось, дакладна так, як я гэта ўяўляў сабе трыццаць гадоў таму. І яшчэ стала ясна зразумела, што як беларуская справа ішла некалі безь цябе, гэтак яна калісьці і будзе ісьці безь цябе.

Хто болей, хто крышку, мы дадаем да яе сваёй душы, свайго ўменьня, і яна становіцца крыху больш трывалай, больш разнастайнай і цікавай. Дзякуючы нашай супольнай энэргіі, і яна рухаецца наперад. «Разам нас багата» — лозунг украінскіх дэмакратаў, як нікога іншага, датычыць і нас, беларусаў.



9 чэрвеня 2014

---

**Сюзан** піша:

«Ведай, што ты можаш чагосьці дабіцца, калі ты дзейнічаеш. Замест страху адчуй толькі веру».

Гэта — старое і залатое жыцьцёвае правіла. У нас яшчэ гавораць так: пад ляжачы камень вада не цячэ. Вось і я тое самае бясконца, як дзяцел, стукаю па галовах знаёмых і незнаёмых беларусаў.

На розум яшчэ прыходзіць казка пра жабку, якая патрапіла ў гладыш з малаком і боўтала там лапкамі датуль, пакуль малако ня зьбілася ў вяршкі, а затым у ком масла. Тады жабка абаперлася на яго і выскачыла з гладыша. Больш за тое, іх было дзьве. Дык вось другая, якая не барукалася, ня дрыгалася, патанула.

Мне ўяўляецца, што мы, сьвядомыя дэмакратычныя беларусы, як тая нястомная першая жабка, малоцім сваімі «лапкамі». Мы задаволеныя, што зваліліся ў збан з малаком, а не з вадой, і, здаецца, з «малака» ўжо зрабі-

ліся «вяршкі», але да «масла» яшчэ далёка. Можа, ня так далёка, як мне здаецца адсюль, з-за плоту, але, пэўна, каб дабіцца свайго, яшчэ і ўпартасьць і ахвярнасьць трэба праявіць.

Урэшце, мы ж ня марым пра штосьці незвычайнае ці надзвычайнае, мы хочам усяго толькі «людзьмі звацца», каб гэтак зваўся і пачуваўся ўвесь наш народ, у палітычным, сацыяльным і культурным значэньні гэтага выслоўя. Там — і павага да сябе саміх, і да іншых, там — правы чалавека, дэмакратычны лад жыцьця, беларуская мова і нашая гісторыя.

На жаль, для часткі нашых людзей гэтыя каштоўнасьці незразумелыя. Як у Бібліі вобразна напісана, не для ўсіх зразумелая каштоўнасьць жомчугу, але ж перліны дзеля гэтага, відавочна, не становяцца сьмецьцем. Такія людзі ў нас жывуць у каардынатах, складзеных яшчэ «за саветамі». Яны рэзка дзеляць сьвет на «сваіх» і «чужых», свае для іх аўтарытарная Расія, якая некалі захапіла Беларусь і працяглы час асімілёўвала, прыдушвала і заглушвала ўсё беларускае, і зараз не адпускае іх культурна і псіхалагічна.

Парадокс у тым, што ўсё зь цікавага і вартага, што стварыла Расія, рускія ў культуры, у цывілізацыйным разьвіцьці, яно ці абапіраецца, ці шчыльна зьвязана зь еўрапейскімі набыткамі і зьяўляецца па-сутнасці еўрапейскім, як па форме, так і па зьместу.

Але жыцьцё за жалезнай сьцяной наклала моцны ізаляцыяніцкі адбітак на паводзіны рускіх і, меней, але ўсё ж, і на мысьленьне нашых «савецкіх» беларусаў.

Манера мысьленьня, цывілізацыйныя прыярытэты мяняюцца пакутліва і цяжка.

Я памятаю, калі выбіраўся ў менскі гарсавет на пачатку 90-х, хадзіў па кватэрах і агітаваў за сябе, распавядаў сваю праграму, і патрапіў у хату да адной бабулькі, якая мала што зразумела з маёй праграмы, але, пачуўшы, што будуць выбары ў менскі гарадзкі савет, ажывілася і сказала: *«Я была дэпутатам гарсавету перад вайной»*.

Я дакараю сябе, што не спыніўся і не пагаварыў зь ёй болей, не распытаўся пра той Менск, якога ўжо няма. Адзінае, што я запытаўся ў яе: *«Так гэта вы перайменавалі Менск у Мінск?»*



*«Так*, — адказала яна і заплакала, — *а вось зараз я, калі бачу, як усё бурыцца і валіцца, я начамі плачу, не магу заснуць»*.

Не, такіх людзей ужо ня зьменіш. Ім трэба даць спакойна дажыць у палоне сваіх уяўленьняў. Але ж усё-роўна неабходна арганізоўваць нашае жыцьцё па-новаму.

Барацьба і зьмены ў нашым грамадзтве ідуць усярэдзіне. Убогасьць думкі мае такую ж здольнасьць да аднаўленьня, як і яе сьвятло. Таму змаганьне ідзе за наступнае пакаленьне. Нашыя думкі — пра іх, нашае апірышча, нашая вера і спадзяваньне — на іх. Мы жывем, атрымліваецца, для іх. Як гэта прыкра не ўсьведамляць, бо хацелася б, вядома, жыць напоўніцу сёньня і зараз, але атрымліваецца дакладна так, як некалі казалі нашыя бабулі, а затым і ўжо нашыя бацькі: калі мы не пажылі па-людзку, дык няхай хоць пажывуць нашыя дзеці.

Разуменьне гэтага жыцьця «па-людзку» мяняецца з пакаленьня ў пакаленьне. Калі для нашых бабуляў было важна, каб дзеці былі сытымі, абутымі і «абы не было вайны», то для нашых бацькоў ужо неабходна было нас вывучыць і «вывесьці ў людзі». Размова пра голад і холад ужо не вялася.

А для нас істотна, каб нашыя дзеці мелі прыстойны жыцьцёвы ўзровень, такі «як у Еўропе».

З працавітым, даволі актыўным народам, такім як беларусы, гэтага можна і трэба дабівацца. Галоўнае, не кружляць, не хадзіць у поцемках з завязанымі вачыма, а рухацца ў слушным накірунку. Вось галоўная задача нашага пакаленьня — паставіць краіну на торны шлях.

Але ж пакуль яшчэ боўтаюцца нашыя лапкі «ў вяршках», зь верай у лепшую будучыню.

---

**Жанэт** піша:

«Містэр Бяляцкі, я не забываюся на цябе і я спадзяюся, што ўлады хутка зразумеюць, што зрабілі памылку, пасадзіўшы цябе ў турму, і выпусцяць цябе».



КНІГАРНЯ ПІСЬМЕННІКА

Сяржук Сыс

Спрэмка

*Вершы*

Мінск, «Кнігазбор», 2011

*Кніга вершаў Сяржука Сыса з аўтографам, дасланая ў бабруйскую калонію.*

Жанэт напісала шчыра і зь вераю ў справядлівасьць. I пажаданьне ў Жанэт добрае. Вось жа, адбылася памылка, гэтую памылку ўсьвядомяць, выправяць яе, у выніку я апынуся на волі. Усё слушна, але ня ўсё так проста. I я не прызнаю сваю віну, і яны ня лічаць за памылку ўзорна-паказальнае пакараньне праваабаронцы. I хоць мы адштурхоўваемся ад адной кропкі, але плывем у розныя бакі. I кожны лічыць, што ён мае рацыю, і ў кожнага свая логіка паводзінаў.

Але нашыя праўды ня маюць нічога агульнага, мы падобныя і розныя, як шрыфт і адбітак, як ліцейная форма і адліўка, як дрэва і ягоны цень. Існаваньне аднаго апраўдвае існаваньне другога. Бо навошта патрэбны кат, калі няма ахвяры.

Кажуць, што ў сьвеце ідзе несканчальная барацьба дабра і зла, увасобленыя ў чалавеку, і ўсе мы, незалежна ад нашага жаданьня, бярэм у ёй удзел. Вельмі хацелася б быць на слушным баку. Але ў такіх грандыёзных цывілізацыйных бойках не заўсёды «нашыя» перамагаюць. У гэтым — крыўдная і жорсткая праўда жыцьця. Ды і дзе ж той трацейскі суддзя, які б вызначыў пераможцу? Імя яму — час.

Бывала, што дзеяньні маіх апанентаў выклікалі ў мяне ўнутраны пратэст, адкрытае непрыняцьце і крытыку. Часам яны нярвова рэагавалі на мае (нашыя) ініцыятывы. У нашым супрацьстаяньні відавочная адкрытая дыялектыка. I я веру ў тое, што ісьціна жыве недзе побач са мной, што я не нарабіў багата памылак у сваім жыцьці.

Памылкі былі. Самыя істотныя былі зробленыя супольна, у калектыве. Але гэта не апраўданьне, бо нават паводле Крымінальнага кодэксу калектыўны ўдзел толькі ўзмацняе адказнасьць.

Мае ж апаненты перакананыя ў тым, што яны заўсёды маюць рацыю, і яны спрабуюць пераканаць у гэтым усіх астатніх. Нязгодныя ж — церпяць. Урэшце, і я ўсё жыцьцё пераконваю іншых у сваёй рацыі. Але якія розны зьмест таго, пра што мы гаворым! Мы кажам — сьмяротная кара — гэта дрэнна, яны гавораць — не, гэта патрэбна, а значыць, і добра. Мы гаворым — вольны чалавек — гэта выдатна, яны ж баяцца і ня вераць чалавеку на волі, і трымаюць яго ў палоне ідэалагемаў і ў загоне абмежаваньняў. Мы кажам — беларуская мова — гэта нашая агульная каштоўнасьць, яны ж не зважаюць на яе, для іх існуюць іншыя каштоўнасьці.

I яшчэ дзясяткі, і дзясяткі такіх супярэчнасьцяў. Тое, што для іх зьяўляецца натуральным і апраўданым, мне падаецца штучным і непрыймальным. Мы жывем у іншых вымярэньнях, адрозных цывілізацыях, інакшых законах. I нам не знайсьці агульнай мовы, як афрыканскаму тубыльцу і еўрапейцу паўтысячы гадоў таму. Адзін голы, другі апрануты, адзін з стрэльбай, другі з лукам, адзін з кніжкай, другі з вуснай памяцьцю, адзін хрысьціянін, а другі верыць паганскім багам. Мы можам размаўляць адно што на мігах.

Вось таму, калі я і выйду на волю, дык дзеля іншых прычынаў, чым уяўляе сабе Жанэт. Але прыгожыя шчырасьць яе і вера стаяць вышэй за будзённую праўду. А як бязь іх жыць.



10 чэрвеня 2014

**Ёке** напісала:

«Калі ты можаш, калі ласка, пастарайся захаваць у тваіх думках твае ідэалы…»

**Брам** у нейкім сэньсе працягнуў:

«Яны могуць накінуць на цябе ланцугі, але яны ня могуць пасадзіць на ланцуг твой розум».

І **Ерка** ізноў зьвяртае ўвагу на ўнутраны сьвет:

«Трымай мір у тваіх думках і тваім сэрцы».

І Ёке, і Брам, і Ерка гавораць пра ўнутраную дасканаласьць, нябачны сьвет чалавека, асабістыя рысы душы, якія заўсёды з табой.

Цяжка абстрагавацца і незаўважаць той сьвет, у якім ты жывеш. Асабліва, калі ён ненатуральны сьвет турмы, які абмяжоўвае тваю свабоду. Прасьцей гэта рабіць дзе-небудзь на рыбалцы, ці зьбіраючы грыбы, ці дагледаючы сад або грады. Прыемныя, ціхія заняткі, калі ты застаесься сам на сам з прыродай і з сваім унутраным сьветам. І складаней гэта рабіць у няпростых умовах, калі ты вымушаны напачатку вырашаць шэраг элементарных жыцьцёвых пытаньняў, у асяроддзі, дзе ты ніколі не застаесься адзін. І ўсё ж гэта магчыма і тут. Больш таго, працяглая ўнутраная адзінота, фізічныя абмежаваньні спрыяюць карацейшаму шляху самога сябе да сваёй душы.

Ня самы просты на першы погляд шлях — самы лёгкі. Аднойчы мы сплывалі на байдах па рэчцы Страча. І вось на адным кавалку плаваньня рэчышча рэчкі зьнікла. Яна зайшла ў балота і нырцанула пад твань. Мы не маглі праплысьці далей. Байды ўткнуліся ў твань, якую было не адпіхнуць і не прапіхнуць, і вылезьці, стаць на яе было небясьпечна, бо багна хадзіла, гойталася ненадзейным кілімам.

Нам прыйшлося разварочвацца, плыць супраць плыні сем кіламетраў, там выйсьці на бераг, заначаваць, назаўтра знайсьці падводу, загрузіць на яе байды, аб'ехаць балоты лесам, паблудзіўшы там, і выгрузіцца праз дзьвесьце метраў ніжэй па рэчцы, дзе мы ўпёрліся ў твань, і дзе яна ізноў вынырнула з-пад яе на паверхню.

Вось так і з сваім уласным унутраным сьветам. Каб пераадолець, здавалася б, кароткі шлях, трэба прайсьці нямала цяжкасьцяў.

Я зазіраю сабе ўсярэдзіну і здаецца, што мае ідэалы не зьмяніліся, не страцілі каштоўнасьць, не патускнелі. Яны заўжды са мной, і я ахоўваю іх, як магу. Я — слабы чалавек і заўсёды недзе магу спудлаваць, але ж ідэалы — не. Яны — як адлітыя з золата, і іх не бярэ ніякая іржа.



А вось з трэцім пажаданьнем — цяжэй. Я — не агрэсіўны па натуры чалавек, і як праваабаронца, прыхільнік негвалтоўных метадаў змаганьня, я імкнуся гэтак заўсёды паводзіць сябе. Але я таксама добра разумею, што дабро і праўда павінныя ўмець абараняць сябе. Бо інакш перамагаюць няпраўда і зло.

Я, як магу, трымаю мір у маёй душы, паліваю яго сваімі і чужымі думкамі і аргументамі, гадую яго і пешчу, як далікатную кветку, не дазваляю панаваць зайздрасьці і адганяю злосьць. Я малюся, каб рэчаіснасьць не прымусіла мяне адкапаць даўно зарытую сякеру, і каб лёс ня змусіў мяне бараніць праўду зь сякерай у руках. Мір. Няхай мір застанецца ў маёй душы.

---

**Якоба** піша:

«Арыстоцель аднойчы казаў, што спадзяецца абудзіць мару. Твая праца паказвае людзям, што надзея і мара ня могуць быць заглушанымі».

У гэтым лісьце Якобы няма пажаданьняў, а ёсьць, на мой погляд, трапная ацэнка «нашай працы». Бо цяжка казаць пра «высокія дасягненьні» беларускіх праваабаронцаў. І сітуацыя ў краіне гаворыць пра гэта. Мы ў працэсе, канца і краю нашай працы не відаць. Што нас няўтомна штурхае наперад, дык гэта сапраўды — надзея і мара. Мара пра тое, што нашыя спадзевы збудуцца, і надзея на тое, што мы марым ненадарма, і што нашыя мары чагосьці вартыя.

Агульнавядомая фраза амерыканскага цёмнаскурага пастара, барацьбіта за роўныя правы для афраамерыканцаў зь белымі Марціна Лютэра Кінга: «*Я маю мару*». Ягоная мара была простая і зразумелая, і патроху, памалу гэтая мара ў Амерыцы ўвасабляецца ў жыцьцё.

У 60-я гады 20-га стагоддзя, калі гэты падазроны для ЦРУ пастар-праваабаронца прамовіў гэтыя словы, наўрад ці ён уяўляў , што пройдзе нейкі час, і цёмнаскуры мулат стане прэзідэнтам ЗША. Адбылося штосьці звыш ягонай мары, але тое, што вынікала зь яе. У галовах многіх людзей у сьвеце разам з гэтым абраньнем адбыўся цэлы пераварот. Але ў некаторых расістаў, наадварот, назаўсёды разьвеяўся арэол велічы Амерыкі.

Нашыя мары ня могуць падабацца ўсім. Занадта разнастайны гэты сьвет. Вось таму Марцін Лютэр Кінг заплаціў за сваю мару жыцьцём, яго застрэлілі.

Мая плата за маю мару — меньшая, бо мяняюцца часы. Але ўсё роўна за яе даводзіцца плаціць. Я не шкадую ні кроплі. Бо мая мара вартая гэтага.

Мы таксама робім тое, што імкнуўся рабіць некалі Арыстоцель. І можа быць, сапраўды, нашая праца не дае людзям расчаравацца зусім і ўпасьці ў паняверку.

Усё ў гэтым сьвеце ўзаемазьвязана. Мы цягнемся за некім, бярэм прыклад і вучымся рабіць, варушымся і не апускаем рукі. У сваю чаргу, можа, некага ўзбадзёрвае і натхняе і наш прыклад.

Я мяркую, што ў беларускім грамадзтве ідзе няўхільны прагрэс. Часам — ён арыфметычны, часам — геаметрычны, я перакананы, што нашая праца дае сур'ёзны і важкі плён. Можа, пад фармальнай шкарлупінай сёньня ён ня надта і бачны, беларусы звыклыя да пэўнага часу ўсё хаваць усярэдзіне, але прыйдзе час, і, як пісаў вялікі Максім Багдановіч, «шпаркая крыніца» вырвецца напаверхню. І мы самі яшчэ зьдзівімся: няўжо гэта мы?

11 чэрвеня 2014

**Інге** напісала:

«Галандзкая паэтка аднойчы сказала: «Мяккая сіла ўрэшце затрыўмфуе». Будзем спадзявацца, што гэтыя словы спраўдзяцца. Адвагі!»

Што яна мела на ўвазе пад «мяккай сілай», гэтая галандзкая паэтка? Настойлівыя тлумачэньні і ўгаворы? Мірныя акцыі грамадзянскай актыўнасьці? Адмову ад гвалту і прымусу як сродкаў змаганьня? Я мяркую — так, менавіта гэта. Тое, што выкарыстоўваў у сваёй барацьбе супраць ангельскага каланіянізму Гандзі: негвалтоўны супраціў.



Я праваабаронца і таксама прыхільнік негвалтоўнага супраціву як спосабу барацьбы за правы. Такія дзеяньні больш складаныя і працаёмкія, бо патрабуюць зладжанасьці ў дзеях, адзінства ў думках і вялікай ахвярнасьці ад грамады. Значна лягчэй і прасьцей зрабіць зьмены, пераўтварэньні меньшай колькасьцю энергічных людзей, актывістаў, а пры патрэбе ўжыць і гвалт, асабліва, калі супраць вас яго ўжываюць вашыя апаненты. Але, як паказвае жыцьцё, ня ўсё самае хуткае — самае лепшае і ўстойлівае. Гвалт непазьбежна выклікае пратэст супраць гвалту.

Негвалтоўны супраціў эфектыўны, калі ў ім бярэ ўдзел вялікая грамада людзей. А беларусаў расштурхаць — няпростая справа. Мы ня схільныя да супольных дзеяньняў, страх ад сталінскіх забойстваў і лагероў — у нас у крыві. Часта мы гатовыя змаўчаць, ператрываць, сама больш, дык гэта выказаць сваю нязгоду і крыўду ў цесным коле, «на варыўні». А заявіць пра свае правы, свой інтарэс галосна, публічна — не. Гэтага мы апасаемся і ня любім.

Выраз: «што яму, болей за ўсіх патрэбна» — адзін зь любімых нашых выразаў. Сялянскія рысы характару ў нас, на жаль, пераважаюць над шляхецкімі. Селянін некалі думаў толькі пра свой кавалак зямлі, пра гаспадарку і сям'ю, а шляхціц да ўсяго гэтага — яшчэ і пра дзяржаву, і пра народ. Так ён выхоўваўся і з малаком маці ўсмоктваў ісьціну пра тое, што найвышэйшыя агульныя каштоўнасьці — гэта свая дзяржава. А дзяржава атаясамлівалася з свабодай і гарантаванымі правамі. Толькі Айчына давала права і магчымасьць быць вольным.

Do not surrender! We are with you!

Камуністы, спадкаемцы-антыподы царскай каланіяльнай адміністрацыі, панішчылі шляхту, і сялянскі сьветапогляд у ягонай найгоршай калгасна-пралетарскай версіі стаў пануючым і нават дзяржаўным. А гэта значыць — ніякай актыўнасьці зьнізу, ніякіх ініцыятыў, нам не патрэбныя людзі творчыя і думаючыя, нам патрэбны сьлепа-нема-глухія выканаўцы.

Таму так цяжка ў нас зь «мяккай сілай», тым больш калі ёй супрацьстаіць сіла падступная і гвалтоўная, цынічная і меркантыльная, хціваля і хлусьлівая.

Я памятаю і іншыя часы — пачатак 90-х, калі народная актыўнасьць віравала, выдатна самаарганізоўвалася і была той «мяккай сілай», якая штурхала Беларусь наперад, да дэмакратыі і незалежнасьці. Калі б не было гэтай фантастычнай актыўнасьці простых людзей, масавасьці акцыяў і аднадушша ў жаданьні пераменаў, не было б у нас і незалежнай Беларусі. Менавіта людзі, грамада, дзясяткі тысячаў беларусаў адыгралі тады вырашальную ролю ў дэмакратычных зьменах у краіне.

А потым наступіў спад, які цягнецца ўжо больш за 20 гадоў. Тым ня меньш я веру, як і невядомая мне галандзкая паэтка, што нашая будучыня — у нашых руках, у руках «мяккай сілы». А з «калгасных сялянаў», з нашых дзяцей і ўнукаў урэшце рэшт узгадуецца і беларускі «шляхецкі народ».

---

**Стэфан** піша:

«Дарагі спадар Алесь! Вашае натхнёнае дзеяньне вельмі важнае для нашага сьвету. Нават калі вы ня ўбачыце плёну вашай працы, аднойчы вашая краіна будзе вольнай. Сьвету патрэбныя такія адважныя людзі як вы».

Тэза Стэфана пра важнасьць праваабарончай працы для ўсяго сьвету гучыць у многіх лістах. Усё ў нашым невялікім сьвеце, на зямной кулі, зьвязана. Мне ўяўляецца, як праваабарончая субстанцыя разьлітая па ўсім сьвеце. Дзесьці яе болей, недзе меней, але яна, як туман, ахутвае ўсю нашую зямлю. Вось жа над Беларусьсю гэтага «туману» яшчэ небагата, ён лёгкі і рэдзенькі, пячэ жаркае сонца, «азонавая дзіра» вісіць над намі.



Але Стэфан вось, чалавек збоку, адкуль лепей відаць, прадказвае, што такі стан — не назаўсёды. І што нас чакаюць лепшыя часы.

У гэта веру і я, што калі-небудзь «праваабарончы туман» надзейна захіне Беларусь. Нас чакае цяжкая праца. Бо нельга, не працуючы зь людзьмі, з кожным паасобку, не дапяўшы да іхняй сьвядомасьці і да душы, не пераканаўшы іх у нашай праўдзе, зьмяніць Беларусь. А нас жа 9,5 мільёнаў, а мы ж усе такія розныя! А якія халодныя вятры дзьмуць з усходу ды і тутака ня надта радыя нашай працы. Як усё складана... Але ж хочацца верыць у здаровы прагматызм беларусаў, у тое, што мы ўрэшце рэшт зробім правільны выбар.

Стэфан адзіны, хто сказаў яшчэ адную важную фразу пра тое, што мы можам ня ўбачыць канчатковага выніку сваёй працы. Гэтыя словы — як халодны дождж, які засьпеў цябе на вуліцы і ад якога не схавацца, бессэнсоўна. Я пражываю свае гады, не зважаючы на іх мільгаценьне, ледзь пасьпяваючы адлічваць дні нараджэньня.

І несправядліва, і нечакана пачалі паміраць, адсыпацца, як веснавая квецень, твае лепшыя сябры-аднагодкі, тыя, зь якімі ты ішоў поруч усё жыцьцё, якія жылі тымі самымі, як і ты, ідэаламі вольнай і дэмакратычнай Беларусі. Яны паміраюць у нябачным шыхце, як жаўнеры, як байцы. Яшчэ грыміць кананада, яшчэ ва ўсю ідзе жорсткі бой, а іх ужо няма. У мінулым засталіся іхнія паставы і аблічча, у будучым — іхнія няспраўджаныя мары і недаробленыя справы, у сёньняшнім — памяць пра іх.




Крыўдна пра гэта думаць, таму і ня хочацца. Бо, здаецца, што ты яшчэ ў самай сіле, у самым росквіце, хоць і спутаны па руках і нагах. Але ж гэтыя путы часовыя! Здаецца, што ты так багата яшчэ можаш зрабіць!

Але мае рацыю Стэфан, трэба мець на ўвазе і памятаць, што ўсе мы ня вечныя. Вось таму неабходна выкладацца па поўнай у кожны пражыты дзень.

Вядома ж, трэба не забывацца адпачываць, набірацца новых сіл, абдумваць — як жыць заўтра, рабіць задзел на будучае. Жыцьцё — як паход. Кожны дзень ты праходзіш столькі, колькі можаш і жадаеш, але пакідаеш нейкі запас на тое, каб за ноч аднавіцца і назаўтра ізноў выкласьціся па поўнай. У паходзе, як і ў жыцьці, часта сам працэс больш важны і прыемны за мэту.



12 чэрвеня 2014

---

Паважанаму сп. Алесю Бяляцкаму
ад яго калегі па ПЭН-клубу
і Саюзу беларускіх пісьменнікаў
са шчырай удзячнасцю за падтрымку
ў цяжкую хвіліну

Александр Федута

Американские стихи

Berlin
SAWADOWSKI-Verlag
2012

*Аўтограф Аляксандра Фядуты на кніжцы "Американские стихи", дасланай у калонію.*

**Эльзбэт** паведамляе мне:

«Алесь! Я спадзяюся, што ты вытрымаеш. Я буду маліцца за цябе майму Богу Езусу Хрысту. Я каталічка».

**Фейкье** ў іншым лісьце паўтарае за Эльзбэт:

«Дарагі сябра Алесь! Я буду маліцца за цябе нашаму Валадару, каб Ён дапамог табе і даў надзею на будучае».

Мне ўяўляецца, што малітвы розных людзей яднаюць нас і аберагаюць тых, каму патрэбная абарона. Яны, як нябачны духоўны купал, накрываюць нас, здымаюць няпэўнасьць і неспакой. У кожную хвіліну я не адчуваю сябе адзінокім.

Відавочна, што вернікі лягчэй і адпорлівей пераносяць зьняволеньне. Яны маюць адчуваньне вышэйшай абароненасьці , наканаванасьці лёсу, нябачнай, але адчувальнай імі духоўнай падтрымкі. Пасьля снежня 2010 году найбольш спакойна і ўпэўнена трымаліся тыя, хто былі вернікамі. Годна трымалася большасьць «дзекабрыстаў», але за каго я быў спакойны, што не ўпадуць у паніку, не спалохаюцца, не раскруцяцца, дык гэта за вернікаў. Зьняволеньне выпрабоўвае і правярае сілу веры. Іхняя ўнутраная цьвёрдасьць і спакой у далейшым апраўдаліся, тэрміны ў іх атрымаліся такія ж, як і ў тых, хто паплыў, спалохаўся за сябе і распавёў усё, што было і чаго не было. Усё адбылося як у адным зь біблійных псальмаў: я ва ўсім давяраюся Богу, і Ён нясе мяне па хвалях жыцьця.

Вера і правы чалавека, я мяркую, маюць адзін выток. Яны ўмацоўваюць адзін аднаго. Жаданьне зрабіць жыцьцё людзей больш справядлівым набывае духоўны сэнс. Дзейнасьць праваабаронцаў становіцца больш высакароднай і бескарыснай, мэты праваабароны — больш устойлівымі і доўгатэрміновымі. У спалучэнні веры і правоў чалавека мне бачыцца трывалы падмурак існаваньня здаровага і перспектыўнага грамадзтва і гармонія ў разьвіцьці ўнутранага сьвету кожнага чалавека.

Я не навязваю сваёй думкі і разумею тых людзей, у каго на першым месцы ёсьць вера ці ў сьветапоглядзе дамінуюць праваабарончыя каштоўнасьці. Відавочна, што калі будзе цярпімасьць у грамадзтве, адное ў чалавеку будзе дапаўняцца другім.

Жыві сам і дай жыць іншаму — добрае праверанае правіла сужыцьця, як у няволі, так і на свабодзе.

А ці могуць вера і правы чалавека існаваць паасобку? На мой погляд, могуць, але ў рэлігіі ўжо закладзеная павага да асноўных правоў чалавека, а ў правах чалавека — наўзаем, павага да веры. Таму і мне, і Эльзбэт, і Фейкье, і багата каму яшчэ ў сьвеце не прыходзіць у галаў іх процістаўляць.

---

**Клара** піша:

«Дарагі спадар Бяляцкі, працуючы настаўніцай гісторыі галандзкай літаратуры, я, мабыць, магу пісаць вам як калега. Хачу даць вам ведаць, я спадзяюся, што вашая сітуацыя палепшае так хутка, наколькі гэта магчыма».

Гэты ліст вяртае мяне да занятку, якому я вучыўся 8 гадоў, а затым яшчэ працаваў 10 гадоў. За жыцьцё, так атрымалася, я набыў некалькі прафесіяў: электрык, цясьляр-бятоншчык, механік-кіроўца цягача, упакоўшчык, дасьледчык беларускай літаратуры. Але імкнуўся вось да гэтай, апошняй. Яна мая.

Занятак праваабаронай, надзвычай важны і цэнтральны ў маім жыцьці, які зьявіўся натуральным чынам і затуліў амаль усё астатняе, усё ж лічыць прафесіяй неяк не хапае духу. Праваабарона — гэта патрэба часу і душы.

Калі я займаюся чымсьці, я ўлажу ў справу ўвесь цалкам, я акунаюся ў яе з галавой. Я захапляюся, мне заўсёды цікава тое, што я раблю, і я імкнуся зрабіць справу як найлепей. У мяне не застаецца ні мейсца і часу, ні цікавасьці на іншыя заняткі. Я прачынаюся — думаю пра гэтую справу, кладуся спаць — думаю пра яе. Я няўтомна хаджу вакол яе, я захоплена разглядаю яе з розных бакоў.

Вось так праваабарона выціснула з майго жыцьця занятак літаратурай, крытыкай. Ды выціснула так, што пэўны час я проста ня мог чытаць літаратурныя тэксты, у мяне падвышаўся ціск, забівалася сэрца, мне станавілася блага. Гэта была ўсьвядомленая ахвяра.

Я вучыўся на тое, каб працаваць зь літаратурнымі тэкстамі, паказваць і падсьвечваць іхнюю эстэтычную каштоўнасьць і сувязь з жыцьцём. Я быў і ёсьць перакананы, што літаратура — гэта праява сьпеласьці народу, ягонай духоўнасьці, таленту. Думка, аформленая ў мастацкае слова, выхоўвае народ і зьяўляецца ягоным інтэлектуальным набыткам.

Апроч усяго, праца з мастацкімі тэкстамі прыносіць мне эстэтычнае задавальненьне. Яна ў нечым падобная на занятак калекцыянера. Як нумізмат уважліва і задаволена гадзінамі разглядае пад лупай якую-небудзь рэдкую манету, так і я любуюся літаратурнымі тэкстамі, асабліва, калі яны арыгінальныя і таленавіта каштоўныя, у якія аўтары ўклалі вялікую частку сваёй душы. Сярод іх няма ніводнага падобнага адзін на аднаго.

Літаратуразнаўца падобны на апрацоўшчыка каштоўных камянёў, які выбірае той камень, які яму падабаецца, які ён лічыць вартым, і асаджвае яго ў адпаведную асаду. Ён як тлумач-талмудыст, які здабывае і паказвае іншым, недасьведчаным, праўдзівы магічны сэнс зашыфраванага тэксту.

Але вось маё жыцьцё павярнулася такім чынам, што зараз я магу спалучыць усе асноўныя фаховыя заняткі. І я спутаны, бо ня маю свабоды, і вольны — бо самарэалізуюся і «сплачваю доўг» свайму жыцьцёваму прызначэньню. Гармонія і супакой пануюць у маёй душы. Ці можа мяне зразумець той, хто зараз на волі?





**Марцэль** напісаў:

«Як сказаў Уінстан Чэрчыль падчас ІІ-й Сусьветнай вайны: «Ніколі, ніколі, ніколі не здавайся!»




Мне прыйшло некалькі лістоў з спасылкамі на думкі і выказваньні аўтарытэтных і вядомых людзей. Вось гэта, хіба, найбольш ясная, простая і цьвёрдая.

Памятаю, як быў піянерам, у нашай школе вісеў лёзунг: «Вучыцца, вучыцца, вучыцца» — як завяшчаў вялікі Ленін». І лёзунг, здаецца, неблагі, бо і я таксама ўпэўнены, што вучыцца патрэбна ўсё жыцьцё, але вось той, каму прыпісвалі гэтыя словы, хоць і атрымаў добрую адукацыю, і вучыўся няблага, але выкарыстаў свае веды чорт яго ведае на што. Атрымліваецца, што веды — гэта толькі прылада, якую можна накіраваць як на добрае, так і на благое (у беларускім значэнні гэтага слова).

А яшчэ мне запомніліся словы лідаркі іспанскіх камуністаў Далорэс Ібаруры, сівенькай ужо і на той час бабулі: *«Чым жыць на каленях, лепей памерці стоячы»*. Гэта яна прамовіла тады, калі была яшчэ маладой, і ў Іспаніі ішла грамадзянская вайна. Сэнс гэтых словаў — ганарлівы, радыкальна завостраны: ці — ці.




А як жа беларусы ня любяць такога выбару! Імкнуцца ўхіліцца ад прыняцьця рашэньня да апошняга. Народ паўтонаў, паўрашэньняў, які часта вымушаны рабіць ня так, як хоча і як думае, народ нацэлены на выжываньне, такі які ёсьць. Таму, мабыць, і важна, каб перад вачамі былі жыцьцёвыя прыклады гэтага: *«Ніколі, ніколі, ніколі»*.

Выказваньні Уінстана Чэрчыля ды Далорэс Ібаруры здаюцца падобнымі. Але калі ўдумацца ў іхні сэнс, разумееш, што яны ўсё ж даволі розныя. У фразе Уінстана Чэрчыля адсутнічае пафасны гераізм, там ёсць заклік: не апускай рукі ў любой жыцьцёвай сітуацыі, змагайся, вер у справу, якой займаесься, у праўду. Гэта пазіцыя, у якой прадбачваецца доўгатэрміновая дзейнасьць, працяглы супраціў непрыяцелю і перашкодам. Гэтая пазіцыя закончанага ладу, яна някідкая на выгляд, больш прадуманая і разьліковая, у адрозьненьні ад прыгожай, але безагляднай і пачуцьцёвай пазіцыі, выказанай ці прыпісанай Далорэс Ібаруры.

Урэшце, і сама Далорэс вымушаная была зьехаць зь Іспаніі, каб ўратавацца ад сьмерці і не «памерці стоячы». Хаця жыцьцё ў сталінскім эсэсэсэр, без правоў і пад пільным кантролем таксама можна інтэрпрэтаваць як «жыцьцё на каленях». Але ці адчувала Далорэс сваю прыніжальную рабскую залежнасьць? Яна ж марыла ўстанавіць у Іспаніі дыктатуру пралетарыяту і перарабіць яе на сталінскі манер. Як пісаў у адным з сваіх пасьлярэвалюцыйных вершаў Янка Купала, «раб не адчувае сваіх путаў».

У любым выпадку, Далорэс марыла вярнуцца ў Іспанію з трыумфам, але закляты вораг камуністаў Каўдыліё Франка жыў доўга і трымаў «парадак іспакой» жалезнай рукой, не дапускаючы дэмакратыі, дарма што Іспанія ператварылася ў еўрапейскія задворкі.

Так Далорэс і не перамагла з сваёй камуністычнай ідэяй, што, напэўна, добра. А вось Уінстан Чэрчыль з сваім упартым «ніколі, ніколі, ніколі» можна сказаць што і перамог. Англія пад ягоным кіраўніцтвам, у кааліцыі, выйграла II-ю Сусьветную вайну, хоць і пагадзілася на камунізацыю паловы Еўропы. А потым адбыўся крызіс камуністычнай ідэі, эканомікі, і Варшаўскі блок падсавецкіх краінаў разваліўся, а за ім - Савецкі Саюз. Так што «ніколі» Ўінстана Чэрчыля спрацавала.

Хоць я і не вялікі прыхільнік Уінстана Чэрчыля, але варта браць зь яго прыклад: змагацца, часам адступаць, а потым уздымацца і зноў ісьці наперад, заўсёды, да скону, трымаючы ў галаве гэтае настойлівае: «ніколі, ніколі, ніколі».

---

**Лідзія** піша:

«Дарагі Алесь! Правасуддзе - гэта важная чалавечая каштоўнасьць, але кошт, які ты плоціш — высокі... Я жадаю табе веры, тваё імкненьне натхняе мяне».

Лідзія піша пра кошт, які мы плоцім за свае перакананьні і каштоўнасьці. Я мяркую, што такі «бізнэс» у любым выпадку лепшы, чым плата за ўласную дурноту. Чым вышэйшая каштоўнасьць, тым большая плата за яе. Свабодныя выбары, справядлівы суд — рухавікі дэмакратычнага грамадзтва. Мы давяраем папулярным і пасьпяховым, мы адмаўляем у даверы недарэкам, ілгунам, пустадомкам. Мы маем незалежны і справядлівы суд, які надзейна бароніць нашыя правы, падтрымлівае правых і карае вінаватых, незалежна ад іхніх пасадаў. Мы вольна абмяркоўваем тыя праблемы, якія ёсьць у нашым грамадзтве.

Да такіх прынцыпаў уладкаваньня грамадзтва мы імкнемся. А, між іншым, на гэтых чарапахах некалі былі пабудаваныя нашыя першыя дзяржавы-княствы. Грамадзкае і палітычнае жыцьцё ў еўрапейскіх краінах на працягу стагоддзяў адшліфоўвала стасункі паміж людзьмі, унармоўвала іх, а таксама адносіны паміж дзяржавай і чалавекам. Скрайнія сацыяльныя ўтапічныя ідэі, эксперыменты пацярпелі паразу. Жыві годна сам і дай гэтаксама жыць іншаму — гэтае, здавалася б, простае правіла ляжыць у аснове справядлівага грамадзтва.

Але ня ўсё так проста. Людзі адвучыліся ад самастойнасьці. «Усе мы разам ляцім да зор», напісаў некалі Максім Багдановіч. Будзем спадзявацца, што нашая беларуская зорка і не пагасьне, і ня спаліць нас ушчэнт.





**Інэке** піша:

«Дарагі сябар! Я спадзяюся, ты яшчэ верыш у чалавечнасьць. Май веру ў будучае».

Атрымліваючы масу лістоў падтрымкі ды іншыя праявы актыўнай увагі ад знаёмых і незнаёмых людзей, безумоўна, я веру ва ўзаемадапамогу і чалавечнасьць. І нават калі б я быў цалкам ізаляваны, «бяз права перапіскі», як трымалі некалі вязьняў у лягерах камуністы, усё-роўна я верыў бы ў спагаду і спачуваньне, у добрыя рысы чалавечай натуры, якія, звычайна, закладаюцца ў чалавеку яшчэ ў дзяцінстве. Маленькае дзіцё глядзіць, як сумоўяцца і кантактуюць бацькі, родныя, суседзі. І гэта адбіваецца на характары назаўсёды. Таму я непахісна веру ў чалавечнасьць, якая пераважае ў нармальнай чалавечай натуры ўсе яе хібы і слабасьці.

Мяне заўсёды зьдзіўлялі і захаплялі людзі, якія засталіся чалавечнымі, нягледзячы на цяжкія жыццёвыя выпрабаваньні. Я ведаю багата такіх выпадкаў, але прыгадаю толькі адзін.

Беларускі паэт Лявон Случчанін працаваў перад вайной настаўнікам і быў рэпрэсаваны ў 37-м годзе, маючы 21 год. Ён адсядзеў два гады ў ГУЛАГу, затым яго, нечуваная рэдкасьць, рэабілітавалі. У вайну ён ізноў настаўнічаў, працаваў у Слуцкай газэце і нават пасьпеў у Менску выдаць кніжачкай сваю паэму «Рагнеда». Асьцерагаючыся бальшавікоў, пры наступе савецкага войска ён выехаў зь сям'ёй на возе з Беларусі ў Нямеччыну. І вось там ягоная маладзенькая цяжарная жонка нарадзіла дачку. Ад пастаяннага страху ад бамбёжак і нярвовага напружаньня пасьля родаў яна захварэла. Гэта было душэўнае зацьменьне. Лявон Случчанін, каб выратаваць жонку ад канчатковага вар'яцтва, вяртаецца ў Беларусь.

Калі дзядзька Лявон распавядаў мне гэтую сямейную гісторыю, напачатку 90-х гадоў, у Салігорску, было яму ўжо за 70 гадоў. І ягоная жонка сядзела побач і згодна ківала галавой: так, так яно і было.

— Вы не баяліся вярнуцца? — спытаўся я ў яго, — вы ж, напэўна, ведалі, ужо ж пабывалі ў гэтай чортавай малацілцы, што вас арыштуюць, і вы можаце загінуць?



— Мне трэба было ратаваць жонку, і я ня мог зрабіць інакш, — адказаў ён.

Лявон Случчанін вярнуўся ў 1945 годзе ў Беларусь. Яго арыштавалі, судзілі і пасадзілі. А жонка акрыяла і выздаравела. Ён адсядзеў у лагеры 10 гадоў. Жонка чакала яго, і як толькі зьявілася магчымасьць, прыехала да яго з дачкой на поўнач. Там яны пражылі яшчэ нейкі час, а затым вярнуліся і пасяліліся ў Салігорску.

Калі я пачынаю думаць пра чалавечнасьць, я заўсёды чамусьці першым згадваю гэты выпадак. Ён жа мог застацца там, у Нямеччыне, перачакаць, а затым зьехаць, як і большасьць беларусаў-бежанцаў, у Амэрыку ці яшчэ куды і застацца на свабодзе, вольна жыць, вольна пісаць. А ён ахвяраваў свабодай дзеля здароўя блізкага чалавека, сам застаўся чалавекам, захаваў сваю чалавечнасьць, найперш для сябе. Вялікія ахвяры складаюць вялікія і моцныя духам людзі.

**Асэн** піша:

«Алесь! Учора — гэта гісторыя, заўтра — гэта таямніца, а сёньня — гэта падарунак. Вось чаму яго завуць — present (у англ. мове гэтае слова мае два значэньні — і «падарунак», і «сучаснасьць». — *А. Б.*)».

Цікавая гульня сэнсаў, якую падмеціла Асэн. Сёньняшні дзень — як падарунак кожнаму, хто жыве, і гадзіна, і хвіліна, і імгненьне. Жыццё — гэта неверагодны падарунак, шчасьлівы білет, які нам пашанцавала выцягнуць у матухны-прыроды. Але чалавек па натуры — няўдзячны і марнатраўны, і мы не даацэньваем гэты падарунак, часта і не задумваемся над ім. Жывем і жывем.

„Як сонца ў хмарах, як мова ў цені — мы не загінем, мы ўваскрэсім!"
Дарагому сябру Алесю — з пажаданнем хуткай сустрэчы на Волі!
Эд. Акулін
21.12.12.

*Аўтограф на кнізе вершаў «Малітва воч» Эдуарда Акуліна, дасланай у калонію.*

Уменьне эмацыйна ўспрымаць сябе і сьвет, бачыць сябе ў часе, вылучыць сваё «я» з навакольнага сьвету — гэтыя рысы духоўнасьці і інтэлекту, якія вылучаюць нас, людзей, зь іншага жывёльнага сьвету.

Сталейшыя людзі больш абвострана ўспрымаюць хаду часу. Кніга Уладзіміра Някляева «Знакі прыпынку» амаль уся прысьвечаная часу, убачанаму і адчутаму. Пісьменьнік спрабуе спасьцігнуць, а што ж гэта такое — час? Гэта мінулае, будучае, ці вось гэты present, пра які напісала мне Асэн.

50 гадоў — нейкая сур'ёзная псіхалагічная мяжа ўзросту для мужчынаў. Піша пра гэта Уладзімір Някляеў, у яго, праўда, мяжа лягла на 55: *«Не шараговая лічба 55. Выгінастая, пакручастая і роўная. Яшчэ пры сіле. Здаецца нават, што адзінкі ад яе пачнуць адскокваць, а не дадавацца: 55, 54, 53… Але так ня будзе.*




*Нічога ўжо так ня будзе, як было. І дзякуй Богу».*

Піша пра гэта і Сальвадор Далі пасьля сваіх 50-ці: *«Галоўны сёньняшні сакрэт — уменьне ня бегчы на злом галавы пасярод лета, якое вырываецца з маіх моцна сьціснутых зубоў. Я з усяе сілы сьціскаю іх, імкнучыся не даваць ані кроплі свабоды часу, але ўсё ж захоўваю ў яго ілюзію, як быццам яно можа вырвацца».*

Уяўляю гэтага мастака, напамажанага, у накрахмаленай белай кашулі з вострымі, як шыла, вусамі каля сваёй глянцавай карціны з тонкім пэндзлем у руках, які з усяе моцы сьціскае зубы, каб не ўпусьціць няўлоўнае «сёньня».

А хтосьці, як, напрыклад, Антон Чэхаў, спрабуе зазірнуць у будучыню. Вуснамі адной з «Трох сясьцёр» ён марыў: *«Народзяцца людзі, якія будуць лепшымі за нас».* Ілюзія. І яшчэ: *«Праз 200, 300 гадоў жыцьцё на зямлі будзе незвычайна цудоўным, выдатным».*



Спрабуе асэнсаваць мінулае пісьменьнік Васіль Аксёнаў: *«Чаго вартае мінулае жыцьцё, ды і ці было яно, калі мы так мала памятаем пра яго?»*

Спрабуе вывесьці прыгожую формулу жыцьця Людміла Уліцкая: *«Мастацтва жыць на самой справе азначае мастацтва памерці».*

Гэты шэраг цытатаў я выпісаў з прачытаных за апошні час кніжак. Відавочна, што пісьменьнікі можа больш чым хто спрабуюць асэнсаваць феномен уцякаючага часу. І яшчэ адное выказваньне мне хацелася б прывесьці з апошняга інтэрвію Рыгора Барадуліна: *«Зь цягам часу забываюцца твары, імёны і застаецца толькі агульнае адчуваньне, што жыў. Ды яшчэ тое, што ва ўсе часы побач з табой былі добрыя людзі».*

Пасьля пэўных падзеяў у сваім жыцьці і я пачаў неяк неабыякава ставіцца да часу. На волі разважаць пра час не было калі, напачатку здавалася, што ўсё жыцьцё, а потым, што лепшая ягоная частка, яшчэ неперадзе. А потым напружаны бег раптам спыніўся, час рэзка запаволіў сваю хаду, і я са зьдзіўленьнем убачыў і асэнсаваў, што ўжо падыходжу, а затым і адыходжу ад сваіх 50-ці, свайго часавага рубяжу.

Вось чаму я і выпісваў гэтыя цытаты і выказваньні з прачытаных кніжак, датычныя часу. Мяне таксама міжволі захапіла і пацягнула за сабой гэтая найвялікшая загадка сьвету — а што ж такое — час?

Дапытлівыя навукоўцы сьцьвярджаюць, што час мае пачатак, што спачатку быў нейкі выбух, і пасьля яго зьявілася матэрыя, якая разьлятаецца ўсё далей і ўсё з большай хуткасьцю.

А што было перад выбухам? І чаму ён здарыўся? І дзе быў час? А калі яго не было, дык што было замест яго? Урэшце, можа, калі-небудзь хто-небудзь зь людзей і адкажа на гэтае пытаньне. Адно супакойвае, што на наш век часу яшчэ хопіць.

Мы плывем па плыні ў акіяне часу, як хмары малькоў, як воблака планктону, якое цягне за сабой сіла Гальфстрыму. Сёньня, у гэтую хвіліну і ў гэтае імгненьне мы адчуваем шчасьце, насалоду і горыч жыцьця, мы верым, што ня проста так зьявіліся ў гэты сьвет, што быў у гэтым ясны Божы Провід, і нашая шматлікасьць ратуе нас ад роспачы адзіноты.

Мудрыя беларускія продкі некалі асэнсавалі гэта ў прымаўцы: трэба жыць, як набяжыць. Будзем трымацца гэтага і, дай Божа, не прападзем.

17 чэрвеня 2014

**Яап** піша:

«Дарагі спадар Бяляцкі! Ты ніколі ня будзешісьці адзін!»

Вось ён, далёкі галандзкі сябра, дакладна вызначыў мой унутраны стан душы, стан майго пачуваньня ў гэтым сьвеце. У сваёй жыцьцёвай дарозе, у дзеях, думках і памкненьнях я амаль ніколі ня быў адзін. Хаця напачатку, у маладосьці, я цярпеў ад сьветапогляднай адзіноты і пакутліва шукаў аднадумцаў. І як жа мяне адпусьціла, калі я знайшоў іх і ў Гомелі, дзе тады вучыўся, і крыху пазьней у Менску. Калі я пазнаёміўся з «майстроўцамі», якія думалі гэтаксама як я, марылі пра тое ж і, што самае істотнае — рабілі! У мяне камень з плячэй зваліўся. Я ледзь не сьпяваў ад радасьці, ад трывалага, надзейнага адчуваньня, ад жалезнай упэўненасьці, што ад гэтай хвіліны, пасьля гэтай сустрэчы ў 1981-м я ўжо ніколі ня буду самотным.

Аднадумцы ствараюць для асобы сацыяльны і грамадзкі камфорт. Яны засьцерагаюць чалавека ад непазьбежных памылак і хістаньняў, якія апаноўваюць у адзіноце. Разумныя сацыяльныя пераўтварэньні, зьмены ў грамадзтве — гэта заўсёды справа грамады, людзей, аб'яднаных у гуртткі, арганізацыі па інтарэсах, працоўных аб'яднаньняў і партыяў. Трапна гаворыць беларуская прымаўка: «Разам прасьцей і бацьку біць».

Пасьля той вызначальнай сустрэчы ў 81-м, уся далейшая хада майго жыцьця была накіраваная на гуртаваньне і пошук людзей, неабыякавых да ідэяў і поглядаў, якімі быў я апантаны.

Як камень, кінуты ў ваду, мы распускаем вакол сябе колы, якія разыходзяцца ўсё шырэй і шырэй, захопліваючы ўсё новых людзей. Жыцьцё не такое ідэальнае, як гэты вобраз, багата каламуці, збояў і перашкодаў. Але энэргія, якая сыходзіць ад кінутага каменя, падпарадкоўвае і перарабляе ўсе перашкоды, згладжвае вострыя куты і ўкладае, уштукоўвае хаос мітусьні ў гармонію зладжаных колаў. І чым шчыльнейшы і цяжэйшы цэнтр, тым больш выразная, рэльефная і ўладкаваная карціна нашага беларускага сьвету, які, у сваю чаргу, толькі смальцінка ў агульнай мазаіцы зямлі.

Цікава, складана і ўзаемазалежна ўладкаваны гэты сьвет. Тысячы лістоў з усяго сьвету — мне падтрымкай і дапамогай. Тысячы людзей сумовяцца са мной, і я сумоўлюся зь імі. Я не выношу адзіноты і таму ніколі ня буду ісьці адзін.

**Хэнк** піша:

«Дарагі спадар Алесь Бяляцкі! Вы вельмі адважны чалавек! Для многіх мужчынаў, хто не адважваецца скінуць з шыі ярмо. Вы змаглі. Зараз Вы пакараныя за Вашую нармальную разумную рэакцыю».

Хэнк закранае важнае пытаньне, якое мае і філасофскі і практычны сэнс. Ня маючы вялікіх ілюзіяў да сваёй мужнасьці, тым ня меньш, і розумам і пачуцьцямі я заўсёды спрабаваў намацаць тую рысу, тыя рамкі, якія нельга пераходзіць, каб ня страціць павагу да самога сябе. Далёка ня ўсё атрымліваецца так, як хацелася б, але я імкнуся, намагаюся жыць у згодзе з сабой.




У кожнага чалавека ў жыцьці бываюць вызначальныя рубяжы, і лёс прыпірае нас да сьценкі і бязьлітасна ставіць перад выбарам. І як важна тады не адступіць, ня ўгнуць галаву, не змаладушнічаць. Ужо пазьней прыходзіць разуменьне, што ад сябе самога не схавацца.

І ў мяне ў жыцьці некалькі разоў быў такі выбар, паміж вучобай і пагрозай быць выгнаным за іншадумства, паміж працай і беспрацоўем, урэшце,паміж воляй і няволяй. І хоць выбар гэты быў заўсёды важны і драматычны, але рабіўся ён лёгка, бо ўкладаўся ў абранае рэчышча маральнага існаваньня. Згрызоты сумленьня, унутраная незадаволенасьць ад разуменьня таго, што зроблена нешта ня так, былі б для мяне значна сур'ёзьнейшым выпрабаваньнем і пакараньнем у параўнаньні зь нейкімі зьнешнімі цяжкасьцямі. Імкненьне пазьбегнуць унутранага разладу і было заўсёды галоўнай мерай маіх учынкаў. Дык ці можна назваць адвагай жаданьне жыць у ладзе і згодзе з самім сабой?

Наступнае пытаньне турбуе мяне. Наколькі гэтая мая «нармальная, разумная» рэакцыя на жыцьцё ўспрымаецца іншымі людзьмі менавіта як такая? Урэшце, наколькі гэта нармальна — жыць у згодзе з сабой? Ці жывуць так іншыя людзі? Наколькі нашыя агульныя крытэрыі разуменьня маральнасьці ў жыцьці супадаюць і адпавядаюць сабе?

Я веру, што багата людзей у сваім жыцьці кіруецца тымі ж прынцыпамі, што і я. Я маю гэтаму багата сьведчаньняў. Можа быць, нашая агульная пазіцыя, якую Махатма Гандзі акрэсьліў як імкненьне «жыць у праўдзе», да ўсяго яшчэ будзе жывым прыкладам для іншых, хто шукае ўласныя жыцьцёвыя арыентыры.



Яшчэ адное пытаньне, над якім варта падумаць: калі ты такі «разумны і правільны», дык чаму ты сядзіш у турме? Можа быць, усё ж мая праўда — хібная? Можа, я памыляюся? Ніколі ня трэба адкідаць такой магчымасьці. І ўсё ж, увесь час, зьвяраючы сваю праўду зь іншымі, я ўпарта трымаюся свайго. Як пісаў яшчэ ў эсэсэсэраўскія часы Васіль Аксёнаў: *«Што ж вы, гады, хочаце сказаць, што ня вы вар'яты, а мы? Значыць, калі вас болей, дык вы нармальныя, а калі нас меней, дык мы псіхі?»* А зараз ня ўсё так кепска, і іх ужо ня больш, і нас ня меньш. І вялікай адвагі для таго, каб быць нармальным чалавекам, не патрабуецца. Усяго толькі крышку.



Чэрвень 2014

---

**Ліндэрт** піша:

«Неверагодна, што Вы былі падступна схопленыя за тое, што змагаліся за правы чалавека. Як можна ў краіне, такой як Беларусь, быць такімі несправядлівымі да ўласнага народу».

Чытаючы гэты ліст Ліндэрт, мяне бярэ лёгкая зайздрасьць. Яна жыве ў такім грамадстве і ў такой краіне, дзе цяжка ўявіць перасьлед праваабаронцаў за іхнюю дзейнасьць. Ліндэрт шчыра зьдзіўляецца, што дзесьці, а больш дакладна ў Беларусі, здаецца і не такой далёкай ад Галандыі краіне, такое магчыма. У яе зьдзіўленьні адчуваецца недавер: такога ня можа быць!

Мяне ж ахопліваюць двайныя пачуцьці. З аднаго боку, нашым звыклым жыцьцём і нядаўняй гісторыяй мы трывала прызвычаеныя да вось такіх абставінаў. У савецкіх уладаў, як у сабакі доктара Паўлава, на праваабаронцаў былі выпрацаваны адпаведны рэфлекс: ганьбіць, хапаць і саджаць. Вось зараз з Масквы ў Менск і Бабруйск прыяжджаў па запрашэньні беларускіх праваабаронцаў дысыдэнт яшчэ савецкіх часоў, вязень эсэсэсэраўскіх лагераў Міхась Кукабака. У псіхбальніцах і на зонах ён адсядзеў 17 гадоў. Міхася Кукабаку перасьледвалі за абарону правоў чалавека, за пратэст супраць уводу савецкіх войскаў у Чэхаславакію, за распаўсюд у Беларусі фактычна забароненай тады ўсеагульнай дэкларацыі правоў чалавека.

Шаноўны Алесь!

Віншую са слаўным мужчынскім юбілеем.

Жадаю здароўя, мужнасці, трываласці і — як найхутчэй — Волі.

Павінна ж урэшце быць свабода і на нашай вуліцы.

Жыве Беларусь!

Генадзь Бураўкін

15. IX. 2012 г.

Пасылаю раней, каб, магчыма, атрымаў у дзень нараджэння.

*Віншавальная паштоўка ад беларускага паэта Генадзя Бураўкіна.*

У 1990-м годзе, першае, што мы зрабілі, калі зьявілася магчымасьць для незалежнага друку, надрукавалі гэтую дэкларацыю па-беларуску вялікім накладам. Тады мне здавалася, што гэта будзе чымсьці надзвычайным, такім праваабаронччым Адкрыцьцём для беларусаў. Хацелася верыць, што новыя веды, усьведамленьне сваіх правоў выцягне ўсіх нас з стану пастаяннага страху і пакоры. Здавалася, што старыя, пад'ярэмныя часы ніколі ўжо ня вернуцца.

Але спадзяваньні былі завялікімі. Кажуць жа, што гісторыя разьвіваецца па сьпіралі, і раз за разам грамадзтва вяртаецца на свае кола, можа, крыху і вышэй за ранейшае месца, але бывае, што і ніжэй. Вось, падаецца, штосьці падобнае адбылося і ў нас. Таму нічога дзіўнага, што я апынуўся ў Бабруйску, на радзіме дзядзькі Міхася Кукабакі. Мы ні разу не сустракаліся зь ім, але мне падаецца, што ў нейкім сэньсе мае жыцьцё зьяўляецца працягам ягонага жыцьця.

А з другога боку, усё ж ахоплівае мяне неразуменьне і разьбірае ўнутраная злосьць. Яна крыху штучная, акадэмічная, бо грунтуецца на ведах. Ну як магло так стацца, што беларусы, якія 225 гадоў таму мелі адную з самых ліберальных і дэмакратычных грамадзтваў, якое ня ўпала ім на галовы, а было сьведама ўзгадавана і дагледжана, для якіх правы чалавека тады, яшчэ тады (!) не былі пустым гукам, якія сьлед у сьлед за французамі і поплеч з палякамі, літоўцамі і заходнімі ўкраінцамі былі наперадзе ўсёй Еўропы і задавалі ў ёй адпаведны трэнд, апынуліся вось у такой дэпрэсіўнай і бязрадаснай сітуацыі. Адказ круціцца на языку, і галава міжволі паварочваецца на ўсход. Але сама лёгка шукаць вінаватых звонку і цяжэй пагаджацца з уласнай віной. А яна ж была, была…

Мала быць асьвечаным, адукаваным і дэмакратычным у параўнаньні зь іншымі, мала быць гуманным і міласэрным. Трэба ўмець бараніць свой набытак і сваю Айчыну. Недарэмна ў сярэднявеччы паняцьце Айчыны было



тоесным паняцьцю свабоды. Інакш знойдуцца барбары, хціўцы і зайздросьнікі, гатовыя пажывіцца дарэмшчынай і разрабаваць твой край.

І сёньня, цяпер гэтае сьцьвярджэньне актуальнае, мы бачым гэта на прыкладзе нашай паўднёвай суседкі. А ў тыя часы, два з гакам стагоддзі таму, гэтая сентэнцыя была аксіёмай.

Так што нам самім трэба рабіць высновы з сваіх памылак. І памылкі дарагія, крывавыя, на многія пакаленьні. І высновы нялёгкія, непрыемныя, ды што ж паробіш.

Чэрвень 2014

---

**Роб** піша:

«Урад будзе зьменены! У дыктатараў няма будучыні! Будзьце аптымістам, таксама і ў дрэнныя часы!»

У гэтых трох сказах мне чуецца адзіны кароткі выгук: «Зьменаў!» Тое, што таленавіта сьцiснуў у вершаваныя радкі і прасьпяваў у 80-х расійскі рокер Віктар Цой: «Перемен! Требуют наши сердца. Перемен!» І мы тады верылі ў іх і ясна бачылі, як гэтая канструкцыя пад назваю Савецкі Саюз, збудаваная камуністамі, спадкаемца «турмы народаў», Расійскай імперыі, праіржавела, струхлела наскрозь і вось-вось павінна была рухнуць. І мы дапамагалі гэтаму, як маглі. Мы марылі, што на друзах камуністычнай імперыі паўстане незалежная, дэмакратычная Беларусь.

У нечым мы былі першымі, мабыць, у самым галоўным, у адчуваньні подыху новай эпохі. А ў чымсьці наіўнымі. Мы думалі, што яснасьць нашых ідэалаў, прывабнасьць мэтаў, такая відавочная і бясспрэчная, што дастаткова будзе агучыць іх, галоўнае, каб пачулі людзі — і ўсё. Справядлівасьць і роўнасьць, свабода і нацыянальныя ідэалы пераможуць.

І сапраўды, вірусам пераменаў, высокай пошасьцю дэмакратыі і незалежнасьці заразіліся багата людзей. Шмат у каго расплюшчыліся вочы, асабліва ў гарадах, у асяродках адукаваных людзей, у колах інтэлігенцыі. Але была і непрыемная неспадзяванка. Нямала людзей, асабліва старэйшых і недастаткова адукаваных, засталіся ў абдоймах сьляпых ілюзіяў і настальгіі яшчэ па сталінскіх (!) часах. У іх існаваў ірацыянальны страх перад любімі зьменамі. Мы не ўяўлялі сабе, што настолькі новы будынак незалежнай Беларусі будзе залежаць ад ранейшых развалінаў, і што новы беларускі дом будзе будавацца з тых аскабалкаў і хлуду, якія засталіся ад савецкай Беларусі.

Хіба ж не папярэджваў некалі Ісус Хрыстос, што нельга наліваць новае віно ў старыя мяхі, бо забродзіць і стане даўкім? А яшчэ ў голаў прыходзіць верш Янкі Купалы «Прарок», у якім прарок клікаў беларусаў да лепшай будучыні, аддаваў людзям усю сваю душу і самога сябе. А людзі спыталі: *«А колькі ты дасі чырвонцаў, калі мы пойдзем за табой?»*

Тады, пасьля рэвалюцыі, гэтага ўсеагульнага забурэньня і закалоту, да ўлады прыйшлі ня тыя. Паманілі людзей чырвонцам, прыгразілі зброяй, і прыйшлі. А тых, хто клікаў да зьменаў у сапраўдных інтарэсах народу, бязьлітасна панішчылі. У камуністаў была свая шалёная праўда з вострай шабляй і наганам у руках і свая вар'яцкая мара пра сусьветную рэвалюцыю.

Вось жа, Роб мае рацыю. Ніякая дыктатура, нават пралетарыяту, ня мае будучыні. Яна зжывае сябе, як хворае дрэва. Стаіць такое дрэва, здаецца, магутнае і моцнае, пышнае і расахатае, і нічога пад ім не расьце. А потым дзьме вецер, гудзіць бура, і яно падае, бо, аказваецца, няма ў ім сэрцавіны, адное трухлявае дупло. І адразу ж каля яго прабіваюцца новыя парасткі, і на яго дзялянцы вырастае густы малады гай.

Так што я веру, бо ведаю, што мінае ноч і надыходзіць ранак, а пасьля зімы наступае вясна.

---

**Лаўра** піша:

«Дарагі Алесь! Калі рэчы вакол цябе — чорныя, можа, ты бачыш сьвятло».

Лаўра падпіхвае мяне да аптымістычнага ўспрыманьня гэтага сьвету, нягледзячы на вонкавыя цяжкасьці. І гэта слушна. Непераадольны аптымізм — гэта тое, што выцягвае сьветлую беларускую мару-ідэю з чорнай багны рэчаіснасьці. Прыродны аптымізм — гэта тое, што ў кожную хвіліну натхняе мяне на грамадзкую працу. І ўсё ж яго надоўга не хапіла б. Урэшце, беспадстаўны аптымізм — прыкмета бажавольнасьці. Веды па гісторыі, філасофіі, культуры, якія я назапашваю з юнацтва — яны мой падмурак і крыніца натхненьня. Яны — не самамэта, я спажываю гэтую інтэлектуальную ежу і ўнутрана адчуваю сябе бадзёрым і здаровым.

Вялізны дысананс і разрыў паміж рэчаіснасьцю і жыцьцёвай марай. Адзін мой нявольны знаёмы, недурны дзядзька, выхаваны ў савецкіх традыцыях, а затым пражыўшы 20 гадоў у постсавецкай Беларусі, пасьля нашых перыядычных і пастаянных спрэчак, да болю знаёмых усім палітычным сядзельцам яшчэ з царскіх часоў, неяк сказаў: *«Ды цябе нічога не задавальняе ў нашым жыцьці. Усё, што ня робіцца, і амаль усё, што ня зроблена, — усё няслушна, усё ня так».* А другі выпадковы знаёмы, паслухаўшы мае развагі наконт таго — хто вінаваты і што рабіць, зрабіў выснову: *«Дык ты ж ня любіш беларускі народ».*

Гэта сьцепанула мяне: *«Ды не,* — адказаў я, расчараваны ў сваім уменьні пераконваць, — *свой народ я люблю бязьмежна, бо я сам зь яго, — але я не люблю хваробы майго народу і ніколі не зьмірыся зь ёй».* Я гэта фармуляваў ня столькі для яго, колькі для сябе, бо я ў прынцыпе люблю людзей і ніколі ня быў чалавеканенавісьнікам. У пэўным сэньсе я зьяўляюся закладнікам гэтай даверлівай любові.




*Паштоўка намаляваная і дасланая ў калонію Дар'яй Каткоўскай*

Іншы мой сябра яшчэ ў канцы 80-х гадоў, калі яўрэі масава выяжджалі зь Беларусі, сказаў неяк: *«Калі б я быў яўрэем — выехаў бы адсюль як мага хутчэй».* Былі ў ягоных словах і горыч, і зайздрасьць, што ім, яўрэям, ёсьць куды зваліць з гэтай спаскуджанай і загаджанай камуністамі зямлі. А вось нам, беларусам, зьяжджаць не было куды.

З чаго нам трэба было адбудоўваць сваю незалежную і дэмакратычную Беларусь? І з кім? Выпаленае, здратаванае беларускае поле, духоўны Чарнобыль, працьма савецкіх манкуртаў, баі і беі акалялі нас. Неабходна было наноў ствараць нармальны беларускі сьвет, аддзяляць зерне ад паловы, склейваць кавалачкі разьбітага старасьвецкага люстэрка, адціраць ад бруду спрадвечныя традыцыі, узьнімаць з гною знахаленую мову. Дзякуй Богу, мы былі ня першыя і не адныя.






# ЛІСТЫ ПАДТРЫМКІ





*Паштоўка, намаляваная Янай Лапцёнак, дасланая ў калонію.*



06.01.2012 г.

У мяне пакуль усё па-старому. Смуткуючы па бацьку, чакаю разгляду «касаткі».

Сёньня прыйшла пошта, і ад аднаго ліста мне стала вусьцішна. Бо ён … ад Вацлава Гавэла. Ліст па-чэшску зь ягоным подпісам і зь ягоным «фірмовым» сардэчкам, якое ён паўсюль ставіць разам з подпісам. Прыкладзены таксама пераклад па-беларуску. Ліст ад 15.12.11.

Ён пісаў:

> «Дарагія сябры,
>
> Хацеў бы сардэчна вас павіншаваць на парозе Новага Году і пажадаць вам і вашым блізкім, каб ён быў лепшым, чым мінулы. Выказваю салідарнасьць з вашай пазіцыяй і буду і надалей выкарыстоўваць усе магчымасьці, каб разам са сваімі сябрамі зьвяртаць увагу міжнароднай грамадзкасьці на парушэньне грамадзянскіх правоў у Беларусі.
>
> Жадаю вам усяго добрага і свабоды вашай краіне.
>
> Вацлаў Гавэл».

VÁCLAV HAVEL

Hrádeček 15. prosince 2011

Milý příteli,

rád bych Vás srdečně pozdravil na prahu nového roku a popřál Vám i Vašim blízkým, aby byl lepší než ten odcházející. Solidarizuji se s Vašimi postoji a budu i v budoucnu využívat všech příležitostí, abych spolu se svými přáteli upozorňoval mezinárodní společenství na porušování základních občanských práv v Bělorusku.

Přeji Vám vše dobré a svobodu Vaší zemi.

Václav Havel

Мяне гэта моцна ўразіла, бо я ведаў, што ён памёр. Гэтая інфармацыя была прайшла па ТБ, але я ня ведаў і ня ведаю дакладна дату — калі. А сьмерць майго бацькі засланіла сьмерць В.Гавэла. І напісаць штосьці сьпецыяльнае я ня браўся. Але зараз вось, у зьвязку з гэтым лістом, хачу прыгадаць, што сустракаўся з Вацлавам Гавэлам двойчы. Адзін раз у складзе беларускай дэлегацыі ў 2001 г. Былі таксама С.Шушкевіч, В.Вячорка, А.Лябедзька, А.Міхалевіч і я.

Другім разам, разам з Валянцінам Стэфановічам у 2006 годзе, дзе ён уручыў мне і «Вясьне» прэмію «Homo homini». Было гэтае ўручэньне падчас фестывалю праваабаронччых фільмаў, які праводзіцца ў Празе няўрадавай арганізацыяй зь вялікім размахам. Быў прагляд фестывальных фільмаў у былым вялікім касьцёле, а затым — гэтае ўручэньне, якое мяне моцна ўразіла, бо я лічыў для сябе Вацлава Гавэла сваім духоўным настаўнікам, хаця мы і не былі блізка знаёмыя.

*Вацлаў Гавэл уручае праваабарончую прэмію Homo Homini. Прага, сакавік 2006 г.*



Затым пасьля ўручэньня ў нас была 20-хвілінная размова ў цесным коле з Вацлавам Гавэлам. Валік таксама на ёй быў. Мы выпілі разам з Вацлавам Гавэлам па кілішку фэрнэту і пагаварылі накont сітуацыі ў Беларусі. Нічога асаблівага не было, але я запомніў тое, што ён даволі добра арыентаваўся ў грамадзка-палітычнай сітуацыі ў Беларусі. За што я яго паважаў і паважаю — за сапраўдную неканьюктурную салідарнасьць з дэмакратычнымі сіламі, зь беларускім народам. Я проста на духоўным узроўні на сустрэчы адчуваў, што мы зь ім — адной крыві. Гэта як і зь іншымі праваабаронцамі, няважна зь якой яны краіны ці кантыненту, такое я адчуваў і ў Расіі, і на Кубе, і ў Тунісе, і ў Францыі. Нягледзячы на тое, што ён быў два тэрміны прэзідэнтам Чэхіі, улада не сапсавала яго. Ён застаўся такім самым, якім быў і перад гэтым. Я, вядома ж, паважаю яго за інтэлігентнасьць, за тое, што ён быў сусьветна вядомым пісьменьнікам, і за той стаіцызм, зь якім ён пераносіў рэпрэсіі ў дачыненні да яго. Ён выступаў за правы чалавека, ён перасьледваўся ў значна больш жорсткія часы, але ў яго была высокая непахісная вера ў тое, што ён мае рацыю, і што чэшскі народ варты лепшага.



На жаль, зь ягонай сьмерцю ў беларусаў, у дэмакратычна настроеных грамадзянаў на аднаго сябра ў сьвеце стала меней. Гэта яшчэ адная балючая страта ў 2011 годзе. Я таксама спачуваю чэшскаму народу, які страціў выдатную і вялікую постаць чалавека, які рэальна паўплываў на пазітыўныя зьмены ў гісторыі Чэхіі.

Гэты ліст падтрымкі з подпісам Вацлава Гаўла зараз самае каштоўнае, што ёсьць са мной тут.

P.S. Як зьнікаюць вялікія зоркі, і сьвет ад іх ідзе яшчэ доўгія гады, асьвятляючы цемру, так і ліст Вацлава Гаўла да мяне зьявіўся такім жывым промнем ужо пасьля ягонай сьмерці.



14 верасьня 2012

Бабруйск

Апошнім часам пішуць мне даволі багата маладыя людзі. І зь Вільні са Школы шмат паштовак было. Можна здагадацца, кім яны былі ініцыяваныя. І проста так пішуць. Мне гэта прыемна, значыць, ідэя праваабароны знаходзіць водгук сярод беларускай моладзі, пра якую гэтак узьнёсла некалі пісаў Янка Купала. Праўда, тая, ягоная моладзь, ужо ўся састарэла і пазьмірала, але ж, вось, нарасла новая. Дазволю сабе працытаваць некаторыя шчырыя радкі з паштовак і лістоў, зьвернутыя на мой адрас:

— Алесь! Вы — наш талісман!

— З Вамі столькі сяброў, што вы проста абавязаныя трымацца.

— Заўсёды ёсьць шлях лёгкі і цяжкі. Тыя, хто ідуць па лёгкаму — існуюць, хто па цяжкаму — жывуць. Лепш жыць, чым існаваць. Жывіце, Алесь!




*Пікет салідарнасьці ў Вільні. 4 жніўня 2013 г.*

— Мы, будучыя праваабаронцы, дзякуючы вам, бачым тую перспектыву, чаго можна дабіцца ў жыцьці і кар’еры.

— Мы з табой, і будзем змагацца да таго часу, пакуль не адключаць у жылах гарачую крывю!

— Вы шмат зрабілі для нашага народу! А народ памятае пра вас.

— Мне трохі няёмка, што вы вось сядзіце за ўсіх нас, а я вось вам толькі паштовачку напісаў.

— Паважаны Алесь! Гледзячы БТ, у мяне складвалася ўражаньне, што вы ў чымсьці вінаваты, але цяпер я нашу майку з вашай выявай. Мы верым, як дзеці, што дабро пераможа зло.

— Алесь Віктаравіч! Пасьміхніцеся! Мы з Вамі!

— Алесь! Ты не адзін, і мы не адныя!

Вось гэта самае галоўнае ў жыцьці, каб мы ведалі, што мы не адныя. Я дык гэта адчуваю напоўніцу.





3 кастрычніка 2012

Бабруйск

Усе гэтыя дні спрабую адказваць на віншаваньні і неяк рэагаваць на іх. На сёньня прыйшло больш за 600 паштовак, і яны яшчэ ідуць, даходзяць пасланьні з-за мяжы, і беларусы некаторыя спахапіліся і адсылаюць наўздагон. Вось, сёньня прыйшло 209 паштовак і лістоў з Украіны, перасланыя і сабраныя ўкраінскім Amnesty International. Я сёньня сядзеў да абеду, чытаў. І па лістах можна заўважыць розьніцу ў характарах украінцаў і беларусаў. Украінцы падаюцца мне больш адкрытымі і меньш аглядлівымі. Хачу пераслаць некалькі лістоў і малюнкаў ад дзяцей і цытаты зь лістоў і паштовак да мяне, якія падаюцца мне арыгінальнымі. У адказе ў офіс Эмнесьці ў Кіеве я напісаў, што гэтыя 209 паштовак роўна на 209 дзён узьнялі мой настрой і далі энэргію.

Павіншавалі мяне сябры з парыскага офісу — усе подпісы паставілі, а таксама з лонданскага офісу Эмнесьці. Таксама я атрымаў віншаваньне ад нашых сяброў з Польскага хельсінкскага Фонду, з Нарвегіі і Швецыі. Дык вось што пішуць мне ўкраінцы:

— Падтрымліваю вашу барацьбу за свабоду беларускага народу. Ніколі не здавайцеся!

— Праўда заўсёды пераможа! Трымайцеся, Алесь! Разам нас багата!

— Алесь! Выходзь хутчэй! Тут усе цябе чакаюць. Ну і з днём нараджэньня!

— З днём нараджэньня. Бунтуй! Кахай! Усяго найлепшага.

— Каб ваш наступны дзень нараджэньня вы сустрэлі разам з намі ў Кіеве на Майдане Незалежнасьці. Немажлівага не існуе. З Богам.

— Алесь! Вітаю зь юбілеем! Хай наступны юбілей твой будзе ў сям’і. Няхай паздыхаюць твае ворагі. Твой цёзка.




— Вітаю з днём нараджэньня! Трымай удар!

— Жадаю волі і свабоды ва ўсім сьвеце!

— Дарагі Алесь! Чуў па радыё Свабода, што ты ўліп ні за што. Трымайся ўжо да канца. Цісну руку.

— Шаноўны Алесь! Вы пераможаце. Шаўчэнка казаў: «Барыцеся — пабораеце!»

— Дружа Алесь, навукоўцы зь Львова падтрымліваюць вашую барацьбу! За нашу і вашу свабоду!

— Жадаю свабоды вам і ўсяму беларускаму народу! Антон.

— С днем рожденья, Алесь! Мы с Вами, не огорчайтесь! Студентка.

— Алесь! Так держать! С днем рожденья!

— Трымайцеся! «Contra some spero».

— С днем рожденья, Алесь! Выходите поскорей.

— Держись, Мужик! Уже 50.

— З днюхою, Дядько! Юра з Киева.

Некаторыя з гэтых выказваньняў троху сьмешныя, але ўсе яны вельмі шчырыя. А некаторыя вельмі глыбокія. Я ўсім ім удзячны за падтрымку.

P.S. 04.10.2012 — вось яшчэ 89 паштовак і лістоў прыйшло… віншуюць з Польшчы (з нарады АБСЕ, Галандыі, Фінляндыі). Такім чынам, ужо каля 700 віншаваньняў).





13 лістапада 2012

Бабруйск

(…) Прачытаў лісты з лягеру ксяндза-беларуса Андрэя Цікоты (памёр у лягеры ад хваробаў) у 52-м годзе, і лісты беларускага пісьменьніка родам з Бабруйску Барыса Мікуліча (памёр у ссылцы ў Красноярскім краі ў 54-м годзе ад інфаркту ў 41 год). І знаходжуся зараз пад іх уражаньнем. Мо троху пазьней напішу падрабязьней.

Мне ж зараз ідзе даволі багата лістоў і паштовак з-за мяжы. У асноўным зь Нямеччыны. Я разумею, што нямецкая Эмнесьці абвясціла акцыю падтрымкі. Вось і шлюць мне прыгожыя паштоўкі з усіх канцоў Германіі. Толькі за ўчора і сёньня (панядзелак-аўторак) я атрымаў 21 ліст і паштоўку зь Нямеччыны і яшчэ 1 з Бостану, ЗША, і 1 з Англіі. Невядомыя людзі, але не абыякавыя.

А я ўсё любуюся вялізным восеньскім нізкім небам. Як добра, што ў нас выразныя 4 пары году. Гэта вельмі разнастаіць жыцьцё. Ня тое што, да прыкладу, на Кубе. Там толькі 2 пары году — лета без дажджу і лета з дажджом. Ня цэнім тое, што маем. (…)





4 сьнежня 2012




Хачу яшчэ раз усім падзякаваць за «восеньскі альбом». Пераглядаю яго час ад часу. Прыемная памятка мінаючых дзён. Дасылаю некалькі паштовак, якія прыйшлі да мяне за апошні тыдзень і якія вылучаюцца адметнасьцю і запамінаюцца.

Вось, тыя што з Англіі — з показкаю, з Бергінгему. Гэты мой далёкі сябра ўжо ня першы раз падтрымлівае мяне такім чынам — показкамі з чыста ангельскім гумарам.

*«Дарагі Алесь,*
*Конь заходзіць у бар.*
*Бармэн пытаецца:*
*«Чаму ў цябе такі выцягнуты твар?»*
*Спадзяюся, што ў цябе ўсё ў парадку!*
*Будзем, Біл»*

4 паштоўкі, далікатна намаляваныя, прыйшлі з Канады, з Квэбэку, па-француску. Тэкст я дакладна прачытаць, на жаль, не магу, але разумею, што мяне падтрымліваюць у «маёй барацьбе», і жадаюць мне «куражу», за што ім дзякуй. І ня меньш мяне захапляюць малюнкі, гэтыя канадзкія краявіды, і вазон з жоўта-ліловымі кветкамі, і далікатная персікавая кветачка з надпісам «Бонжур».





Цікавая і наступная паштоўка, якая прыйшла з Аўстрыі. Прыродныя краявіды спалучаныя зь перспектыўнымі здымкамі старой гарадзкой архітэктуры, а ўсярэдзіну ўмантаваны мой здымак. Дзіўнае пачуцьцё — атрымліваць паштоўкі з сваім уласным абліччам. Паштоўку гэтую падтрыхтавала Эмнесьці Інтэрнэшэнл з Аўстрыі, зь Вены. На адвароце яны з аўстрыйскай педантычнасьцю падпісалі хто ёсьць хто — дзе горы, дзе палацы і дзе — Бяляцкі, не забыўшыся ўказаць і аўтара здымку Юлю Дарашкевіч.



Тры гэтыя паштоўкі з Англіі, Канады і Аўстрыі — і ў кожнай зь іх можна разглядзець нацыянальны характар тых, хто іх дасылаў. А тое, што іх аб'ядноўвае — неабыякавасьць.

P.S. У мяне збольшага ўсё нармальна, ўсё па-старому, вось зіма прыйшла. Віншую ўсіх знаёмых і незнаёмых сяброў з Міжнародным днём правоў чалавека.



12 сьнежня 2012

Бабруйск

Дасылаю некалькі паштовак, якія прыцягнулі маю ўвагу. За панядзелак-аўторак прыйшло іх 33 штукі. Сярод іх — паштоўка з Тайваню, гэтай незалежнай кітайскай выспы. Напісала мне адтуль спадарыня Мімі Чэн, па-кітайску і па-беларуску.

Паштоўка з Швецыі апроч усяго спадабалася мне маркаю з чырвоным геаметрычным узорам на шаліку. Узоры нагадваюць мне ўзоры нашых беларускіх рушнікоў.




Наступная паштоўка зь Нямеччыны, якую падпісалі 12 асобаў, а вось паштоўку з Аўстрыі прыслала сям'я Schagerl. Насамрэч, я ня думаю, што яны вось так увесь час думаюць пра мяне. Але тое, што яны думалі і пра мяне, і пра Беларусь, у тую хвіліну, калі запаўнялі гэтыя паштоўкі, несумненна. Гэтая салідарнасьць ня толькі са мною, але ж і з усімі беларусамі, хто знаходзіцца зараз у няпростай сітуацыі.

Мая «ўдарная» праца на карысьць эканомікі «сінявокай» працягваецца. Рукавіцы ўжо пачынаю ціха ненавідзець. Зіма, на жаль, тут прыносіць меньш станоўчых эмоцыяў і яе трэба проста пераждаць. Сьнег расфарбаваў навакольле, і тое добра.

Учора здымаліся з працы ў 23.00. Сьняжынак — мільёны падала. На сьвятле ліхтара гэта было суцэльнае хаатычнае сонмішча маленькіх белых плямак, якія мітусіліся туды-сюды. Стаю, задраў галаву, гляджу, любуюся. Падышоў іншы зэк, таксама стаў глядзець угару. Потым пытаецца: *«Што ты там бачыш?» «Сьнег, — кажу, прыгожа»*. Ён толькі хмыкнуў і пайшоў.





15 сьнежня

Бабруйск

Чарговыя паштоўкі і малюнкі прыйшлі да мяне ў апошнія дні. Малюнкі кветак прыслалі мне дзеці з Польшчы. На жаль, адваротнага адрасу на капэрце няма, і адзінае, што я ведаю, што гэтыя дзеці жывуць у Польшчы. Усяго малюнкаў — 14, ад Пятра, Алівіі, Паўліны, Дагмары, яшчэ раз ад Алівіі і Паўліны, Бені і Патрыцыі, іншыя ж не падпісаныя. Ёсьць у гэтай ананімнасьці нейкая наіўная шчодрасьць душы. Яна як бы гаворыць: няважна, дзядзька Алесь, адкуль мы, але гэта — табе! Я ім шчыра ўдзячны.

Наступная група паштовак, іх 9 штук, дасланыя з гораду Падвеску, ад школьнай групы Эмнесьці №104. Відаць, што яны выконвалі школьнае заданьне і старанна выпісвалі словы невядомымі для іх кірылічнымі літарамі. У іх выдатна атрымалася. Дзеці, якіх з маленства вучаць адгукацца на чужую бяду, вырастуць неабыякавымі да розных праяваў жыцьця.

Прыйшлі таксама дзьве паштоўкі ад дзяцей з Гданьску. І там старанна выкананы кірыліцай беларускі надпіс.

І паштоўка з восеньскім краявідам з Радаму. Надпіс на паштоўцы — самотна-рамантычны, неафіцыйны: *«Хоць лісьце шалясьціць пад нагамі — памятаем пра любімую вамі восень»*. Запамінальныя і кранальныя і паштоўка, і сам надпіс.






Я думаю пра цябе

Я жадаю табе дабра

Furukawa Makiko

古川 真紀子

Да мяне працягваюць ісьці паштоўкі і лісты з розных канцоў сьвету. Некаторыя зь іх я хачу пракаментаваць і падзяліцца сваімі ўражаньнямі. Прыйшлі тры паштоўкі зь Японіі. Яны вельмі простыя. І тое, што гэта паштоўка — сьведчыць ледзь бачны надпіс па правым беразе паштоўкі: post card. Прозьвішчы і імёны маіх далёкіх японскіх сяброў выкананы лацінкаю і японскімі іерогліфамі. Абедзьве паштоўкі ўпрыгожаныя сьцікерсамі зь японскай тэматыкай. Там ёсьць і вулкан, і чырвонае сонца, і лялька, размаляваная ў японскім стылі. Я адзначыў бы, што гэта вельмі стыльныя паштоўкі.

Наступныя дзьве паштоўкі прыйшлі з Аўстрыі. Яны стандартныя, падрыхтаваныя сьпецыяльна для акцыі ў маю падтрымку. З адной зь іх можна даведацца, што група студэнтаў з унівэрсітэту горада Leoben падпісалі мне некалькі паштовак. Анна, якая пра гэта паведамляе, спадзяецца, што гэта мне хоць крыху дапаможа. Кветачка, дамаляваная Аннай напрыканцы тэксту, робіць яго больш чалавечым і асабістым.

Яшчэ адная паштоўка прыйшла таксама з Аўстрыі па-нямецку. Тэкст я, на жаль, не магу зразумець. Але тое, што два апошнія сказы сканчаюцца клічнікам, гаворыць пра экспрэсію аўтара тэксту і пра ягонае жаданьне выказаць штосьці гучна і даходліва.



Яшчэ ў адным канвэрце з Аўстрыі была копія ліста да прэзідэнта Беларусі. Такія лісты дасылаюць у Менск на Карла Маркса, 38 сябры Эмнесьці.

Наступная паштоўка зь сьмешным сьнегавіком прыйшла з Канады. Сьнегавік на ёй нейкі свойскі, у яго ўсё няскладна: вочы, румянец на шчоках, скрыўленая ўсьмешка, але праз гэта ён такі прывабны. Я думаю, ён пасаваў бы да замкаў са сьнегавых блокаў, пабудаваных зараз на газонах у нашай калоніі. Сьцены ў іх таксама крывыя і, здаецца, што вось-вось паваляцца. Як быццам бы дзеці іх рабілі.

Наступная паштоўка з чыста галандзкім пейзажам, зь ветраным млыном і дзецьмі, якія катаюцца на каньках па лёдзе. Зьмест гэтай паштоўкі хоць і просты, але ж выкладзены вершам.

Паштоўка зь Ірландыі выклікала ў мяне найбольш асацыяцыяў. Выява карціны Юзафа Торнера мае назву: «Rail, Steam and Speed», што я тлумачу як «Чыгунка, Пара і Хуткасьць». Можа, гэта не зусім дакладны пераклад, але гэта не галоўнае. Галоўнае тое, што я бачу на гэтай карціне: цягнік, які цягне паравоз у жоўта-карычневым тумане-марыве. Марыва такое, што ня бачна ані навакольля, ані бляску рэек, толькі неба прабіваецца праз клубы жоўтага пылу. Відавочна, што галоўным словам у назве карціны зьяўляецца «Хуткасьць». І гэтая хуткасьць дае адчуваньне руху свабоды. Гэтым яна і кранае мяне.



І апошняя паштоўка — зь Бельгіі. Пачынаецца яна так: «Cher Ales — дарагі Алесь, перакладаю я з францускай знаёмае слова. Гэтае cher я сустракаў у рамане Л.Талстога «Вайна і мір». А на паштоўцы — краявіды афрыканскай саваны. Наперадзе — сухія кусты, рэдкія дрэвы, а далей — ходзяць ледзь бачныя жывёлы, а яшчэ далей, на заднім плане ўздымаюцца цёмныя пагоркі. Спакоем вее ад гэтай паштоўкі.



18 сьнежня 2012

Бабруйск

Калі ўчора, у панядзелак, да мяне прыйшлі 22 лісты, то сёньня, ва ўторак, лістоў і паштовак было ўжо 91. І ў некаторых канвертах было па некалькі лістоў. А некаторыя лісты маюць пабагату подпісаў. Такім чынам, колькасьць асобаў, якія вырашылі падтрымаць мяне за гэты аўторак праз паштоўкі, лісты, подпісы, дасягае блізу 200 чалавек. Цікавая геаграфія гэтых пасланьняў. 39 лістоў прыйшло з Польшчы, 18 — з Аўстрыі, 14 — зь Нямеччыны, 7 — з Швейцарыі, па 3 лісты — зь Бельгіі і Нарвегіі, па 2 лісты з Галандыі і Швецыі і па адным — з ЗША, Канады, Фінляндыі і Францыі.

Сёньня пасьля працы і марознага дня, а на вуліцы падчас ранішняй праверкі было пад 20 градусаў марозу, я ўвесь вольны час разьбіраў і імкнуўся прачытаць гэтыя лісты.

Пачну зь лістоў з Польшчы. Яны прыйшлі з розных гарадоў краіны — і з Кракава, і з Варшавы, і з Гданьску ды іншых. Некаторыя зь іх мне каментаваць не выпадае, адзінае, што хочацца сказаць, дык гэта пра шчырасьць аўтараў гэтых лістоў, але з наступнага ліста можна даведацца, што 8-9 сьнежня ў Польшчы праваабарончая арганізацыя Эмнэсьці Інтэрнэшэнл праводзіла Марафон напісаньня лістоў у падтрымку пяці асобаў, адной зь якой зьяўляюся і я. Пад гэтым лістом, дарэчы, паставілі подпісы 38 вучняў і настаўнікаў школы ў г.Глівіцэ.

Іншы ліст таксама падкупае сваёй шчырасьцю. Эва і Юстына хацелі б дапамагчы мне, але ня ведаюць, як гэта зрабіць. Але яны вераць, што калі я прачытаю іхні ліст, дык усьмешка зьявіцца ў мяне на твары. І яны не памыліліся! Сапраўды, я доўга пасьміхаўся пасьля гэтага ліста дзяўчатаў. Яны падарылі мне добры настрой на ўвесь вечар. Хаця ён і так быў някепскі, але стаў яшчэ лепшым.

З Аўстрыі прыйшоў ліст з Gipf-Oberfrick. Ахайна аформлены сьпіс подпісаў у колькасьці 26 штук. Адчуваецца ў ім аўстрыйская педантычнасьць і дакладнасьць.

А вось іншая паштоўка зь Вены выклікала ўвагу выяваю касьцёла сьвятога Карла. Я неаднойчы быў у Вене, на паседжаньнях АБСЕ, а вось гэтага касьцёла ня памятаю, мабыць, не даходзіў да яго. Архітэктура ж яго ад-



метная. Тут і класічны порцік ад уваходу ў касьцёл, і бараковыя вежы абапал, і рэнесансная ратонда-купал пасярэдзіне, і фантастычныя дзьве вежкі з боку фасаду, якія нагадваюць мусульманскія мінарэты. Ёсьць у гэтым, мабыць, уплыў Асманскай імперыі, грознай суседкі Аўстрыі на працягу многіх стагоддзяў.

Наступныя паштоўкі зь Нямеччыны. І першая, якую я ня мог не заўважыць, паштоўка са знакамітым букетам сланечнікаў Вінцэнта Ван Гога. Ёсьць у гэтай кампазіцыі штосьці несумяшчальнае. Сланечнікі ў гладышы на стале. Мы любуемся сланечнікавымі галовамі ў прасторах беларускіх палёў, на сваіх агародах і ўчастках. Але ж вось узяць і паставіць іх у гладыш — гэта па-за эстэтыкай беларуса. Экзотыка нейкая.

Таксама нязвыкла для беларускага вока выглядае наступны пейзаж. На паштоўцы, дасланай зь Берліну, мы бачым карціну Hans am Ende «Sommertag» («Летні дзень»). Здаецца, і бярозкі ёсьць, і блакітнае неба з аблокамі, і поле з вадою. Але ж — гэта не беларускі пейзаж! Хаця дата стварэньня карціны — 1901 год, але ж вада цячэ ня ў рэчцы, а ў выпрастаным канале, а бярозкі штучна высаджаныя паўз бераг каналу. Гэта ўжо не натуральны пейзаж, а дагледжаная чалавекам прырода.

А вось наступная паштоўка з малюнкам веранды мастака Ronen Argalazi, дасланая зь нямецкага Валблінгена, імпануе мне сваім летнім настроем. Здаецца, гарачыня і сьпякота сплываюць зь яе. Людзей няма, толькі кветкі і летняя садовая мэбля і салатавы колер разамлелых на сонцы кустоў і дрэваў.

Наступныя паштоўкі прыйшлі з Швейцарыі. І цяжка прамінуць паштоўку з швейцарскім сьцягам — белым раўнабаковым крыжам на чырвоным тле. Гэтыя колеры — чырвоны, як насычаная кіслародам кроў з аорты, і чысты белы — колеры і нашага нацыянальнага сьцягу, яны заварожваюць сваёй высакароднасьцю. Цяжка што прыдумаць ці сказаць супраць гэтых колераў. Яны — незаплямленыя.

У іншай швейцарскай паштоўцы зачароўвае зімовы краявід на здымку. Сонца, якое заходзіць, хутчэй за ўсё прабіваецца праз дрымучыя засьнежаныя яліны, і ягоны водблiск ляжыць на зашэрхлай корцы сьнегу. Гэтыя хвіліны нядоўгія. Яшчэ крыху, і сонца зьнікне, і змрок апануе зямлёй. Але вось гэтыя непаўторныя хвіліны прыгажосьці застануцца ў памяці. Чалавек, які даслаў гэтую паштоўку, піша: *«Дарагі Алесь! Мая краіна знаходзіцца ў цэнтры Еўропы. Адсюль я думаю пра цябе»*. Але ж і Беларусь, калі верыць выказваньням некаторых палітыкаў, таксама знаходзіцца ў цэнтры Еўропы! І каму тут верыць. Мабыць, маюць рацыю і адны, і другія. Толькі адныя разумеюць Еўропу як гістарычную, культурную, цывілізацыйную прастору, а іншыя —




як кавалак зямлі, вызначаны геаграфічна. І згодна першых, мы — неверагодная ўскраіна, нейкая пераходная зона паміж цывілізаванай Эўропай і дзікай Азіяй. А згодна другіх — самы еўрапейскі цэнтр!

Паштоўка з Галандыі прыцягнула ўвагу стылізаванай марачкай-познамкай з маім абліччам. Шчыра кажучы, пасьля вядомай маркі з выяваю аднаго беларускага палітыка, штосьці не выклікае яна ў мяне станоўчых эмоцыяў.

Паштоўка зь Фінляндыі цікавая для мяне тым, што гэта першая паштоўка з гэтай краіны.

А вось паштоўка са Штатаў — з голубам і з подпісам «Мір» выклікала ў мяне свае ўспаміны. Некалі ў Міры ў 80-х гадох мы з групаю гомельскіх студэнтаў прыехалі паглядзець Мірскі замак, а на ноч спыніліся ў хаце мясцовага ганчара. Гэта была сапраўдная традыцыйная хата мясцовага ганчара зь вялікімі сенцамі, з глінянай падлогаю і печкаю, якая атоплівала ня толькі хату, але й ганчарныя ямы, дзе сушылі гліняны посуд. Гаспадар ужо не ганчарыў, а ў ямах, якія ён паказаў нам, вэндзіў розныя кілбасы, мяса і каўбушкі. Цікава, ці захавалася хоць адная такая хата зараз, і чаму б сёньня не зрабіць яе аб'ектам для шматлікіх турыстаў, якія апанавалі ў апошнія гады Мір.

Але я не пра гэта. Вось гэты дзядзька, былы ганчар, падарыў мне глінянага голуба, пакрытага сьветла-жоўтым глазурам і з надпісам на галубіных грудзях: «Голуб миру». Вось так яно і было напісана, па-беларуску, але праз рускае «и». І я так шкадую, што гэты голуб дзесь згубіўся, зьнік з майго асьпіранцкага інтэрнатаўскага пакою. Вось жа, гэтая паштоўка з голубам і з словам Мір на розных мовах і нагадала мне пра яго, беларускага голуба міру зь Міру.





20 сьнежня 2012

Бабруйск

Лісты і паштоўкі працягваюць прыходзіць да мяне ў вялікай колькасьці. Вось і ўчора, у сераду, 19 сьнежня, у 2-ю гадавіну выбараў, да мяне прыйшло з-за мяжы 71 ліст і паштоўка. Гэта без уліку паштовак і лістоў зь Беларусі. У сваіх каментарах я часам зьвяртаю ўвагу толькі на самую паштоўку, нічога не пішучы пра яе зьмест. Гэта зусім ня значыць, што я не зважаю на тыя добрыя словы і пажаданьні, якія пішуць мне. Вядома, яны найбольш важныя і дарагія для мяне. Але малюнкі на паштоўках, нейкія іншыя нюансы выклікаюць часам асаблівую цікавасьць ці ўспаміны і асацыяцыі, якімі я тады і дзялюся. Дык вось, што цікавага было ў гэтай карэспандэнцыі за сераду, дык гэта тое, што ўсе лісты і паштоўкі прыйшлі ўсяго толькі з трох краінаў. 37 — з Галандыі, 25 — з Польшчы і 9 — з Канады (амаль усе з франкамоўнай яе часткі, з Квэбэку). Ізноў жа я хачу адкаментаваць некаторыя зь іх. І так, прыйшлі лісты ад вучняў ліцэяў з Уроцлава і Новага Двара Мазавецкага. Вось з гэтага апошняга Новага Двара прыйшло аж 15 лістоў. Па-нашаму гэтая назва гучыць: Новы Двор.

Тры лісты прыйшлі з Варшавы, таксама зь ліцэя імя генерала Якуба Ясінскага. А ён жа, Якуб Ясінскі — наш нацыянальны герой! Гэта ён ачоліў паўстаньне ў 1794 годзе ў Вільні супраць расійскіх акупантаў, гэта ён у адную ноч абяззброіў расійскі гарнізон тысячнага войска. Гэта ён адмяніў прыгон у Вялікім княстве Літоўскім, а гэта значыць, і на тэрыторыі сучаснай Беларусі, яшчэ тады, на 67 гадоў раней, чым гэта зрабілі расійскія ўлады. Гэта ён некалькі месяцаў вёў няраўныя баі з колькаснa большым і лепш узброеным расійскім войскам. Гэта ў яго палова войска складалі толькі як вызваленыя з прыгону касінеры, беларускія мужыкі з косамі, асаджанымі наўстарчак, якія ішлі ваяваць з маскалём пад гукі і словы беларускіх песень. На жаль, ані ў Менску, ані ў іншых гарадах, дзе змагаліся касінеры Якуба Ясінскага »За нашую і вашую свабоду», няма яму помніка, які ён, пэўна што, заслужыў.

І яшчэ з Варшавы прыйшлі да мяне паштоўкі-малюнкі меньшых дзяцей. Малюнкі аптымістычныя: сонца, кветкі, аблокі, тое, чым заўсёды захапляліся і будуць захапляцца дзеці. Я заўсёды зь нейкай асаблівай увагаю стаўлюся да дзіцячых малюнкаў. Можа, таму што яны надзвычай шчырыя. Вось ужо, хто-хто, а дзеці малююць і пішуць найбольш ад душы.




Таму і наступныя тры дзіцячыя самаробныя паштоўкі з Канады выклікаюць у мяне ціхую радасьць і задавальненьне.

Наступная паштоўка з запамінальнай маркаю-познамкай. На ёй дыміць чатырма трубамі доўгі «Тытанік». Сёлета — 100 гадоў як ён пацярпеў катастрофу і пайшоў на дно. У памяць пра гэта і выпушчаная гэтая канадзкая марка.

Тут, на зоне, ёсьць заядлыя філатэлісты. Зьбіраньне познамак з канвертаў, якія прыходзяць зьняволеным, для іх становіцца займальным заняткам, які робіць мясцовае аднастайнае жыцьцё больш цікавым. Але я, на жаль, расчараваў іх, бо ўсе свае канверты і паштоўкі разам з познамкамі адсылаю дадому.

На іншай канадзкай паштоўцы — канадзкі нацыянальны сьцяг. Ізноў любыя майму сэрцу колеры цешуць мае вочы: чырвоны кляновы ліст на белым тле і дзве чырвоныя паласы паабапал. А кляновы лісьцік нагадвае да ўсяго яшчэ палову салярнага знаку з узьнятымі бакавымі промнямі. Якасна і густоўна.

Наступныя пасланьні з Галандыі. Гэта — падпісны ліст з пажаданьнямі з галандзкай вёскі Boerhaar. І падпісалася пад гэтымі аркушамі, дасланымі мне, 59 асобаў. Мне застаецца толькі выказаць усім-усім вялікую ўдзячнасьць.



І засталося тры паштоўкі з Галандыі. На першай зь іх — зімовы фотапейзаж. Сонца, якое сядае за лес (чамусьці ўвесь час мне здаецца, што гэта — захад, хаця, гэта мог бы быць і ўсход), падсьвечвае, залівае жаўтаватым расьсеяным сьвятлом засьнежанае поле, хмызьняк і старыя дрэвы зь белымі ад сьнегу камлямі. Дзесьці тут, пад сьнегам, можа, ляжыць узятая ў ледзяны панцыр рэчка. І гэты краявід надзвычай нагадвае мне беларускі. Як быццам бы фатограф зрабіў яго дзесьці пад Ракавам ці ў любой іншай нашай мясьціне. Ня ведаю, ці былі Фрыц і Ліа, якія даслалі мне гэтую паштоўку, у Беларусі, можа, ім гэты здымак таксама нагадвае нейкую памятную для іх мясьціну.

А вось іншая паштоўка дакладна дасланая адмыслова. І адбіта на ёй карціна ... Рэпіна «Зіма» з выяваю зімняга расійскага гораду з старымі чырвонымі і белымі цэрквамі і саборамі з «цыбулінамі». Можа, такой уяўляе чалавек, які даслаў гэтую паштоўку, і Беларусь. А можа, для яго гэта штосьці вельмі блізкае ці нават аднолькавае — Беларусь і Расія. Галандцы ўсе, як адзін, падпісваюць мне на канвертах: Wit-Rusland. А вось усе лісты і паштоўкі з Канады, Швецыі, Чэхіі, Польшчы адрасаваныя ў Belarus.

Апошняя паштоўка з Галандыі — сапраўдны рукатворны сюрпрыз. На бэжавага колеру паперу акуратна наклееныя дзьве галінкі высахлых кветачак. Яны падпісаныя: Luzerne. Мабыць, гэта нашая люцэрна? Кветачкі сьціплыя, палявыя, у гэтым і ёсьць іхняя далікатная прыгажосьць.




Вось жа, 20-га сьнежня 2012 году, у чацьвер, прыйшло да мяне з-за межаў Беларусі 19 лістоў і паштовак. Ізноў некаторыя зь іх я хачу коратка пракаментаваць. Найперш — два лісты ад вучняў. Адзін зь іх — з гімназіі з Прагі, а другі — з адукацыйнага цэнтру з канадзкага Квэбэку. Тое што падлеткі цікавяцца і нават спачуваюць абаронцам правоў чалавека — гэта багата гаворыць пра іхні ўнутраны сьвет. У беларускіх школах, на жаль, абмеркаваньне правоў чалавека не вітаецца. Ані што так не кшталтуе душу чалавека, як суперажываньне і спачуваньне іншаму.

Наступныя дзьве паштоўкі, якія зацікавілі мяне — з Швецыі. Яны прысьвечаныя аднаму з дабрачынных праектаў па паляпшэньні жыцьця ў Афрыцы, які праводзяць там шведы. Жывапісныя паштоўкі з выявамі побытавых сюжэтаў з жыцьця афрыканскіх жанчынаў. Выкананыя яны якасна і густоўна. Пэўны схематызм выяваў людзей нагадвае старажытныя наскальныя малюнкі. А вось буйства фарбаў на карцінах — з сучаснага жывапісу. Паштоўкі вельмі аптымістычныя і настраёвыя.

І апошняя паштоўка, пра якую хочацца напісаць, гэта паштоўка зь Бельгіі. Яна і сьціпленькая, і схематычная, і ня моцна арыгінальная. Падобныя сюжэты я памятаю яшчэ зь дзяцінства, калі ў такое самае кола выстаўлялі дзяцей, якія прадстаўлялі ўсе 16 рэспублікаў у Савецкім Саюзе. Дзеці тыя былі апранутыя ў нацыянальныя строі. І я любіў іх разглядаць, настолькі розных — эстонцаў у капелюшах і камізэльках і туркменаў у халатах. Ды вось толькі інтэрнацыянал той трымаўся на гвалце і прымусе. Як толькі стала вальней дыхаць, дык ён і разваліўся.

Тым ня меньш, ідэя мірнага сужыцьця і, адпаведна, выжываньня, у духу цярпімасьці і талерантнасьці — гэта ці ня самая актуальная ідэя ў сучасным сьвеце. Таму і розныя выявы на гэтую тэму будуць запатрабаванымі. Нашае грамадзтва ў гэтым сэньсе — яшчэ ня ведае ні гэтай зьявы, ані праблемаў, якія ўзьнікаюць. Дакладней сказаць, ведала раней, ды ўжо пасьпела забыцца. А раней жа ў нашым Менску жылі вялікія і прыкметныя грамады палякаў, яўрэяў, рускіх, немцаў, татараў, ня лічачы беларусаў. Зараз жа, у апошнія гады, беларусы толькі выяжджаюць зь Беларусі ў іншыя краіны, а да нас асабліва ніхто ня едзе. Але ж настане такі час, калі паедуць і прыедуць. І як мы іх будзем сустракаць: каменьнем і бітамі, ствараць асобныя кварталы-гета для жоўтаскурых і чорнаскурых, ці дапамагаць інтэгравацца ў нашае грамадзтва — вось гэта пытаньне.




У пятніцу, 21 сьнежня, прыйшла мне рэкордная колькасьць за гэтыя дні лістоў — 105. З Польшчы — 36, з Аўстрыі — 36, зь Японіі — 27 і з Швейцарыі — 6. Такая міжнародная падтрымка бянтэжыць мяне. Мне здаецца, што я яе не заслугоўваю. Адзінае апраўданьне, якое мяне супакойвае, дык гэта тое, што гэтыя людзі ў значна большай ступені чым падтрымліваюць канкрэтна маю асобу, выказваюць свой пратэст супраць сістэматычных парушэньняў правоў чалавека. Гэта ясны і зразумелы сігнал усім беларусам.

Вось жа, вяртаюся да паштовак і лістоў. Усе 27 паштовак зь Японіі спадабаліся мне. Яны адначасова і вельмі простыя, і вельмі густоўныя, у розных дробязях і сімвалах, якія звычайна і складаюць сутнасьць паштоўкі. Тым ня меньш, я адабраў некаторыя зь іх.

Усе самаробныя паштоўкі — гэта проста цудоўныя маленькія карціны з лаканічнымі сюжэтамі. Тут і матылькі, і сьцікерсы, і традыцыйныя японскія горы, і промні сонца. Выдзяляецца картонная карычневая паштоўка з жоўтым коцікам на чырвоным тле. Простая і выразная, і вельмі шчырая. Гэтаксама ўражвае густоўнасьцю паштоўка з надпісам фразаў кірыліцай і іерогліфамі на белым тле паштоўкі. Гэтае спалучэньне — кірыліцы і іерогліфаў выглядае як нейкая старажытная таблічка. Іерогліфічнае пісьмо — зарука захаваньня японскай мовы. А вось кірыліца для беларусаў сёньня — спрыяе русіфікацыі. Хаця ж, з іншага боку, яна і спрыяе вяртаньню неафітаў да беларушчыны.

У працяг прыгажосьці іерогліфаў сьведчыць і ліст з подпісамі-іерогліфамі, выкананымі падпісантамі. Восем асобаў падпісала гэты ліст. Я гляджу на іерогліфічныя знакі і мне здаецца, што за імі схаваны цэлы патаемны сьвет.

Надрукаваныя паштоўкі зь Японіі таксама вельмі цікавыя. Гэта выява Фудзіямы — сьвятой для японцаў гары ўвесну; гэта выява будынку, выкананага ў японскім стылі на беразе возера ўзімку. Адбітак засьнежанага лесу і будынку з выгнутым дахам у возеры такі чысты, што калі перакульваеш паштоўку, то амаль нічога ў ёй не мяняецца. Толькі што неба становіцца вадою, а возера — сінім небам. І трэцяя паштоўка — інтэр'ер сьвятыні ката-



ліцкага касьцёла, па ўсім відаць. Карычневыя лавы, шэрыя сьцены і жоўтая алтарная частка з напоўненым сьветам купалам у ёй. Усё вельмі мінімалістычна, строга і ўражліва.

У карэспандэнцыі з Польшчы лістоў болей за паштовак. Палякі лепей ведаюць сітуацыю з правамі чалавека ў Беларусі ня толькі на палітычным, але і на агульным, шырокім узроўні, і гэта дае магчымасьць пісаць штосьці большае за адну-дзьве фразы. Вось і сярод тых 36 лістоў і паштовак з Польшчы, якія прыйшлі да мяне, былі весткі з Варшавы, Кракава, Ходзежа, Уроцлава, Познані, Бельска-Бялай ды іншых мясьцінаў. Былі таксама некалькі агульных канвертаў, у якіх ляжалі па некалькі паштовак і лістоў. Прыйшла нават «дробная бандэроль», але мне яе на рукі не аддалі, бо атрыманьне бандэроляў рэгламентаванае. Мяне папрасілі, каб я папярэдзіў сваіх знаёмых з Польшчы пра тое, што бандэролямі ня трэба нічога дасылаць. А каб жа я ведаў каго папярэджваць!

З гэтай вялікай колькасьці лістоў выбраў я некалькі. Вось адзін зь іх, напісаны прафесарам з Варшавы. Ён акуратна і сур’ёзна падрыхтаваны, лаканічны, але зьмястоўны. Адразу відаць, што яго рыхтаваў чалавек, які нямала ў сваім жыцьці працаваў з паперамі.

Другі ліст з Кракаву, відаць, ад студэнткі Монікі. І тут маю ўвагу прыцягнуў сказ, дзе яна піша, што «ў Польшчы ёсьць багата беларускіх студэнтаў і сем’яў, якія дапамагаюць нам зразумець цяжкую сітуацыю ў вашай краіне».

І яшчэ адзін ліст Кляўдыі, вучаніцы 2-га класу гімназіі з Кратошына, я ня мог прапусьціць. Кляўдыя піша, што яна жыве на вуліцы «Палітычных вязьняў», названай так у гонар усіх палітычных вязьняў. Каментары, мяркую, тут не патрэбныя.

І апошні, чацьвёрты ліст з Варшавы прыйшоў да мяне са зьвязанымі зь нітак кветкамі. А што як ня зробленае рукамі захоўвае цяпло сэрцаў і рук!



Наступныя паштоўкі — з Аўстрыі. Некалькі паштовак прыйшло з Школы моды з Hallein ад 17-гадовых навучэнцаў гэтай Школы. І адную зь іх ад Элізабэт я дасылаю. І яшчэ тры паштоўкі я адабраў з руска-беларускім тэкстам. Прыцягнулі яны ўвагу тым, што, па-першае, паказваюць шчырасьць адрасантаў, якія не паленаваліся пашукаць адпаведнікі для сваіх думак на малазнаёмай для іх мове, а, па-другае, часам гумарыстычнымі канструкцыямі сказаў, пэўных выразаў, якія дзеля такога перакладу атрымліваюцца. Я шчыра пасьміхаўся, чытаючы іх.

І апошняя аўстрыйская паштоўка, якую я ня мог прамінуць — з выяваю карціны Марка Шагала. Я вось думаю, ці даслалі мне яе з пэўнымі асацыяцыямі, зь веданьнем таго, што Марк Шагал быў родам зь Беларусі, ці так проста атрымалася. Цяжка сказаць. У любым выпадку, убачыўшы знаёмых шагалаўскіх козаў і віцебскія вулкі, намаляваныя майстрам па памяці ўжо ў эміграцыі, я застаўся задаволены.



25 сьнежня 2012

У суботу звычайна пошту нам не выдаюць — выходны. І суботняя карэспандэнцыя ляжыць да панядзелка. Але гэтая субота — 22 сьнежня — працоўная. Працуем мы. Рвем вацін і набіваем ім наматрацнікі і насыпкі — заказ для жаўнераў. Пасьля такой працы дробным пылам забіты нос і дыхаем ротам.

Працуе ў гэтую суботу і пошта. Прынесьлі мне 63 лісты і паштоўкі. Адзін — з Швецыі, 35 — з Аўстрыі, 17 — з Канады, і 10 — з Польшчы. Такім чынам, за тыдзень з 17-га сьнежня я атрымаў 372 лісты і паштоўкі з-за мяжы. А ў некаторых агульных канвертах было па некалькі лістоў — і па 10, і па 15. Таму агульная іх колькасьць — недзе каля пяцісот.

Паштоўка з Швецыі была, як я ўжо пісаў, адная. Прычым Інгрыд, якая даслала яе мне, відавочна, сьпецыяльна выбірала яе. Пра гэта сьведчыць постскрыптум у яе кароткім допісе: «На фатаздымку Швецыя ўвосень». Гэты здымак сапраўды ўражвае. Буйства восеньскіх фарбаў, акуратная сядзіба на самым беразе возера, човен на вадзе, лазьня каля вады. Усе будынкі выфарбаваныя ў цёмна-чырвоныя, карычневыя, традыцыйныя




колеры цёмнай охры, і толькі падмурак і сталярка — белыя. Восеньская прыгажосьць адыходзячай, паміраючай прыроды — гэта мая любімая пара!

Багата паштовак прыйшло з франкамоўнай часткі Канады, з Квэбэку. Разглядаючы іх, я адчуў усю шматстайнасьць і багацьце канадзкае прыроды. Тут мы бачым і знакамітых канадзкіх гусей, і сямейку белых мядзьведзяў, і двух ласёў, якія стаяць, паклаўшы голаў адзін на другога, і бег белых коняў па сьнезе. Цікавая самаробная паштоўка з намаляваным на ёй аленем.

На дзьвюх наступных паштоўках — выявы канадзкіх вёсак. Зіма, сьнег, хаты. Чужаземны краявід выдаюць горы, якія зьяўляюцца фонам для сельскіх будынкаў.

Наступны краявід узгоркаў, палёў, плоту вельмі нагадваюць нашыя краявіды дзенебудзь на Валожыншчыне.

Апошняя ж паштоўка — з сьцікерсам-выявай мудрай савулі і наклееных самаробных кветачак, падкупае свойскасьцю і душэўнасьцю.

Лісты з Польшчы запомніліся мне наступным. Павел з Уроцлава, як шчыра прызнаўся, упершыню напісаў ліст незнаёмаму чалавеку. А Пётр з Гданьску напісаў цэлы ліст па-беларуску.

Вельмі цікавыя паштоўкі прыйшлі гэтым разам з Аўстрыі. Тут і панарамныя краявіды зь зялёнымі лугамі, мястэчкамі і дзікімі горамі. І дзіўная расьлінная тэраса з багацьцем фарбаў і формаў, і выявы касьцёлаў розных эпох. Некалькі паштовак было з Інсбруку з домам з залатым дахам —






адметнасьцю старога Інсбруку. Я зь цікавасьцю разглядаў паштоўкі з экстэр'ерамі і інтэр'ерамі будынкаў, выкананых у стылі мадэрн. Я гатовы бясконца разглядаць гэтыя размытыя «расьлінныя» хвалістыя абрысы і лініі, гэтыя прыглушаныя пастэльныя колеры. Мадэрн — мой любімы стыль у мастацтве. І таму карціны Густава Клімта — караля мадэрну, захапляюць мяне, як плынь хуткацечнай вады.

Атрымліваючы такую колькасьць лістоў і паштовак, чытаючы іх словы пажаданьняў і падтрымкі, я пачынаю сур'ёзна задумвацца. А чым я змагу аддзячыць людзям, якія вось так шчыра і цёпла падтрымліваюць мяне.



31 сьнежня 2012

Бабруйск

У чацьвер, 27 сьнежня, атрымаў я пошту. Вытрусіў зь вялікіх агульных пакетаў канверты, пералічыў, і атрымалася наступная карціна. З Польшчы прыйшло 139, з Канады — 39, зь Нямеччыны — 13, з Англіі — 11, з Чэхіі — 4, з Швецыі і Бельгіі — па 2, з Аўстрыі, Фінляндыі, Літвы і Расіі — па 1 лісьце ці паштоўцы. Гэта апроч беларускіх. Агулам атрымліваецца — 214.

З Польшчы лісты былі з розных яе куткоў. І зь вялікіх гарадоў, і зь невялікіх, там, дзе ёсьць групы Эмнесьці, і з Варшавы, і зь Любліна, і з Познані, ды зь іншых мясьцінаў. З Познані даслалі фатаздымкі на тле вялікай паштоўкі. Атрымаліся такія разнастайныя фотапаштоўкі. На іх фігуруюць як людзі, так і сабакі. Апошні здымак задумлівага і добрага, відаць, сабакі, адпавядае пажаданьню, напісанаму на плакаце.

Таксама разам з фатаздымкамі прыйшлі і натуральныя лісты, сабраныя, відаць, падчас гэтай акцыі познаньскіх праваабаронцаў.

Прыйшлі таксама лісты падтрымкі ад школьнікаў зь Пянткавіска з малюнкамі, і зь Зялёнай Гары. Малюнкі гэтыя шчырыя і вясёлыя.







З Саскаўца прыйшло багата лістоў ад студэнтаў, адзін зь якіх, напісаны па-ўкраінску. Ці то Філіп, які напісаў гэты ліст, зьяўляецца ўкраінцам з Польшчы, ці то з Украіны, які вучыцца ў Польшчы, ня ведаю. Але ягонае пажаданьне: *«Не хвілюйся, все буде добре»*, узьняло мой настрой.

З Канады з гарадку Сант-Плэйсіду даехалі мне таксама малюнкі, але, відавочна, меньшых дзяцей. Тут і сьняжынка, і кветкі, і лосік. Як пачуў я нядаўна ад нейкага зэка прымаўку: «Лосік — яго цягнуць, а ён галосіць». Гэта, відаць, пра чалавека з прозьвішчам Лосік, а мне намалявалі лосіка — дзіцячую цацку з чырвоным носам, сінімі вачыма і накідкаю.

Прыслалі таксама паштоўкі з краявідамі гэтага Сант-Плэйсіду, які стаіць на беразе ці то акіянічнага заліву, ці то на беразе возера. Маленькае, відаць, такое мястэчка з касьцёлам у цэнтры.

А вось наступны засьнежаны краявід з сухім чаротам і старой хатаю ў нечым нагадвае нашыя беларускія краявіды.

Цікавыя паштоўкі з Швецыі. Ветраны млын, які здалёк нагадвае нашыя беларускія млыны, панішчаныя часам і людзьмі. І наступны малюнак вясковай хаты, плоту, сьнегу, вуліцы, зваленых у ворах бярвеньняў, засьнежаных дрэваў таксама можна было б лёгка пераблытаць зь якім беларускім краявідам. Калі б не адное «але». Гэта — неба, залітае жоўтым сьвятлом! Паўночнае зьзяньне, жоўтыя спалохі расквецілі паўночнае шведзкае неба.



Апошняя паштоўка з Англіі з выяваю вясновай кветкі, верагодна, пралескі, якая сваім цяплом растапіла сьнег і прабілася да сонца на волю. Гэта –сімвал. Для мяне гэта сімвал чалавечых няўстрымных жаданьняў, сімвал беларушчыны.



3 студзеня 2013

У навагоднія сьвяты мелі мы два дні адпачынку. І гэтыя дні, і яшчэ паўдня 2-га студзеня паціху-патроху чытаў я тыя некалькі соцень лістоў і паштовак, якія прыйшлі ў пятніцу, 28 сьнежня. Магу шчыра сказаць, я не прапусьціў аніводзін зь іх. На ўзроўні ўсіх сваіх пачуцьцяў я адчуваў тыя хвалі падтрымкі і спагады, тыя флюіды душэўнай энэргіі, якія сыходзілі зь іх. Гэта быў неперадавальны новы год. Зусім малую частку я адабраў, каб падзяліцца хоць некаторымі зь іх. І пачну я з далёкіх краінаў.

Для Хо Ман Цін кірыліца зьяўляецца чымсьці ня меньш экзатычнай, чым для нас, беларусаў, кітайскія іерогліфы. Таму прыемна было ўбачыць напісаныя ад рукі беларускія літары і словы, прычым, мабыць, адшуканае праз інтэрнэт гэтае: *«З любоўю ад Ганконг»*.

Бездакорна эстэтычныя паштоўкі зь Японіі. І прыгожыя маркі-познамкі, і агульнае тло паштоўкі, і старанна выведзеныя кірылічныя літары, і вельмі цікавая графічна, як частка нейкага іерогліфа, літара «п», і сьмешны японскі хохлік, намаляваны Эмі Хашымота, і назва нашай краіны, Беларусь, прадубляваная лацінкаю і іерогліфамі.

І гэтым разам я дасылаю чатыры паштоўкі з Канады. Дзьве зь іх падпісаныя па-француску, з Квэбэку, а дзьве — па-ангельску. Канада — краіна, дзе існуе рэальнае двухмоўе. І вось, на адной з паштовак — здымак засьнежанага поля з трыма ялінкамі на ім, і дом удалечыні. Прыгожы канадзкі краявід. На другой паштоўцы — выява дзіўных каляровых пярэстых птушак. Выглядаюць яны дзіўна і экзатычна. Я ня ведаю, як яны называюцца, але яны нагадваюць мне штосьці сярэдняе паміж крыжадзюбам і папугаем. Можа, гэта і ёсьць канадзкія папугаі? А вось наступны ліст зацікавіў мяне адваротным адрасам, бо прыйшоў ён зь Ніагары. Відаць,

гэта там спадае зь непасьціжнай вышыні, амаль зь неба, Ніягарскі вадаспад. І апошняя паштоўка з Канады — выява сьвячы, сімвал Эмнесьці. Малюнак выкананы гуашшу, сьвяча, не аблытаная дротам, як на эмблеме Эмнесьці, а трывожны настрой перадаецца праз цёмна-сіні колер сьвячы.

Яшчэ адную паштовачку, называю яе так, бо яна маленькая, даслалі зь сьвячою Эмнесьці з Англіі. Тут ужо сімвал Эмнесьці выкананы больш кананічна. Я заўважыў, што з Англіі да мяне прыходзяць пераважна малыя паштоўкі. Яны напалову меньшыя за звыклы традыцыйны фармат. Што гэта — уплыў часу, якога нестае ўсім?

Паштоўка зь дзіўным краявідам прыйшла з Галандыі. На ёй мы бачым традыцыйны галандзкі млын, дарэчы, як відаць, збоку падмацаваны і ўрыштаваны сучаснымі канструкцыямі, якія, мабыць, генеруюць моц ветру ў электраэнэргію. Але арыгінальнасьць здымку надае зіма. Лёд навокал. І млын, і човен каля млына стаяць умёрзлыя ў лёд, і нават авечкі сьмела ходзяць па ім.

Ці ня першая паштоўка прыйшла да мяне зь Італіі. З тэкстам-урыўкам італьянскага паэта G.Leopardi «The infinite». Мэна, якая даслала гэтую паштоўку, на якой, дарэчы, выява рукапісу гэтай паэмы, напісала: *«Гэтая паэма — для цябе»*.

З Аўстрыі мне даслалі багата паштовак і лістоў. Гэта і строгія бланкі зь вялікай колькасьцю подпісаў (8), і сьпецыяльна выrableныя паштоўкі, ізноў жа зь дзясяткамі подпісаў, відаць, вучняў ці студэнтаў.


G. LEOPARDI, *L'Infinito*
manoscritto autografo, (1819)
(Napoli, Biblioteca Nazionale)
Foto E. Caracciolo

"the Infinite"

"Always to me beloved was this lonely hillside
And the hedgerow creeping over and always hiding
the distances, the horizon's furthest reaches.
But as I sit and gaze, there is an endless
space still beyond, there is a more than mortal
silence spread out to the last depth of peace,
which in my thought I shape until my heart
scarcely can hide a fear. And as the wind
comes through the copses sighing to my ears,
the infinite silence and the passing voice
I must compare: remembering the seasons,
Quiet in dead eternity, and the present,
Living and sounding still. And into this
immensity my thought sinks ever drowning,
And it is sweet to shipwreck in such a sea."
Giacomo Leopardi, Italian poet

CASA LEOPARDI

Dear Ales,
this poem is for you.
An Italian poet wrote it in 1820. It's about the power of thoughts when a man is stuck somewhere.
I hope you'll be not "stuck" anymore, freed as soon as possible.
Hugs, Mena

Pictures (from left to right): Schönbrunn Palace © PID Wien, Rofan mountains in Tyrol © Tirol Werbung, Gasteinertal in Salzburg © Gasteinertal, Salzburg's Old Town © Tourismus Salzburg – Ales Bialiatski © Julia Darashkevich

Dear Ales Bialiatski,
Many people in Austria think of you and want you to know: YOU ARE NOT ALONE!!!
We are with you!
We want to encourage you and to give you strength
We are wishing you well!
Thomas Koller
Julia Eilensteiner
Kerstin Grand
Marlene Baier

Name: BERNHARD GLECHNER
Adresse: AM SCHETTLBACH 15/5
A-8832 OBERWÖLZ

OBERWÖLZ Post.Partner 8832
BAR FREIGEMACHT
POSTAGE PAID
ÖSTERREICH
AUSTRIA
000070
PRIORITY

An
PENAL COLONY NO. 2
Ales Bialiatski

1 Sikorsky Street
Babruisk
213800 Mahiliou Region
BELARUS



Калі я бачу подпісы, ці лісты, ці малюнкі, дасланыя школьнікамі, заўсёды згадваю акцыі салідарнасьці, якія праводзілі савецкія дзеці. Яны мелі ідэалагічны падтэкст, але тады я не здагадваўся пра гэта, ды і ня так гэта было важна. …

І вось зараз, атрымліваючы лісты і паштоўкі ад дзяцей рознага ўзросту і з розных краінаў, я думаю, што такім чалавечым якасьцям характару, як спагада, суперажываньне, салідарнасьць трэба навучаць зь дзяцінства.

Наступныя тры паштоўкі з Аўстрыі вылучаюцца выявамі на іх. На адной зь іх — засьнежаная маленькая каплічка ў лесе. Такая нязвыклая для нас традыцыя, характэрная для паўднёвай Нямеччыны і Аўстрыі. Я 13 гадоў таму быў на вучобе ў Гармішы, невялікім прыальпійскім нямецкім гарадку. І вось, гуляючы па яго наваколлі, на перадузгорнай паляне мы напаткалі такую адзінокую каплічку. Ні хатаў, ні людзей, толькі лес, паляна, а на ёй мураваная капліца. Усярэдзіне ў ёй былі разьмешчаныя рознага фармату здымкі, імёны, гады жыцьця тых, каго тут памінаілі. Я зьвярнуў увагу, што ў некалькіх асобаў жыцьцё скончылася ў 42-45 гадах. І на маленькіх здымках яны былі ў вайсковых муньдзірах. Тут памінаілі і жаўнераў вермахту, загінулых на фронце. Мабыць, там, у горадзе, родныя апасаліся пасьля вайны рабіць гэта адкрыта, таму прыходзілі сюды, у гэтую спрадвечную цішу, і маліліся за сыноў, братоў, мужоў. Тут ніхто ня бачыў і можна было паплакаць за іх.

Нельга абмінуць і выяву венскай ратушы з шыкоўным кветнікам перад ёй. Веліччу ратушы ў сярэднявечча вызначалі багацьце люду і гораду. Калі меркаваць па венскай ратушы, жыхары Вены жылі ў дастатку. Відаць, што і Вена была немаленькім горадам. Колькі менскіх ратушаў памясьцілася б у венскай? Можа, дзесяць, а мо і болей. Хаця менская ратуша — ня самая вялікая ў Беларусі. І віцебская, і магілёўская, і, натуральна, віленская — ратуша колішняй сталіцы, большыя за менскую.

І апошняя паштоўка з Аўстрыі — ізноў кветкі сярод сьнегу. Падобны матыў на паштоўцы сустракаўся ўжо раней. Але я не магу абмінуць гэты кранальны сімвал вясны.

Іншыя паштоўкі зь Нямеччыны. На адной зь іх — выява карціны Васіля Кандзінскага. На двух іншых — фасады старых дамоў, выкананыя ў вельмі выразных стылях. Апошняя паштоўка запомнілася мне паведамленьнем: *«Мы на Божае нараджэньне ў Меерсбургу размаўлялі пра Беларусь»*.

*(працяг у наступным канверце)*




*(працяг) №2*

Найбольшая колькасьць лістоў, 28 сьнежня, прыйшла з Польшчы. І зноў жа, ня маючы магчымасьці распавесьці пра ўсё, я распавяду толькі пра некаторыя. Так, Анка зь Седліцаў прыслала забаўнага сьвятога Мікалая (Дзеда Мароза) і напісала: *«Сьвяты Мікалай прынёс табе ў мяху Добрую Навіну. Беларусь і далей змагаецца за свабоду і дэмакратыю»*. А вось Анна Сохацка, маці траіх дзяцей і віцэ-прэзідэнт горада Седльцы піша: *«Справа барацьбы за правы чалавека ня будзе марнаю»*. Казімір зь Седльцаў піша, што *«я таксама дзейнічаў у падпольнай «Салідарнасьці», быў па-рознаму перасьледаваны, значная частка грамадзтва ня верыла ў перамогу, але так сталася да зьдзіўленьня сьвету»*.

Школьніца Кляўдыя з Аселя прыслала намаляванае сонейка, а Мацей з Збоньшына напісаў па-беларуску, як умеў, і атрымалася, як для першага разу, дык і няблага: *«Прывітаньне, мяне завуць Мэцью. Вы ведаеце, я трымаю свае пальцы скрыжаванымі. І я спадзяюся, што вы выходзіце ў дзікай прыродзе»*.

Трымаць пальцы скрыжаванымі — гэта на ўдачу, а «вы выходзіце ў дзікай прыродзе», значыць, — хутка выйдзеце на волю.

Жасьмін з амерыканскай школы ў Варшаве мае 17 гадоў і выказвае вельмі добрую думку: *«Толькі імкнучыся дапамагчы іншым, мы можам палепшыць сьвет»*.

Натальля з Парчава піша: *«Мой дзядуля быў палітычным вязьнем. Ён выслухаў сьмяротны прысуд у 19 гадоў. Затым ён правёў два гады ў ГУЛАГу, у Сібіры, але быў моцным, верыў у свабоду. Мой дзядуля ўбачыў свабоду»*.

Павел піша, што *«мы таксама ў Польшчы мелі цяжкія часы. Багата маіх калегаў, і я таксама, сядзелі ў вязьніцы. Тым бліжэйшы для мяне ёсьць твой лёс»*.



Генрык таксама піша, што *«сам сядзеў на Ракавецкай (цэнтральная турма ў Польшчы) некалькі гадоў і вельмі цешылі мяне ўсялякія віншаваньні, паштоўкі. Падчас вайсковага становішча тагачасныя ўлады прапускалі тыя паштоўкі»*.

Міхал прыслаў ліст з малюнкам. А Адам Дашэвіц напісаў так: *«Калі пішу гэтыя словы, аддалены ад Вас на 992 км, сяджу ў хаце каля стала. За вакном цудоўная зіма. Пакрытыя шэранем дрэвы. У каміне гарыць вагонь, а мой кот лянiва пацягваецца. Спадзяюся, што чытаючы гэтыя словы, вы забудзеце хоць на хвіліну пра рэчаіснасьць, якая вас атачае»*.

Я бясконца ўдзячны ўсім людзям, хто падтрымлівае мяне.



4 студзеня 2013

3-га студзеня прыйшоў быў стос беларускай пошты. Мне ізноў прыслалі цікавыя лісты і паштоўкі, некаторымі зь іх я хачу падзяліцца.

Прыйшоў тоўсты пластыкавы канверт з Наваполацку ад Ірыны Жарнасек. Калі хто быў у гэтым паўночным беларускім горадзе, той ведае, што амаль увесь Наваполацк складаецца з адной вуліцы, якая цягнецца паўз Заходнюю Дзьвіну. Дзіўнае горадаплянаваньне. Сто тысячаў чалавек жыве на адной вуліцы Маладзёжнай. Вось і мая знаёмая сяброўка таксама. Яна напісала мне: *«Я падумала, наколькі інакш перажываюць людзі, якія вераць Богу, усе непаразуменьні, няшчасьці, усю брыдоту, што абрушваецца на іх»*. Ірына чалавек назіральны, пісьменьніца, і зь ёй цяжка не пагадзіцца. А яшчэ яна прыслала кнігу вершаў польскага паэта-сьвятара Яна Твардоўскага. Ягоныя вершы падаюцца па-польску, у арыгінале, і ў перакладзе, па-беларуску. Зьлева на разгорце, арыгінал, справа — пераклад. І гэта цікава, бо можна параўнаць як перакладчыцы Данута Бічэль-Загнетава і Хрысьціна Лялько пераплавілі верш, пераліўшы ягоны зьмест з польскай формы ў беларускую.




Аўтарка паштоўкі —
Дар'я Каткоўская

Ксёндз Ян Твардоўскі — філосаф і паэт. У нашай беларускай літаратуры мы маем двух выдатных каталіцкіх сьвятароў-паэтаў: Андрэя Зязюлю і Казіміра Сваяка. І аднаго праваслаўнага, нашага сучасьніка, Алега Бембеля, які схаваўся ў манастве ад сьвету ў Жыровіцкім манастыры.

Перакладчыца Хрысьціна Лялько напісала ў дарчым надпісе на кніжцы: *«Няма на зямлі сітуацый бяз выйсьця. Калі Бог зачыняе дзьверы, то вакно адчыняе...»* Чаму яна выбрала гэтыя радкі зь Я.Твардоўскага? І што яна мела на ўвазе — ня ведаю. Бо гэты вобраз, гэтая думка выклікае багата асацыяцыяў на розныя выпадкі жыцьця. Я дык убачыў у гэтых радках пэўную гарэзьлівасьць думкі паэта. Бо, калі ўявіць сабе літаральна, то выглядала б яно крыху сьмешна: вось з грукатам захлопваюцца дзьверы, і адразу з трэскам адчыняецца вакно! І гэта ўсё дзеі Госпада! Але Я.Твардоўскі, мабыць, хацеў сказаць: *«Не здавайцеся! Няма бязвыхадных сітуацыяў!»* А яшчэ згадваецца беларуская прымаўка, а, мабыць, і ў палякаў яна ёсьць, калі пра асабліва настырнага і надакучлівага чалавека кажуць: «Ня ў дзьверы ўвойдзе, дык у вакно ўлезе!» Паэт крыху падправіў гэты вобраз, перавёў настырнасьць у настойлівасьць. Хаця тут, можа, ёсьць і такое, што тое, што ў беларусаў лічыцца настырнасьцю, у палякаў прыймаюць за настойлівасьць. Але ў любым выпадку мне пасуе гэты паэтычны вобраз паэта Яна Твардоўскага, якога ня варта блытаць зь іншым паэтам, беларусам са Смаленшчыны, які пісаў па-руску, Аляксандрам Твардоўскім.

Калі я згадаў тут пра вернікаў у зьняволеньні, то першага, хто ўсплывае ўваччу, назаву Паўла Севярынца. Рэч такая, што мы, сядзельцы, ня можам пісаць адзін аднаму з калоніі ў калонію, але вось з «хіміі» ў калонію і наадварот перапіска дазволена. Мы лістуемся з Паўлам. І ўсе свае лісты ён сканчвае спасылкамі на Новы Запавет. Вось і ў апошнім лісьце Павел пажадаў каб «Ён (Хрыстос) нараджаўся ў Вашым сэрцы і адчуваў Сябе там як дома!» і паслаў мяне «Да рымлянаў» (5:1-10).

Я люблю чытаць лісты Паўла Севярынца. Яны непадроблена сьветлыя і аптымістычныя. Павел верыць у Бога, у Беларусь і заражае гэтай верай іншых. Некалі ў 96-м годзе, у дні канстытуцыйнага крызісу, мы хадзілі зь ім



разам па коле, па плошчы Незалежнасьці, перад будынкам, дзе тады сядзеў гінучы парламент, вадзілі за сабой людзей, як чачэнцы ў сваім спрадвечным, паганскім, бясконцым танцы. На жаль, нічога тады не выхадзілі, і зараз працягваем ісьці ў тым самым накірунку.

У працяг згаданага мной выдатнейшага паэта, манаха Алега Бембеля, прыслала мне Вольга з Слоніма фатаздымак жыровіцкага Сьвята-Ўсьпенскага манастыру, дзе зараз жыве Алег Бембель. Здымак зроблены раньняй вясною. Дрэвы ледзь зазеленелі, першая трава і купалы манастырскага храму ў размытым сьветлаблакітным небе.

Цікава, што сярод гэтага стосу лістоў быў і яшчэ адзін ліст з Слоніму ад сяброў слонімскага згуртаваньня дэмакратычных сіл. Гэты віншавальны ліст падпісалі больш за 20 асобаў. І я ўдзячны ім і за віншаваньне, і за тое, што хоць у нейкіх справах беларусы паказваюць, што яны могуць быць разам.

Ізноў жа парадавалі мяне арыгінальныя беларускія паштоўкі. І гэтая цудоўная паштоўка, якую даслалі Ірына і Надзея, мастака Міхала Анемпадзістава, выдрукаваная яшчэ ў 1993 годзе. Яна выглядае па-сучаснаму, эстэтычная, надпіс зроблены зь мяккім знакам, «тарашкевіцаю».

Прыйшло таксама некалькі віншаваньняў ад былых сядзельцаў ды іхніх сваякоў. І мне ня так важна ШТО яны пішуць, як важна ўбачыць прозьвішчы і імёны гэтых людзей.

З Асамблеі няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў прыслалі сваю калядную паштоўку (3). І Ларыса зь Менску прыслала сваю саматробную паштоўку-выцінанку. Выцінанкі заўсёды выклікалі ў мяне захапленьне.




Аўтограф на кніжцы "Крэсіва" Алега Бембеля,
дасланай у калонію.




І, урэшце, адзін з маіх сяброў, Уладзя, даслаў ліст, які сканчаецца вершам. І калі я прачытаў такія радкі:

*«У спортзале ялінка ў сьвяточных агнях,*
*А пад ёй — хто б вы думалі? Трусік»*,

то я падумаў, ну вось, і праваабаронцы ўжо пачалі пісаць вершы. Наступны радок: *«Мікалай — канспіратар, стары дысідэнт»* яшчэ больш умацаваў мяне ў гэтых здагадках, але подпіс пад вершам выклікаў узды х аблягчэньня і расчараваньня. Я памыліўся.




3 студзеня былі паштоўкі і лісты і з-за мяжы. Можна сказаць, што гэта быў «польскі дзень». Бо са 159 дасланых мне лістоў 151 быў з Польшчы і толькі 8 зь іншых краінаў. Вось з гэтых іншых я і пачну. Зь Нямеччыны зноў прыйшлі дзьве паштоўкі зь «дзьвярыма». Цяпер ужо зразумела, што мастак-фатограф сьпецыяльна зрабіў цэлую серыю такіх выразных нямецкіх дзьвярэй. Вельмі цікавая ідэя. Дзьверы заўсёды прыцягваюць увагу. Бо, здаецца, што там, за дзьвярыма, хаваецца нейкая таямніца. У нас, у Беларусі, таксама дзьверы вельмі адметныя і своеасаблівыя.



Яшчэ адная паштоўка дасланая зь Нямеччыны і зноў з выяваю карціны Васіля Кандзінскага. Можа быць, каму і падабаюцца ягоныя абстракцыі.

А вось з Швецыі прыйшла паштоўка ў форме вялікай шасьціпялёсткавай кветкі.

Зараз я праглядаю допісы і лісты з Польшчы. Так, вучаніца гімназіі з Забжа Віола піша: *«Не заўсёды закон адпавядае праўдзе, таму памятай: Ніколі не здавайся!»*

Магдалена з Торуня згадвае: *«Мая бабуля нарадзілася каля Віцебску і жыла там да свайго шлюбу. Затым выйшла замуж і выехала»*.

Даслалі мне малюнак зь беларускімі словамі і блёсткамі, наклеенымі на аркуш. Ня ўсе блёсткі прыклеіліся. Некаторыя перайшлі на мае рукі, робу. Я сяджу, чытаю лісты, пераліваюся блёсткамі, як калядная яліна.

Два лісты прыйшлі з Уроцлава па-ўкраінску. Напісалі іх, відаць, што польскія дзяўчаты Аня і Сандра. Відаць, што яны стараліся, мабыць, меркавалі, што па-ўкраінску я лепей зразумею, чым па-польску. Але я добра разумею і па-ўкраінску, і па-польску. Тым ня меньш, мне прыемна.

Агата прыслала ліст з Кракава па-славацку. Яна студэнтка псіхалогіі ў Кракаве. Я таксама ўсё зразумеў зь яе ліста. Славянскія мовы даволі падобныя. І часта так, што адныя і тыя ж словы маюць крыху іншае, а часам, і зусім іншае значэньне. Вось, Агата пачынае свой ліст: «Mily Ales» — у беларускай мове гэта гучыць ужо вельмі і вельмі цёпла і адпавядае, мабыць, нашаму звароту: «Дарагі», ці польскаму «Drogi».



Вось так і зьвяртаецца да мяне Кінга: «Drogi Alesiu!» Палякі часта ўжываюць зваротны склон у імёнах: «Алесю». У беларускай мове ён таксама быў даволі распаўсюджаны, але чуваць яго ўсё меней і меней. Кінга прыслала паштоўку з выяваю восеньскага кракаўскага парку, вельмі такую настраёвую і дапісала: *«Сёньня Кракаў выглядае дакладна так, як на гэтай паштоўцы»*.

А Кася і Караліна напісалі на руска-беларускай мяшанцы і намалявалі свой аўтапартрэт.







Таксама з Кракава даслалі мне некалькі фотаздымкаў актывістаў Эмнесьці са зваротам і пажаданьнем.

І з Уроцлаву таксама прыйшло багата лістоў. Адная дзяўчына, якую завуць Патрыцыя, напісала, што яна вельмі-вельмі жадае, каб я выйшаў з турмы, і што напісала ўчора больш за 200 лістоў у маю падтрымку, і паведамляе, што будзе пісаць і далей.

У іншым лісьце, таксама з Уроцлава, мяне супакойваюць: *«Ты маеш болей шчасьця за іншых вязьняў сумленьня, якім пагражае сьмяротнае пакараньне»*. І яшчэ больш супакойваюць мяне яшчэ ў адным лісьце з Уроцлава: *«Шаноўны Алесю, ўратуемся!»* І я разумею, што проста няма ніякіх шанцаў, каб было па-іншаму!





7 студзеня 2013

Бабруйск

Пятніца, 4-га студзеня, дзень атрыманьня заказных лістоў. Мне прыходзіць пластыкавы пакет ад Уладзіміра Някляева. У пакеце — кніжка «Аўтамат з газіроўкай зь сіропам і без», менскі раман Уладзіміра Някляева. А за тыдзень перад гэтым па падпісцы я атрымаў часопіс «Дзеяслоў», і там таксама ёсьць тэкст «Аўтамата з газіроўкай». Я не маркочуся, бо кніжка — з аўтографам аўтара, і я ўспрымаю яе як каляднае навагодняе віншаваньне. Чытаць раман я буду па часопісе, а кніжку з аўтографам адашлю дадому.

У дароўчым надпісе Уладзімір Пракопавіч піша: *«Гэтая кніга ўдзячнасьці Менску і ўсім тым, хто разам з Менскам увайшоў у маё жыцьцё»*. Раман гэты вельмі цікавы для мяне. Па-першае, таму, што напісаў яго страшэнна таленавіты і непераўзыдзены Уладзімір Някляеў, па-другое, што апісвае ён інтэлектуальны супраціў у Менску ў 60-х гадох. Той перыяд і тых людзей, пра якіх мы амаль нічога ня ведаем. І гэта ўжо другая кніжка за 2012 год, якая распавядае пра нонканфармісцкае жыцьцё ў Менску за саветамі. Першая была таксама выдатная — «Майстроўня» Сяргея Дубаўца, якая распавядала пра пачатак 80-х, пра пачатак хвалі новага беларускага адраджэньня.

Уладзімір Някляеў напісаў пра інтэлектуальны дысідэнцкі супраціў, Сяргей Дубавец — пра пачаткі нацыянальна-дэмакратычнага руху. Гэтыя дзьве кніжкі дапаўняюць адна другую. Яны важныя для разуменьня тых працэсаў, якія адбываліся ў беларускім грамадзтве за Саветамі, хаця і зьяўляюцца толькі вяршыняй айсбергу. Пасьля прачытаньня гэтых кніжак наўрад ці хто зараз скажа, што тыя імклівыя зьмены, якія адбыліся ў Беларусі ў канцы 80-х, пачатку 90-х гадоў, нечакана зваліліся нам на галаву.

* * *

Алена піша, што ў сьнежні, у халады, у пакоі ў дачкі на вакне замерз голуб. *«Яна праветрывала пакой, адчыніла фортку, а там голуб сядзіць і не варушыцца. Яна тыцнула яго пэндзлем, а ён і зваліўся»*.

„Хай „Ноч святая", дарагі Алесь!
Табе падорыць свет крывіцкі ўвесь
Хай сэрца і душу тваю святаціць,
і дапаможа дачакацца Волі!"

Эд. Акулін
7 студзеня 2013 г.
Раство Хрыстова.

*Аўтограф на кнізе вершаў "Сьвятая ноч" Эдуарда Акуліна, дасланая ў калонію.*

Сябра зь Менску віншуе і канстатуе: *«Мы цяпер акурат падводзім вынікі году ў межах нашай традыцыйнай прэміі «Чэмпіён грамадзянскай супольнасьці», дык пры складаньні сьпісу намінантаў былі складанасьці — надзіва небагаты быў год на значныя падзеі і новыя ініцыятывы»*.

Далей ён распавядае: *«Мне вось давялося нядаўна выступіць у ролі хроснага бацькі, у праваслаўнай царкве. Пасьля папярэдняй размовы з бацюшкам мая напарніца адмовілася ад удзелу ў абрадзе з прычыны таго, што ў размове сьвятар вельмі шмат увагі надаў прапагандзе, і нават ксенафобныяноткі былі. Прыйшлося мне шукаць новую куму»*. А я згадаў, як хрысьцілі малодшага сына майго сябра Эдуарда Акуліна, Вераса. Я быў за хроснага бацьку. Паехалі ў царкву. Сьвятар спытаўся, як назвалі дзіцё, і калі даведаўся што — Верас, хрысьціць… адмовіўся, сказаўшы, што ў сьвятцах такога імя няма. Эдуард узлаваўся і сказаў, што ў такім выпадку павязе сына хрысьціць да вуніятаў. Аргумент падзейнічаў, сьвятар паварушыўся і знайшоў ў сьвятцах прыймальнае імя.

Сёньня, дарэчы, Едрусю Акуліну — 50 гадоў. У палацы мастацтваў будзе вечарына. Едрусь — адзін зь лепшых беларускіх паэтаў сучаснасьці і сябруем мы зь ім зь 17-гадовага ўзросту, як паступілі вучыцца на гісторыка-філалагічны факультэт гомельскага ўнівэрсітэту, з 1979-га году. Але вось мяне з аб'ектыўных прычынаў на гэтай вечарыне ня будзе. Як не было мяне і на вечарыне, прысьвечанай маім 50-м угодкам, якую арганізавалі сябры ў Менску, і якую праводзіў Едрусь.



* * *

Сьвятлана з Паставаў даслала мне ў якасьці віншаваньня папяровага анёлка. Арганізацыя беларускіх пэнсіянераў прыслала прыгожую калядную паштоўку. А зь Берасьця спадар Пятро ў якасьці паштоўкі даслаў здымак карціны мастака Івана Клімовіча зь Іванава (Янава), якая называецца "Яблычны спас". Карціна вельмі прывабная і стварае сьвяточны настрой.

Яшчэ адная сяброўка і калега зь Менску павіншавала з Новым годам і з Калядамі і напісала наступнае: *«Ты настолькі «сапраўдны», што цябе ўжо можна ў падручніку псіхалогіі прапісваць»*. І яна даслала мне паштоўку з малюнкам мастачкі Дар'і Каткоўскай. Ёсьць у гэтым малюнку штосьці кранальнае, непасрэднае, яна дзіўным чынам перадае ўзьнёслы настрой.




4-га студзеня было ізноў багата лістоў і паштовак з-за межаў Беларусі. Так, да мяне прыйшлі: Польшча — 162, Італія — 35, Канада — 54, Швецыя — 9, Нямеччына — 3, Бельгія і Швейцарыя — па 1. Усяго 265 асобнікаў.

Зь лістоў і паштовак з Польшчы я адабраў 2 лісты. Адзін ліст ад Міхала з Уроцлава, напісаны па-руску і ўпрыгожаны беларускім і польскім сьцягамі. Дзесь адшукаў вось Міхал інфармацыю пра наш сапраўдны сьцяг і намаляваў яго.

А другі ліст ад Малгажаты з Глогува. Ліст яна напісала ў дзьвух мовах, па-польску і па-ангельску, бо ня ведала, ці ўмею я чытаць па-польску. І вось што запомнілася мне ў ангельскай частцы яе ліста. Яна піша: *«Я ведаю, што ў будучым ты будзеш шчасьлівай асобаю»*. Каляды, Новы Год — час гаданьняў. І прачытаўшы гэтыя словы Госі,

8 декабрь 2012

Алесь Бяляски,

Меня зовут Михал, я живу в Польшы. Я не знаю беларуского языка и потомучто я буду писать мое письмо в руским языку.

Я хочелбы говорить, что я люблю, что ты делаешь. Я думаю про цябе - в Польше мы любим тебя. Извините, что ты в везеню из повода Польшы. Я хочелбы ты будешь делать хорошо в Беларуси.

Я жадаю тебе дабра!



Михал Сидло из Польшы (Вроцлав)

я дзесьці ў падсьвядомасьці аж уздрыгнуў. Адкуль яна ведае? Вох, гэтыя жаночыя відзёжы і прадказаньні...

А потым згадаў апавяданьне Вінцэся Мудрова «Карты ня хлусяць», якое толькі як учора прачытаў, і супакоіўся.

Багата саматробных, самых любімых маіх паштовак прыйшло з Канады. Некаторыя зь іх размаляваныя, а на некаторых проста наклееная фігурка, выразаныя кавалачкі каляровай паперы з рознымі ўзорамі. Гэта не выцінанкі, але таксама прыгожа. Усе гэтыя паштоўкі прыйшлі з Квэбэку. І яшчэ адная паштоўка, зробленая рукамі, выклікае ў мяне адчуваньне ўдзячнасьці.

Прыйшла з Канады і паштоўка з «стразамі». Яна выглядае як самаробная, але, відаць, зробленая ў друкарні, хаця, можа, я і памыляюся. У любым выпадку, паштоўка вельмі далікатная і густоўная.

Апошняя канадзкая паштоўка, якую хачу паказаць — зь зімовым краявідам. Засьнежанае поле, табун коняў, якія ходзяць па сьнезе, краявід, які нагадвае наш, беларускі, толькі што такіх табуноў па колькасьці коняў мне ў Беларусі даўно не даводзілася бачыць.

А вось, наступныя паштоўкі прыйшлі зь Італіі. З прыморскага гораду Ольбіі і мястэчка Падру, якое знаходзіцца між узгоркаў. Гэта ўсё — чароўныя паўднёвыя краявіды, дзе багата неба, сонца, мора. Разглядаючы гэтыя паштоўкі, пераносісься ў іншы сьвет.

Але сьвет вельмі разнастайны. І паштоўкі з краявідамі нямецкага Мюнстэру, з выразнай, я сказаў бы нават строгаю архітэктурай, ці з выявай старой шведзкай сядзібы на тле жоўтага поля, ці суровыя Альпы на паштоўцы з Швейцарыі, дзе і блізка не відаць чалавечай прысутнасьці, і якія можна разглядзець толькі з ілюмінатару самалёта, усё гэта — наш дзіўны і непаўторны сьвет, якому не перастаеш зьдзіўляцца зноў і зноў.



8 студзеня 2013

Бабруйск

Вось і мінула праваслаўнае Раство. Які ўмоўны чалавечы сьвет! У каталікаў маленькі Езус нарадзіўся два тыдні таму, і ўжо два тыдні Ягоная Маці Марыя ня сьпіць па начах з гэтай прычыны, а вось у праваслаўных Ён нарадзіўся толькі ўчора. Дарэчы, ёсьць у гэтым і нейкі сімвалічны сэнс. Не дарэмна ж жадаюць, каб Ісус нараджаўся ў тваім сэрцы кожны дзень.






Між тым, у суботу, 5-га студзеня, быў працоўны дзень, таму і з пошты прынесьлі мне чарговую порцыю карэспандэнцыі. Гэтым разам яна была вельмі разнастайнаю. З-за мяжы я атрымаў: Галандыя — 70, Японія — 31, Аўстрыя — 25, Канада — 14, Ірландыя — 10, Польшча — 11, Швейцарыя — 5, Швецыя і Бельгія — па 3, Нямеччына, Францыя, Аўстралія, ЗША — па 1 лісьце ці паштоўцы. Усяго: 176 асобнікаў. А чытаў і разглядаў іх учора. Хачу падзяліцца сваімі ўражаньнямі.

Пачну з галандзкіх паштовак. Дарэчы, падпісваюць сваю краіну галандцы і як Галандыя і як Нідэрланды. І ніхто зь іх не страдае, што адная краіна мае два найменьні. Дык вось, з Галандыі-Нідэрландаў даслалі мне вельмі багата і прыгожых, і сэнсоўных паштовак. Два знакамітыя сімвалы ў Галандыі — гэта ветракі-млыны і кветкі-тульпаны. Вось мне і даслалі паштоўкі з фатаздымкамі і малюнкамі млыноў і кветак-тульпанаў. А на адной паштоўцы нават і спалучылі млын з тульпанамі. Калісь і Беларусь была краінаю ветракоў. Але амаль усе яны былі бязьлітасна панішчаныя. На такі стары беларускі вятрак можна паглядзець у музеі ў Дудутках. Яўген Будзінас адрамантаваў яго і пакінуў пасьля сябе, як помнік.




А вось тульпанамі я захапіўся ў апошнія гады. Ня гэтымі, аднатоннымі, чырвонымі ці жоўтымі, якія масава высаджваюцца ў Менску на клумбах, а іншымі, разнастайнымі па колеры. Форма тульпана, адценьні колеру маюць бясконцую колькасьць варыянтаў. І час квітненьня розных гатункаў тульпанаў расьцягнуўся амаль на два месяцы. Сёньня масава, на продаж, галандзкія фермеры вырошчваць тульпаны дзесьці на фермах у Афрыцы.

Іншыя паштоўкі з Галандыі адлюстоўваюць розныя поры году: вясну, восень, і, натуральна, зіму, бо зараз жа зімовы час.



Наступныя дзьве паштоўкі зь Ірландыі. Гэта сьціплыя палявыя ірландзкія кветачкі, такія растуць і ў нас на палях, і малюнак з традыцыйнаю ірландзкай сялібаю і краявідам.

Як заўсёды, надзвычай густоўна выглядаюць японскія паштоўкі, дзьве зь якіх я выбраў. На адной зь іх — сімвал Японіі, сьвятая гара Фудзіяма, а на другой Ёсіхіла спалучыла кірыліцу зь японскімі іерогліфамі. І трэба заўважыць, што выпісваць кірылічныя літары ёй, набіўшай руку на рысках іерогліфаў, атрымліваецца значна лепей за лацінаграфічных еўрапейцаў.

Паштоўка з Аўстрыі ад Тэрэзы павесяліла мяне пачуцьцём гумару ў тэксьце. А вось паштоўка з Швейцарыі ад Ніколь — беларускай моваю. У яе ўсё атрымалася амаль-амаль слушна. Трошку з дапасаваньнем склонаў яна не ўгадала, а так — проста выдатна. Ня кожны беларус так напіша. І зусім без памылак прыйшла па-беларуску паштоўка з Польшчы ад Лукаша. Адзінае, у апошнім сказе прапушчаны пачатак: «Я буду», а «пажаданьні» лепей даваць не «на новы год», а «ў новым годзе». Усё ж астатняе — ідэальна!

Так што для ўсіх, хто памятае пра мяне — найлепшыя пажаданьні ў новым годзе!

10 студзеня 2013

У аўторак, 8 студзеня, замежная пошта да мяне была вельмі разнастайная. Я атрымаў лісты і паштоўкі з 12-ці краінаў. З Галандыі — 171, Канады — 28, Швецыі — 12, Ірландыі — 6, Польшчы — 5, Швейцарыі і Аўстрыі — па 3, Японіі — 2, Літвы, Англіі, Ісландыі, Іспаніі — па 1. Бачыла б ты вочы мясцовых філатэлістаў, калі яны бачаць позначкі на канвертах з гэтых краінаў! Але я захоўваю і маркі, і канверты, і допісы да мяне, як прыклад міжнароднай салідарнасьці.

Дык вось, найбольшая колькасьць паштовак прыйшла з Галандыі. Прычым 131 паштоўка была сабраная праз элетронную пошту, затым раздрукаваная на паштоўках з адной выяваю і дасланая мне ў агульнай капэрце. Самі подпісы хоць і лаканічныя, напоўненыя энэргіяй і хвалямі падтрымкі, спагады, жаданьня хоць нечым

дапамагчы. Мне было вельмі цікава чытаць іх, хаця некаторыя былі напісаныя па-галандзку, і вось тут я ўжо нічога ня мог зразумець, а толькі штосьці дадумаць сваё. Я нават думаў, што вось, калі б у Галандыі сядзеў у турме які вязень сумленьня, і ён атрымаў бы паштоўку ў сваю падтрымку, падпісаную па-беларуску, дык ён разглядаў бы яе такімі самымі вачыма і з такімі самымі цёплымі пачуцьцямі, як разглядаю зараз іх я. І здымак на гэтых паштоўках вельмі сімпатычны.

Гаворачы ў мінулым допісе пра галандзкія адметнасьці, я называў ветракі і тульпаны, але зусім забыўся на кароў! Галандзкія каровы — гэта ж яшчэ адная, і вельмі блізкая да беларусаў, галандзкая адметнасьць!

Ales Bialiatski
penal colony No. 2
1 Sikorsky Street, Babruisk,
213800 Mahiliou Region,
WIT-RUSLAND

Privjet bratuSHkA
KAk dela?
SHtADjelizH?

Гэтыя рабыя, чорна-белыя каровы добра-такі пацясьнілі нашых беларускіх рудых каровак на калгасных палёх. Хаця ж натуральней яны глядзяцца ў сябе ўдома.

Яшчэ адзін здымак я хачу паказаць. Гэта ровар з кветкамі на гарадзкім бруку. Такі настраёвы здымак. Вось калі б мне яго паказалі і спыталіся: а дзе гэта? Дык я, пэўна, што махнуў бы рукою: дзесьці там, у Галандыі.

І яшчэ адная галандзкая паштовачка, якіх было некалькі ў канверце, прыцягнула маю ўвагу надпісам лацінкаю па-руску. Асабліва мне спадабалася фраза-пытаньне: «*Privjet bratishka. Kak dila? Shto delaesh?*» Так і хочацца адказаць: «Што делаю, што делаю — сяджу!» Бяз злосьці, вядома, з гумарам.

З Канады, з Квэбэку, было багата малюнкаў і аплікацыяў, выкананых, відаць, дзецьмі. Там і кранальныя тэксты, пра тое, што і за тысячы кіламетраў хтосьці думае пра мяне, і цікавая тэхніка аплікацыяў, калі выразаныя кавалачкі паперы накладаюцца паралельна, люстрана на іншым каляровым тле. Атрымліваецца і проста, і арыгінальна. Мне нават падалося, што і я ў дзяцінстве займаўся нечым падобным на ўроках працы.

Наступная паштоўка — з Аўстрыі. Яна і сама па сабе такая сьвяточна-прыгожая, калядная. У Аўстрыі ў гарах багата сьнегу, і аўстрыйцы любяць зіму і сьнег. Але вось усярэдзіне — багата подпісаў. Я налічыў — 21. Яны і глядзяцца прыгожа, бо выкананыя ў розных колерах і розным складам чарнілаў. І што самае галоўнае, нават калі там лаканічны надпіс-пажаданьне, але я ўяўляю сабе сам працэс: вось яны, хутчэй за ўсё моладзь, сабраліся, пагаварылі, абмеркавалі, можа, штосьці і прачыталі кароткае пра Беларусь, а потым сталі падыходзіць да стала і распісвацца, ці пусьцілі гэтую паштоўку па сваіх сталах, падпісваючы яе. І для мяне вельмі важны сам момант падпісаньня. Бо і я сам неаднойчы падпісваў такія лісты падтрымкі. І ў гэты момант, у гэтую секун-






ду, усе гэтыя такія розныя людзі, у такіх розных краінах, становяцца аднолькавымі. Яны як бы пасылаюць разам з сваім подпісам і часьцінку сваёй душы. І я вельмі ганаруся, што гэтыя часьцінкі душы разам з подпісамі прысьвечаныя і прызначаныя мне. Але і ня толькі мне! Праз мяне — і ўсім нам, беларусам.

Вось добрая і душэўная паштоўка па-руску прыйшла з Швейцарыі. А з Швецыі Патрыцыя, Янка і Ёана даслалі свой здымак, а Ліза — цудоўныя малюнкі і тэкст па-беларуску. Там і ваўкі, і адзінарог, і зьмей, і традыцыйны шведзкі падсьвечнік, які на Каляды шведы выстаўляюць у кожным вакне.

З Ірландыі прыйшло некалькі аднолькавых паштовачак Эмнесьці зь сьвечкамі, адная зь якіх жыва так і ўпэўнена падпісаная па-беларуску суродзічкай Вераю.

Я ня ведаю, хто яна такая, гэтая Вера, адкуль яна, што яна робіць там, на другім краі Еўропы, у Ірландыі, але было вельмі прыемна. Гэта ж так важна, дзе б ты ня быў, куды б цябе не закінуў лёс, не забывацца пра сваіх беларусаў, пра Беларусь!


11 студзеня 2013

Бабруйск

Вялікія хвалі лістоў і паштовак з усяго сьвету працягваюць даходзіць да мяне. 9-га студзеня, у сераду, іх было 326 асобнікаў: 196 з Канады, 80 з Польшчы, 18 з Галандыі, 17 зь Нямеччыны, 7 з Ірландыі, 5 зь Бельгіі, 2 з Швецыі і 1 з Аўстрыі. А подпісаў, якія стаяць на іх, і яшчэ болей, можа, каля пяцісот. Пра некаторыя зь іх я хачу табе распавесьці. Пачну без аніякай папярэдняй кампазіцыі, а так, як яны расклаліся на шконцы. Я раскладаю іх па краінах, а затым ужо праглядаю.

Дык вось — першая паштоўка — зь Бельгіі, з Бруселю, з сэрца Еўропы, дзе засядае Еўрапарламент, і дзе працуе Еўракамісія. А на паштоўцы гэтай — тры каты. Калі ўлічыць зьмест паштоўкі з спачуваньнем і падтрымкаю, а затым паглядзець на гэтых кацянятаў, то можна сабе ўявіць, што кот у цэнтры — і ёсьць той самы «праваабаронца».

Наступныя паштоўкі — зь Нямеччыны. Я паглядзеў на фатаздымак засьнежанага мястэчка, і ён нагадаў мне краявід Ракава, мястэчка пад Менскам. Прыкладна так ён выглядае з трасы Менск-Горадня. І недзе там, калі добра ўглядзецца, стаіць мая хата. І наступная паштоўка-здымак таксама нагадала мне корч вінаграду ў мяне каля хаты ў Ракаве. У мяне таксама пасаджаны сіні вінаград. І Томас, які падпісваў гэтую паштоўку, напісаў гэтак: *«Увсень мы можам зьбіраць гэтыя цудоўныя гронкі вінаграду ў нашым садзе»*. Я яму па-добраму зайздрошчу. І я хачу зьбіраць вінаград у сваім садзе.

Цікавы подпіс і на наступнай паштоўцы: *«Мае дзьверы хутка адчыняцца для цябе»* (ня ведаю, ці дакладна пераклаў). Разумець гэта трэба ў пераносным сэнсе. І наступная паштоўка мае сімвалічны малюнак і подпіс: *«Я спадзяюся, што птушкі будуць яшчэ сьпяваць для цябе»*. Такія вось сентыментальныя, ці вельмі чалавечыя подпісы.

Ліст зь Нямеччыны прыйшоў ад сьвятара з Гамельну. Сьвятары там таксама ўдзельнічаюць у кампаніі салідарнасьці.

І апошняя паштоўка зь Нямеччыны, з радкамі па-нямецку, верагодна, паэтычнымі, зь якіх я разабраў толькі два словы: «сьвет» і «сьвятло». Але малюнак, нягледзячы на вялікі схематызм і наіўнасьць, закрануў мяне колерам і настроем.

З галандзкіх паштовак я выбраў адную. Па-першае, таму што мне і даслалі яе з гэтага самага Hithoorn. Справа на ёй відаць дамы, а па-другое, што якая ж Галандыя без каналаў і без катаньня па іх зімою на каньках. Урэшце, і тыя шматлікія ветракі, якія ёсьць на краявідах Галандыі, вельмі часта перакачваюць з каналаў ваду. Я быў у Галандыі, ехаў на цягніку з Гаагі ў Амстэрдам і бачыў, якая гэта балотная, вадзяная краіна. Балотаў, праўда, ужо амаль няма, але паўсюль каналы, канавы і раўчукі з вадою, якая зьбіраецца ў іх. Вось кажуць, што архетып беларуса — гэта архетып балотнага чалавека, і што гэта фатальна паўплывала на нацыянальны характар. А чаму ж галандцы такія актыўныя, жыцьцярадасныя, дзелавітыя і рацыянальныя? Чаму ж яны, таксама балотныя людзі, такія вясёлыя? Няхай бы адказалі нашыя дасьледчыкі ўплыву зьнешняга асяроддзя на характары народаў.




Наступныя пасланьні ўжо з Канады, з Квэбэку. Паштовак вельмі багата, таму мне цяжка быць аб'ектыўным, і я выбіраю тыя, якія, як кажуць, аказваюцца бліжэй да душы. Тут і складзеныя дзецьмі і падпісаныя імі карабельчык і самалёцік. Тут ізноў прыгожая самаробная паштоўка, склееная з розных кавалачкаў каляровай паперы з сталіцы Квэбэку Манрэалю. А вось Joan Mckay напісаў невялікі ліст пра тое, як яны прымалі ў госьці дзяўчынку з Чарнобылю. Дзіўная гэта рэчы — салідарнасьць людзей, якія жывуць за тысячы кіламетраў ад цябе.

Паштоўка-фатаздымак — гэта канадзкі зімовы краявід, выразны і прыгожы праз гэтую аптымістычную зімовую выразнасьць.

Наступная паштоўка ад студэнтаў манрэальскага каралеўскага каледжу. Яна — невялікая, але вельмі далікатная і зграбная на выгляд. Лісьцікі на вішнях і гірлянды пасыпаныя дробнымі блёсткамі. Паставілі ў ёй подпісы аж 23 студэнты.

Ізноў самаробная паштоўка на навагоднія матывы — акуратна выклеена, густоўна падабраныя яе колеры, хаця, здавалася б, яна даволі просьценькая.

Ізноў паштоўка-здымак з магутным дубам, каля нейкага паселішча. Дуб — неверагодна тоўсты, стары і вялікі.

У нас падобныя дубы можна ўбачыць хіба што на Палесьсі. Я адзін раз бачыў такога старога дуба з выпаленым маланкаю нутром, у якое можна было залезьці, у Столінскім раёне, на беразе ракі. І я залазіў у тое чорнае ад сажы дупло і стаяў там зусім вольна.



Перадапошняя паштоўка з Канады — карціна з засьнежанымі вуліцамі і будынкамі Манрэалю. Відаць, што сьнегу ў іх навальвае ня меньш чым у нас, у Менску.

Апошнюю паштоўку з Канады я спачатку адклаў убок, бо невядома, дзе маляваў мастак гэты пейзаж, у Канадзе, ці дзе ў Еўропе, а потым усё ж вярнуўся да яе. Хоць там і не зіма, але ж надта яна мне спадабалася. Думаю, што кожны ўбачыць у ёй штосьці сваё.







10 студзеня, у чацьвер, дайшлі да мяне 523 лісты, паштоўкі, тэлеграмы. Перавадольванне гэтай лічбы ў 500, зьяўляецца для мяне перавадольваньнем нейкага псіхалагічнага бар'еру, калі «багата» становіцца — «вельмі багата», столькі, колькі немагчыма ўжо праглядзець. Але гэта толькі так здаецца. Пераважная большасьць дасланых паведамленьняў — паштоўкі з аднатыпнымі пажаданьнямі, ад чаго яны ня меньш цёплыя і прыемныя. Таму праглядаю я іх даволі хутка, і праглядаю ўсё. Гэтае чытаньне займае ў мяне зь дзевяці ранку да дзьвюх гадзін.

Зараз па краінах: 369 — Канада, 50 — Украіна, 38 — Галандыя, 25 — Люксембург, 16 — Нямеччына, 6 — Польшча, 5 — Бельгія і Аўстрыя, 3 — Ірландыя і Англія, па адной — Італія, Ісландыя, Швецыя.




Паштоўкі з Галандыі выкананыя ў выглядзе малюнкаў, раздрукаваных як звычайныя здымкі на фотапаперы. Проста і густоўна.

Паштоўкі зь Люксемургу прыйшлі на аднолькавых картках. Здаецца, я ўжо быў дасылаў табе такую. Я выбраў дзьве зь іх, падпісаныя на славянскіх мовах. Адная — па-руску, а другая, здаецца, па-харвацку, але я ня ўпэўнены. У любым выпадку сэнс яе цалкам зразумелы.

Паштоўкі зь Нямеччыны цікавыя па-свойму. Гэта — выява бяскрайняга зялёнага засеянага поля, а дзьве паштоўкі — з кантрастнымі чорнымі фігурамі на белым тле вядомых персанажаў з казак братоў Грым: Чырвонага каптурыка і ваўка, і невядомых для мяне дзьвюх прынцэсаў, дзяўчыны і жабкі.

З Канады ж найбольш самаробных паштовак-расфарбовак было з коледжаў і школаў. Малявалі іх дзеці: малявалі асэнсавана, з душою, з фантазіяй і любоўю. І яшчэ, і яшчэ раз пераконваюся і ўпэўніваюся, што пачуцьцю суперажываньня, разуменьню сутнасьці грамадзянскіх свабодаў, правам чалавека трэба навучаць, знаёміць зь імі са школьных гадоў.

Паштовак з Канады гэтым разам было найбольш, і было цяжка выбраць зь іх некалькі, але я пастараўся гэта зрабіць. І самі гэтыя паштоўкі скажуць лепей за любыя мае словы.

Таксама было багата паштовак з краявідамі і Манрэалю, і Квэбэку, і Канады. Я выбраў усяго чатыры зь іх. Прагледзеўшы ўсе гэтыя паштоўкі, магу сказаць, што Канада — прыгожая краіна некранутай прыроды. І што сьнегу там ня меней, а яшчэ і болей чым у нас, у Беларусі. І першая з гэтых паштовак — самы звычайны здымак хмызьняку на ўзьлеску, узімку, усё як у нас.

А вось наступнага ў нас ня ўбачыш — белы мядзьведзь, зацярушаны сьнегам.

І здымак канадзкай сядзібы. Мне вельмі падабаецца, што ў сучасных хатах не марнуецца прастора пад гарышча, а выкарыстоўваецца пад другі паверх. Толькі і ўсяго, што робіцца ўцеплены дах, і мацнейшыя перакрыцьці паміж першым і другім паверхам.

Апошняя паштоўка паказвае чыста канадзкі занятак: падсечку клёнаў і здабычу кляновага соку.

Кляновы сок падсочваюць зрэдку і ў нас. Сок у клёне пачынае ісьці раней за бярозавы. І тыя, хто яго піў, кажуць, што ён смачнейшы, саладзейшы. Ня ведаю, ня піў. Але, можа, калі пабываю ў Канадзе, і я паспытаю.




11 студзеня, у пятніцу, прыйшлі 262 лісты і паштоўкі. Па краінах яны разьмеркаваліся наступным чынам: 132 — Канада, 58 — Польшча, 27 — ЗША, 17 — Галандыя, 15 — Швейцарыя, 4 — Бельгія, 3 — Англія, 2 — Швецыя і Ірландыя, і па 1-м — Літва і Францыя. Ізноў жа, да абеду я іх чытаў і пераглядаў, а зараз хачу падзяліцца ўражаньнямі. Іх, як заўсёды пры такой колькасьці лістоў і паштовак, багата.

Пачну, мабыць, з навагодніх віншаваньняў, якія ня маюць дачыненьня да кампаніі салідарнасьці, але самі па сабе яны зьяўляюцца і навагоднімі, і салідарнымі. Так, прыйшло віншаваньне ад літоўскага праваабаронцы Стасіса і ад праваабаронцаў з ЗША з Freedom House.

З Францыі віншаваньне даслала суродзічка Аліса. Дасылала яна яго на файнай паштоўцы з карцінаю мастака Edward Hopper. Карціна гэтая была намаляваная ў 1929 годзе. Але і зараз у Парыжы багата кавярняў, падобных на гэтую.

Ліст са здымкам, выведзеным на кампутарнай друкарцы, прыслала група маладых актывістаў-праваабаронцаў з Швецыі (2). Яны напісалі, што зьбіраюцца інфармаваць лакальныя супольнасьці пра сітуацыю ў Беларусі і пра маю справу. Амаль усе яны любяць музыку і граюць на розных інструментах.

Наступныя паштоўкі былі з Швейцарыі. І з гораду Люцэрна, відарыс якога адбіты на паштоўцы, і з Базэлю, таксама адбітага на паштоўцы. Гэтая паштоўка, дарэчы, і падпісаная па-руску. З швейцарскай педантычнасьцю Катрын, якая падпісала гэтую паштоўку, нагадвае: *«Не забудзь, ты не адзін!»* Вядома ж, не забуду!

Яшчэ з Швейцарыі напісаў 17-гадовы юнак Леа. Ён піша, што ягоная сям'я аказвае гуманітарную дапамогу чарнобыльскім дзецям зь Беларусі. А зараз вось ён і яго сям'я вырашылі маральна падтрымаць мяне.

Іншую паштоўку з Швейцарыі даслала Мір'ям. І вось на што яна зьвяртае ўвагу: *«На гэтай паштоўцы ты бачыш традыцыйны малюнак рэгіёну, дзе я жыву»*. Здымак вельмі прыгожы, але апроч капелюша я не пазнаю іншыя прадметы. Верагодна, што пасярэдзіне ляжыць кругляк сыру, запакаваны ў луб (тонкі адшчэп ад дрэва, зь якога ў нас на Палесьсі робяць кашалі, кашы). Мяркуючы па налепцы на донцы, гэта, відаць, швейцарскі сыр. А вось што такое зьлева і справа ад сыру, мне цяжка сказаць.

І апошняя з адабраных швейцарскіх паштовак — гэта горы. Дзікія засьнежаныя вяршыні Dent-Blanche і Cervin. Яны кантрастуюць з горнай зелянінаю, якую відаць на пярэднім плане.

З галандзкіх паштовак дзьве — гэта загадзя падрыхтаваныя плакаты і раздрукаваныя на звычайныя фатаздымкі. Яны — з той самай серыі плакатаў, два зь якіх я адсылаў мінулы раз. А вось трэцяя паштоўка, хоць і самаробная, але мне падаецца даволі густоўнай.

Далей ідуць самыя разнастайныя самаробныя паштоўкі з Канады, з Квэбэку. Большасьць зь іх падпісана па-француску, але ёсьць подпісы і па-беларуску і па-руску. Рыхтавалі, падпісвалі і адсылалі іх дзеці з школаў і каледжаў. Ізноў жа, як кожная рэч, зробленая рукамі, яны гавораць самі за сябе. Але адную паштоўку я адабраў, якая, здаецца, зробленая ў друкарні. Хаця, можа,толькі папяровая яе частка — з друкарні, а вось птушка і возера — самаробныя. Ня ўпэўнены. Але паштоўка незвычайная і настраёвая.





Амаль усе лісты і паштоўкі з Польшчы прыйшлі з аднаго гораду, з Ольштыну. Пісалі лісты падлеткі, таму і лісты хоць і напісаныя па загадзя падрыхтаваным узоры, але маюць свае кранальныя дадаткі. Так, Павел пачынае свой ліст словамі: *«Трымайся, мужык!»* Крыстына заклікае: *«Ніколі не губляй веры! Памятай, што надзея памірае апошняй!»* Нехта, не падпісаўшы ліст, падбадзёрвае мяне: *«Каханы Алесю! Ня бойся, дапаможам табе!»* Войцэх піша: *«Даведайся пра твой прысуд, але не перажывай, калежанкі і калегі напісалі табе сто лістоў. Усе хочуць табе дапамагчы»*.

Найбольш поўны ліст прыйшоў ад Адрыяны, якая і была каардынатаркаю збору лістоў да мяне і на К.Маркса, 38. Вось што яна піша: *«Мне 18 гадоў і я два гады як сябра школьнай групы Эмнесьці. Я пачула пра вас месяц таму ад маёй каляжанкі, і вашая справа зацікавіла мяне. Я люблю дапамагаць людзям. Сёньня (07.12.2012) нашая школьная група арганізуе хэпенінг — вучні і жыхары Ольштыну пішуць лісты ў Беларусь, Расію і Кітай. Я і мой найлепшы сябра Даміян прадстаўляем тут вас — распавядаем людзям вашую гісторыю, гаворым, як важна напісаць гэтыя лісты, каб дапамагчы і падтрымаць вас. Я мяркую, што людзі ва ўсім сьвеце павінны дапамагаць сабе ўзаемна, каб зрабіць сьвет лепшым і бясьпечнейшым месцам. Я і Даміян напісалі ўжо 45 лістоў да прэзідэнта Вашай краіны, а ўвогуле, людзі ў нашай школе напісалі 844 лісты. Я ганаруся ўсімі гэтымі людзьмі, якія вырашылі прыйсьці ў школу і дапамагчы»*.

Адрыяна таксама прыслала здымак з гэтай акцыі, дзе яна стаіць разам з Даміянам. Вядома ж, я вельмі ўдзячны Адрыяне, Даміяну, іншым удзельнікам гэтай акцыі. І па-добраму зайздрошчу польскаму грамадзтву, якое мае ў сабе сілы ня толькі змагацца з уласнымі праблемамі, але і суперажываць разам зь іншымі і за іншых людзей і народы. Грамадзтва, у якім гадуецца такая неабыякавая моладзь, мае добрую будучыню.



14 студзеня

Ня ведаю ў чым прычына. Ці то плынь лістоў і паштовак зьмяншаецца, ці то пошта ў стары Новы Год вырашыла адпачыць, ці то яшчэ што, але лістоў у панядзелак было «мала». Усяго 13. Я ўжо прызвычаіўся да трохзначных лічбаў. І я думаў, што сёньня мне ўжо ня будзе пра што пісаць, што я ўважліва, нясьпешна прачытаю, прагляджу іх, і яны застануцца толькі са мною. Але калі я праглядзеў іх, то зьдзівіўся і зразумеў, што і сёньня мне давядзецца пісаць ліст. Бо на сямі з трынаццаці пасланьняў былі кветкі. Пяць «жывых» кветак, адная карцінка і адзін вітраж — усе зь кветкамі. Прыгожыя сонечныя дыскі сланечнікаў я таксама адношу да кветак, бо так яны выглядаюць — на вялікія жоўтыя кветкі.

4 паштоўкі з кветкамі прыйшлі з Галандыі, адна — зь Бельгіі, карцінка з сланечнікамі — з Аўстрыі і вітраж з кветкамі — зь Ірландыі. Выкананы вітраж быў у 1896 г. у Лондане. На паштоўцы паказаны фрагмент зь яго з настуркамі.

Кветак надзіва багата і тут, на зоне. Зь вясны, пачынаючы з тульпанаў, і да позьняй восені, скончаючы дробнымі познімі астрамі, на зонаўскіх клумбах буяюць разнастайныя кветкі. Зямля тут бедненькая, сьветлая, амаль пясочак, ня ўгноеная, але тутэйшым нерасьпешчаным беларускім кветкамі такая падабаецца. Растуць дружна, прыгожа, радуюць вока неразбалаваных на непатрэбныя «лішкі» зэкаў. А ўзімку мне вось гэтыя паштоўкі нагадалі пра прыгажосьць кветак.

16 студзеня 2013

16 студзеня было да мяне 77 лістоў і паштовак. Зь іх 59 даслалі з Галандыі, 8 — з ЗША, 4 — з Чэхіі, 3 — зь Нямеччыны і па адной з Польшчы, Швецыі і Ісландыі. З 59-ці галандзкіх паштовак 54 былі аднае серыі — самаробныя і адфатаграфаваныя плакацікі. Раней я дасылаў па адной-дзьве такіх паштоўкі, а зараз вось прыйшла хіба што ўся серыя з шасьці плакацікаў. Як відаць, адныя і тыя ж заклікі і выказваньні на іх напісаныя па-ангельску, па-француску, па-іспанску, і адзін подпіс ёсьць па-руску. Малюнкі на іх даволі простыя, але выразныя. А некаторыя кветкі выкананыя аплікацыяй.

Зь іншых галандзкіх паштовак багата кветак. Я адабраў чатыры. Жоўты нарцыс. Вельмі шыкоўную градку з нарцысамі бачыў я ў Лоеве. Захацеў рассадзіць іх у сябе ў Ракаве. Але ў першы год пасадзіў цыбуліны ў цень і нічога добрага з гэтага не атрымалася. Нарцысы любяць сьвятло і цяпло. Затым дзіўнага колеру, крэмава-ружовага, бутон ружы. Мне падаецца, я нават чую яе пах, прытарны, моцны, сьвежы, салодкі, смачны, які, калі пачынаеш уцягваць паветра, дык ня можаш спыніцца. Увогуле, у гэтым сьвеце шмат прыгажосьці, толькі пасьпявай усьведамляць яе і занатоўваць. А запомніць усё ня ўдасца.

Апошняя паштоўка з Галандыі, гэта здымак засьнежанага вясновага краявіду. Вось, выйдзі на агарод за любую беларускую хату, і ты зможаш убачыць штосьці падобнае: абрэзаныя вербы ці то на ўзьмежку, ці то паўз ручай, куча гною, прысыпанага сьнегам, а далей — поле, і за пералескам ізноў вялізнае «калгаснае» поле. Але зроблены ён у Галандыі, як відаць з адвароту, 5-га сьнежня 2012 году, і падпісаны: «Нашая добрая зіма». Маецца на ўвазе, мабыць, што яна сапраўдная, зь сьнегам.

Яшчэ дзьве дасланыя паштоўкі маюць зімовыя і калядныя матывы. Гэта вельмі файная калядная паштоўка-выцінанка з Чэхіі. Як бачым, традыцыя выцінанкі не забытая і ў Чэхіі. А вось на паштоўках, дасланых зь Нямеччыны, Галандыі, Канады, Аўстрыі, там у асноўным сустракаюцца аплікацыі, ці плоскія, ці рэльефныя, з каляровай паперы, прысыпаныя блёсткамі, і нават з стразамі. Выцінанка падаецца мне сьціплейшай за аплікацыю, але больш далікатнай.

На паштоўцы зь Ісландыі — багата дзяцей і сабак. Цяжка сказаць: ці гэта карціна ісландзкага мастака, ці не. Увогуле, Ісландыя — дзіўная і загадкавая для мяне краіна з маленькім народам у 300 тысячаў чалавек, якая

знаходзіцца, здаецца, ужо і не на акраіне Еўропы, а пасярэдзіне, паміж Старым і Новым Сьветам. Вось дзе я хацеў бы пабываць, паглядзець як там уладкаваліся прамыя нашчадкі старажытных вікінгаў.

А вось паштоўка з Швецыі — з восеньскім краявідам. Я ўсе пейзажы аўтаматычна параўноўваю-прымяраю на беларускі капыл, як, мабыць, і кожны чалавек, які любіць і не забываецца на родныя мясьціны. Вось і гэтая паштоўка ізноў жа нагадвае мне беларускі краявід. «Вобразы мілыя роднага краю, смутак і радасць мая» — у гэтым простым радку хіба схаваныя ўсе мае сёньняшнія пачуцьці. Ёсьць чым любавацца, ёсьць ад чаго і смуткаваць.

З ЗША прыйшлі цікавыя такія паштоўкі, падпісаныя чамусьці па-француску. А самі яны паказваюць розныя спробныя колеры, такія як «глыбокі кобальт», «зялёная трава», «перлінавы персік».

Вось такія цікавыя і разнастайныя паштоўкі прыйшлі сёньня да мяне. А што будзе заўтра? Пабачым.




Што тычыць маіх лістоў, то я меркаваў ужо скончыць іх пісаць, калі за мінулую пятніцу і чацьвер здолеў адабраць толькі адну цікавую паштоўку. Але вось сёньня, у панядзелак, ізноў прыйшло каля сотні лістоў (больш дакладную лічбу напішу ў канцы), і я вырашыў зноў сёньня адпісацца, а там далей будзе відаць.

Асноўная хваля лістоў мінула, і засталіся толькі астаткі. Тут я яшчэ хачу патлумачыцца, што тычыць колькасьці адабранага і «банальнасьці» некаторых паштовак, а, можа, і некаторых маіх каментароў. Шчыра скажу, што мне вельмі хацелася быць банальным і пісаць што-небудзь «мыльнае», што паўтаралася б у розных варыянтах. «Законы жанру» дыктавала мне асноўная маса карэспандэнцыі. Урэшце, іх пісалі простыя людзі, часта зь вёсак, зь мястэчак, ці дзеці. І я сваімі допісамі і карцінкамі адказваў як бы ім у першую чаргу. Адзінае,



што я не пасьпяваў — дык гэта больш дакладна прапісваць свае думкі і элементарна перачытваць тое, што напісаў. Адным словам, гэта такое дзяленьне сваімі эмоцыямі ад вельмі простых рэчаў — кветак, пейзажаў, адпаведна, эмоцыі таксама простыя, можа, занадта простыя для «прасунутых»... Атрымліваюцца хутчэй допісы для сайту, дзе пішуць пра падарожжы, кветкі і розныя іншыя несур'ёзныя рэчы. Клубнічка, праўда, яшчэ ў тым, што гэтая «банальнасьць» пішацца ў зоне. І тут, мне падаецца, яна становіцца ўжо і не банальнасьцю. Але ў гэтым я ня ўпэўнены.

А цяпер вяртаюся да «нашых бараноў». Сярод паштовак і лістоў, якія прыйшлі з Канады, маю ўвагу прыцягнулі дзьве паштоўкі. Першая зь іх — гэта збажына на полі. Вельмі такі, я сказаў бы, родны краявід: простыя драўляныя слупкі на першым плане, трава на ўзьмежку, удалечыні зьлева — вышка электраперадачы, а пасярэдзіне — вялікае поле з збажыною. Ды вось, не, надпіс на здымку, на адвароце, гаворыць пра тое, што ён быў зроблены летам 2012 году ў канадзкім Квэбэку.

А вось іншая паштоўка кінулася ў вочы подпісам. Самаробная, просьценькая паштоўка, падпісаная па-руску на вельмі правільнай сапраўднай рускай мове. *«Храните надежду!»* напісана на ёй. І вось, хаця большасьць беларусаў размаўляюць на рускай мове, але гэта яе зьбяднелы, функцыянальны варыянт. І мала хто зь беларусаў мог бы так выказацца: «Храните надежду!» Зьбядненьне мовы зьбядняе эмоцыі і пачуцьці. Разам з беларускай моваю беларусы згубілі магчымасьць нармальна выказвацца, згубілі значную частку свайго я. І нават замена адназначных спрадвечных беларускіх словаў на рускія выклікае ў мяне невытлумачальную крыўду. Так, калі я чую слова «аист», мне хочацца ўголас запярэчыць: не! Не аист! Бусел! Гэтая дзюбатая, цыбатая чорна-белая птушка тут, на гэтай зямлі завецца бусел! А на Палесьсі — лялько, а на захадзе Беларусі — бацян! Але не аист!

11 лістоў прыйшло з Польшчы, усе са Зьбежу. Шчыра кажучы, я і ня ведаў такога гораду ў Польшчы. Але вось што мне піша адная з тых, хто зьвярнуўся да мяне, Кінга: *«Я жыву ў Польшчы, у малым гарадку Зьбеж. Зараз мы праводзім тут марафон напісаньня лістоў Эмнесьці. У цэнтры культуры Дзіцяці было ўжо некалькі асобаў, якія таксама напісалі вам ліст»*. Як відаць па допісах, такіх асобаў набралася 11, што, мабыць, і зусім нямала, як для Зьбежу.

І яшчэ адзін ліст са Зьбежу мне хочацца працытаваць. Па-ангельску напісала Марта: *«Я багата ведаю пра вашую сітуацыю. Некалькі дзён таму я арганізоўвала «Беларускія дні» ва ўнівэрсітэце ў Лодзі. Мы, студэнты,*

*дыскутавалі пра вас і вашую барацьбу за правы чалавека... Я думаю пра вас, я распавядаю пра вас, і я малюся за вас... Калі ласка, будзьце моцнымі!»*

Скажу шчыра, я адчуваю сябе не зусім ёмка, чытаючы такія лісты. Увесь час мне здаецца, што гэта не да мяне і не пра мяне. І працытаваўшы іх для вас, я адчуваю палёгку. Я мяркую, і нават перакананы, што цяпер гэтыя словы гучаць ужо ня толькі для мяне аднаго.

Наступныя дзьве паштоўкі, пра якія я хачу паразмаўляць, зь Японіі. На адной зь іх — выцінанкі-сьняжынкі, ці кветкі. Агульны выгляд паштоўкі атрымаўся даволі арыгінальны. Надпісы-пажаданьні па-беларуску і штосьці дададзена яшчэ японскімі іерогліфамі. А на выцінанцы-кветцы — пячатка.

А вось другая паштоўка — дзьверы і садовы куток. Разнастайныя варыяцыі і дзьвярэй, і садовых куткоў, і сфатаграфаваныя, і намаляваныя, прысылалі мне на паштоўках з розных еўрапейскіх краінаў. Тое, што хацелі падкрэсьліць аўтары здымкаў і карцінаў — спакой, мінімалізм, разнастайнасьць колераў кветак, і пэўную таемнасьць, невядомасьць, якая хаваецца за дзьвярыма. Як бачым, гэтая эстэтычная сімволіка блізкая таксама і японскай культуры.

Іншая паштоўка з Швейцарыі з ластаўкамі ці стрыжамі ў небе.

Я з замілаваньнем паглядаю на іх. Бо гэтых летніх птахаў багата тут, у зоне. Яны селяцца пад падваконьнікамі розных паверхаў нашай казармы, лепяць гнёзды пад сутарэньнямі бятонным столі ў вялікім цаху на «промцы». І я ўсё лета любаваўся іхнімі імклівымі рухамі, фігурамі вышэйшага пілатажу ў паветры. Іх тут дзясяткі і дзясяткі. Дзе багата людзей — багата і мошак, і камароў, якіх зь вясны да восені нястомна і рупна зьбіраюць у паветры ластаўкі. За лета яны пасьпяваюць вывесьці два выводкі птушанятаў, навучыць іх лятаць, паляваць за жамярою, а потым усе дружна зьнікаюць. І зараз, зімою, бязь іх сумна і няўтульна. Я перасаджваў падлёткаў-ластаўчанятаў з-пад дажджу ў сухія куткі цэху. Першыя пару дзён, як яны вылятаюць з гнязда, яны пералятаюць з месца на месца, маці-ластаўка іх знаходзіць па цвыргату і корміць, дзе прыдзецца. У гэтыя першыя дні яны даверлівыя і даюцца ў рукі. А потым узьлятаюць вышэй і вышэй, і, урэшце, лётаюць і сядзяць пад самым дахам. Кошка на ўсю прамзону ў нас адная. Яна худая, рудая і бяжыць заўсёды зь вечна заклапочаным выглядам. Таму ластаўчаняты пачуваюцца ў бясьпецы.



Гэтая паштоўка з Галандыі. Букалічны галандзкі пейзаж: палі спрэс засаджаныя тульпанамі, і вятрак на заднім плане. Галандку ў каптурыку з кошыкам і кветкамі можна прапусьціць. Яна падаецца тут лішняй. Бясконцае мноства тульпанаў уражвае. Я сам саджу тульпаны, люблю гэтыя веснавыя кветкі, якія бываюць неверагоднай формы і афарбоўкі. Але вось цэлае поле тульпанаў — гэта занадта. Затое такі пейзаж ня зблытаеш ні зь якім іншым. Такое бывае толькі ў Галандыі.

І апошняя паштоўка прыйшла з Турцыі, з Стамбулу ад суродзічкі Вольгі. І вось яна піша па-беларуску: *«Мне сорамна, калі людзі за мяжой пытаюць у мяне, на якой мове я размаўляю. Я адказваю — на расейскай. Прыйшоў час зьмяняцца».* Я згодны. Зараз час такі, эпоха. Прыйшоў гэты час, каб зьмяніліся ўсе мы.


22 студзеня 2013

Бабруйск

Пакуль што мае прагнозы не спраўджаюцца. Учора, у панядзелак, было каля ста лістоў. А сёньня, ва ўторак, прыйшло 214 лістоў і паштовак. Як заўсёды, шырокая геаграфія гэтых допісаў. 159 лістоў і паштовак прыйшло з Канады, 12 — з Аўстрыі, 8 — з Швецыі, 6 — з Галандыі, 5 — зь Бельгіі, па 4 зь Японіі, Чэхіі, Польшчы і Швейцарыі, 3 — з Германіі, па 2 зь Люксембургу і Ірландыі, і 1 — з Кеніі. І таму я зноў хачу адкаментаваць табе некаторыя зь іх. І пачну з допісаў з Канады.

Холі з канадзкага Эдзінбургу напісала, што трацiна спраў, якімі займаецца Эмнесьці, сканчваецца пазітыўна. Вось я задумаўся, а мая справа належыць гэтай шчасьлівай трацiне ці нешчасьлівым дзьвюм трацінам? Ня ведаю, час пакажа.

Як заўсёды, багата лістоў было са школы і двух коледжаў. Са школы ў Gatineau прыйшоў калектыўны ліст зь зімовым ужо малюнкам са сьнегам. Яго падпісалі 38 асобаў і адная зь іх, Эля, зрабіла гэта кірыліцай. Уяўленьне, як адбываецца сам працэс стаўленьня гэтых подпісаў, выклікае ў мяне сентыментальную ўсьмешку. А дзеці,




мабыць, вельмі ганарыліся, што паставілі свой уласны подпіс на самаробнай паштоўцы, якая паляціць у далёкую Беларусь.

Дарэчы, з гэтага ж Gatineau Сандра даслала мне асобным лістом паштоўку з падтрымкаю і ўклала ў канверт фатаздымак. Вось я, шчыра кажучы, так і не зразумеў, што гэта за апарат такі. Так ён і застаецца самым загадкавым здымкам з дасланых мне.

А вось з коледжу з Манрэалю дзеці даслалі мне ўрыўкі зь вершаў і паэмаў. Хто ведае французскую мову, няхай пачытае.

Яшчэ з Канады мне даслалі сьмешнага зайца і паштоўку з краявідам Манрэалю з боку акіяну, а таксама карціну Манэ зь відам пірса, маяка і мора ў Гаўры (5). Я люблю карціны Манэ зь іхнімі спакойнымі, падкрэслена бляклымі фарбамі. Верагодна, што Вітальд Бялыніцкі-Біруля вучыўся ў яго і выцягнуў зь яго свой «беларускі» колер.

Іншая паштоўка, дзеля кантрасту, з карцінаю Ван Гога «Зорная ноч». Напісаная яна праз 21 год пасьля карціны Клода Манэ, а гэта ўжо зусім іншы сьвет.

Наступная паштоўка — зь Бельгіі. І яна амаль працягвае «мастацкую» тэму. Яна самаробная і з «прыгожага» боку на белую паперу наклееныя чорны простакутнік. Як тут не згадаць Казіміра Малевіча. І надпіс на гэтай паштоўцы аптымістычны: *«Яны скошваюць траву, але прырода мацнейшая»*.



Паштоўка з Чэхіі таксама мае цікавы надпіс. Пісалася яна 21-га сьнежня 2012 году: *«Сёньня «канец сьвету». Майі казалі: «Гэта пачатак новай эпохі!» Я жадаю, каб яна была добрай для Вас!»*

Наступная паштоўка цалкам самаробная — намаляваны Ірэнай з Швейцарыі гуашшу сіні каток. Яна магла б размазацца, калі б дзе вільгаць патрапіла на яе, але каток дайшоў цэлым. У такіх самаробных паштоўках, мне здаецца, пасылаецца часьцінка душы чалавека, які вырабляў яе.



Дзьве паштоўкі з Аўстрыі прыцягнулі маю ўвагу. Першая — тэкстам. Марыя, студэнтка з Зальцбургу, піша: *«Брат даў мне гэтую паштоўку. Напачатку я ня ведала, што я буду пісаць. Але я спадзяюся знайсьці правільныя словы. Праз тры дні мы будзем сьвяткаваць Каляды. І калі загарацца сьвечкі на елцы, я буду думаць пра Вас»*.

А вось другую паштоўку трэба проста бачыць. Гэта такая сапраўдная альпійская хата сярод лугу на касагоры і на фоне гораў фантастычнай прыгажосьці. Мне пашанцавала. Я тры месяцы вучыўся ў Гармішы і штодзень любаваўся Альпамі, толькі зь нямецкага боку, і караскаўся з красавіцкага веснавога прадгор'я аж да сьнегу, дзе яшчэ каталіся лыжнікі.



Наступныя дзьве паштоўкі таксама з Аўстрыі. А на іх — выдатна складзеныя па колерах букеты. Я вельмі люблю такія вось дробныя кветкі, якія растуць і ў нашых агародах і садах. Але скласьці вось такі букет — гэта сапраўднае мастацтва.

Вельмі прыгожыя самаробныя паштоўкі прыслалі з Швецыі Эвеліна і Анна. Тут і рунічныя матывы, скандынаўскія ўзоры, і суровыя краявіды паўночных гораў і фьёрдаў. Праліў, пратока па-шведзку гучыць як «стром». Адразу прыгадваецца беларускае слова «строма». У асноўным гэтую строму раней беларусы маглі бачыць у іншых краях, верагодна, што скандынавы былі і прывезлі тысячу гадоў таму гэтае слова да нас. І тут яно крыху памяняла сваё значэньне.

Іншая паштоўка ад Хіраішы зь Японіі. І на ёй — карціна японскага мастака 19 стагоддзя зь сьвятой для японцаў гарой — Фудзіямай. Яна ў іх зьяўляецца хіба што нацыянальным сімвалам. А вось спытайся ў беларуса, які твой нацыянальны сімвал, баюся, не адкажа, ці адказы будуць розныя. Нашыя і зубра могуць назваць, і бусла, і крыж Еўфрасіньні Полацкай, а хто можа — і Вікторыю Азаранку. А вось у японцаў ён бясспрэчна адзін — гэта Фудзіяма.

І апошняя паштоўка — зь Кеніі ад суродзічаў, ды яшчэ і добра знаёмых двух маладых хлапцоў. Аднаго зь іх я ўвогуле памятаю яшчэ трохгадовага. І вось калі б у мяне перад атрыманьнем гэтай паштоўкі запыталіся б — а хто з тваіх знаёмых мог бы патрапіць у Кенію і напісаць табе адтуль, дык я б назваў два-тры прозьвішчы, і адное — менавіта яго. Адрас хлопцы напісалі на ўсялякі выпадак так: Europe, Belarus. Для Афрыкі, можа, гэта было і ня лішнім. А атрымалася неяк сімвалічна. Беларусь у Еўропе. Толькі нам самім трэба ўсьвядоміць гэта і зразумець..



25 студзеня 2013

Бабруйск

Паштоўкі за сераду (23-га) і чацьвер (24-га) я аб'яднаў, бо ў сераду была 21 паштоўка, а ў чацьвер 72, і ўсяго атрымалася 93 паштоўкі і лісты. Зь іх 65 — з Аўстрыі, па 5 з Галандыі і ЗША, 6 — зь Германіі, па 2 — з Швецыі і Англіі і па 1-й з Канады, Расіі, Нарвегіі, Даніі, Японіі, Інданэзіі, Іспаніі.

З Аўстрыі напісалі ў асноўным студэнты. Сэльма намалявала свой і мой партрэты. Толькі яна ня ведала, што на зоне ў нас усе ходзяць коратка падстрыжаныя, як кажуць, пад нуль, і вусы насіць вязьням не дазваляецца. Таму, калі прыбраць валасы, вусы і сьлёзы, тады атрымаюся выліты я. А Міхаэл прыслаў напісаны відаць што наспрактыкаванаю да кірыліцы рукою навагодні вершык па-руску. Хутчэй за ўсё ён ці ягоныя бацькі з рэпатрыянтаў.



Далей пайшлі проста прыгожыя паштоўкі. На галандзкай паштоўцы вялікія грады нейкіх бэзавых кветак, якія выглядаюць сьвежа і арыгінальна. А вось далей відаць стары кляштар-манастыр на фоне цёмнай зеляніны. Што гэта за бэзавая расьліна, я ня ведаю. Хутчэй за ўсё гэта манастырская зямля, і манахі робяць з гэтых кветак нейкія лекі ці напой. Я быў у адным з кляштараў у Нямеччыне, дзе па ўласным старажытным рэцэпце браты-манахі выраблялі арыгінальны бальзам. Мы тады купілі па пляшцы. Бальзам быў смачны.

Паштоўка зь Японіі была дасланая Рыяка з Кіёта 10 сьнежня, у дзень Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і, як відаць па штэмпелю, дайшла да Бабруйску 19 студзеня. Бабруйскія паштары прачыталі напісанае лацінкаю маё прозьвішча як Билятский. Ну, гэта амаль-амаль так. Дык вось, я ізноў захапляюся сьціпласьцю і далікатнасьцю аздабленьня японскіх паштовак. Здавалася б, усё так проста: рознакаляровыя балёнікі, намаляваныя акварэльлю. А на тле ружавата-абрыкосавай паперы яны глядзяцца вельмі чыста і кранальна, і ўздымаюць настрой.

Наступная паштоўка — з Канады, з Атавы. І гэта зусім іншы стыль, іншыя колеры і падыходы. Яна саматробная і з глыбокімі сінім і шэрым колерамі, і са стразамі. Выглядае вельмі сьвяточна і па-багатаму, хаця зрабіць такую вельмі проста. Усё пасьлядоўна наклейваецца і атрымліваецца вось такая прыгажосьць.

Затым ідзе паштоўка, а, дакладней, проста фатаздымак зь Нямеччыны. Чалавек, які хацеў падкрэсьліць свае добрыя пачуцьці да мяне, узяў фатаздымак хутчэй за ўсё свайго дому, веранды, падпісаў на адвароце: *«Лепшых жаданьняў у 2013-м»* і даслаў яго мне. І мне прыемна. Адразу бачна, што і хата, і веранда зробленыя па-свойму, ня так, як робяць у нас. Вось, я так бы ніколі не зрабіў. А паглядзець — цікава. Акуратна ўсё, па-нямецку.









І апошняя паштоўка — зь Інданэзіі. І цікавая яна для мяне тым, што пасланая зь неверагодна далёкай краіны. Гэта, сапраўды, другі канец сьвету. Вось, гледзячы на яе, успрымаеш Еўропу, сапраўды, як родны і абжыты дом, дзе ўсё і ўсе жывуць і разам, і побач. Толькі ў нашым беларускім пакоі ідзе пакуль што рамонт, і ён зачынены на ключ, і дзьверы туды адчыняюць рэдка. Але ж любы рамонт — зьява часовая.



27 студзеня 2013

Бабруйск

У пятніцу, 25 студзеня, ізноў было багата карэспандэнцыі. Прыйшло ўсяго 366 лістоў і паштовак. Зь іх 356 былі з Канады, 5 — з Германіі, 2 — з Англіі, і па 1-м з Галандыі, Іспаніі (з высыпы Ібіца), і Швецыі. Канадзкія лісты і паштоўкі былі пераважна перадкалядныміці каляднымі. А паштоўкі і лісты зь Еўропы ўжо студзеньскія. Улічваючы, што амаль уся пошта ў гэтую пятніцу была з Канады, то і адабраныя паштоўкі і ліст — усе адтуль.

Вялікія пакеты з паштоўкамі прыйшлі ізноў з школаў і коледжаў ад вучняў і студэнтаў квэбэкскіх гарадоў Thetford Mines і Vinnears Mills.

Найбольшая колькасьць паштовак — саматробная. Гэта ці малюнкі, ці аплікацыі дадаткова размаляваныя. І сюжэты на іх у асноўным вясёлыя, жыццярадасныя. Катоў, сабак, матылькоў ды іншых жывёлаў і прыроду малявалі ў асноўным дзяўчынкі, а машыны — хлопцы.



Некаторыя з гэтых паштовак маюць пэўны сэнс. Тут можна ўбачыць і канадзкі сьцяг, па колерах падобны на наш беларускі нацыянальны сьцяг. І аптымістычны малюнак сонца зь вясёлкаю, і пацыфісцкую «гусіную лапку» ў коле, і сімвалічны гадзіньнік у выглядзе замка стрэлкі, на якім паказваюць, што хутка наступіць для мяне хвіліна свабоды.






Іншыя самаробныя паштоўкі выкананыя ў тэхніцы аплікацыі. На адной зь іх проста наклеены фатаздымак засьнежанай вулкі, мабыць, у гэтым гарадку. Відаць старыя будынкі, якія гавораць, што гэта хутчэй за ўсё недалёка ад цэнтру гораду, калядныя ялінкі, упрыгожаныя цацкамі і засыпаныя сьнегам, і шыльда: «Мастацкая галерэя». Бачна, што здымак зроблены нядаўна, перад Калядамі. Зрабілі, надрукавалі, прыклеелі і даслалі. І я адчуў часьцінку атмасферы гэтага далёкага канадзкага гарадка, дзе такія ж засьнежаныя зімы, як і ў нас, у Беларусі.



На наступную самаробную паштоўку, упрыгожаную стужачкай, наклеілі цікавае фота. Напачатку я думаў, што гэта алені, якія пераплываюць замерзлую ваду, рэчку ці возера. Але, угледзеўшыся, зразумеў: гэта яны ідуць, прабіваючы сабе сьцежку ў глыбокім сьнезе! А сьнегу столькі, што відаць толькі іхнія галовы.



А вось наступная паштоўка, упрыгожаная наклееным рэльефным малюнкам кветак і абстрактных лініяў. Колеры асновы з чырваньню, а кветкі выпісаныя золатам. Атрымалася трывожна, хвалююча і прыгожа.

Прыслалі з Зэтфарду дзеці даволі грунтоўныя, падрабязныя лісты. Мне сорамна прызнацца, але ў школе і нават ва ўнівэрсітэце я вывучаў францускую мову. Але ў Савецкім Саюзе, за «жалезнай заслонаю», замежныя мовы былі непатрэбныя, бо амаль нікога з савецкіх грамадзянаў не выпускалі за мяжу. Таму, засвоіўшы даволі някепска школьны курс францускай мовы, далей я кінуў яе вучыць і падтрымліваць хоць бы на якім узроўні. У выніку, амаль усё забыў. І нават з такіх дзіцячых лістоў магу ўлавіць толькі асобныя словы і агульны сэнс. Хоць мы і марылі пра незалежную Беларусь у тыя гады, хоць і спрабавалі нешта зрабіць дзеля гэтай незалежнасьці, але хто ж ведаў, што Савецкі Саюз так хутка развaліцца. Вось калі б я ведаў, дык тады б на першым курсе ўнівэрсітэту не вучыў бы на памяць паэму расійскага паэта А.Пушкіна «Евгений Онегин», а займаўся б францускай моваю, ці ангельскай. Але жыццё ўжо не перапішаш.

З коледжу Durocher Saint-Lambert прыслалі з паўсотні паштовак, напісаных на паштовых картках коледжу. Адная зь іх напісаная па-ангельску ад студэнта, канадца ўкраінскага паходжаньня. На жаль, ягонага імя ў подпісе не разабраць. Бачыў я аднойчы ўкраінскую сям'ю, мамку і дваіх дзяцей, якія жылі ў Канадзе і ляцелі ва Ўкраіну. Дык вось дзеці размаўлялі па-ангельску і па-ўкраінску, а па-руску ня ўмелі. Здаецца ж, нармальная зьява, а для нас, нацмэнаў, прыбітых у Савецкім Саюзе рускай моваю, гэта ўсё-роўна выглядала незвычайна.






Учора, у панядзелак, 28 студзеня, я атрымаў чарговую порцыю пошты. І я зноў хачу падзяліцца сваімі ўражаньнямі і заўвагамі. З Канады, з Манрэалю, сталіцы францускамоўнага Квэбэку прыйшла паштоўка з пажаданьнямі і подпісамі ад адной вялікай сям'і Lavigueur. 17 подпісаў на паштоўцы. Разам з паштоўкаю яны даслалі і свой агульны здымак. Гэта ўражвае. На здымку — 17 чалавек, тры пакаленьні. Ня ведаю, ці яны сьпецыяльна сабраліся, каб падпісаць паштоўку і сфатаграфавацца, ці так атрымалася, але атрымалася вельмі файна.



Адтуль жа, з Канады, прыйшло і некалькі дзіцячых саматробных паштовак. Адную зь іх, на зімовую тэму, зь сьняжынкамі, я выбраў. Калі зараз на вуліцы падае сьнег, а мы стаім на праверцы, я заўсёды згадваю гэтыя лёгкія радкі зь верша Паўлюка Труса:

Падаюць сьняжынкі, дыяменты-росы,
Падаюць бялюткі за маім вакном.

Яшчэ адная паштоўка прыйшла з канадзкага Квэбэку з карцінаю Густава Клімта. Выкананая ў ягонай яркай каларыстай манеры супер-мадэрну. Гэты стыль лёгкага і несур'ёзнага ў параўнаньні з рэалізмам мастацтва расквітнеў напачатку 20-га стагоддзя. Ён хваляю пракаціўся па ўсёй Еўропе, закрануўшы і мастацтва, і музыку, і архітэктуру, і літаратуру. Захавалася некалькі будынкаў у Менску, пазначаных мадэрнам, ці як яго яшчэ называюць — сэцэсіяй. А выдатныя ўзоры гарадзкой архітэктуры, пабудаваныя ў стылі мадэрн мне даводзілася

бачыць аж у Ніжнім Ноўгарадзе. Дык вось, калі я разглядаю карціны ці вітражы Клімта, дык мне здаецца, што ён даваў ідэю гэтага даволі спакойнага, арнаментальнага, «спажывецкага» стылю да ўзроўню нейкага пачуцьцёвага вар'яцтва.

А вось з Англіі прыйшла паштоўка з рэпрадукцыяй карціны іншага майго любімага мастака Клода Манэ. Гледзячы на гэтыя францускія сельскія краявіды 19-га стагоддзя, я ўсё больш пераконваюся ў ягоным уплыве на жывапіс нашага Вітальда Бялыніцкага-Бірулі. Проста Біруля прыбраў гэтыя нехарактэрныя для надвор'я ў Беларусі сонечныя жоўтыя веселаватыя колеры, а дадаў больш смутнага шызага і ліловага адценьня. Але па настраёвасьці, задумлівасьці, засяроджанасьці, сканцэнтраванасьці, па прыроднай, звычайнай прыгажосьці, яны вельмі падобныя.

І апошняя галандзкая паштоўка таксама мне спадабалася. Хоць не пазначаны мастак гэтага малюнка, але, відаць, што ён выкананы ў першай палове XX стагоддзя і адлюстроўвае любімую зімовую забаву галандцаў — катаньне на каньках. Мілая такая, сентыментальная карцінка. За гэты час і краявіды ўжо зьмяніліся, і людзі апранаюцца па-іншаму. Але калі надыходзіць зіма і на рэчках, сажалках і каналах зьяўляецца лёд, галандцы ўсё гэтак жа ж выходзяць пакатацца. Так як і 200, і 300 гадоў таму.

P.S. А ўсяго было 49 лістоў і паштовак. Зь іх 40 — з Канады, 4 — з Польшчы, па 2 з Галандыі і Ірландыі і 1 — з Англіі.



30 студзеня 2013

Бабруйск

Учора, як і пазаўчора, прыйшла аднолькавая колькасьць лістоў і паштовак — 49. З Польшчы — 14, Канады — 15, зь Нямеччыны і Англіі — па 6, Японіі — 3, Бельгіі — 2, Тайваню, Чэхіі, Швейцарыі — па 1.



Пра некаторыя зь іх я хачу распавесьці. Юміка прыслала зь Японіі паштоўку з панарамай ракі, сучаснага гораду і разбуранага дому на першым плане. Ён мне падаўся знаёмым. Я ўжо бачыў выяву гэтага дому, але асобна, без наваколься. Калі я прачытаў подпіс на паштоўцы, то зразумеў, гэты горад — Хірасіма, а дом пакінулі, як трагічны помнік пасьля ядзернага выбуху. Яго часта дэманстравалі ў антыядзернай прапагандзе ў Савецкім Саюзе. Так, гэта была вельмі дзіўная сітуацыя. Краіна, якая валодала наймагутнейшым у сьвеце ядзерным боезапасам, у той жа час імкнулася ўкласьці ў галовы сваіх грамадзянаў, што «мы мирные люди, но наш бронепоезд стоит на запасном пути». Праўда, сучасныя будынкі вакол дома-помніка не паказвалі, каб надта ня ўражваць савецкага грамадзяніна, і каб ён не задаўся пытаньнем, а як гэта так шыкоўна адбудавалася Японія, пераможаная ў сусьветнай вайне агульнымі намаганьнямі саюзьнікаў.

А вось другая паштоўка з Тайваню навеяла мне іншыя думкі. Ізноў побач зь літарамі беларускай кірыліцы я ўбачыў складанейшае для мяне вязьмо кітайскіх іерогліфаў і пазайздросьціў цяпер ужо кітайцам добрай зайздрасьцю. Мова, пісьменства якой пабудаванае на такой адметнай графіцы — мае доўгую-доўгую будучыню. І з брыдкасьцю згадваю аргументы некаторых беларускіх «мовазнаўцаў», якія выступаюць супраць вяртаньня ў граматыку беларускай мовы мяккага знаку, які зьмякчае зычныя. Бо гэта ж, па іх падліках, зробіць беларускія тэксты аж на 4% даўжэйшымі, адпаведна, будзе і большы расход паперы, якую мы павінны ўсе берагчы. Цынізм чыстай вады. Толькі ідыёты эканомяць на роднай мове. А зараз, у выніку гэтай «эканоміі», мы маем агрубелае і зацьвярдзелае маўленьне ў беларускай мове. А мяккія –зь, -сь — гэта ж адная з адметных рысаў беларускай фанэтыкі. Дык вось, кітайцы ў адрозьненьне ад беларусаў, на сваіх іерогліфах не эканомяць.




Наступная паштоўка — зь Бельгіі. Яна ўражвае складанай аплікацыяй. Мне цяжка вызначыць, ці яна выкана-

ная механічна, ці склееная ўручную. На ёй няма ніякіх пазнакаў. У любым выпадку, яна вельмі арыгінальная і прыгожая.

І апошняя — самаробная паштоўка з Канады. Вось так дзеці ўяўляюць свабоду і турму.



4 лютага 2013

Бабруйск

Сёньня, у панядзелак, 1,5 гады мінула з дня майго арышту. Што тут можна сказаць, час ляціць. Ён і тут не застыў і не спыніўся. Дык вось, у чацьвер-пятніцу лістоў да мяне было няшмат. І я ўжо меркаваў, што хваля падтрымкі скончылася, але — марна. Сёньня ізноў прынесьлі мне 185 лістоў! Зь іх пераважная большасьць — 176 — з Канады, па тры лісты з ЗША (з Пуэртарыка), з Швейцарыі і Польшчы, і адзін — з Германіі.

Адзін з лістоў зь Польшчы прыйшоў з Здуньскоўскай Волі. Марцін піша, што вельмі важна, каб чалавек быў у стане паглядзець на сябе ў люстэрка. Гэта значыць, змагчы даць аб'ектыўную ацэнку сваім учынкам. І я зь ім згодны. Гэта так цяжка, але так важна. Гэтае ўменьне зьяўляецца падставаю для далейшага кшталтаваньня асобы.

Марыян з Люцэрны зь Італіі прыслаў дзіўную паштоўку. Абрысы цягніку выкананы на ёй тонкай прорэзьзю. Гэта штосьці падобнае на выцінанку, але тэхніка выкананьня і, адпаведна, малюнак атрымліваецца іншы. Я такую разьблёную паштоўку бачу ўпершыню.

Усе іншыя паштоўкі — з канадзкага Квэбэку, выкананыя вучнямі школаў у гарадку Drummondville. Паштоўкі самаробныя з разнастайнымі малюнкамі. Тут ёсьць і пацыфісцкі знак. Гэтая «гусіная лапка» ў коле зьяўляецца сімвалам і эмблемаю, умоўным знакам усіх людзей, хто выступае за мір. У мяне ён выклікае толькі пазітыўныя пачуцьці.









На наступнай паштоўцы намаляваныя кветкі і матылькі. Адвечны «дзявочы» сюжэт. Мая знаёмая Паліна нават сваю кніжку, якую яна напісала, назвала — «Матылі».

Наступны малюнак такі крыху сентыментальны. Але мне вельмі падабаецца даволі вядомы лёзунг: *«Ніколі не губляй надзею!»* Па-ангельску ён гучыць больш хлёстка і каратка. На развароце паштоўкі Вікторыя напісала і па-ангельску, і папольску. Відаць, што Канада — краіна эмігрантаў.

А вось на сваёй паштоўцы Ангеліна намалявала мой партрэт. Малявала як умела, і хоць я, здаецца, зусім не такі, але ж падпісаны ён маім імем і прозьвішчам, значыць, гэта я.

Серыя паштовак-малюнкаў — уся са школы з Drummondville. Яны — большыя па памеры і ня меньш цікавыя. Вось так Жульен уявіла, што я выходжу на волю. Шчыра кажучы, падабенства будзе небагата. І валасоў у мяне ня будзе, і адзеньне — больш манатоннае, і брама тут — павышэй і памасіўней. Але малюнак падабаецца мне самой тэмай, пра якую я магу зараз толькі марыць.

Гэты малюнак зрабіла Мелані. І тут ужо — карціна самой волі — зялёныя пагоркі, сінія рэкі і старыя дрэвы. Адчуваньне волі ёсьць, напэўна, і сам малюнак кампазіцыйна складаны. Я, як чалавек, які ўвогуле ня ўмее маляваць, зайздрошчу тым, хто мае такія здольнасьці.




Наступны малюнак — даволі сімвалічны. І тут ужо матыльком пачуваю сябе я. А хто такі гэты ўважлівы кот, можна толькі здагадацца. Дарэчы, і ўсярэдзіне гэтая паштоўка аформлена вельмі густоўна.

Іншы малюнак мне спадабаўся нязвыклымі жывёламі на ім і, адпаведна, сэнсам, які закладала ў яго Флёрэнс. Сэнс тут можа быць розны, адзінае што дакладна, дык гэта тое, што авечка мэкае зь любоўю.

На малюнку, які зрабіў Філіп, багата сімвалаў і два сьцяжкі — л-кі (лукашэнкаўскі — *А.Б.*) і канадзкі. Каля аднаго — замок, а каля іншага — ключ. Здаецца, усё зразумела. Пакуль ключ зусім у іншых руках. Год таму, калі я сядзеў у СІЗА ў Жодзіна, то, каб прайсьці з камеры да кабінету на сустрэчу з адвакатам, трэба было прамінуць 21 дзьверы ў падземных калідорах, у пераходзе паміж будынкамі. І ўсе яны адчыняліся перада мной, а затым зь лязгатам зачыняліся за сьпінай. Я ніколі не забуду гэты лязгат цяжкіх жалезных, тоўстых дзьвярэй. Яны дзялілі прастору на кароткія адрэзкі. Імі былі адрэзаныя і будучыня, і мінулае. А ты заставаўся ў цяперашнім часе, безь мінулага і будучага. Толькі з ахоўнікам, у руках у якога быў ключ.



5 лютага 2013

Бабруйск

Сёньня, 5-га лютага, ва ўторак, прыйшлі да мяне 73 паштоўкі і лісты. 64 зь іх з Канады, 4 — з Германіі, 3 — з Галандыі і па 1-й зь Бельгіі і Швецыі. І некаторыя зь іх патрабуюць маіх каментароў. Так, з Бруселя ўрэшце Ася прыслала мне знакаміты гарадзкі фантан «Сікаючы хлопчык», ці калі казаць карацей — «Сікун». Я ня ведаю, чаму ён так папулярны, але ўсе турысты ў Брусэлі ідуць глядзець на яго. Некалі хадзіў глядзець на яго



і я. І хачу сказаць, што адзін раз на яго паглядзець варта, як на малую гарадзкую скульптуру. Дарэчы, тады ж мы паглядзелі таксама і на ягоную бронзавую сяброўку «Сікуху». А вось дзяўчынка менш знакамітая за хлопчыка, і мала хто ведае пра яе. Такая ж па памерах бронзавая скульптурка. Скульптуркі зьявіліся яшчэ ў 19-м стагоддзі і лепей чым што адлюстроўваюць дэмакратычную атмасферу Бруселю вось ужо на працягу двух стагоддзяў.

Наступная еўрапейская паштоўка — з Галандыі. Фотавыява бутону тульпану. Вельмі прыгожы гатунак — жоўты тульпан з чырвонаю падфарбоўкаю, нанесенай як быццам бы гуашшу. І сам бутон — сьвежы, тугі і пругкі. Тульпан хіба — сімвал Галандыі. А якая кветка сімвал Беларусі? Васілёк? Зь лёгкай рукі Максіма Багдановіча, хіба што так.

На паштоўцы зь Нямеччыны — дзіўны для беларускага вока ландшафт. Цяжка паверыць, што гэта — Германія. Але выглядае, што так. На поўдні Германіі, у Баварыі, дзе яна мяжуе з Аўстрыяй — Альпы. Гэтыя старыя еўрапейскія горы. А гэтыя ўзгоркі, зарослыя лесам — можа, і ёсьць альпійскія прадгор'і.

Іншыя тры паштоўкі — з Канады. Ужо другі вялікі канверт прыйшоў з гораду Drummondville з школы. І два малюнкі я адабраў, бо ў іх прысутнічае слова «Вясна». І самі малюнкі зь веснавымі матывамі, але слова гэтае зьявілася, зразумела, ня толькі таму.

А вось трэцяя канадзкая паштоўка зь ялінкавымі матывамі і пацыфісцкай лапкаю. Даслала яе настаўніца геаграфіі Шанталь з гэтай жа школы, адкуль былі паштоўкі-малюнкі дзяцей. Можа, на яе ўроку дзеці і малявалі свае паштоўкі? Можа, такім чынам, гледзячы на геаграфічную мапу, бачачы на тле Еўропы кляновы лісток Беларусі, яны адначасова і вывучалі геаграфію? Ці прыйдзе такі час, калі і беларускія дзеці на ўроках геаграфіі разам з настаўніцай будуць пісаць паштоўкі ў падтрымку людзей у нядолі? Я ўпэўнены — так. Але для гэтага трэба яшчэ добра папрацаваць.







6-га лютага было ня так багата паштовак. 5 — з ЗША, 3 — зь Ірляндыі і па 2 з Галандыі і Польшчы. Усяго—12. Зь іх я б выбраў усяго адну. Прыйшла яна зь Ірляндыі. Звычайная паштоўка з традыцыйнымі пажаданьнямі. Але вось што ў ёй незвычайнага, дык гэта тое, што ангельская мова ў ёй суседзіць зь ірляндзкай. І параўнаўшы іх, разумееш, наколькі ірляндзкая мова адрозная ад ангельскай — ніводнага падобнага слова! Сумна, што гэта была хіба што адзіная ірляндзкамоўная паштоўка, хаця мне іх зь Ірляндыі за апошніх два месяцы прыслалі некалькі дзясяткаў. Ангельская мова за стагоддзі каланізацыі фактычна «зьела» ірляндзкую. У 19-м стагоддзі большасьць ірляндцаў размаўлялі па-ірляндзку. Зараз ёй валодаюць каля 10% ірляндцаў, а размаўляюць паўсядзённа і яшчэ меней. І гэта нягледзячы на амаль стогадовую незалежнасьць Ірляндыі ў апошні перыяд яе гісторыі. Ірляндцы здолелі захавацца як нацыя, але ня здолелі захаваць сваю мову.

Самі па сабе напрошваюцца прыкрыя паралелі. Больш таго, ірляндцам, як нацыі, дапамагла захавацца адрозная ад ангельцаў рэлігія. Яны — каталікі, а ангельцы — пратэстанты-англікане. Дык вось такога рэлігійнага бар'еру паміж Беларусьсю і нашым усходнім суседам няма. Таму, пры падступнай палітыцы ўлададзержцаў ды інфантыльнасьці народу нас, беларусаў, можа чакаць і поўнае зьнікненьне з мапы сьвету. Што б там не казалі пра рускамоўнага беларуса, адзіны натуральны і магутны бар'ер ад асіміляцыі, гэта беларуская мова.

7-га лютага лістоў і паштовак ізноў было нямала. 48 — з Польшчы, 39 — з Канады, 3 — з Галандыі і па 1-й зь Нямеччыны, Украіны і Францыі.

Усе лісты з Польшчы прыйшлі ў адным вялікім пакунку. Напісаньні лістоў і выраб паштовак праходзілі ў 29-й гімназіі імя Канстытуцыі 3-га траўня ва Ўроцлаве.



Цікавая традыцыя ў палякаў — надаваць гімназіям імёны герояў Польшчы і памятных гістарычных датаў. Такая ж завядзёнка ёсьць і ў Канадзе, і ў Азербайджане. У апошнім часта школам даюць імёны сваіх знакамітых выпускнікоў. Нам трэба было б таксама шырэй пераняць гэты вопыт. Вось быў у Менску беларускі ліцэй, які насіў імя Якуба Коласа, ды і той улады зачынілі.

Зь лістоў, якія прыйшлі да мяне, я даведаўся, што дзеці па-сур'ёзнаму заангажаваныя ў акцыю падтрымкі палітвязьняў. Так Сандра піша: *«Я разам з школьнай групай Эмнесьці зьбіраюся напісаць багата лістоў. Мая мама будзе таксама пісаць. Так хачу вам дапамагчы! Не магу ўжо дачакацца, каб магла цэлую ноч пісаць лісты. Абяцаю, што зраблю столькі, колькі будзе ў маёй змозе»*.

Іншая вучаніца піша: *«Разумею вас. Пэўна, атрымліваеце багата такіх лістоў, а большасьці зь іх не разумееце. Аднак, можа здагадаецеся, што мы ўсё робім столькі, колькі можам. Маю надзею, што чытаючы гэты ліст, зразумееце хоць слова, альбо дадумаецеся, пра што ён»*.

Уля піша: *«Нягледзячы на тое, што маем небагата гадоў, ведаем, якім жахлівым бывае жыцьцё»*.

А ў іншым лісьце вучні пішуць: *«Напісалі сёньня неверагодную колькасьць лістоў. Пішам далей. Не перастаем»*.

Усе гэтыя лісты і сур'ёзныя, і трохі сьмешныя, галоўнае — напісаныя ад шчырага сэрца.

І гэтае ж высакароднае жаданьне падтрымаць, і суперажываньне — перадаецца праз паштоўкі, зробленыя ўласнаручна гімназістамі. Прышчапленьне дзецям гэтага пачуцьця суперажываньня — вельмі важная задача сацыяльнага грамадзтва. У такіх супольнасьцях людзі, якія церпяць, маюць нейкія жыцьцёвыя праблемы, заўсёды могуць атрымаць дапамогу. Ня ўсё аддаецца дзяржаве, бо ў дзеяньнях дзяржаўных органаў і ўстаноў няма людзкой цеплыні і спагады. А менавіта пачуцьцё нераўнадушша зьяўляецца ці не галоўным рухавіком у пабудове грамадзянскай супольнасьці.






Наста (Наста Лойка — А.Б.) прыслала каляровую паперу для пісаньня. Эксьпэрымэнтуе. А мне нічога не застаецца, як удзельнічаць у гэтым эксьпэрымэньце, бо іншай паперы ня маю.

Такім чынам, працягваю апавядаць пра цікавыя лісты і паштоўкі, якія прыходзяць да мяне. 8-га лютага, у пятніцу, іх было — 172. Зь іх — 164 з Швецыі, 3 — з ЗША, 2 — з Англіі і па 1-й з Галандыі, Ганконгу і Германіі. А за тыдзень, я падлічыў, было 535 паштовак і лістоў. Мяркую, яшчэ тыдзень-другі, і хваля спадзе. Такім чынам, пачну з Швецыі. Усе паштоўкі, дасланыя да мяне — гэта самыя разнастайныя фатаздымкі. І калі я сеў адбіраць найбольш цікавыя зь іх, атрымалася амаль 50. І толькі з трэцяга разу я зьменшыў іхнюю колькасьць да васьмі. Яны, можа, і ня самыя лепшыя, але як выбраў, так ужо і ёсьць. Некаторыя зь іх падпісаныя вялікімі тэкстамі, чым сьціслыя пажаданьні. Так, Керсьцін піша, што жыве ў малым гарадку на ўсходнім беразе мора. І што ўзімку вельмі рана цямнее. Сонца сядае ўжо ў тры гадзіны дня. Адчувальна, што Швецыя знаходзіцца паўночней за Беларусь.

Эма ж піша: *«Мы ўсе знаходзімся пад тым самым месяцам і небам».*

Вось што напісаў Оле: *«Я стараўся паслаць табе фатаздымак з майго балкону з выглядам возера, лесу, які яго акаляе, і неба, але тэхніка не працуе. Таму ты можаш пастарацца ўявіць усё гэта. Я жыву па-за Стакгольмам. У нас вельмі багата сьнегу. Я — кіроўца аўтобусу ў горадзе. Я маю трох дзяцей падлеткаў і аднаго 1,5-гадовага ўнука».*

Сара піша, што зараз зіма і *«я шукаю ўсё, што можа выклікаць у мяне ўсьмешку. Напрыклад, я бачыла дзьвюх сталых кабет, якія дапамагалі адна адной пераходзіць сьлізкую дарогу. Ці чытала пра тваю працу…»* Пэўна, што ўсьмешка ў Сары была сумная…

Лаўрэн напісаў наступнае: *«Ты будуеш муры ўсю дарогу, да неба. Я буду шукаць шлях паляцець над імі. Ты будзеш старацца прышпіліць мяне з сотняй тысячаў рук, але я буду шукаць шлях супраціву. Нас болей, чым ты думаеш. Людзей, якія адмаўляюцца спыніцца верыць».*



Як бачна, подпісы і канкрэтныя, і з гумарам, і зь сімвалічным зьместам.

Іншую паштоўку падпісала Анка з грамадзкай арганізацыі «Шведзкае таварыства за мір і арбітраж». Такая дзіўная і доўгая назва. Упершыню мы пазнаёміліся з актывістамі гэтай арганізацыі яшчэ ў канцы 90-х гадоў. Яны запрашалі нас, праваабаронцаў, да сябе ў Швецыю, а мы іх у Беларусь. Арганізацыя гэтая мае багатую гісторыю. Яны ўтварыліся больш за сто гадоў таму і напачатку выступалі супраць вайны з Нарвегіяй, якая вырашыла аддзяліцца ад Швецыі. У выніку, Нарвегію адпусьцілі мірна, а старшыня арганізацыі стаў лаўрэатам Нобелеўскай прэміі міру.

Арганізацыя жыве і праз сто гадоў, мае многія тысячы сяброў і працягвае працаваць за мір і бясьпеку ў розных рэгіёнах сьвету. Тады ж, праз некалькі гадоў, нашая супраца прыпынілася. Але мы сябруем з шведзкімі праваабаронцамі зь іншых няўрадавых арганізацыяў.

На здымках, адабраных мной — Стакгольм, горад, пабудаваны на 14-ці гранітных выспах. Стары горад. Вулічкі там ёсьць такія вузкія, што можна рукамі дакрануцца да супрацьстаячых дамоў. А вось адносна новыя забудовы 60-х — 80-х гадоў часам звонку вельмі падобныя на менскія. Такі эканамічны стыль, у якім шведы хутка пабудавалі багата дамоў, каб вырашыць жыльлёвую праблему. Вось гэтая плошча яшчэ цікавая тым, што на ёй часта дазваляюць правядзеньне мітынгаў і пікетаў. Праходзіў некалі там і пікет у падтрымку правоў чалавека ў Беларусі. Падчас пікету ўдзельнікі наскідалі ворах абутку. А што гэта сімвалізавала, я ўжо і ня памятаю.

Наступны здымак, гэта і «эканомдамы», і паўночнае, няяркае, нядоўгае сонца. Яго мала. А цемра пагана ўплывае на людзкую псіхіку. Таму ў гэты час багата шведаў і нарвегаў імкнуцца выляцець у цёплыя краіны, на мора. Адзін раз я ляцеў на такім самалёце праз Рыгу ў Осла, які спрэс быў запоўнены нарвежцамі сталага ўзросту. Гэта быў эканомрэйс. 60-гадовыя і старэйшыя цёткі і дзядзькі, загарэлыя і адпачыўшыя, вярталіся дадому. І што мяне зьдзівіла, дык гэта вялікая колькасьць разнастайных татуіровак як у адных, так і ў другіх.

Затое ўвесну ў Стакгольме амаль круглы дзень сьвятло. Сонца, зеляніна расьце як на дражджах, цёпла і прыгожа. Як сказаў мой прыяцель-швед, ён не разумее тых шведаў, якія едуць адпачываць з Швецыі некуды ўлетку. Я тое самае думаю і пра Беларусь. Летам у нас зазвычай лагодны клімат, у меру горача і вельмі прыгожа. І зьяжджаць куды-небудзь у жніўні ў Егіпет ці ў Крым няма сэнсу. Хаця багата ў каго адпачынак менавіта ўлетку. І тут ужо аксамітны сезон выбіраць не даводзіцца.

На іншым здымку — тыповая невялічкая хатка з адчыненай верандаю, якая стаіць на беразе возера, а можа, і марскога заліву. А вось наступны здымак зроблены зь іншага берагу. Вада, пакрытая лёдам, і ўдалечыні, на ўзлеску, мы бачым жылыя хаты. Такі змрочны, суровы, паўночны пейзаж. Але я перакананы — у хатах утульна, цёпла, ёсьць інтэрнэт ды іншыя выгоды цывілізацыі.

Апошні здымак з Швецыі хоць і зроблены ўлетку, але ўражвае магутнасьцю і прыгажосьцю гранітнага берагу. Такі вялізны пласт суцэльнага граніту. Усе скандынаўскія краіны і Фінляндыя стаяць на гэтым граніце. І прысядзібныя ўчасткі там такія. У нас глыбей капанеш — жоўты пясочак. А ў іх — рыдлёўка-заступ зьвініць аб граніт. Таму капаньнем траншэяў пад каналізацыю, вадаправод ці якія іншыя патрэбы ў іх часта займаюцца падрыўнікі..

Я некалькі разоў быў у Швецыі і перакананы, што лепей было б нам, беларусам, пераймаць вопыт пабудовы грамадзтва, дзяржавы, эканомікі не ў Кітаі ці яшчэ немаведама дзе, а ў нашай суседкі Швецыі. Сапраўды, суседкі, бо ад Полацка да Стакгольму бліжэй, чым, напрыклад, да Масквы. Швецыя — краіна, пабудаваная вольнымі людзьмі для сябе, каб зручна і ўтульна было жыць усім.

* * *

Паштовак і лістоў зь іншых краінаў было хоць і небагата, але некаторыя зь іх былі вельмі цікавымі. Так, з ЗША мне даслалі ліст, падпісаны шасьцю асобамі. Яны напісалі, што знаходзяцца ў першай царкве горада Ipswich і моляцца, каб я змагаўся за тое, у што веру. Яны мяркуюць, што гэта вельмі важна для нашага сьвету. Яны сабраліся ў дзень памяці вялікага амерыканскага абаронцы правоў нацыянальных і расавых меншасьцяў Марціна Лютара Кінга. Ён таксама лічыў, што гэта важна — адстойваць тое, у што ты верыш, нават калі гэта небясьпечна.

Студэнтка з Ганконгу Амалія Там напісала, што *«расчароўвае і пазбаўляе ілюзій памятаць і бачыць, што несправядлівыя судовыя працэсы яшчэ ня рэдкасьць у сьвеце. Але я спадзяюся, што Беларусь і астатні сьвет у будучыні дазволіць праваабаронцам палепшыць сьвет і будуць супрацоўнічаць зь імі, а не саджаць іх у турму»*.



З Англіі прыйшло запозьненае віншаваньне з Новым Годам і Калядамі. Але адкуль — зь Ліверпуля! «Ад сяброў». Я думаю, ні ў аднога мяне соладка ўздрыгнула сэрца. Ліверпуль — калыска «Бітлоў». Для нас, савецкіх падлеткаў, яны былі накшталт марсіянаў — загадкавыя, вясёлыя і недаступныя. Ды музыка ня мае межаў. Музыка пералятае і па-над жалезнымі сьценамі. Так было і з музыкай «Бітлз».

Як і мастацтва, дарэчы. Вось з дзьвюх краінаў, зь Бельгіі і Германіі прыйшлі паштоўкі з рэпрадукцыямі карцінаў Клода Манэ. Так, ізноў Манэ, пра якога я ўжо пісаў. Але карціны — іншыя. З Германіі даслалі «Ветразьнікі. Рэгата ў Argenteuil». А зь Бельгіі — «Chemin de fer de Ceinture», на якой намаляваны паравоз з клубамі дыму. Але людзі, дамы, ветразьнікі, цягнік — не галоўнае ў гэтых карцінах. Галоўнае — прырода і лірычны, спакойны, нават часам сонны настрой ягоных карцінаў. Можа, таму яны так падабаюцца людзям і, у прыватнасьці, мне.

Рэпрадукцыя на паштоўцы карціны Ж.Міро «Snob party at the Princess's» мне падалася занадта простай. Я гэта заўважаў у вялікіх мастакоў, якія пачыналі маляваць напачатку 20-га стагоддзя, у Пікасо і ў нашага Марка Шагала, як лагічна разьвіваючы абвешчаныя імі рэвалюцыйныя зьмены ў мастацтве, яны адзін за адным скідвалі слаі з формы, логікі, прасторы, сэнсу і ўрэшце прыйшлі да чагосьці такога, чаго непадрыхтаванаму чалавеку, які не адсочваў этапы гэтай трансфармацыі, і не зразумець.

Калі я быў у Барселоне ў галерэі Пікасо, я ішоў ад карціны да карціны і бачыў, як мяняецца творца, у які бок ідуць ягоныя творчыя пошукі. І дзесьці ў пэўны момант я зразумеў — вось мяжа, за якой далей творчасьць Пікасо не чапляе маю душу, не выклікае ніякіх эмоцыяў. Гэта была мая асабістая мяжа эстэтычнага ўспрыйманьня Пікасо, але ні ў якім выпадку не ягоная бяда. Ён жыў і тварыў, разьвіваўся так, як лічыў патрэбным.

Вось так для мяне і з гэтай асобнай, вынятай з кантэксту творчасьці карцінай Ж.Міро.

І апошняя паштоўка, на якую я хачу зьвярнуць увагу, гэта здымак сьціплых лясных кветак з Галандыі. У такіх кветках часта можна заўважыць больш далікатнасьці і прыгажосьці, чым у дагледжаных садовых кветках. Вось і сімвал Беларусі — валошка-васілёк — таксама кветка палявая і някідкая. Але блакітныя зорачкі васілька на фоне сьпелага жыта прыемна цешаць душу.




Апошнія два дні былі вельмі розныя. У панядзелак, 11-га лютага, было ўсяго 7 лістоў. Па адным з Германіі, ЗША і Канады і 4 з Галандыі. А ва ўторак прыйшлі 502 лісты. Зь іх 427 лістоў і паштовак было з Украіны, 53 — з Славеніі, 6 — з Польшчы, 3 — з Англіі, 10 — з Канады, 2 — з ЗША і 1 — зь Італіі.

Ліст зь Італіі падпісалі 42 асобы. З Англіі лісты прыйшлі з Міжнароднага сакратарыяту Міжнароднай Амністыі. Вось такое масла масьлянае. Адзін зь лістоў напісаны па-руску. Максім піша: *«Сотням, тысячам людзей па ўсім сьвеце стане вядома пра несправядлівасьць у адносінах да Вас. Я спадзяюся, што Вы будзеце атрымліваць асалоду, чытаючы лісты ад іх»*. І я задумаўся на гэтым месцы. Ці атрымліваю я асалоду, чытаючы сотні і тысячы лістоў у маю падтрымку? Цяжка назваць гэта асалодай. Хутчэй, у мяне ўзьнікае пачуцьцё ўдзячнасьці і адчуваньне каласальнай людзкой салідарнасьці. Яна, як дзявятая хваля, узносіць мяне над паверхняю штодзённай будзённасьці.

І так, украінскія лісты, маса лістоў, зь якіх я, чытаючы, хутка выбіраю некаторыя. Так, Аляксандра піша: *«Я пішу Вам зь цягніка. Сёньня мы праводзілі Марафон салідарнасьці ў г.Запарожжа. Многія людзі былі абураныя тым, як з Вамі ўчынілі, але ўсе дадавалі: «Дык гэта ж Беларусь»... Я з Украіны, у нас таксама ўсё дастаткова пагана, але, як кажуць у Amnesty: «Лепей запаліць сьвечку, чым клясьці цемру»*.

Ня першы раз да мяне прыходзяць лісты актывістаў разнастайных няўрадавых арганізацыяў. Я заўважыў, калі чалавек нераўнадушны да нейкай грамадзкай ці сацыяльнай праблемы, дык ён часта рэагуе і на іншыя праблемы і пасільна ўдзельнічае ў іншых грамадзкіх ініцыятывах. Вось і гэтым разам Ірына піша: *«Я жыву ў Запарожжы і працую ў ВІЧ-сэрвіснай арганізацыі, ва ўсеўкраінскай сетцы людзей, якія жывуць зь ВІЧ/СНІДам. Па сваім пакліканьні я дапамагаю людзям і атрымліваю ад гэтага задавальненьне»*.

Ганнуся напісала словы падтрымкі проста на плакаце з лагатыпам няўрадавай арганізацыі «Чуйныя сэрцы». Вось, вельмі дакладная і цікавая назва арганізацыі. Калі ў чалавека чуйнае сэрца на несправядлівасьць і біяду — ён будзе ў той ці іншай форме праяўляць сваю актыўнасьць — ці дзеяньнем, ці словам і думкаю. І гэта надзвычай важна. Бо такім чынам і фармуецца грамадзянская супольнасьць.

Па лістах відаць, што ва Ўкраіне людзі пераважна не хаваюць свае думкі і погляды. Так, Тамара, дацэнт Кіева-Магілянскай акадэміі, піша: *«Будучы сацыёлагам і актывісткаю за правы чалавека, перажываю за сітуацыю ў суседняй Беларусі. Вы і Ваш Цэнтр рабілі незамяняльную працу для Беларусі... студэнты і студэнткі Кіева-Магілянскай акадэміі пішуць лісты ў Вашую падтрымку»*.

Аляксандр піша: *«Шчыра жадаю беларускаму народу... вырвацца з кіпцюроў «брацкай» Расіі. Праблемы вашага народу мне зразумелыя, таму што пры цяперашняй украінскай уладзе нас можа чакаць такая самая доля — ўцягваньне ў мытны саюз, новы закон пра мовы... Памятайце словы Т.Шаўчэнкі: «Змагайцеся — пераможаце»*.

Як відаць, праваабарончыя праблемы пераплятаюцца і з праблемамі палітычнымі. І гэта відавочна: стандарты захаваньня правоў чалавека ў Расіі невысокія, ды і яны не выконваюцца. Таму ўсялякія саюзы (нават, здавалася б, чыста эканамічныя) успрымаюцца як небясьпека для маладых і няўстойлівых дэмакратыяў, пагражаюць зьніжэньнем узроўню абароны правоў чалавека, успрымаюцца як небясьпека для ўкраінскай ідэнтычнасьці.

Ірына з Кіева піша: «У Кіеве ў нас таксама ня ўсё гладка, але такая сітуацыя як у вас — гэта жах... У такой сумнай форме Вы ўсё-роўна робіце ўклад у барацьбу за правы чалавека». Цікава было прачытаць гэтую думку. Здаецца, я ж нічога не раблю. Проста сяджу, бязмэтна трачу і гублю час. І ў сувязі з гэтым згадваю паездку ў Сербію, дзесьці праз год пасьля таго, як сышоў, ці больш слушна, як скінулі С.Мілошавіча. Мы былі там учатырох, быў таксама і Дзьмітры Бандарэнка. Мы сустракаліся з маім знаёмым сербам, грамадзянскім актывістам, які браў удзел у кампаніі па актывізацыі моладзі. Дык вось, Міленка тады сказаў: *«Часам жыцьцёвая сітуацыя складаецца так, што самае лепшае і большае, што ты можаш зрабіць — дык гэта нічога не рабіць»*. Зараз, седзячы на зоне, я часам згадваю гэтыя ягоныя словы.

Некалькі лістоў падтрымкі пачыналіся так: *«Пішу Вам зь невялікай краіны Ўкраіны...»* Вось жа, якая сьціпласьць, калі Ўкраіна — невялікая краіна, дык якая ж тады Беларусь? А нашыя паўночна-заходнія суседзі Літва і Латвія? Зусім маленькія? Насамрэч — Украіна на мапе Еўропы выглядае як зусім немалая краіна. А Беларусь — як сярэдняя.

Георгі піша: *«Ведаючы, якая зараз існуе сітуацыя ў Беларусі з правамі і свабодамі, мне нават ня дзіўна, што так з Вамі сталася… У Вас цудоўная краіна і вельмі добрыя людзі, і хацелася, каб у вас у краіне было свабодна ўсім, хто ў гэтым мае патрэбу… Украіна з вамі, сябры!»*

Вучаніца 9-га класу з гораду Залатаноша Вераніка піша: *«Шаноўны Алесь, я падтрымліваю цябе ў дадзенай барацьбе. Мне цябе дужа шкада, бо ж цябе засудзілі несправядліва! Кожны раз, як я чую, за што цябе засудзілі, у мяне на вачох зьяўляюцца маленькія празрыстыя сьлязінкі»*.

Студэнт Станіслаў з Закарпацьця заклікае: *«Не здавайцеся! Слава вольнай і дэмакратычнай Беларусі!»*

Дар'я Валер'еўна таксама зьвяртаецца да мяне: *«Трымай нос вышэй і ня падай духам!»*

Таццяна паведамляе: *«Я выпадкова даведалася пра Ваш выпадак. Ён мяне проста шакаваў. Няўжо ў нашым сучасным сьвеце засталіся такія жахлівыя рэчы!»*

Наступныя лісты «зачапілі» мяне прозьвішчамі і імёнамі падпісантаў. Так, ліст падтрымкі напісаў Андрэй Кавальчук. Дзявоцкае прозьвішча маёй маці — Кавальчук. На Палесьсі іх багата, Кавальчукоў. І гэта яшчэ раз падкрэсьлівае блізкасьць моваў — украінскай і беларускай, і блізкасьць гістарычных лёсаў нашых народаў. А вось чарговыя лісты былі напісаныя па-ўкраінску, як, зрэшты, і большасьць усіх лістоў, якія я атрымаў, і падпісаныя Лейлай Галусьцян, а іншы — Заўрам Мустафаевым. Па прозьвішчах відаць, што ў Лейлы армянскае паходжаньне, а Заўр — з Крыму, з крымскіх татараў. Вось так і геаграфічна, і культурна, і моўна Ўкраіна стала родным домам для розных народаў.

І апошні ліст, які я хачу працытаваць, ад Сабо Мадамінавай, якая напісала па-ўкраінску: *«Не зкісай!»* Мабыць, усім нам беларусам патрэбна не закісаць, а верыць у нашую лепшую будучыню і хоць што-небудзь рабіць дзеля яе.



14 лютага 2013

Бабруйск

Як я пісаў мінулы раз, 53 лісты 12-га лютага прыйшлі з Славеніі, маленькай дзяржавы паўднёвых славянаў, якая мяжуе зь Італіяй. Аж туды былі некалі дабраліся славяне падчас свайго расьсяленьня. Яны пацясьнілі народы, якія ўваходзілі ў Рымскую імперыю і на працягу паўтары тысячы гадоў здолелі захаваць сваю культуру і асобную славянскую мову. А падчас развалу Югаславіі, гэтага камуністычнага Цітаўскага пасьляваеннага монстра, яны першыя абвясьцілі незалежнасьць і здолелі адстаяць яе. Зараз Славенія — сябра Еўразьвязу, славенцы падтрымалі еўра і ўвайшлі ў еўразону. Гэта выдатны прыклад, як адносна невялікі двухмільённы славянскі народ удала ўпісаўся ў еўрапейскую супольнасьць народаў і ня скардзіцца, што *«нас там не ждут»*, а сваёй упартай штодзённай працаю даказаў свае права *«мець пачэсны пасад між народамі»*.

Дык вось, Эмнесьці Славеніі даслала ліст, дзе паведамляе, што «народ Славеніі напісаў і адправіў 873 лісты прэзідэнту Беларусі, патрабуючы вашага вызваленьня».

Таксама са Славеніі былі іншыя лісты і паштоўкі. Цікавая паштоўка са зборам хмелю, высокія і доўгія плецы якога абразаюць і звозяць на трактары. Мая маці распавядала, што ў 50-я гады 20-га стагоддзя на поўдні Беларусі ў Нараўлянскім раёне вырошчвалі хмель. І дзеці зьбіралі хмелевыя шышачкі на працадні.

AMNESTY INTERNATIONAL

AMNESTY INTERNATIONAL SLOVENIJE
Beethovnova 7, 1000 Ljubljana
T: +386 1 426 93 77
F: +386 1 426 93 65
E: amnesty@amnesty.si
W: www.amnesty.si

Ljubljana, January 2013

Dear Mr. Bialiatski,

please find enclosed letters from Slovenian youth.

People of Slovenia also wrote and sent 873 letters to the President of Belarus calling for your release.

I wish you all the best,

Jerneja Turin

Amnesty International Sloveni









Некалькі гадоў таму я разам зь сябрамі і пісьменьнікамі Барысам Сачанкам, Едрусем Акулінbackend і Сяргеем Дубаўцом езьдзілі ў адселеную чарнобыльскую зону ў Хойніцкі раён. Там, у зоне, недалёка ад вёскі Бабчын мы ўбачылі дзіўную канструкцыю: лес высокіх, метраў па восем, жэрдак, пераплеценых зьверху дротам. Яна нагадвала вялізную наземную антэну. Калі мы спыталіся на прапускным пункце — а што гэта такое? Нам адказалі, што гэта — тычкі пад хмель... Яго паспрабавалі тут вырошчваць ужо пасьля аварыі. Але памерналі радыяцыю ў сабраным хмелі — піва зь яго, мабыць, трашчала б і сьвяцілася. На гэтым усё і спынілася. Зараз я і ня ведаю, ці вырошчваюць дзе ў нас у Беларусі хмель.

Наступныя паштоўкі — гэта малюнкі славенскіх дзяцей і самаробныя папяровыя медалькі.

Яшчэ дзьве самаробныя паштоўкі з пошты гэтага дня — з Канады. Яны яркія і квяцістыя. Як відаць — дзеці ва ўсім сьвеце любяць маляваць сонца, зоркі і кветкі.



15 лютага 2013

Бабруйск

13-га і 14-га лютага гэтаксама былі лісты і паштоўкі. 13-га лютага — 79, а 14-га — 28 асобнікаў. Пераважная большасьць іх была з Канады, з Квэбэку.



13-га прыйшлі паштоўкі з горада зь дзіўнай назваю Rimouski. Назва горада нагадвае якое беларускае, ці польскае, ці ўкраінскае прозьвішча, а зусім не французскае ці ангельскае слова. На жаль, у інтэрнэт доступу я ня маю і не магу паглядзець карані яго паходжаньня. Дык вось, адтуль прыйшло багата самаробных паштовак, якія, як відаць, малявалі маленькія дзеці. А вось запаўнялі і падпісвалі іх ужо дарослыя. Паштоўкі арыгінальныя і цікавыя, з разнастайнымі сюжэтамі і розныя па тэхніцы выкананьня. Фантазія дзяцей неабдымная і непрадказальная. Цяжка ўгадаць, што адбываецца ў дзіцячай галаве, калі размова ідзе пра творчы працэс. Але, у выніку, дзіцячыя малюнкі падкупаюць арыгінальнасьцю, выразнымі сродкамі выяўленьня, сьвежасьцю думкі. Гэта як старажытныя наскальныя малюнкі і піктаграмы, якія часта маюць невытлумачальны глыбокі сэнс і неперадавальную прыгажосьць. Дзіцячая творчасьць — асобны від творчасьці, які дае ня меншае эстэтычнае задавальненьне за дарослае мастацтва.



14-га лютага даслалі мне тэкст па-французску, які актывісты-праваабаронцы накіроўвалі ў адміністрацыю прэзідэнта. Ён стандартны, і бачыў яго я і па-ангельску, і па-італьянску, па-польску і па-нямецку. І вось, урэшце, убачыў французскі варыянт. Паштоўкі і малюнкі былі ня меньш цікавыя. Дасылалі іх у асноўным дзеці са школаў гарадоў Romoine-Gethseman, Waterloo, Hagog.

Цікавы плакацік з надпісам на розных мовах, які даслала Аляксандра: *«Мы падтрымліваем Вас нават на іншым канцы сьвету»*. Цікавыя і іншыя малюнкі і аддрукаваныя карткі. І ня меньш цікавая паштоўка, абклееная паперай са знаёмай нам па беларускіх узорах васьміканцовай зоркаю. Колькі ёй тысячаў гадоў? Беларусы перанялі яе ад сваіх прародзічаў і пранесьлі на кашулях, рукапісах, абрусах і посьцілках. Можа, гэтая зорка магла б быць нашым нацыянальным сімвалам? Толькі дзе ж ты, беларуская пуцяводная зорка? Зацягнула цябе смугою і хмарамі, не відаць. А праваднікі, якія вядуць народ, паказваюць у розныя бакі. Ці выбрыдзеш ты, Беларусь, на біты шлях? Ці хопіць у цябе розуму і здаровага сэнсу? Я мяркую, павінна хапіць.



25 лютага 2013

Бабруйск

Увесь мінулы тыдзень (18-22 лютага) «лістоў падтрымкі» было небагата. За дзень прыходзіла каля 10 лістоў і паштовак. Але ў пятніцу прыйшлі два вялікія пакункі зь Італіі і Канады, і я зноў працягваю пісаць.

Так, з Канады, з Манрэалю, прыйшло больш за сто паштовак, выкананых дзецьмі. Што мяне ўразіла гэтым разам — шматмоўе. Паштоўкі былі падпісаныя на некалькіх мовах. Апроч пануючай ў Квэбэку французскай мовы, былі таксама — ангельская, польская, здаецца, ці не румынская і руская ад нашага юнага земляка зь Менску. На адной з паштовак былі напісаныя і беларускія словы, відаць, узятыя з інтэрнэтаўскага Перакладчыка. Трэба сказаць, што ўвесь гэты дзіцячы і дарослы інтэрнацыянал няблага ўжываецца ў Канадзе.

Некалі і Беларусь была шматмоўнай краінаю. Яшчэ сто год таму тут жылі і гучалі: беларуская, польская, ідыш, нямецкая, латышская, літоўская, ураінская мовы. За гэтыя ж сто гадоў адбылася саветызацыя насельніцтва і, увыніку — культурнае і моўнае зьбядненьне. Раней ня дзіва было, калі людзі ведалі па 2-3 мовы, і вучыць іх пачыналі часта ў двары. А зараз пануючая расійская з пратэкцыяй і дапамогаю, прыдушыла ўсе іншыя.

Вядома, за гэтае стагоддзе зьмяніўся нацыянальны склад насельніцтва, але ж беларусы, якіх у працэнтных адносінах стала болей, ад такой трансфармацыі ня выйгралі. Ранейшая каланіяльная залежнасьць засталася праз залежнасьць у мове, у шмат якіх стэрыятыпах і праявах культуры. А ў выніку — пагроза для існаваньня беларусаў як народу, адсутнасьць гістарычнай памяці. Адмова ад роднай мовы — шлях у магілу.

Наступныя паштоўкі былі цікавыя мне з мастацкага боку. Некаторыя праз сваю наіўнасьць і непасрэднасьць, некаторыя мастацкай выразнасьцю, некаторыя добрасумленнасьцю ў выкананьні.

А вось пакунак паштовак зь Італіі прымусіў мяне разгубіцца. Бо сабраныя з розных італьянскіх гарадоў, прыйшло — 342 паштоўкі і лісты. Пераважная частка зь іх — прыгожыя і маляўнічыя. Зьменьшыць іхнюю колькасьць да нейкай мінімальна прыймальнай у мяне не атрымліваецца. Можа, гэта ўдасца некаму іншаму. Я ж адабраў 42 малюнкі-паштоўкі (амаль 1 зь 10-ці). Тэматычна яны падтрымліваюць ці адлюстроўваюць парушэньне і змаганьне за асноўныя правы чалавека, такія як права на асацыяцыі, сходы, свабоду слова, свабоду думкі і г.д. Частка



Dear Ales,

Here you are 342 messages and cards from Italian children that want show their solidarity to you.

Я жадаю табе дабра
Tina Marinari
Amnesty Inter
Via G.b. De R
00161 Roma
Italy

выказвае падтрымку вязьням, ці ўсім правам чалавека. Малюнкі разнастайныя і таленавітыя. Я не перастаю зьдзіўляцца дзіцячай і юначай фантазіі і іхняму творчаму падыходу да, здавалася б, ужо ня раз адбітай у малюнках тэме. Гэтыя малюнкі маглі б скласьці і асобную выставу.




На працягу апошняга тыдня (да пятніцы) да 01.03, паштовак было, здаецца, і небагата. Але за люты, нягледзячы на мае, здавалася б, і частыя лісты, у мяне сабралася некалькі разнастайных паштовак і лістоў, якімі мне хацелася б падзяліцца. І самая «старая» зь іх паштоўка, якая ляжыць аж з студзеня, гэта паштоўка з Швецыі з рэпрадукцыяй карціны Марка Шагала (1). Карціна называецца «Скрыпач». Яна даволі вялікая па памерах: 188x158 см (амаль два метры на паўтары), намаляваная ў 1912-1913 годзе, знаходзіцца ў музеі ў Амстэрдаме.

За гэтыя паўтары месяцы, пакуль паштоўка ляжала ў мяне, я паглядаў на яе шмат разоў. Не хачу сказаць, што я ў захапленьні ад яе. Ёсьць у Марка Шагала карціны, намаляваныя ў тойсамы перыяд, больш лірычныя, рамантычныя і нейкія больш вясёлыя за гэтага скрыпача. Але сказаць я хачу пра іншае. Вось спаўняецца сёлета сто гадоў, як была намаляваная гэтая карціна. Намаляваная хутчэй за ўсё па памяці, па ўспамінах пра родны для мастака Віцебск. І мінула гэта стагоддзе, і ад тога Віцебску, які маляваў Марк Шагал, не засталося нічога. Нічога!

І я думаю, што яшчэ праз наступныя сто гадоў ад зоны, дзе я знаходжуся, ад усіх гэтых будынкаў, казармаў, клуба, лазьні, штабу, гатэлю для спатканьняў і ад цахоў прамысловай зоны таксама не застанецца нічога. Можа быць, у Беларусі і турмаў ужо ня будзе.

У Менску праспект Незалежнасьці хіба застанецца. Толькі вось, як ён будзе называцца? Праспект у Менску пабудаваны пасьля вайны ў імперскім савецкім каланіяльным стылі, і пачынаецца ён ад помніка Леніну,



затым ідзе перабіўка бюстам Ф.Дзяржынскага, затым быў помнік Сталіну, наступны — помнік Якубу Коласу, гэта як даніна прывязкі праспекта да канкрэтнага гораду, нацыянальнай рэспублікі. Пасьля помніка Коласу — помнік Калініну на плошчы Калініна, як завяршэньне таго пасьляваеннага праспекту імя Іосіфа Сталіна.

Вядома, жыць можна і з такім каланіяльным мінулым. Вось, у Хельсінкі ў цэнтры нават вялікі помнік расійскаму цару Аляксандру ІІ пакінулі, і нічога. Жывуць жа неяк у свабоднай фінскай краіне. Але я, мабыць, так ніколі і ня звыкнуся з цэнтральным менскім праспектам.

Што ж тычыцца Фінляндыі, дык мне за люты з Хельсінкі прыйшло дзьве паштоўкі, і дзьве яны з рэпрадукцыямі. Першая — някідкая акварэль зь ветразьнікам фінскага мастака Sari Haapa. Але прыйшла яна ад Саюза Моладзі Нацыянальнай Кааліцыйнай партыі і міжнароднага саюзу маладых дэмакратаў. А вось другая паштоўка, падпісаная па-беларуску, прыйшла ад Карыны, якая падпісалася вось гэтак: «Беларусь, але зараз Фінляндыя». І на ёй рэпрадукцыя мастака Hugo Simberg, намаляваная ў 1903 годзе. На ёй — змрочны паўночны пейзаж і двое хлапчукоў, якія павольна нясуць на ношках стомленага анёла з завязанымі вачыма. Карціна файная, з адметным настроем і пэўнай сімволікай, невядомай мне.

З Польшчы з Ольштыну Натальля прыслала прыгожую адметную паштоўку зь ялінкаю, выкананую шляхам наклееных бліскучых металічных нітак. А з Канады, з коледжу Сьвятога Паўла з гораду Varennes, які знаходзіцца ў Квэбэку, прыйшло амаль сто аддрукаваных, мабыць, у тым самым коледжы аднолькавых паштовак, падпісаных па-француску.



«Тыповая» паштоўка прыйшла з Галандыі. Ужо штосьці падобнае мне дасылалі раней. Але гэты тульпанавы пейзаж зь ветраком і сядзібаю — хіба больш класічны. Такая незьлічоная колькасьць тульпанаў проста валіць з ног.

І яшчэ адная паштоўка прыйшла зь Нямеччыны зь Віесбадэну, зь вельмі файным краявідам: аглядная пляцоўкаю з старой альтанкаю і перападам узроўня зямлі. Відаць, што з гэтага месца адчыняецца краявід за неабсяжнай раўнінай, якая ляжыць унізе. Ёсьць падобнае месца, праўда, не з такім высокім перападам, і не такое дагледжанае, і ў Беларусі. Хто ня быў у Юравічах, у Калінкавіцкім раёне, дык пабывайце. Месца знакамітае. Тут расшукалі паляўнічую стаянку старажытнага чалавека, які паляваў на мамантаў і насарогаў яшчэ 25 тысячаў гадоў таму. Зь зямлі былі выкапалі неверагодную колькасьць костак гэтых жывёлаў, а зараз думаюць зрабіць там музей. І Юравіцкі кляштар — знакамітая сьвятыня на ўсю гомельшчыну. Зараз адшукаўся і сьвяты абраз Юравіцкай Божай Маці, аж у Кракаве. І ў Юравічах таксама перапад зямлі — шырачэзная, канца краю не відаць, пойма Прыпяці ляжыць унізе. Можа, калі б там навялі парадак, было б ня горай, чым у Віесбадэне.




Сёньня — 19 месяцаў як я ў зьняволеньні. А таксама сёньня — дзень міліцыі. На вуліцы пахаладала. Апошнія зімовыя дні. Віншую жанчын з 8 сакавіка, з жаночым днём! Жадаю быць вясёлымі і шчасьлівымі! Працягваю свае зацемкі, бо прыходзяць цікавыя лісты і паштоўкі, на якія хочацца неяк адгукнуцца.

Пятніца ў раскладзе нашага атраду — дзень асаблівы. У гэты дзень прыходзіць цырульнік і стрыжэ ўсіх, каму гэта неабходна. У гэты дзень прыносяць заказныя лісты. А бліжэй да абеду — лазьня. Пятніца ў нас таксама пасьціравчы дзень.



Дык вось, заказнымі лістамі часта прыходзіць і пошта з-за мяжы. Вось і ў гэтую пятніцу, 1-га сакавіка, прыйшлі два вялікія пакункі з паштоўкамі зь Ісландыі. Паштоўкі якасна надрукаваныя на шчыльнай паперы. Адразу відаць грунтоўны скандынаўскі падыход. Увогуле, цікавая гэта краіна — Ісландыя — лядовая зямля. Зачапіліся ж некалі за гэтую выспу адважныя скандынаўскія мараходы, здолелі самаарганізавацца і выжыць. І зараз, дзякуючы нястомнай працы, жывуць вельмі няблага. Маленькая краіна, 300 тыс. усяго насельніцтва, але краіна, у якой варта павучыцца павазе да правоў чалавека, якія кожны ісландзец разумее як свае ўласныя правы. Я гэта адчуў, калі адна з 82 паштовак была падпісаная Гудбергерам — фермерам. Ісландзкі фермер, шведзкі кіроўца аўтобуса, амерыканская медсястра, ганконгскі студэнт, канадзкі школьнік — ім важныя правы чалавека, і дзеля гэтага яны пішуць мне лісты падтрымкі.

Яшчэ адзін эмацыйны ліст напісала Андрэа.

На паштоўках, дасланых мне зь Ісландыі, ёсьць рэпрадукцыі карцін ісландзкіх мастакоў. Я бачу ў іх пэўны нацыянальны каларыт. Гэта сьветлая «зімовая» акварэлька. І карціна зь дзіўным сюжэтам «Халодны лёд». Калі мы ў дзяцінстве каталіся на крыгах, то, выглядае, што ісландзкія дзеці любяць катацца на айсбергах.

І наступная карціна з прыцягальна-змрочным ісландзкім краявідам.

Апошняя ісландзкая паштоўка — самаробная, і на ёй таксама намаляваны зімовы ісландзкі краявід зь Дзедам Марозам (сьвятым Мікалаем ці Зюзяй) у вазку, запрэжаным аленем.

Апроч паштовак зь Ісландыі прыйшоў цікавы ліст з Канады, з Ванкуверу. Цікавы ён тым, што напісаў яго азербайджанскі хлопчык Гадасын. Напісаў ён яго кірылічнымі літарамі, але па-ангельску! Такі ліст я атрымаў упершыню.

*І яшчэ адзін ліст прыйшоў ад студэнта Ridley коледжу ў Антарыё, з Канады, Луіса Лопеза, які напрыканцы свайго ліста падтрымкі напісаў: «Мудрыя словы Абрама Лінкольна: «Датуль, пакуль хоць адзін чалавек несвабодны, мы ўсе — рабы».*




7 сакавіка, у чацьвер, была багатая пошта. Выдавалі заказныя лісты. Звычайна гэта адбываецца ў пятніцу, але ў зьвязку з выходным сьвяточным днём, 8-га сакавіка, гэтым разам заказныя лісты зьняволеныя атрымлівалі ў чацьвер. Такім чынам, я забраў некалькі пакункаў зь лістамі і паштоўкамі. Зь іх было 822 асобнікі з Канады і 1 — з Чэхіі. 8-га сакавіка я правёў у прагляданьні і чытаньні, там дзе змог разабрацца, лістоў і паштовак.

Пачну ізноў жа з мультыкультурнасьці Канады, якая выразілася ў выпадку са мною ў тым, што паштоўкі былі падпісаныя на самых розных мовах сьвету. І калі беларускія подпісы, відавочна, былі выкананыя з дапамогай праграмы інтэрнэтаўскага перакладу, то астатнія дзеці пісалі на сваіх родных мовах. Ёсьць там: ангельская, іспанская, нямецкая, француская, італьянская, руская, і яшчэ адная, якой я ня мог даць рады (9). Паштоўка ж з выгукам: *«Банзай!»*, хоць і выкананая лацінкаю, нагадвае ўсё ж пра Японію.

Яшчэ, што я заўважаю, праглядаючы разнастайныя паштоўкі, дык гэта тое, што багата якія зь іх рэкламуюць, прадстаўляюць, распавядаюць пра разнастайныя няўрадавыя арганізацыі і фонды. Гэтым разам я сеў і сьпецыяльна выпісаў назвы гэтых арганізацыяў, разьмешчаных у Канадзе. Атрымалася — 18. Гэта: Таварыства дасьледваньня раку, «Абаронцы годнасьці», Нацыянальнае адукацыйнае таварыства, Канадзкая федэрацыя дзікіх жывёлаў, CARE Канада (абарона здароўя, вады, разьвіцьця, дробнага прадпрымальніцтва, асыроддзя), Маці супраць п'янства за рулём, OXFAM (праца з супольнасьцямі ў сьвеце, прапаганда сацыяльнай і эканамічнай справядлівасьці), Канадзкая федэрацыя фаўны, Канадзкая фундацыя раку грудзі, Канадзкае таварыства склерозу, Covenant Дом (ежа і прытулак для бяздомнай моладзі), SUCO (дапамога вясковым земляробчым супольнасьцям у Афрыцы, Лацінскай Амерыцы), UNICEF (Дзіцячая фундацыя ААН), «Альтэрнатыва дзеля разнастайнага сьвету», Міжнародная федэрацыя ўтрыманьня жывёлаў, «Прылады для міру» (медыцынская дапамога для Нікарагуа), Канадзкае аб'яднаньне франкамоўных пісьменьнікаў. Ну і 19-я, натуральна, Квэбэкскае аддзяленьне Amnesty International, праваабарончай арганізацыі, якая і арганізавала гэтую грандыёзную акцыю падтрымкі.



Як бачым, выбарка няўрадавых арганізацыяў атрымалася адвольнай. Але ў той жа час яна дае ўяўленьне пра тыя праблемы, якія турбуюць канадзкае грамадзтва: ахова здароўя, асяроддзя, жывёлаў, правы чалавека, міжнародная праца па дапамозе і разьвіцьці іншых супольнасьцяў. Відавочна, што канадцы клапоцяцца пра рацыянальнае ўладкаваньне свайго грамадзтва, пра экалогію і здароўе, а таксама іх турбуюць праблемы ў іншых краінах сьвету: беднасьць, правы чалавека, эканамічнае разьвіцьцё. Яны хвалююць іх і натхняюць на аб'яднаньне і дзеяньне. Гэтаксама відаць, якую важную ролю ва ўладкаваньні канадзкага грамадзтва маюць няўрадавыя арганізацыі.

Таксама я адабраў некалькі паштовак, сярод якіх ёсьць і даволі складаныя малюнкі. І паштоўкі, надрукаваныя сьпецыяльна, а затым масава падпісаныя. І цікавыя каляровыя калажы на тэму свабоды, міру і правоў чала-



века, дзе сярод розных лёзунгаў ёсьць і такі: *«Я размаўляю на сваёй роднай мове»*, а таксама цікавыя каляровыя малюнкі, выкананыя і фарбамі, і фламайстарамі, і сьціплыя, але кранальныя малюнкі алоўкам. А таксама паштоўкі з рэпрадукцыяў карціны Ван Гога, і выяваю канадзкай зімовай птушкі, якая чамусьці падпісана: Ales Bialiatski. Можа, я і сапраўды падобны на чырвоную птушку, якая апынулася сярод сьнегу ў суровым зімовым краявідзе? Але ж яны там добра пачуваюцца, гэтыя птушкі, прызвычаіліся, і іншага клімату, іншых умоваў ім ня трэба. Зімовы лес — гэта іхняя радзіма. Вось, акурат, як Беларусь для мяне.

З шматлікіх паштовак з квэбэкскімі краявідамі я выбраў некалькі з выявамі сталіцы Квэбэку — Манрэаля.

Ліст з Чэхіі хоць і быў адзін, але быў цікавым. Напісала яго з Прагі група *«маладых людзей, большасьць зь якіх студэнты з унівэрсітэту, якія сустракаюцца кожны тыдзень для вывучэньня Бібліі»*, і яны супольна моляцца за маё вызваленьне.



16 красавіка 2013

Бабруйск

Дасылаю паштоўкі з польскага гарадку Тчэў ад дзяцей. Паштоўкі прыгожыя і сьмешныя. Урэшце, прыйшла вясна!



23 сакавіка 2013

Паштоўкі з-за мяжы амаль перасталі ісьці. Тым ня меньш, штосьці цікавае яшчэ часам прыходзіць. І я не магу не падзяліцца імі. Каментары гэтым разам будуць мінімальныя.



З Галандыі прыйшоў пакунак, а ў ім 334 электронныя паштоўкі, па ўсім відаць, раздрукаваныя ў адным месцы.

І яшчэ дасылаю паштоўку зь Нямеччыны, з гораду Эшвеге. На ёй — неверагодная колькасьць подпісаў.

Прыйшла паштоўка зь Бермудаў. Гэта дзесьці вельмі далёка ў Ціхім акіяне.

А з ЗША прыйшоў ліст, напісаны на дзіўнай рыхлаватай паперы з вадзянымі знакамі і іерогліфамі. Я так мяркую, што гэта знакамітая кітайская папера, вырабленая з рысу. А малюнкі дзяцей з Канады прыкладаю проста так. Яны ўсе з коледжу Regina Assumpta з Манрэалю.

У мяне неяк усё паціху. Прыйшло крыху паштовак з Паставаў і Бялынічаў у выніку гэтага марафону. І ўсё. І тое-сёе ад заангажаваных і знаёмых людзей. Астатнія пісаць асьцерагаюцца. У сакавіку наступіла сапраўдная зіма. Але псіхалагічна я ўжо ў вясьне. Віншую ўсіх з 25-м сакавіка, зьвеставаньнем нашай незалежнасьці. Ідэалы, абвешчаныя тады, яшчэ не дасягнутыя, і сама незалежнасьць — пад пагрозаю. Што тычыцца волі — то яна ў нас у кожнага ўнутры. І ўсе мы - нявольнікі сваіх хібаў і слабасьцяў. Так што, імкнуцца да волі — пазбаўляцца ад іх.



30 сакавіка 2013

28 сакавіка мне прыйшоў пакет з Галандыі, а ў ім 383 электронныя пасланьні і 1 паштоўка з Грэцыі. Яна адзіная, але тым больш каштоўная, ведаючы, што зараз і самі грэкі перажываюць ня лепшыя часы. А 29 сакавіка прыйшло два пакункі з Канады. Адзін з Манрэалю, з краявідамі горада, а другі са школы імя Вялікай Ракі з гораду Гаціно, з Квэбэку. І вось з гэтай школы прыйшлі самаробныя мілыя паштоўкі ад дзяцей, агулам 242 асобнікі. Каментаваць я іх ня буду, бо штосьці новае прыдумаць апроч удзячнасьці цяжка.




Дзеці з Манрэалю даслалі мне стос Вялікодных яек. Я дасылаю частку зь іх, хоць да праваслаўнага Вялікадня яшчэ і далёка. У мяне пакуль што ўсё па-старому. Чытаю патроху розныя разумныя кніжкі і пустыя газеты. Пазаўчора прыляцелі ластаўкі.






Aleś - Dorogoy,
wsiewo najludzewo

# IV. ЛІСТЫ АДЗІНСТВА

BELARUS

213807 Магілёўская вобл., г.Бабруйск, вул.Сікорскага,1

папраўчая калонія №2, атрад №14

**Бяляцкаму Алесю Віктаравічу**




*Партрэт Алеся Бяляцкага. Мастак Ай Вэйвэй*

Міхась Скобла

## Ліст да Алеся Бяляцкага

Дарагі Алесь!

Ужо трэці дзень ты глядзіш на сваіх блізкіх і сяброў з-за кратаў — з падканвойнай клеткі. Клетку нібы адмыслова для цябе пафарбавалі — яна таксама белая. Што ж, белы колер спрадаўна азначаў чысьціню, незаплямленую годнасьць. Нездарма і на сьцягу нашым пераважае бель, і краіна наша застаецца ці не адзінай у сьвеце, у чыёй назьве на першым месцы — белы колер.

З табой, белагаловым вязьнем у белай клетцы, выразна кантрастуе чалавек у чорнай мантыі. Ня ведаю, пра што ён думае, слухаючы — то па-беларуску, то па-расейску — пракурорска-адвакацкія пытаньні і паказаньні падсуднага ды сьведак. Невядома, якія зробіць высновы з усяго выслуханага і прынятага да ведама. Хочацца спадзявацца, што ў судовай залі ён насамрэч хоча дашукацца праўды і не глядзіць па вечарах БТ, якое ў любым падсудным апазіцыянеры апрыёры бачыць злачынцу.

Добра, што і ты, Алесь, не глядзіш тое БТ. А вось мой сусед глядзіць. Не, ён таксама не аматар крывога тэлелюстэрка. Проста ён па прафесіі лекар-псіхіятар і любіць паўтараць сваю каронную фразу: каб паставіць дыягназ уладзе, трэба ў падрабязнасьцях ведаць гісторыю яе хваробы.

Дык вось, паслухаў мой сусед некалькі бэтэшных рэпартажаў з суду над табой, спыніў мяне ў пад’езьдзе і кажа: «Гэтага Бяляцкага не судзіць трэба, а ўзнагароджваць ордэнам Скарыны! За папаўненне дзяржаўнага бюджэту. Гэта ж колькі грошай чалавек змог выбіць для роднай краіны ў розных міжнародных арганізацыях! А куды яны ішлі? Пераважна на выплату мільённых штрафаў за ўдзел у розных несанкцыяваных акцыях. Значыць — у бюджэт. А зь бюджэту — на заробкі настаўнікам, на ўтрыманьне дзіцячых садкоў… Дык за што — судзіць?» — закончыў свой эмацыйны маналог сусед. Вось такі атрымліваецца vox populi.

Дарагі Алесь, я ведаю асабіста дзясяткі людзей, якім дапамагла твая «Вясна». А ёсьць жа яшчэ сотні і тысячы, якіх я ня ведаю. Летась марозным сьнежаньскім ранкам я бачыў тваіх паплечнікаў ля будынку КДБ — яны прывозілі пакоўныя торбы для перадачы затрыманым за Плошчу. Тады зьдзек чыніўся ня толькі ў сьледчым ізалятары КДБ, але і на абледзянелым ганку, калі за паўдня дзяжурны «не пасьпяваў» прыняць 12–15 перадачаў. Перадачаў тых чакалі арыштанты. Але мусіла чакаць і дзяржава, паколькі перадачы тыя дазвалялі экано-




*Улётка ў падтрымку палітвязьняў падчас чэмпіянату сьвету па хакеі ў Беларусі ў 2014 г.*

міць сродкі з таго ж дзярбюджэту — атрымаўшы падмацунак з волі, вязень мог і не прэтэндаваць на турэмную пайку.

Дык за што дзяржава пасадзіла цябе ў жалезную клетку? Яна ж таксама мела з тваёй дзейнасьці пэўную карысьць.

Дарагі Алесь, мы знаёмыя ўжо дваццаць сем гадоў — з часоў Каралішчавіцкага семінару маладых літаратараў у 1984 годзе. І за ўвесь гэты час я ні разу не ўсумніўся ў тваёй сумленнасьці, у тваёй шчырай беларускай душы. У любой беларускай справе (а не беларускімі не займаўся) ты быў адначасова стырном і рухавіком, зацікаўліваючы і перацягваючы на свой бок усіх тых, хто аказваўся побач.

Так адбывалася і тады, калі разам з аднадумцамі ты распальваў першы беларускі нефармальны агмень — слынную «Майстроўню», якая сваім самвыдатаўскім часопісам «Бурачок» паставіла на вушы ўсю прыдрамалую ад недахопу працы «кантору глыбокага бурэньня».

І тады, калі супольна з аднаверцамі засноўваў беларускі хрысьціянскі друк — часопісы «Хрысьціянская думка» і «Вера».

І тады, калі ствараў Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя», а потым заслужана старшыняваў у ім. Да гэтай энэргічнай суполкі належалі каля паўсотні маладых творцаў з усёй Беларусі, у тым ліку і аўтар гэтых радкоў. Аб'ектыўная гісторыя «Тутэйшых» яшчэ будзе адноўленая і ўпішацца ў гісторыю агульнанацыянальную — я ў гэтым перакананы.

Ты, Алесь, быў стырном і рухавіком і тады, калі ўзначаліў Літаратурны музей Максіма Багдановіча, які за тваім дырэктарствам ператварыўся ў адзін са сталічных культурных цэнтраў.

І тады, калі ўвайшоў у аргкамітэт Беларускага Народнага Фронту, які ўскалыхнуў усю Беларусь і пазначыў перад ёю шлях да незалежнасьці.



І тады, калі стаў дэпутатам Менскага гарсавету, які ня толькі першым сярод дзяржустановаў узьняў над сваім фасадам бел-чырвона-белы сьцяг, але і зацьвердзіў беларускамоўныя правілы для метрапалітэну, якія і сёньня можна пабачыць у кожным вагоне.

* * *

Твой безадмоўны рухавік і надзейнае стырно прыдаліся і для новастворанага праваабарончага цэнтру «Вясна», які, нягледзячы на няспынны перасьлед улады, існуе ўжо больш за пятнаццаць гадоў…

Калі прызнацца, Алесь, дык мяне заўсёды зьдзіўляла — як цябе на ўсё хапае: на грамадзкія справы, на літаратурную творчасьць, на сям'ю. Пішучы гэтыя радкі, я кідаю вокам на паліцу, дзе стаяць твае і падрыхтаваныя табой кнігі — «Літаратура і нацыя», «Прабежкі па беразе Жэнеўскага возера», «У капцюрох ГПУ» Францішка Аляхновіча, «З роднага загону» Андрэя Зязюлі, «Сны на чужыне» Янкі Юхнаўца, «Алаіза» Анатоля Сыса…

Ты ўсё, за што ні браўся, рабіў грунтоўна, ня пахапкам. Здавалася б, факсімільнае перавыданьне таго ж Зязюлі не патрабавала аніякіх дадатковых вымогаў — бяры і друкуй. Каб малітоўна-змагарнае слова паэта-ксяндза дайшло да чытача. Як там сказана ў яго хрэстаматыйным вершы «Ніколі»? «Над гонар і славу, над чары каханьня / — народную справу і перакананьне, / што розум дыктуе, заўсёды я волю — / ня здраджу ніколі». Але ў табе, Алесь, заўсёды жыла дасьледчыцкая жылка. І ты паехаў у гарадок Сянно, знайшоў старыя могілкі і там, сярод збуцьвелых крыжоў і пахі-




*Графіці ў падтрымку Алеся Бяляцкага ў г. Гданьску*

леных агароджаў, адшукаў забытую магілу паэта, пахаванага ў далёкім 1921 годзе. І знаходка твая была раўназначная адкрыццю. Той, хто займаўся падобнымі пошукамі на старых кладах, мяне зразумее.

Дарагі Алесь, ты ведаеш гісторыю беларускай літаратуры лепш за мяне. Таму я ня буду пералічваць тут прозьвішчы пісьменьнікаў, якія прайшлі праз камеры тае самае турмы, у якой сёньня знаходзісься ты. Але адно прозьвішча я ўсё ж назаву — Ларыса Геніюш. У 1949 годзе да яе на начныя допыты прыходзіў сам міністр дзяржбясьпекі Цанава (Лаўрэнцій II паводле чэкісцкіх сьвятцаў), патрабаваў ад паэткі зьвестак пра архівы БНР. Ён выходзіў зь сябе, пырскаў сьлінай, пагражаў распраў, але ў адказ пачуў: «Вы ж міністр на Беларусі, дык гаварыце, як тут належыць, па-беларуску!». І грозны генацвале, нічога не дамогшыся, мусіў адступіць.

Я ўспомніў пра гэта, Алесь, калі пачуў пра падобныя моўныя праблемы ў тым самым судзе, дзе цябе, як тэрарыста, пасадзілі ў клетку. Прыйшоў дахаты і перачытаў лісты Ларысы Геніюш да Міколы Ермаловіча, якія ён калісьці мне падараваў. У лісьце ад 17 лютага 1971 года паэтка пісала свайму сябру-гісторыку:

«Усе суды, усе прыгаворы, пачынаючы ад Кастуся Каліноўскага і яшчэ да яго, мы чулі і чуем толькі на іх мове! Хлебам не кармі, а «прыемнасьць» судзіць, асуджаць па-расейску пакінь! І нам прыгавор у Менску гучаў на іх мове, і гэта спадзе няхай на іх галовы! Мне толькі злосьць, што нехрысты карыстаюцца маім імем як пудзілам. Прытым выдумваюць ня горай самога Гебельса. А чаго толькі ні чаўпуць у мой адрас? «Хай пойдзе за імі суровы праклён / зь мёртвых устаўшага Краю. / Бродзіць жа сьветам да сяньняшніх дзён, / імя страшнае — Каін...»

Столькі гадоў мінула, а беларусы ўсё яшчэ жывуць у тым Каінавым братэрстве, і ўсё хочацца ім тых падступных братніх абдымкаў, якія аднойчы ўжо прывялі да трагедыі...

Дарагі Алесь, калі я бачу, як на тваіх руках ахоўнікі дэманстратыўна замыкаюць кайданкі, мне прыгадваецца, як аднойчы нас з Эдуардам Акуліным, Лявонам Баршчэўскім і Антанінай Хатэнка павязалі ў парку Горкага. Мы там пасьля пісьменьніцкага зьезду вершы чыталі і не падпарадкаваліся міліцэйскаму загаду замаўчаць і стаць на зважай. Мне тады ўпершыню ў жыцьці надзелі кайданкі. Праз дзьве гадзіны зьнялі і адпусьцілі, але запясьці яшчэ доўга балелі. Ня ведаю, якой канфігурацыі кайданкі выкарыстоўваліся ў старажытнай Грэцыі, але меў рацыю Сакрат, па-філасофску зацеміўшы: «Кайданкі варта панасіць хоць бы для таго, каб потым на поўную моц адчуць радасьць вызваленьня».

Вызваленьне прыйдзе, Алесь. І прыйдзе хутка. Ты ж не забыўся, што ў сьнежні мы планавалі адзначыць 25-годдзе «Тутэйшых»?

Дарэчы, 29 кастрычніка адбылося чарговае паэтычнае сьвята ў Гарошкаве — на радзіме нашага незабыўнага «тутэйшаўца» Анатоля Сыса. На падворку ягонай, ужо ператворанай у музей, хаты гучалі вершы, песьні,









*Грамадзянскія акцыі ў падтрымку палітычных зьняволеных у Беларусі*

успаміны. Гучаў і твой улюбёны сысоўскі верш: «У гэтай краіне ня маю я волі, / вось воблака — сяду і ў сьвет палячу...». Мабыць, ты яго часта згадваеш у турэмнай камеры. Пры цяпельцы паэзіі добра пагрэцца душой. А яго можна раскласьці дзе заўгодна, не патрэбныя ні дровы, ні запалкі — толькі памяць.

Трымайся, Алесь. Мы чакаем цябе на свабодзе.

*4 лістапада 2011 года*
*«Літаратурная Беларусь» Выпуск № 11*

25 жніўня 2011 г.

Ерэван, Арменія

Дарагі Алесь,

Самыя супярэчлівыя пачуцьці перапаўнялі мяне з тых часоў, як я даведаўся летам, якая пагроза навісла над табой, што ўлады Беларусі атрымалі «падарунак» з Польшчы і Літвы з інфармацыяй аб рахунках, зьвязаных з тваёй праваабарончай дзейнасьцю, зь дзейнасьцю ПЦ «Вясна». Гэта былі і шкадаваньне, і горыч, што, магчыма, хутка ты апынесься ў турме, той самай, пра жахлівыя ўмовы ўтрыманьня ў якой мы з табой разам атрымлівалі сведчаньні падчас нашай нядаўняй паездкі ў Менск, апытваючы грамадзкіх актывістаў і апазіцыянераў, якія ўжо пабывалі там. Гэта і шчымлівае пачуцьцё несправядлівасьці ад таго, што чалавек, які так аддана і верна любіць сваю краіну, свой народ і культуру, можа быць здраджаны «сябрамі» і апынуцца ў засьценках гэтай жа самай Радзімы.



Але разам з тым, я адчуваў захапленьне тваёй непахіснай, без усялякага адценьня паказнога гераізму, мужнасьцю. Гатоўнасьцю служыць сваёй краіне і прыняць удар на сябе, з тым, каб прыцягнуць увагу да таго парадаксальна недальнабачнага і жорсткага рэжыму, які ўсё яшчэ трымаецца ў цэнтры Еўропы, пры папушчальніцтве «дэмакратычных краін» і, вядома, і свайго народа таксама. Кожны праваабаронца трошкі наіўны ў сваіх чаканьнях, чакае і патрабуе ад людзей большага, чым яны гатовыя рабіць, чакае ад іх таго, чым яны яшчэ толькі павінны стаць.

Ведаючы аб небясьпецы, ты вярнуўся ў Мінск. Ты нават не меркаваў, што магчыма зрабіць інакш.

Вядома, мы спадзяваліся, што пранясе, што ў тых, хто прымае рашэньні ў сёньняшняй Беларусі, хопіць элементарнай разважлівасьці, каб не пайсьці на гэты крок. Хопіць розуму не спрабаваць прыбраць з дарогі таго, хто АДКРЫТА кажа аб праблемах у Беларусі, АДКРЫТА абараняе людзей ад самавольства чыноўнікаў, АДКРЫТА кажа пра хваробы кіруючага рэжыму.



Бо даўно вядома, чым сканчаюць рэжымы, якія пазбаўляюць сябе магчымасьці чуць праўду, як яны гінуць, нягледзячы на тое, што атачылі сябе сьцяной з органаў бясьпекі, даносчыкаў і падлізьнікаў. Але кожны дыктатар упэўнены, што ён пазьбегне лёсу Берыі, Чаўшэску, Піначэта або Садама Хусэйна. На жаль, беларускія ўлады на вачах скатваюцца ў тую ж прорву.

Ты ўжо ў турме. А гэта значыць, што калі рэжым зможа пераварыць і Алеся Бяляцкага — то рэпрэсіўны апарат ня спыніцца і пасьля ліквідацыі «адкрытых ворагаў», ён пяройдзе да «схаваных ворагаў», бо апарат павінен працаваць і даваць вынікі. Гэта значыць, што апарат будзе сьлепа хапаць «шэраговых» беларусаў, бо колькасьць незадаволеных будзе расьці, але адкрыта, як ты, ніхто выступаць ужо ня зможа.

Але не, мае рацыю Валянцін, (Валянцін Стэфановіч) кажучы, што «яны «падавяцца» Бяляцкім». Я таксама спадзяюся на гэта. Спадзяюся на беларусаў. Спадзяюся, што іх не засьлепяць фабрыкацыі ўлады аб вялікіх грошах, нібыта ўтоеных праваабаронцамі, якія на працягу 15 гадоў бескарысьліва і нягледзячы на небясьпекі абаранялі сваіх суграмадзян. Спадзяюся, што, нягледзячы на разьлікі прагнілай улады, яны ня будуць судзіць аб табе зыходзячы са свайго «ніжэйшага я», якое і сапраўды часта апраўдвае прыстасаванства і абыякавасьць, таму што «ўсе такія, і я ня горш». Яны запомняць цябе, у якіх бы засьценках ты не апынуўся, такім, якім мы ўсе цябе даўно ведаем — мужным, бескарысьлівым, які змагаецца, ніколі не думае пра сябе, але заўсёды — пра іншых. Які заўсёды робіць тое, што лічыць правільным, а значыць — адзіна магчымым.

Моцна цісну тваю руку.

*Артак Кіракасян*
*Генеральны сакратар Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека (FIDH)*
*Кіраўнік Праўлення «Інстытута грамадзянскай супольнасьці» (Арменія)*




*Банер, вывешаны падчас пікету салідарнасьці з Алесем Бяляцкім каля беларускай амбасады ў Вільні*

Ліст у падтрымку нашага сябра і калегі Алеся Бяляцкага, віцэ-прэзідэнта FIDH, які знаходзіцца ў зьняволеньні ў Мінску з 4 жніўня

11 верасьня 2011 г.
Нью-Ёрк, Мехіка, Манагуа, Багата, Ліма, Буэнас-Айрэс
Аляксандру Бяляцкаму
220030, СІЗА № 1, вул. Валадарскага, 2, Мінск, Беларусь

*«Свабода, Санча, адна з самых каштоўных шчадротаў,*
*якія неба праліваe на людзей.*
*Зь ёй ня могуць параўнацца ніякія скарбы.*
*Дзеля свабоды, дакладна таксама, як і дзеля гонару,*
*можна і трэба рызыкаваць жыцьцём ... »*

*Мігель дэ Сервантэс Сааведра*

Дарагі Алесь!

Прымі найлепшыя пажаданьні і выказваньне салідарнасьці ад усіх нас - віцэ-прэзідэнтаў FIDH па рэгіёнах Паўночнай і Паўднёвай Амерыкі, кіраўніцтва аддзела FIDH пры Арганізацыі амерыканскіх дзяржаваў, кіраўнікоў місій і Генеральнага сакратара FIDH!

Дзякуючы нястомнаму клопату нашага Прэзідэнта Суэр Белхасен і ўсяго Міжнароднага сакратарыята, мы даведаліся пра твой арышт і пра цяперашняе становішча справаў. Мы ўпэўненыя, што рэжыму тыраніі, які кінуў цябе за краты, ня ўдасца зламаць твой дух. Невыпадкова ў пачатку гэтага ліста мы згадалі Дон Кіхота. Хай яны думаюць, што мы вар'яты (пра «Маці плошчы Мая» таксама так казалі), але нашай энэргіі і веры дастаткова, каб пераадолець нават тое, што, здавалася б, пераадолець немагчыма. І прыклад гэтаму ты, Алесь, рызыкуючы сваёй свабодай і самім жыцьцём. Менавіта гэта і ёсьць цьвярозае мысьленьне.

Мы шлем табе, Алесь, самыя найлепшыя пажаданьні з усіх куткоў нашага рэгіёна. З Нью-Ёрка, дзе дажджы і навальніцы служаць фонам для гаротных успамінаў у гадавіну трагедыі, якая адбылася тут дзесяць гадоў таму 11 верасьня… У той страшэнны дзень тэрарыстычныя акты забралі жыцьці тысячаў людзей, але з тых часоў яшчэ сотні тысячаў іншых людзей загінулі ў выніку абмежаваньня асноўных правоў і свабодаў у розных кутках зямнога шара. Хочам нагадаць усім, хто сьлепа прапаведуе догмы тэрору і практыкуе дзяржаўны або імперскі тэрарызм, словы Бенджаміна Франкліна, якія найлепшым чынам падыходзяць і табе, наш адважны Алесь: «Тыя, хто гатовыя ахвяраваць надзённай свабодай у абмен на тое, каб атрымаць часовую бясьпеку, — ня вартыя ні свабоды, ні бясьпекі».

Вітаем цябе, Алесь, і зь Мексікі — краіны, чые насельнікі лёгка пазнаюць сябе на палотнах Фрыды Кала — у пакутах і абдымках трагедыі, на якую іх выракаюць злачынныя варвары, яны пахавалі тысячы сваіх жа дзяцей пад гукі ўбогіх песень, якія праслаўляюць усёмагутных наркабаронаў. А тым часам улады, якія не застаюцца ўбаку, абмываюць сьцяг нацыі крывёю ў імя грамадзкай бясьпекі. Мастачка Фрыда Кала, будучы практычна паралізаванай пасьля пералому пазваночніка, заўсёды была поўная свабоды і казала: «Ах, ногі, ногі, навошта вы мне, калі ў мяне ёсьць крылы?» Алесь, рэжым, зь якім ты змагаесься, ня ў змозе перапыніць твой палёт, таму што такіх, як ты, можна кінуць у турму, але нельга пазбавіць волі!

Мы побач з табой, Алесь, і ў далёкім Манагуа — у Нікарагуа, дзе ідэалы дэмакратыі і справядлівасьці забытыя і пахаваныя пад прыгнётам карупцыі і ганебнага цынізму былых лідэраў рэвалюцыі. Той самай рэвалюцыі, за якую аддалі свае жыцьці дзясяткі тысяч нікарагуанцаў. Цяпер тут нават паэтаў — такіх, як Эрнэста Кардэнал, які заўсёды сьпяваў пра каханьне і надзеі — падвяргаюць ганеньням. Але ёсьць вяршы, якія не паміраюць, і людзі, якія ніколі не здаюцца. Разам



з Джакондай Белі мы ўсклікаем: «Нас цяпер атачаюць выдатныя лёзунгі, мы дзёрзка кідаем выклік беднасьці і дражнім прадчуваньні зла непахіснасьцю сваёй волі, а нашая ўсьмешка — шырыней у гарызонт». А хіба ты, Алесь, не сьмяесься, кідаючы выклік убоству муроў, якія трымаюць у вязьніцы тых, хто лічаць сябе свабоднымі? Бо гэта яны знаходзяцца ў зьняволеньні, а ня ты. Вядома, ты сьмяесься, Алесь, і твая ўсьмешка разбурае абрыдлыя сьцены і няволю, на якія жменька мярзотнікаў спрабуе асудзіць твой народ.




Фота-петыцыі са старонкі кампаніі "Мы ўсе за Алеся" ў Фэйсбуку

Алесь, і ў Багаце, дзе кожны з нас на 2600 метраў бліжэйшы да зорак, мы захапляемся тваёй барацьбой і тваёй мужнасьцю, хоць многія, каму засьцілае вочы ўбогасьць, лічаць за лепшае ня бачыць іх. Так і тыя, хто ўтрымліваюць уладу, асьлепленыя сваёй магутнасьцю, выпускаюць з рук магчымасьць даць людзям мір і, седзячы ў сваіх палацах, працягваюць сеяць сьмерць і разбурэньне. І ўсё ж мы, як і раней, знаходзім суцяшэньне ў словах Карласа Кастра Сааведра — паэта-горца, які так любіў наш народ: «Я павінен знайсьці крыніцу жыцьця твайго, крыніцу самой маёй радзімы ў венах тваіх, о, зямля мая, о, жонка мая, зямля маёй ласкі, сталіца песень маіх і трывогаў». Так і твая блакітнавокая краіна, Алесь, клікае цябе ў глыбінях тваёй вязьніцы. Так і твайго народа вочы неўзабаве ўбачаць, як разбуральнік свабоды адыдзе ў нябыт, забыты і ганебны.

Мы таксама вітаем цябе, Алесь, і зь Лімы, дзе дэспат, які калісьці ўяўляў сябе непераможным і падмяў пад сябе ўсю краіну на радасьць радні і хеўры прыслужнікаў, цяпер сам пакутуе ў турме за заахвочваньне хабарніцтва і абуральныя парушэньні правоў чалавека. У гэтым горадзе, дзе ніколі не бывае дажджу, крокі нявінна забітых і зьніклых бязь вестак чутныя асабліва добра ў крышталёвым паветры Андаў. Памяць пра іх жыве сярод праваабаронцаў, якія не спынілі сваёй нястомнай барацьбы, і былых ахвяраў, якія ў роспачы ўсклікалі ўсьлед за Сэсарам Вальеха: «Я нарадзіўся ў той дзень, калі Бог быў хворы». І ўсё ж, яны змаглі перадолець нягоды і захаваць сваю чалавечую годнасьць, яны вялі барацьбу ў імя жыцьця, і ўсё іх жыцьцё было барацьбой. Так і твой народ, Алесь, непахісны перад ганарыстым тварам свайго тырана.

Памятаем мы пра цябе, Алесь, і ў Буэнас-Айрэсе, дзе людзі поўныя рашучасьці не дазволяць цяжкой спадчыне тэрарызму загубіць і зьвесці нас у магілу. Бабулі і маці «Плошчы Мая» працягваюць сваю барацьбу, і побач зь імі стаяць усе, у каго ёсць сумленьне. Яны патрабуюць, каб дзяржава больш ніколі ня мела магчымасьці паўтарыць злачынствы супраць свайго народа, каб ніколі больш меншасьць, захапіўшая ўладу, не магла прынесьці ў ахвяру ўласным інтарэсам мару людзей пра свабоду. Ты ж, Алесь, таксама ў шэрагах тых, хто ўпарта паўтарае ўсьлед за Эрнэста Сабата: «Ёсьць толькі адзін спосаб абараніць чалавецтва — ніколі не здавацца». Ты ж, Алесь, не здаесься, ды і мы ніколі не дазволім кіруючай у Беларусі хеўры трымаць цябе ў турме. У турме месца тым, хто топча свабоду — тваю і тваіх суайчыньнікаў. Менавіта гэтаму вучыць нас гісторыя разьвіцьця цывілізацый!

Мы разьвітаемся з табой, Алесь, але ненадоўга, мы хочам запоўніць тваю камеру сваёй любоўю і надзеяй! Прымаючы Нобелеўскую прэмію па літаратуры, Габрыэль Гарсія Маркес так сказаў пра адзіноту ў Лацінскай Амерыцы: «І ўсё ж, перад тварам прыгнёту, рабаваньня і спусташэньня мы выбіраем жыцьцё. Дажджы, хваробы, голад, стыхійныя бедствы, бясконцая вайна, якая зацягнулася на стагоддзі, і нават сам час апынуліся няздольнымі перашкодзіць няўмольнай перамозе жыцьця над сьмерцю». Тут, на кантыненьце, дзе нарэшце пакладзены канец дыктатуры, нам цяпер трэба будзе ў поўнай меры ўзьняць на шчыт чалавечую годнасьць і дамагчыся поўнага трыумфу дэмакратыі, годнай свайго гучнага імя. Кожны з нас, хто называе сябе праваабаронцам, абавязаны сеяць упэўненасьць у тым, што чалавецтва пераможа тыранаў. Алесь, мы ніколі не пакінем у бядзе ні цябе, ні тваіх калегаў зь «Вясны», ні народ Беларусі.

*Генеральны сакратар FIDH Луіс-Гільерма Пэрэс (Калумбія)*
*Віцэ-прэзідэнты FIDH Кэці Галахер (ЗША), Паўліна Вега (Мексіка), Вільмэ Нуньес (Нікарагуа), Сарая Гуцьерэс Аргуэлья (Калумбія), Хуан-Карлас Капура (Аргенціна)*
*Адказныя за напрамкі ў дзейнасьці FIDH Алірыё Урыбэ (Калумбія) і Францыска Саберон (Перу)*

## У падтрымку Алеся Бяляцкага

29 верасьня 2011 г.

Усяго некалькі месяцаў таму Алесь атрымаў дазвол на спатканьне і прыехаў да мяне ў калонію ў горад Усьць-Каменагорск, ва Ўсходнім Казахстане, у 1000 км ад былой і цяперашняй сталіц Казахстана Алматы і Астаны.

Мы прагаварылі амаль тры гадзіны пра многае. Аб праваабарончым руху ў краінах СНД і ў сьвеце. Аб палітычных зьняволеных у Беларусі і Казахстане. Пра тое, як з-за геапалітычных, эканамічных інтарэсаў і меркаваньняў бясьпекі міжнародныя арганізацыі і заходнія ўрады дапамагаюць умацаваньню аўтарытарызму на постсавецкай прасторы. Аб няўдачах дэмакратычна настроеных грамадзянаў і грамадзкіх арганізацый, і досыць песімістычных прагнозах на бліжэйшую будучыню.

Я распавёў пра свой, амаль двухгадовы, досьвед жыцьця «за кратамі».

Тады я нават ня мог сабе ўявіць, што ўжо ў жніўні Алесь на сабе выпрабуе працэдуру арышту і апынецца пад пагрозай зьняволеньня на некалькі гадоў.

На жаль, жыцьцё праваабаронцаў у большасьці краін былога Савецкага Саюза прывучыла карыстацца простай формулай: спадзявайся на лепшае, рыхтуйся да горшага.

Будзем спадзявацца, што здаровы сэнс і ўплыў міжнароднай грамадзкасьці возьмуць верх, і Алеся не напаткае лёс многіх палітычных і грамадзянскіх актывістаў, праваабаронцаў, журналістаў, якія апынуліся «за кратамі» на падставе сфабрыкаваных або палітычна матываваных прысудаў.

Лёс праваабаронцаў у постсавецкіх краінах наогул досыць трагічны. Афіцыйная прапаганда і практычна цалкам падкантрольныя СМІ малююць іх «пятай калонай» Захаду, «ворагамі народа», «агентамі ўплыву» заходняга капіталу.

Працягвае выкарыстоўвацца ўвесь стары, яшчэ кагэбэшны арсенал ідэалагічных штампаў, заснаваных на канспіралагічным ідыятызьме.

Ціснуць на іх сваякоў, сяброў і знаёмых, перакрываюць крыніцы існаваньня, запалохваюць, зьбіваюць, саджаюць, нават забіваюць.

Але жыцьцё ўсё роўна не стаіць на месцы.






*Торт з акцыі аддзяленьня Amnesty International у Гаазе 25 верасьня 2013 года.*
*З архіва ПЦ «Вясна»*

Фундаментальныя каштоўнасьці і ідэалы чалавецтва, такія як павага чалавечай годнасьці, правоў і свабод чалавека, праўда і справядлівасьць прабіваюць сабе дарогу ад Еўропы і Паўночнай Амерыкі да Блізкага Усходу і Паўночнай Афрыкі.

І сапраўдныя праваабаронцы прысоўваюць іх, часта з рызыкай, калі не для жыцьця, то для свабоды.

І калі ўсё ж лёс прывядзе да таго, што праваабаронца апынецца «за кратамі», то трэба памятаць, што там таксама цячэ жыцьцё, сваё жыцьцё.

Што там — розныя людзі, а ня толькі закаранелыя злачынцы і адмарожаныя нягоднікі. Такіх там, дарэчы, значна менш. Ва ўсякім разе, у нашых краінах.

Там свая праўда і свая справядлівасьць.

І там таксама трэба пражыць годна і, па магчымасьці, не загубіць сваё фізічнае і псіхічнае здароўе.

І ў гэтым самае важнае — падтрымка. Ня толькі сям'і і блізкіх. Але і ўсіх прыстойных людзей, здольных адрозьніваць праўду ад хлусьні, чорнае ад белага.

Адсюль, з калоніі, я магу толькі выказаць Алесю і яго сям'і сваю ўсялякую падтрымку, сказаць яму: «Усё, што ты рабіў, — правільна», і гэтая, ня самая сьветлая, паласа ў тваім жыцьці абавязкова скончыцца. Гэтак жа, як і цалкам безальтэрнатыўны і бясслаўны лёс чакае рэжымы, падобныя «лукашэнкаўскаму».

Так што трымайся! Мы з табой.

*Яўген Жоўціс,*
*Папраўчая ўстанова ОВ 156/13, г. Усьць-Каменагорск, УКВ, Казахстан*

8 лістапада 2011 г.

Туніс

Дарагі Алесь,

навіна пра твой арышт абышла сьвет і глыбока абурыла самых розных людзей. З тых самых часоў я ўвесь час абяцаю сабе напісаць табе, каб перадаць пачуцьцё абурэньня, якое ахапіла мяне пасьля гэтай весткі, а таксама выказаць маю поўную падтрымку ў гэты цяжкі момант. Я прашу прабачэньня за тое, што раблю гэта позна, але павер мне, ты заўсёды прысутнічаеш у маіх думках, і мы ўвесь час даведваемся пра цябе, і ўвесь час гаворым пра цябе з Сухэр, Сашай і ўсімі нашымі сябрамі зь FIDH. Я таксама ніколі не прапускаю выпадку расказаць пра цябе актывістам у рэгіёне, і асабліва ў Тунісе. Яны, у сваю чаргу, перадаюць інфармацыю далей і жорстка асуджаюць тваё зьняволеньне. Магчыма, яны не напішуць табе пра гэта — але ведай, што іх салідарнасьць з табой і тваёй барацьбой незвычайна моцная. Часам я думаю: калі, нягледзячы на ўсе размовы пра цябе, мы так доўга зьбіраемся напісаць пра гэта, ці не зьвязана гэта з вуснай культурай, якая ўсё яшчэ значна больш уласьцівая нашаму рэгіёну, за пісьмовую, якую мы набылі ў плыні стагоддзяў… Ведай таксама, што куды б я ні прыязджала, тваё імя зьяўляецца ў маіх выступах, таксама як і патрабаваньне твайго неадкладнага вызваленьня, і асуджэньне рэжыму, які пануе ў Беларусі.

Твой прыезд у Туніс пакінуў у нас глыбокі сьлед і прадэманстраваў тым, хто ня ведаў гэтага раней, што незвычайнае падабенства існуе паміж былым рэжымам у Тунісе і вашым цяперашнім рэжымам… Насамрэч, падобныя ўсе рэпрэсіўныя рэжымы, і гісторыя, у тым ліку найноўшая, паказвае, што падабенства іх яшчэ і ў тым, што ўсе яны рана ці позна зьнікнуць, а правасуддзе пераможа, устаўшы на абарону асноўных свабодаў, правоў чалавека і дэмакратыі.

Нават узяты асобна родны мне нядаўні тунісі прыклад дастатковы для перавагі надзеі — і ўсё, што рушыла ўсьлед за ім у нашым рэгіёне, даказвае гэта. Нягледзячы на ўсе жахі, зь якімі ў выніку давялося сутыкнуцца мірнаму насельніцтву, вецер свабоды падняўся, а ён, заўсёды і ўсюды, нясе з сабой зерне будучых зьменаў.

Твая барацьба, твая рашучасьць, рызыка, на якую ты пайшоў сьвядома, і нават несправядлівасьць, ахвярай якой ты апынуўся, нягледзячы ні на што, дадуць свой плён. Падтрымка, якую дэманструюць табе твае калегі па «Вясьне», нязьменная і вартая захапленьня. Маё захапленьне імі бязьмежнае, і я таксама дазволю сабе згадаць Сашу Кулаеву, якая ўжо тры месяцы, сапраўды не пакладаючы рук, аддае сябе мабілізацыі ўсіх і ўся на падтрымку цябе, тваёй працы і, такім чынам, і агульнай нашай справы барацьбы за правы чалавека, — вядома, ад імя ўсёй FIDH, але і праяўляючы рэдкую асабістую адданасьць. Саша і Валянцін распавядуць табе пры хуткай, спадзяюся, сустрэчы, як мы разам зь імі адкрывалі сустрэчу па чалавечым вымярэньні ў Варшаве. Я шчасьлівая была ўдзельнічаць у гэтай падзеі разам зь імі.

Многія сігналы даюць надзею і дазваляюць нам спадзявацца на лепшае.

Я ўвесь час у думках з табой і спадзяюся вельмі хутка адсьвяткаваць тваю перамогу ў барацьбе за чалавечую годнасьць і правы чалавека — а, значыць, і тваё вызваленьне.

Поўная гэтай надзеяй, я моцна абдымаю цябе, дарагі сябра, і спадзяюся хутка зрабіць гэта асабіста.

З запэўненьнямі падтрымкі, дружбы і самых цёплых пажаданьняў,

*Хадзіжа Шэрыф,*

*Туніская Ліга за правы чалавека,*
*Генеральны сакратар FIDH*




*Графіці ў падтрымку Алеся Бяляцкага ў Варшаве*

Дарагі спадар Бяляцкі,

навіна пра Ваш арышт нас уразіла, засмуціла, абурыла… але не зьдзівіла, паколькі зыходзіла ад палітычнага рэжыму, які здольны трымацца толькі на рэпрэсіях супраць актывістаў, якія бароняць свабоду, справядлівасьць і правы чалавека.




*Паштоўка палітвязьню.*
*Аўтар Катя Красавік*



Вашая барацьба за правы чалавека, як мужчын, так і жанчын, якая таксама зьяўляецца і нашай барацьбою, абавязкова пераможа, дзякуючы Вашай рашучасьці і нястомнасьці, і нягледзячы на тыя пазбаўленьні і нягоды, якія дастаюцца Вам і Вашым калегам зараз у выніку Вашай найважнейшай дзейнасьці.

Мы часта ўзгадваем Ваш выступ у Тунісе на семінары па дэмакратычных пераходных працэсах, які жыва нагадаў нам наша такое нядаўняе мінулае. Як падобныя рэпрэсіўныя рэжымы, як падобныя спробы задушыць дэмакратычныя галасы! Мы шчыра жадаем Вашаму народу пазбавіцца ад цяперашняга рэпрэсіўнага рэжыму, як мы паклалі канец нашай старой сістэме, і ў гэтым будзе і Ваша заслуга, бо Вы так даўно і бескарысліва змагаліся зь несправядлівасьцю і пакутамі, якія ён спараджае.

Ведайце, што мы падтрымліваем Вас бязьмежна і зь нецярпеньнем чакаем Вашага вызваленьня, якое будзем набліжаць па меры нашых сілаў. Нашая мэта адна — абарона свабодаў і годнасьці чалавека.

У думках мы з вамі, дарагі спадар Бяляцкі, а таксама з вашай сям’ёй і калегамі.

*Ахлем Белхаж*
*ад імя Асацыяцыі туніскіх жанчын-дэмакратак,*
*Туніс*

---

## Джордж Буш віншуе беларускіх палітвязьняў

Напярэдадні Раства і Новага Году я адпраўляю пасланьне міру і надзеі народу Беларусі.

Палітычным зьняволеным і іхнім сем’ям — Андрэю Саньнікаву, Міколу Статкевічу, Мікалаю Аўтуховічу, Зьміцеру Бандарэнку, Алесю Бяляцкаму, Зьміцеру Дашкевічу, Эдуарду Лобаву і Паўлу Севярынцу — я хачу выказаць сваё захапленьне вашай адданасьцю будучай Беларусі, свабоднай і дэмакратычнай.

На мінулыя Каляды мы разам з вашымі шматлікімі прыхільнікамі чыталі імёны сотняў людзей, якія перамаглі страх і былі затрыманыя падчас пратэстаў супраць сфальшаваных выбараў. Хоць бальшыня была вызваленая, многія з вас застаюцца ізаляванымі ад вашых блізкіх і сяброў за вашыя мужныя ўчынкі дзеля свабоды.

На працягу гэтага году сьвет пабачыў нечаканы ўзыход свабоды ў Тунісе, Егіпце і іншых краінах, якія, на думку шмат каго, былі несумяшчальныя са свабодай. Свабода — усеагульная, і прыйдзе дзень, калі яна будзе зьзяць у самых змрочных кутках зямлі.

У гэты сьвяточны час вы мусіце ведаць, што пра вас не забыліся. Лора і я пасылаем нашыя віншаваньні вам і вашым сем’ям, і мы будзем думаць і маліцца за вас.

Няхай вас блаславіць Бог, каб вы былі на свабодзе і разам з тымі, каго любіце, у 2012.

*Джордж Буш.*
*22 сьнежня 2011*

## Паказальнік асобаў

ЗМЕСТ

